## У НУМАРЫ:

***ВІТАННЕ ГАСЦЯМ ДНЯ ПІСЬМЕНСТВА***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.** Выгульваю Слова ў цэнтры Сусвету . . . . . . . . 3

Я канстатую час. Вершы замежных паэтаў. **Чынгіз АЛІ АГЛЫ, Эдвард МІЛІТАНЯН, Слабадан ВУКАНАВІЧ, Аляксей ГАДЖЫЕЎ, Рэнат ХАРЫС, Любоў ШАШКОВА, Лула КУНІ, Нэвена ВІТОШАВІЧ-ЧЭКЛІЧ…** . . . . . . . . 4

***ВЫБІТНЫЯ***. Паэтычны гвалт. . . . . . . . . 14

***COSMOPOLITAN-EXPRESS***. Пра што спявае «Нагуаль»? . . . . . . . . 16

***КУХНЯ МАШЫ ДУБРОЎСКАЙ***. Кніжная экспансія . . . . . . . . 18

***ПРОЗА***

**Даша МАРОЗАВА.** Пантэон. *Апавяданне. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . 20

**Мікіта ВОЛКАЎ.** Дарога дамоў. *Апавяданне. Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . 25

**Алёна БЕЛАНОЖКА.** Апавяданні . . . . . . . . 32

**Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ.** Апошні дзень восені. *Апавяданне* . . . . . . . . 60

***ПАЭЗІЯ***

**Цімур БУЙКО.** «Кахаю». І клічнік! *Упершыню ў «Маладосці»* . . . . . . . . 23

**Аліса МІНІНА.** Толькі б захацець зіхацець... *Вершы* . . . . . . . . 29

**Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ.** Вершаваная памяць. *Вершы* . . . . . . . . 58

**Айцец ЯЎСТАФІЙ (ХАЛІМАНКОЎ).** Віленскі лямант. Старонка аднаго верша . . . . . . . . 70

**Віктар ШНІП.** Сярод млечнага шляху. Вершы . . . . . . . . 72

***ЭПІСТАЛЯРЫЙ***. **Лявон ГМЫРАК** — нашанівец . . . . . . . . 75

***КРЫТЫКА***. **Яўгенія ШЧОКІНА.** Ці ёсць у Беларусі прыгодніцкі раман? . . . . . . . . 84

***БЕЗ В/А***. **Уладзіслаў ЧЫЖЫКАЎ:** «На філфак я трапіў выпадкова» . . . . . . . . 87

***ПАРТНЁРЫ***. Ведай нашых… ільвянят! . . . . . . . . 89

***ПАД ГАРБАТУ***. **Ягор КОНЕЎ.** Пра Анісенку . . . . . . . . 94

***ГІСТФАКТ***. **Эдвард Тамаш МАСАЛЬСКІ.** З успамінаў (1799—1824). *Працяг* . . . . . . . . 98

***БЯРОЗКА***. ***«Пілот»*** . . . . . . . . 109

# ...Выгульваю Слова ў цэнтры Сусвету

*Знаёмства на старонках часопіса «Маладосць» з паэтамі розных краін, розных моў — вяртанне да добрай традыцыі эксперыментаў, пошукаў перакладчыкаў сусветнай паэзіі на беларускую мову. Не выпадкова, што ўзяліся за вырашэнне гэтай няпростай задачы маладыя літаратары: Аксана Ючкавіч, Віктар Лупасін, Рагнед Малахоўскі, Тамара Сарачынская, Марыля Шлык... І яшчэ — Віктар Шніп, Іван Чарота, Аляксей Чарота, у якіх, несумненна, вопыт нашмат багацейшы, чым у раней названых калег.*

*Азербайджан прадстаўляе Чынгіз Алі аглы. Арменію — Эдвард Мілітанян. Чарнагорыю — Слабадан Вуканавіч. Казахстан — Любоў Шашкова. Чачню — Лула Куні. Татарстан — Рэнат Харыс. Дагестан — Аляксей Гаджыеў. Сербію — Нэвена Вітошавіч. Паэты рознаўзроставыя. У кожнага — уласны нацыянальны досвед. І гаварыць пра падабенства мастацкіх, эстэтычных ідэалаў, зразумела, не выпадае. Але кожны з творцаў прэтэндуе на сапраўднасць мастацкага волевыяўлення. Чытаеш азербайджанца Чынгіза Алі аглы — і чуеш адгалоскі бунтарскіх памкненняў 1960-х... А яшчэ відавочным падаецца яго спадчыннасць ад вялікага азербайджанскага паэта Расула Рзы. Шкада толькі, што ў нашых беларускіх перакладах класік раней быў прадстаўлены не самымі характэрнымі для яго творамі. Што ж, можа, Аксана Ючкавіч (яна пераклала азербайджанскага паэта) ці хтосьці яшчэ з сённяшняй беларускай паэтычнай моладзі перачытае поруч з Чынгізам Алі аглы і Расула Рзу.*

*Эдвард Мілітанян, якога прадстаўляў чытачам Беларусі штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», смела дакранаецца сваім талентам да розных вершаваных форм. Але пра яго адданасць зместу, а не толькі форматворчасці, добра гавораць наступныя словы: «Кампазітар не задушыць, не забунтуе. / Ён усміхнецца, бы гліна ў руках Бога». Пераклад належыць Віктару Лупасіну.*

*У большасці з аўтараў, якіх сёння прадстаўляе «Маладосць», ёсць свая сувязь з Беларуссю. Народны паэт Татарстана Рэнат Харыс, Чынгіз Алі аглы, старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдвард Мілітанян, паэт, перакладчык, крытык Слабадан Вуканавіч, руская паэтэса з Казахстана, наша, між іншым, зямлячка Любоў Шашкова — удзельнікі міжнародных пісьменніцкіх «круглых сталоў», якія, пачынаючы з 2007 года, кожны верасень праводзяць Міністэрства інфармацыі Беларусі, Саюз пісьменнікаў Беларусі, «Выдавецкі дом «Звязда». І што важна, вяртаючыся ў свае краіны, кожны з іх не проста вязе духоўную, нематэрыялізаваную часцінку Беларусі, а яшчэ становіцца добрым творчым партнёрам беларускай літаратуры. Таму і збіраецца ў Азербайджане кніга сучаснай беларускай паэзіі ў перакладзе на азербайджанскую мову. Таму і выходзяць «беларускія сшыткі» ў часопісе «Простор» у Алмаце. З'яўляюцца і новыя пераклады ва Украіне, у Татарстане, Чачні, Удмурцыі, Чувашыі... Асабістыя стасункі дапамагаюць прыняць правільныя рашэнні ў выбары мастацкіх тэкстаў. І яшчэ спрыяюць стварэнню болей шырокай атмасферы паяднанасці, злучанасці нацыянальных літаратур. Як гэта робіць ад года ў год Слабадан Вуканавіч з Чарнагорыі. Вынаходнік паэмувізы (калі спалучаюцца тры складнікі — паэзія, музыка, візуальнасць), Слабадан у супольнасці з беларускім сербістам доктарам філалагічных навук Іванам Чаротам падрыхтаваў і выдаў у сябе на радзіме анталогію сучаснай беларускай паэзіі ў перакладзе на сербскую мову. Такі прыклад уражвае, пераконвае, што і сябры ў беларускага мастацкага слова ў свеце сапраўдныя, і цікавасць да нашага нацыянальнага свету не губляецца.*

*Рэнат Харыс сваё веравызнанне выклаў наступным чынам: «Ні сабакі ў мяне, ні каня... Таму я Слова/ выгульваю, стоячы ў цэнтры сусвету...» А тое, што народны паэт Татарстана ведае, дзе знаходзіцца цэнтр мастацкага Сусвету, сумнявацца не даводзіцца. Пра гэта сведчаць многія яго творы, высокія адзнакі: найперш — Дзяржаўная прэмія Расійскай Федэрацыі.*

*А мы ў Беларусі ў сваю чаргу вітальным словам да Дня беларускай пісьменнасці зрабілі альманах «Сугучча», які ўпершыню пабачыць свет сёлетнім вераснем. І на яго старонках будзе месца многім нацыянальным мастацкім сусветам.*

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

# Я КАНСТАТУЮ ЧАС

***Чынгіз АЛІ АГЛЫ, Азербайджан***

* * *

Я ведаю жыццё праўдзівым і хлуслівым,
Я злосць не называю дабрынёй,
А як камусьці ўсё жыццё — гуллівасць,
То для мяне — смяротны яно бой.

Знаёмы кошт мне пашы, лесу, лугу
І моцы слоў, скаваных у радок,
Шчаслівы я як сябру трэба буду
Ды ворагу ў вочы пагляджу.

Вось так прайду жыццём, хай строга,
Няхай каменнямі дарогу закідаюць.
Я з гэтых камянёў складу дарогу
Для тых, хто ўслед за мной ісці ахвоту маюць.

**СТАРЫ**

Прысеў на карачкі,
І так замёр — маўчанне
Ля плота, побач ля агня,
Спіна прыгорбілася,
Быццам за ім не простае жыццё,
А цэлая гара.

Сухімі пальцамі над бусінай ружанца
Чаруе штось,
Нібыта ў ім — мінулыя дзянькі,
Якіх там болей?
Белых альбо чорных?
І след яны пакінулі які?

Па схілу ўніз — сцяжына.
А там з іх безлічы
Дарога
Светлай стужкай ля ракі.
Сыноў аж пяць — пайшлі,
У акопах злеглі,
Не дакрычацца, не падаць рукі.
Пяць сыноў, пяць гор,
Ды гор былінных,
Такі цяжар ён вынес на нагах!
Снягі пяці вершалін у сівых валасінах,
Агнішчаў пяць патухла ў вачах.

Тут ён глядзеў услед дачцэ —
што маладуха,
І з’ехала. Далёкая дарога,
Цяпер чакае ад унукаў дабравесця,
На лета бо наведаюць старога.

Так ціха навакол,
Народ пакінуў горы,
Жыве ў нейкім іншым ён краі.
І толькі кій стары —
Яго апора,
Ды гэтыя цені ў цішыні.
Павольна ўстае,
І спіну разгінае.
І горы рассвятліліся крыху.
Ён веру ім, канешне, захавае,
Сыходзячы ў даліну, —
Яны душою сталі ўжо яму.

І ў патаемніках яе,
Як гораў аднагодка,
Хавае буры ўсіх часоў старых.
Жыве адзін —
Уладар тых гор вакольных,
Жыве адзін,
Натхняе іх.

**КУБІСЦКІЯ ВЕРШЫ**

Пяцісценны пакой.
На патэльні столі
Смажыцца жоўтая лямпачка
Яечным жаўтком.
На століку — цыбуля,
З ружовенькім вяршком.
Круглая, нібы планета,
І над ёй лунае страх —
Быць расціснутае кулаком.

Побач літровая
Бутэлька з доўгай шыяй
І на донцы тлее віно.
Лініі павольна паралеляць
З шыяй лебядзінаю дзяўчыны.
І ў цесным пакоі
Цемрадзь загусла ў вуглах.
Доўгія рукі дзяўчыны
На зялёным сукне —
Праменьчыкі два.
На старым дапатопным ложку
Ляжыць нерухома юнак.
Невядома, ён спіць ці як?
Дзіка не выдаюцца —
Бель дзяўчыны твару,
Далікатнасць плячэй,
Цішыня
І ералаш.
Джаз разрывае радыё,
Каб прытушыць кантраст.
Ці надрываецца, каб дасягнуць
Да белых дзявочых плячэй…
Дзесьці ў глыбінях зямлі, пад домам,
Метрацягнік пралятае громам.
І дрымчаць на стале лыжкі.
Зялёны гуляе звон
На зялёным шкле.
Дзяўчыны пагляд, што не бачыць,
Спыніўся на спіне хлапца.
На патэльні ж столі
Смажыцца мізэр жаўтка.

*З азербайджанскай.*
*Пераклад Аксаны ЮЧКАВІЧ*

***Эдвард МІЛІТАНЯН, Арменія***

## КШЫШТАФ ПЕНДЭРЭЦКІ

### ДО

Перад тым як пабачыць,
Мы пачулі ў чэраве маці
І ўспрынялі тое,
Што даецца нам з малаком
І не мае ніякай назвы.

Бабуля везла яго ў Кракаў,
У іншы горад (уявіце, гэта было не так проста),
Там ішло набажэнства ў армянскай царкве
І грабар святароў у чорных расах
Адлятаў, як звон ад званоў,
Грабар з яшчэ не астылым
Духам вогнепаклонства
І прароцтва ўрарцкіх жрацоў,
А ў пачатку было нямое
Растанне снягоў Арарата.
Дзіцё мае абяруч
Сціснуць і раструшчыць гранат,
Каб авалодаць
Таямніцамі гэтай барвовай
Мовы з гукаў-зярнятак,
Якой, па шчырай праўдзе,
Яшчэ не спажыў да канца
Ніводны пясняр.
Шмат пазней, калі дзіцёнак
Пакладзе руку
На раяль Арарацкага логу
І на пануры ўцёс віяланчэлі,
Ён раптам адчуе, быццам
Навокал гучыць
Урачысты харал гісторыі.
Сапраўды, браце,
Нават самая велічная мінуўшчына —
Ужо мёртвая,
А самая мізэрная цяпершчына —
Жывая.
Дык грымні па клавішах
Прамяністымі пальцамі чалавека,
Які дэгустуе жыццё!
Дакраніся віяланчэлі смыкам,
А другою рукой шчыкні яе струны —
Рукой, што гуляе са смерцю.
Тут, перад гэтай гарою,
Жыццё і смерць — святочны вінаград,
Чорны і белы,
З якога цiснуць
Адно і тое віно
Вечнасці.
Пі — і адгукнецца
Дрыготкі далягляд.

### РЭ

Лепш быць крышачку армянскім
Кампазітарам,
Чым візантыйскім імператарам,
Армянінам напалову.

Ён дзеля імперыі
Душыў бунты супляменнікаў.
Кампазітар не задушыць, не забунтуе,
Ён усміхнецца, бы гліна ў руках Бога.

**МІ**

Шмат гадоў таму, калі я пачуў
Аб тым, што Пендэрэцкі армянін,
Вусны мае адказалі ўсмешкай:
Мы ў кожным выбітным шукаем армяніна.

Калі я пачуў аб тым, што ў нас
З Пендэрэцкім агульная кроў,
Вусны мае знерухомелі:
Значыць, усе выбітныя — крыху армяне.

І дзеля гэтага варта знерухомець,
нібыта на паперці,
Варта пасміхнуцца ў вочы ка́ту гісторыі.
Ведайце, што мінуўшчына — гангрэнозная,
Але апранутая ў блазнавы лахманы.

**ФА**

У Польшчы я бачыў аднойчы
Ветрык, што ўцяўся ў валоссе
Срэбнай грабёнкай,
Дзяўчат, неадрозных
Ад дзікай гармоніі пярэстых аблокаў,
І, як гэта ні дзіўна, —
Мінакоў,
Родных і гарачых,
Як сцены таныра[1]
На ўзорыстых славянскіх фартухах
Лёгка пабачыць
Дарогі любові і болю,
Уздоўж якіх растуць яблыні.
Сэрца звініць у храме цела.
І ў маім унуку — славянская кроў:
Трохі — польская, трохі — руская.
Скрыпка пра гэта спяяла артысту,
Жалейка прамовіла простую ісціну:
Зямля круціцца ў лад нашае крыві,
Душа, порыстая, як і цела,
Удыхае і выдыхае
Любоў, любоў.

**СОЛЬ**

Як я хачу,
Каб твая барада
Даўжэла
І карацела,
Быццам снягі Арарата.
Саштурхні з барады
Кроплі вады
Ад Ноева
Каўчэга.

[1] Выкапаная ў зямлі печ, у якой пякуць хлеб.

**ЛЯ**

Аркестр гатовы прыняць
Дырыжора.
Сёння прагучыць
Шматгалоссе зямной кары,
Атмасфернага слою
І камет.
Чырвоная ружа
Ўпілася шыпом
У кантрабас.
Горкі палыновы адэкалон музыкі
Імжыць па-над мокрым долам.
Над памежнаю рысай
Трымцяць серафімавы крылы:
Адно — у свеце смерці,
Другое — у гэтым.
У канцы музыкант,
Ён жа дырыжор,
Ён жа слухач,
Ён жа ўсё на свеце
Першы раз разам, у адзін голас зайграюць:
Быў ад пачатку, ёсць
І будзе на векі вякоў
Рух.

**СІ**

Пасля гібелі тысячазвоннага
(Падлічана яшчаркамі)
Горада Ані
(Землятрус аб гэтым маўчыць)
Тысячы армянаў дасягнулі Польшчы.
Праз нейкі час
Яны перайшлі ад апостальскай царквы
Да каталіцкай.
А цяпер спытайце ў вандроўных птушак:
Якія ў іх карані —
У Ежы Кавалеровіча, у Цыбульскага?
Бабуля кліча па-армянску:
— Кшыштаф,
Хрыстос уваскрос!
Кшыштаф гукае,
Не прыпыняючы хлапечых гульняў:
— Сапраўды ўваскрос!
Сябры рагочуць:
Кшыштаф — Хрыстос, Кшыштаф —
Хрыстос, Аман.

**ДОРЭМІФАСОЛЬЛЯСІ**

Калі ты з’явіўся, двух апосталаў
Ужо забілі каменнем.
З нашай зямлёй змяшалася
Трох цнатлівак кроў.
Бухгалтары смерці ў чорных нарукаўніках

Падрахоўваюць рэшткі ахвяр.
У нас ёсць імя Авель,
А Каіна не было ніколі,
Але ж ці ўратуе гэта ад завучэння
Табліцы множання забойстваў?
Калі ты з'явіўся, ты ўжо быў
У адзежы прарока,
І тваё белае аблічча аддзяляла
Звычайнае быццё ад звычайнага бяссмерця,
І рэштай было каляровае сумленне,
Што трымцела птушыным крылом, —
Гук, што сарваўся з дзюбы.
Песня, ты хаваешся ў вушной ракавіне,
А на вуснах робішся малітвай.
Няхай будзе воля Твая,
Няхай будзе ўсё існае, бо яно Тваё...
Пальцамі-промнямі з клавіш сарві шыпы.
Іх кроў прапівае пунсовую літургію
На ранішнія і вячэрнія горы,
А апоўдні — спакойны харал.
Ты ўмееш граць на галасавых звязках ваўка,
Твой арган — то бакі налітай малаком каровы,
Чыімі рагамі ўзараныя саланчакі неба.
Дырыжуй, дырыжуй
Раскатамі шматгалосага хору,
Палюсамі, што растаюць,
Патопамі, што прыйдуць.
На медных аркестравых талерках
Да сталоў паднясі страву
Для тайнага сняданку, абеду ці вячэры.
І падары нам адпачынак пасля трапезы
З дэсертам сну
І з той, што распраўляе нашую сырую гліну, —
Музыкай чароўнага дажджу.

***З армянскай.***
***Пераклад Віктара ЛУПАСІНА***

## *Слабадан ВУКАНАВІЧ, Чарнагорыя*

### ПАЭМУВІЗЫ

Паэмувіз — новы літаратурны напрамак, неаддзельная спалучанасць трох складнікаў: паэзіі, музыкі, візуальнасці (пэўнай карціны). Маецца на ўвазе, што ўсе названыя віды мастацтва разам складаюць змест літаратурнага твора, і гэта можа забяспечваць эстэтычны эфект зусім іншага парадку.

### СКРЫПАЧ

*(А. Вівальдзі «Чатыры пары года» (вялікі канцэрт). На пагорку аліўкавы гай. Хлопцы і дзяўчаты збіраюць плады. У адкрытым моры гудок парахода. Здымак скрыпкі ператвараецца ў камп'ютарную анімацыю. Струны ў выглядзе шчупальцаў утвараюць ружу, геаметрычныя малюнкі)*

Калі мне баліць
Я — Лес
Каб заблытаць След
Каб схаваць Інстынкт
Тут кожны хаваецца
У сваёй нары
У сваім гняздзе
А потым я раблюся
Вясной Летам Восенню Зімой
Лес — загадка
Аблокі — вечныя дойліды
Мы — светлякі
Кожны робіць сваю справу
І здзяйсняе сваё Прызначэнне і Замяшчэнне
Я — Лес
Я — Кветка
Я — Воблака
Я — Святляк
Калі ў мяне забаліць душа
Вы лёгка пазнаеце мяне
Зраблюся Вясной Летам Восенню Зімой

### НЕ ПАВЕРЫШ,
### АМАЛІЯ ПЕРАТВАРЫЛАСЯ Ў ВЯТРАК

*(П. І. Чайкоўскі «Вальс кветак».*
*Пастаральныя матывы. Горад.*
*Фантан. Урывак з «Дон Кіхота».)*

Амалія зрабілася маім абярэгам
Уздыхну пры яе імені
Цяпер я Дон Уздыхацель

Сустракаемся на квітнеючых
духмяных паплавах
Вулічных ліпавых алеях
Парках з фантанамі
У шкляных хмарачосах-светачах

У рухах балерыны
У рухах травы
У рухах галінкі
Адчуваем гульню кахання

Калі Амалія сышла
Я больш не Дон Уздыханне

Цяпер я Санча Шанца
Конь мой — рыба
Дзіда — скакалка

Не паверыш
Амалія ператварылася ў вятрак

**У КАМП'ЮТАРЫ-ПАЛАЦЫ ЭЛЕКТРОН ЭРАТЫКОНУ, АБО ЯК Я КАХАЎСЯ З АМАЛІЯЙ АЗЁРНАЙ**

*(Першая і Шостая строфы — Шапэн «Вальс»; Другая, Трэцяя і Чацвёртая — Жан Мішэль Жар «Храналогія». Анімацыя казурак, раслін, людзей. Графічная дэманстрацыя сексу (без банальнасці).)*

Наша кожная сустрэча
Ператвараецца ў сутычку сусветаў
Пачыналі мы з келлі
Ператвараючыся адно ў аднаго
А пасля ў казурак
Ганяючыся адно за адным па Ружах Ружовых
Кветках Акацый ды Ліп
Летучы з'яднанымі падобна
Камеце ў нетрах планеты,
Якая з вышыні В42
К21 ляціць да Аб'екта П12
Птушыная сустрэча — прыгажосць пачуцця
Музыка душы
Робімся звярамі
Са скачкамі Ф7Ф19М83
Абдымкамі Д12Д41Д52
Скуголім Раздзіраем

І зноў мы людзі
Захапіў я палац Амаліі Азёрнай
Забраў у яе адзенне маўленне і аблічча
Яна рабіла з мяне фігуры
А я прабраўся ў яе
І прыняў аблічча жадання
Перабіраліся мы з Пазіцыі 32 у Пазіцыю 107
З Пазіцыі 45 у Пазіцыю 78

Напрыканцы
Амалія Азёрная пажадала
каб мы зрабіліся машынамі
З Дыяметрамі
Памерамі
Цеплынямі
Велічынямі
Колькасцямі

Запраграмаванае каханне Амаліі Азёрнай
Мая ўлюбёная пілюля

***Пераклад з сербскай Аляксея ЧАРОТЫ***

## *Аляксей ГАДЖЫЕЎ, Дагестан*

**РУБАІ**

* * *

Лепш доўгая вярыга, чым размова.
Памылкай можа лішняе стаць слова.
Чым безліч слоў пустых, лепш сэнсу поўных
Радкі чатыры, што дыктуе мова.

* * *

Дазволь мне сесці да цябе бліжэй,
Пра нас размову распачаць хутчэй.
Прарокі ў адзіноце свет пакінуць,
А нам сыходзіць разам весялей.

* * *

Сёння — я на кані, заўтра — ты на кані.
Не спыняецца свет, не спыняюцца дні.
Толькі мары не дораць душэўны спакой —
Мы ў палоне пачуццяў, нібыта ў агні.

* * *

Глядзіць уніз пшанічны поўны колас,
Увысь глядзіць пусты жытнёвы колас.
Ва ўсім, відаць, ёсць людская прырода —
Пустая бочка мае гучны голас.

* * *

Бляск сонца бачыў я ў вадзе азёрнай,
І ў сініх ледніках, і ў рэчцы горнай.
Ды толькі у вачах тваіх пяшчотных
Я адчуваў цяпло душы прасторнай.

* * *

Не бываюць прыемнымі словы праўдзівыя.
Крывадушніка словы заўсёды хлуслівыя.
Не бываюць праўдзівымі словы прыемныя.
Лепш, хоць горкія часам, ды словы праўдзівыя.

* * *

На паляванні — ў паляўнічага трафей,
На полі лаянкі — у ваяра трафей.

Мы скралі гэту ноч у закаханых сноў.
Цяпер жаданы і у нас з табой трафей.

* * *

Пяшчоцяць прамяні вяршыні гор,
Пяшчоціць вецер траў густых узор.
Пяшчотным ранкам, што нібыта рай,
Сваіх пачуццяў беражом прастор.

* * *

Жыцця і сэнс, і мэта — гэта ёсць любоў,
І усяго жывога аснова — ёсць любоў.
Дні і імгненні ў свеце гэтым такім суровым
І мілата, што Богам дадзена, — ёсць любоў.

* * *

Кахання і грахоў мы чашы напаўнялі,
У месяца святле мы чашы падымалі.
Хоць сонца — кожны дзень, а месяц — уначы,
Не будзе так заўжды, калі б і пажадалі.

* * *

А ноч такая сумная, цябе няма калі,
І вечнасць зацягнулася, цябе чакаў калі.
І час міне нябачна так, і морак пасвятлее,
Калі з табою разам мы пакрочым па зямлі.

* * *

Калі сказала «каханы» — гэта яшчэ не каханне,
Калі пацалунак дорыш — гэта яшчэ не каханне,
Глядзі, прыгажуня,
ведай марам-жаданням меру —
Страсці гарачай іскрынка —
гэта яшчэ не каханне.

*З лакскай.*
*Пераклад Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА*

## Рэнат ХАРЫС, Татарстан

* * *

Сабаку выгульвае нехта ў цэнтры горада —
Няхай будзе пільным, злосным і верным…

Каня выгульвае нехта пасярод стэпу —
Няхай будзе паслухмяным,
трывушчым і хуткім…

Ні сабакі ў мяне, ні каня… Таму я Слова
выгульваю, стоячы ў цэнтры сусвету.

**МАМЕ**

Ты і раней была прыгожай…
І цяпер прыгожая ты.
Вочы мае, гледзячы на каго яшчэ
Змогуць адчуваць такую насалоду?!

Калі вецер разварушыць валасы твае,
то на сонцы Яны засвецяцца,
нібыта завея,
якая перапаўзае праз дарогу,

нібыта смычок над струнамі
самотнай скрыпкі.
І тады паміж нашымі вачыма
Узнікае захапленне буран.

І іскрыстая цішыня калючкай
наколвае слёзы на вочы.
І раптам ты пачынаеш плакаць,
а я стараюся не расплакацца,

не праліць з вачэй слязінкі,
бо праз павелічальную лінзу слязы
упершыню ўбачыў я цябе, мама,
і такой запомніў цябе навекі…

* * *

Хаваючыся сярод натоўпу людзей,
памахаўшы не рукамі, а толькі вейкамі,
колькі разоў праводзіў цябе?!
Усе гэтыя ростані ў сэрцы маім.

Бязгрэшныя старонкі кнігі сэрца
прадрапаны да крыві
і рэўнасцю, і сумнівамі,
і захапленнем, і горкім плачам —

кожная літара — вогненнае кляйно…
Ах, навошта мне лёс такі?!
Няўжо мала ў гэтым свеце людзей,
Якіх можна кахаць, не хаваючыся?!

Ты ад’язджаеш… я застаюся адзін…
і ніхто не заўважае майго стану —
сярод людскога натоўпу стаю я
як помнік Таямнічаму спатканню.

*З татарскай.*
*Пераклад Віктара ШНІПА*

## Любоў ШАШКОВА, Казахстан

### ТАУ-ТУРГЕНЬ

*Андрэю КАЗЛОВУ*

Клубіцца па гарах туман,
Вільготны дзень уводзячы ў дрымоту.
Убачыш яго светлы стан —
Спазнаеш: там ні ценю змроку.

То вільгаць, то дажджы вясны,
Што гоняць за сабою зёлкі.
Скрозь цемру свеціць у вышыні
Лістота сонечнай вясёлкай.

І вунь, страсаючы па кроплі дождж,
Галінкі дрэваў задрыжалі.
Тут нараджаецца святло,
Тут цэлы свет цябе чакае.

Прамень, фіранкі расчыніўшы,
Скрозь цемру заблішчэў чароўна,
І хутка неба асвяціўшы,
Ён закрануў між гор прастору.

І вось працяў ён неба шкло
І захапіў вяршыні ўзгоркаў.
Яшчэ ледзь-ледзь — ліне святло
На краскі, дрэвы і пагоркі!

*Пераклад з рускай*
*Марылі ШЛЫК*

### ДАЛІНА

**1**

Я прачынаюся пад пеўняў галасы
І ціўканне пічугі непрыкметнай,
Кароў мычанне ўдалечыні
Ваколіцу ўчыніць больш прыветнай.

І ранак быццам вымыты наскрозь —
Гарыць, пераліваецца і ззяе.
Гуллівы ветрык лёгка, неўсур'ёз
Лісты карагачоў перабірае.

І гэты свет, ляжыць што між халмоў,
Напоўнены спрадвек святым спакоем,
Няўжо ж ён ноччу зрынуты з асноў,
Затрося над маёю галавою?

Што там у прорве каменнай дрыжыць?
Што ўва мне трымценнем адказала?
Ды супакойся ж! Гэта рыба-кіт
У падземных водах лёганька ўздыхала.

Прачнецца дзень. І мой найлепшы свет
Святлом заліты будзе жыватворным.
І пеўняў пераможны спеў
Мой страх перакрычыць беспаваротна.

**2**

У далонях гор спакойна спіць даліна —
Падобная яна на Божы рай.
Аб чым дрыжыць прыўкрасны гэты край,
Калі ж заходзіцца ў трымценні безупынным?

У далонях Госпада ўтульна спіць Зямля,
На ёй граху і цемры цераз край.
На ўсё, Усявышні, воля ёсць Твая.
Але і ў гневе рук не апускай.

*Пераклад з рускай*
*Тамары САРАЧЫНСКАЙ*

## Лула КУНІ, Чачня

### ВЫЦЦЁ

Па пустых
і самотных станцыях,
працяты
вятрамі свету,
бег цягнік —
клеймаваных быдлам
душ —
Апошняя Інстанцыя.

У сінюю бездань
кінутым каменем,
ляскам засоваў,
сірот маўчаннем,
д'ябла свістам —
з абрыву — канулі
Дзеці Рая — Адамы —
ў выгнанне…

Па якіх чысцяцах стагоддзя
засталося яшчэ прайсці,
каб у вечнасць гісторыі ўвайсці
галіной
чыгуначнага —

застылага ў сцюжы —
пуці?

Немаўляты
каб не ўяўляліся
выпладнямі пекла
Свету, што поўзае ў іх жа крыві.
Каб — няхай аднаму — раз! —
з племя ірадаў
дасталося Страху —
прад Усёвідушчым Вокам —
не рэзаць ягнятаў…

Малі!
Малі аб тысячах,
лязом хлусні
спаласаваных,
замардаваных,
бітых, раздушаных…
заколатых у гразі.

Малі!
Кожным усхліпам,
да хрыпаты
разарванай жахамі глоткі,
закачанелага —
у мёртвым чэраве —
асляплага Дзіцяці.

Бач...
Ціхія кроплі нябёсаў —
па вясне —
абрасілі вусны —
аблямоўкаю чорнай
белазуба высахлых твараў
у стэпе…

За бясконцасцю насыпу —
снежныя нашы магілы —

Сонцам распалены —
Коканамі
Аголенай
нуды…

Вачніцы раскрытыя.
Далоні разнятыя
просяць драбніцы —
Літасці —
Дабрабыту…
Спакою.

Ціхія слёзы нябёсаў.
Міру вогнішчы злыя.
Абпаленых сэрцаў выццё.
Нябёсаў дажджлівы рай.

Чакай…

* * *

Адпрэчана ўсё.
І крывёю амыта.
Пад пылам дарог
Памірае трава.
У твар б’е вар’яцтва
Жыццёвага свісту.
Ад словаў пустых
Аж трашчыць галава.

Усё скатавана.
Заплямлена быдлам.
Распята. Забыта.
На ветразях — кроў.
Ды кожную пядзю
Асвеціць малітва.
Ды кожнага ўспомніць
Зямная любоў.

Забудзеш?
Слых воскам ліпучым закрыеш
Ад плачу сірот
На галодных палях.
Забудзешся —
Прах на падэшвах не змыеш
Нашчадкаў Іуд,
Што працягнуць твой шлях.

Забыта. Адрынута.
Брудам забіта.
І блудных сыноў
Галасы не пачуць.
Блудніцамі
Блуду нямала пражыта.
Юначак нявінных
На гандаль вядуць.

Разбіўся твой шар.
Ды крывавяць аскепкі —
Ідучых на крыж —
Цнота праведных душ.
Расплюханым жарам
Асмалены кветкі
Зямлі — што нядаўна —
Аркадская глуш.

Забыта гаворкай.
Цвікамі забіта.
Пісьмёны на скрутках жыцця
Не гараць…
Зачынена і закапана.
Забыта.
І марнасць пустая
Хоць штосьці шукаць.

* * *

Далі мне свістульку,
Што з гліны.
Сказалі — жыві і свішчы.
І я бестурботна свістала
І… прадаўжала ісці.
Дудзелі ў свістулькі кагалам.
Пацеха бясконцай была.
Зямля стала ў шнарах-акопах,
А мне ўсё крычалі — свішчы!
Свісталі і кулі пад носам,
Завея свістала ў вушах.
А я ўсё свістала ў свістульку… —
Цудоўная цацка была.
Гудуць скразнякі паміж сценаў.
І свішчуць вятрыскі ў кішэнь.
А я падарую свістульку
Малым —
Хай пасвішчуць яны.

*Пераклад з рускай Рагнеда* ***МАЛАХОЎСКАГА***

## Нэвена ВІТОШАВІЧ-ЧЭКЛІЧ, Сербія

**МАЙМУ ВЕЧНАМУ БРАТУ**

Што яшчэ
сказаць табе,
калі словы
гэтага перадаць
не здольны?
Усмешка іх
замяняе...
Ад таямніц хаваемся
а ці яе прадчуваем?

Калі прамовім
слова жаданае,
і без крыл
паляціць анёлак...

Там, дзе каханне,
нікога і нічога
чакаць больш
не трэба.

**ДОМ ПА ТОЙ БОК**

***Сербскім і ўсім іншым выгнаннікам***

Мы зведалі праўду найніжэйшую:
Дна ў пекла няма…

А хто ведае,
што нам яшчэ наканавана?!

Можа, не за доўгім часам
ногі нашы выгнанніцкія
ўвядзе чырвань сораму
пабляклы выгляд Месяца?

Нас жа штомесячна
быццам бы снегам засыпае,
і нам у завеях гэтых
нават сярод лета
сняцца дзянькі тыя,
калі ўсё ж-такі
смяяўся нехта…

Народжаныя, каб пакінуць
у квецені сады
і зарунелыя палі,
каб жыта не жаць
на даспелых нівах сваіх,
бо немаведама што
ў далячынь зашпурнула нас.

Не маем свайго гнязда.
Толькі прывід жытла
мільгае на даляглядзе.
І хіба што настальгія
дае нам магчымасць
захоўваць дом,
які ўжо страчаны.

Выгнаныя і з саміх сябе,
мы — цені, якія блукаюць
вакол жахлівага папялішча,
шукаючы косці спаленых…

А хто ведае,
што нам яшчэ наканавана?!

Нібы птахі пералётныя,
за іншых не горшыя,
лётаць намагаемся,
не разважаючы,
ці маем крылы.

Нам наўздагон
махалі вяршынямі дрэвы,
прымружылі вочы азёры,
уздрыгнулі курганы…

І мы хутчэй, чым у сне,
апынуліся па той бок —

як пацеркі,
рассыпаныя па сусвету
і збянтэжаныя тым,
што Зямля вылучаецца
сярод іншых планет.
Ці нейкі міг

прывіднага здавальнення
варты мноства
сапраўдных пакут?

А хто ведае,
што нам яшчэ наканавана?!

Аднак жа ў нас
ёсць зямля схаваная,
з урадліваю глебай
і замерлым насеннем;
ёсць і бязмежнае мора
з высокімі хвалямі…

Ды нікому не вядома,
ёсць да іх справа Госпаду,
а ці яны так і застануцца,
за Ім чэзнучы,
марнеючы
і прападаючы.

Бо няма ўжо голасу,
які спяваць можа;
а ўсё — у песнях,
якія нябеснымі сіламі
прадугледжаны…

**БЕЛАРУСЬ**

Беларусь
— гэта казка раўнінная.

У кожнай хаце з дрэва
жыве пастух,
які стане царом.

Нідзе не ўбачыш
такой колькасці белых крылаў!

Можа, гэта ангелы,
у лебедзяў ператвораныя?

А ці то ліхой мачахай
зачараваныя царэвічы?

Кожны сваю царэўну шукае,
з дрэў высокіх гукае,

трапяткімі галінамі,
як рукамі, махае?

А каханыя іх
на ўсіх дарогах
з пяшчотнымі белымі
кветкамі сустракаюць.
Безліч суквеццяў,
куды ні кінь вокам,
раскрылася пад нябёсамі,
якія ў азёры глядзяцца.

Нідзе гэтулькі неба на зямлі!
І нідзе гэтулькі белых крылаў!

Беларусь, у нізіне стаіць твой Алімп.
А можа, ты раўнінай ніколі і не была?

*Мінск, Смаргонь, 2009 — Бялград,2011*

***Пераклад з сербскай***
***Івана ЧАРОТЫ***





# Паэтычны гвалт

***Аказваецца, гвалт можа даваць станоўчы вынік. Напрыклад, спрыяць нараджэнню творчага тандэма. Каралесь — істота, што з'явілася дзякуючы вечарам гвалтоўнай паэзіі. Арганізатар Юрый Корзун прапанаваў маладым творцам Карыне Пацко і Алесю Мойскаму выступаць пад псеўданімам. На той момант літаратараў яднала не толькі паэзія, але і асабістыя стасункі. Ад спалучэння імёнаў нарадзіўся Каралесь.***

**К. П.:** — Мы спрабуем спалучаць быт і творчасць, падтрымліваць адно аднаго. Саюз двух літаратараў цалкам магчымы. Бывае, праўда, натхненне прыходзіць да нас неадначасова. Алесь «запаліўся» і піша на хаду. А я мару і ў думках лётаю. Мы вучымся: я — не крыўдаваць на крытыку, Алесь — быць мяккім, выказваць заўвагі асцярожна.

**— Што за дзіўныя вечары гвалтоўнай паэзіі?**

**А. М.:** — Мы выпадкова знайшлі такі гурток Вконтакте. Творцы пішуць па заданні гледачоў вершы, таму паэзія «гвалтоўная». Прычым заданні могуць быць у выглядзе малюнкаў, ці напісаць верш на нейкія гукі. Мы першы раз прыйшлі разам на сустрэчу і разам выступілі. Пасля падумалі, што трэба нечым адрозніваца ад астатніх, і зрабілі выступленне ўдваіх традыцыяй. Гэта выдатная магчымасць не толькі разнастаіць вечарыну, але і прэзентаваць верш па ролях, з іншымі акцэнтамі.

**К. П.:** — Цымус такіх вечароў — зваротная сувязь. Можна колькі заўгодна пісаць вершы ў шафу, але без творчага росту і маральнага задавальнення. Тут аўтары чытаюць на публіку, чуюць меркаванні слухачоў, могуць скарыстацца заўвагамі.

**— Калі вы чытаеце разам, то ствараеце, напэўна, таксама…**

**А. М.:** — Да таго, як мы сустрэліся, у кожнага былі ўласныя вершы. А пасля мы сталі пісаць разам. Можам проста шпацыраваць і дзеля задавальнення гуляць, рыфмуючы нейкія словы. У выніку забава можа застацца гульнёй, а можа нарадзіцца верш. Збоку гэта дзіўнае відовішча: ідзе пара, рыфмамі размаўляе. Напэўна, людзі думаюць, што нейкія вар'яты. А мы можам так гадзінамі камунікаваць: пра паэзію, літаратуру — рэчы, якія нас аб'ядноўваюць.

**— Калі верш нарадзіўся, дапрацоўваеце яго разам?**

**К. П.:** — Алесь больш крытыкуе. Ён імкнецца да дасканаласці. Можа сказаць, што трэба падправіць, перапісаць. Увогуле, калі ёсць натхненне, то перарабляваем разам. Калі няма — думаем паасобку.

**А. М.:** — Часта спрачаемся за асобнае слова. Шукаем патрэбную метафару, удакладняем нейкія дэталі. У Карыны цікавыя ідэі, да якіх я не чапляюся, а толькі падпраўляю вобразы. Нядаўна яна даслала мне апавяданне. Калісьці я распавёў, якім бачу тэкст. А Карына, не сказаўшы, напісала апавяданне, аформіла мае ідэі. Мне вельмі спадабалася, захацеў нешта дадаць, дарабіць. Атрымаўся цудоўны твор.

**— Вашы творчыя манеры супадаюць?**

**А. М.:** — Напэўна, я больш схільны да эксперыментаў, спрабую зарыгінальнічаць, а Карына піша ў класічнай манеры. Калі чытаю, таксама імкнуся зрабіць гэта нейкім адмысловым чынам — з дапамогай рэквізіту, напрыклад. Хаця, калі вершы на паперы не маюць канкрэтнага асобаснага вызначэння, то складана здагадацца па стылі — я іх напісаў ці Карына.

**— Напэўна, на манеру чытання паўплываў і народны літаратурны тэатр «Жывое слова», дзе таксама выступаеце разам.**

**А. М.:** — Так. Я распрацаваў там уласную манеру чытання, навучыўся больш паглыбляцца ў вершы, назапасіў вопыт іншых аўтараў. Прычым я яшчэ ў школе імкнуўся ва ўсім паўдзельнічаць, да ўсяго далучыцца: да розных вечарын, канцэртаў. І ў тэатр патрапіў без нейкай канкрэтнай мэты. А вершы пісаць пачаў у школе. Думалася тады: няўжо я не змагу гэтага? І калі пачалі з'яўляцца першыя вершаваныя радкі, то і бацькі станоўча да гэтага паставіліся, і настаўнікі падтрымалі.

**К. П.:** — А мяне ў тэатр прывёў Алесь. Я ўбачыла ўвесь тэатральны калектыў на Міжнародным фестывалі студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар». Тады прыйшла за Алесем проста пасядзець і паглядзець, спадабаўся настрой, калектыўны дух. Я гэтым заразілася, улюбілася ў жываслоўскія песні і мініяцюры. Алесь адразу не надта добра да гэтага паставіўся — раптам не змагу. Але пасля я паглядзела спектакль і папрасілася ў тэатр. Так ужо тры гады ў «Жывым слове».

**— Тэатр уплывае на літаратурную творчасць?**

**А. М.:** — Безумоўна. Мы часам пішам для тэатра мініяцюры. У нас ёсць «Атрасіны» — вечарына ўласнай творчасці ў канцы восені. Калі акцёры самі прыдумваюць сцэнарый, самі ставяць, працуюць фактычна без дапамогі рэжысёра. Штосьці кшталту справаздачы.

**— Карына, ці страшна даваць свае творы на рэцэнзію Алесю?**

**К. П.:** — Ой, вельмі страшна. Ён самы строгі крытык. Я яшчэ некалькі разоў падумаю, як зрабіць лепей, і толькі потым рызыкну даць яму пачытаць. Калі Алесь ацэньвае, то не звяртае ўвагі на тое, што я яго дзяўчына. Ён вельмі жорстка гэта робіць. Спачатку крыўдавала, а цяпер прызвычаілася, прыслухоўваюся, бо ведаю, што хоча, каб я імкнулася да дасканаласці.

**— Чужым кнігам месца на вашых паліцах знаходзіцца?**

**А. М.:** — Людзі, якія пішуць, не звяртаюць увагі на тое, што ствараюць іншыя. А нас з Карынай кнігі аб'ядноўваюць. Калі кніжная крама раптам узнікае па дарозе, то лепш туды не заходзіць, бо можам згубіцца на пару гадзін.

**К. П.:** — Прычым Алесь да сваіх кніг кіруецца, я — да сваіх. У выніку пакідаем там усе грошы. Вось з новых набылі «Парасонечнасць» Алеся Емяльянава. Ён з дапамогай свайго гурта даносіць вершы да чытачоў. Вельмі таленавіты чалавек, сонечны і харызматычны. «Сфагнум» Віктара Марціновіча таксама чыталі. Класіку, зразумела, набываем. Хацелася б мець многія зборы твораў.

**— А кніжка з уласнымі вершамі ў вас ёсць?**

**А. М.:** — Ёсць выданне «Год без натхнення» — гэта кніга па выніках вечароў «гвалтоўнай» паэзіі. Яе выдалі на гадавіну гэтых вечароў. Туды ўвайшлі творы ўсіх паэтаўудзельнікаў вечарын. Тут ёсць і вершы вядомых аўтараў, напрыклад, Віктара Лупасіна, Паўла Клёка. Мяркую, мы яшчэ не ўсвядомілі сябе сапраўднымі паэтамі, каб выдаць кнігу. Калі назапасім больш вершаў і будзем атрымліваць нейкую зваротную сувязь, тады абмяркуем пытанне са зборнікам.

**К. П.:** — Прыемна, калі на вечарынах незнаёмыя людзі дзякуюць за вершы, выступленні, просяць аўтограф. Гэта натхняе і падштурхоўвае да творчасці, індывідуальнага росту.

*Запісала Маша ДУБРОЎСКАЯ*



# Пра што спявае «Нагуаль»?

**Леанід Паўлёнак — вакаліст і лідар незвычайных музычных гуртоў «Нагуаль» і «Маланка оркестр», а таксама жыццярадасны чалавек. Скончыў факультэт мастацтва Інстытута сучасных ведаў імя Шырокава па спецыяльнасці культуролаг-прадзюсар, але з галавой пайшоў у музыку. Любіць збіраць зёлкі і корпацца ў агародзе.**

**МУЗЫКАЙ ПАЧАЎ ЦІКАВІЦЦА…**

— З першых класаў. Мне падабаліся розныя песні. У асноўным з савецкай эстрады — Юрый Антонаў або Марк Бернэс. Сваё дашкольнае жыццё, а таксама ўсе канікулы я правёў у вёсцы на Віцебшчыне. У бабулі была радыёла і мы часта слухалі музыку. Я любіў падпяваць і рухацца ў такт мелодыі. Яшчэ ў дзяцінстве вялікае ўражанне мне пакінула песня «Песняроў» — «Касіў Ясь канюшыну».

**ВУЧЫЎСЯ ГРАЦЬ…**

— Паступова. У мяне няма музычнай адукацыі, мая адукацыя — жыццёвая. Я самавучка. Нечаму навучыўся ў сяброў, штосьці падглядзеў па відэа. Карацей, са свету па нітцы. Увогуле было так: няма ў групе басгітарыста — я граю на бас-гітары. Няма барабаншчыка — граю на барабанах.

**СВАЕ МУЗЫЧНЫЯ ГУРТЫ...**

— Пачаў ствараць пасля школы. Самы першы па стылі быў хард-панк з элементамі гнусавай дваравой музыкі. Назву мне цяжка ўзгадаць, гэта быў гурт для размінкі. Яго назва і склад пасля шмат разоў мяняліся. Было шмат эксперыментаў. Спрабаваў сябе ў электроннай музыцы, у бардаўскай песні, штосьці ў кірунку «Грамадзянскай абароны», пасля мяне панесла ў бок The Doors і Ніка Кэйва. Потым я даведаўся пра стыль сайкабілі, вельмі захапіўся, пачаў шукаць людзей у Полацку, якія б маглі гэта граць, але нічога не атрымалася. Такімі шляхамі-лабірынтамі пасля з'явіўся «Нагуаль».

**МУЗЫКА ГУРТА «НАГУАЛЬ»...**

— Мае вельмі шмат тэрмінаў, я спецыяльна іх прыдумляю, бо наша музыка вельмі разнапланавая і цяжка сказаць, якая яна канкрэтна. Яна заўжды новая, у яе з'яўляюцца новыя свежыя формы. Таму можна сказаць, што гэта фольк-мадэрн, арцель па выпрацоўцы энергіі, этнічны сюррэалізм, шаманскі рок-н-рол, эзатэрычны шансон і гэтак далей.

**САМЫЯ АКТЫЎНЫЯ ГУРТЫ…**

— У якіх я ўдзельнічаю — «Нагуаль», «Маланка оркестр», Recha. Яшчэ крыху граю ў двух кавер-бэндах, адзін з іх называецца «Хутка Смачна», там я барабаншчык. Акрамя музычных гуртоў у мяне яшчэ ёсць праекты фаер-шоў. Я выступаю з Мішам Факірам і з цыркам «Крэсіва». Падтрымліваю іх музычна ў якасці барабаншчыка, гітарыста або выканаўцы на іншых інструментах.

**МОВА ПЕСЕНЬ ГУРТА «НАГУАЛЬ»…**

— Гэта тое, што мне шэпча прырода. Гэта выдуманая мова, пастаянная імправізацыя. У некаторых песнях ёсць фіксаваныя словы, якія паўтараюцца і ніколі не мяняюцца, але такіх песень няшмат. Фіксаваныя словы патрэбны, бо так людзям прасцей і зручней разумець нас. Цяпер пачалася эпоха злучэння «Маланкі оркестр» і «Нагуаля», бо многія людзі хочуць ад «Нагуаля» паглыбленага фанемнага спеву. Мы сталі дадаваць у песні або беларускую мову, або рускую, і ў нас адразу пачала пашырацца публіка.

Які гурт для мяне важней — «Нагуаль» ці «Маланка оркестр» — сказаць не магу, бо гэта як адказваць на пытанне: каго з дзяцей ты больш любіш — Васю ці Пецю.

**У ТЭМАТЫЦЫ ПЕСЕНЬ...**

— Ёсць некалькі кірункаў. Напрыклад, у песні «Маленький озорной жук» вельмі гарэзлівая эмоцыя, вельмі яркая, як прыродная стыхія або як добрыя ўспаміны з жыцця. Таксама ў яе ўкладзена гісторыя, вядомая толькі мне, якая выражаецца ў гармоніі, у пэўным спалучэнні інструментаў, пульсацыі — ўсё гэта нараджае сюжэт. Але людзі бачаць у кожнай песні свой сюжэт, бо няма знаёмай мовы. Людзі здольныя фантазіраваць, і гэта важна для «Нагуаля». А так, вядома, кожны музычны твор мае сваю тэматыку. Нашы песні могуць быць і пра ўзаемаадносіны паміж людзьмі, і на экалагічную тэму (песня «Два лесника летят»), пра барацьбу дабра і зла. Музыкант, калі яго песні не нясуць нейкі сацыяльны ці палітычны падтэкст, выходзіць на сцэну аб'яднаць людзей, прымірыць іх, унесці яснасць у іх жыццё. І песні «Нагуаля», на мой погляд, маюць гэты элемент — імкненне да жыцця, здароўе, прасвятленне.

**ЛЮБІМАЯ МУЗЫКА...**

— Manu Chao і Zaz. Сёння гэтыя два. Але праз тыдзень можа быць зусім іншы настрой, і я назаву іншыя калектывы. Што да музыкі Manu Chao, для мяне гэта вельмі значны музыкант. Яго творчасць — народныя матывы Афрыкі, Мексікі і Іспаніі, перамяшаныя са ска і рэгі. Часта я люблю паслухаць класічны панк-рок, напрыклад, Ramonas ці Stooges.

**У БЕЛАРУСКІХ ГУРТОЎ АНДЭГРАЎНДУ...**

— Будучыня ёсць. Што да «Нагуаля» і «Маланкі оркестр», гэта ў пэўнай ступені наша праблема, што мы не можам сфакусіравацца на пэўным гурце і не можам людзям данесці самы «сок» гэтай музыкі. Яе ведаюць толькі аматары, бо яны першапачаткова варацца ў гэтай сферы. Другая праблема ў тым, што слухачы найперш выбіраюць музыку, якую разумеюць, у якой не трэба капацца, шукаць нейкія сэнсы.

Мне хацелася б гэтую музыку данесці вялікай колькасці людзей. Я бачу, што чалавек, які не шукае глыбокіх сэнсаў у музыцы, калі чуе музыку «Нагуаля», робіцца шчаслівым.

Будучыня ў музыкі ёсць заўжды. Галоўнае — не баяцца штосьці цікавае сказаць і зрабіць.

**АКРАМЯ МУЗЫКІ ЛЮБЛЮ...**

— Пакорпацца ў агародзе. Спадзяюся, што ў бліжэйшы час з'явіцца свой «аазіс». Люблю сачыць, як усё расце, развіваецца і пасля з'яўляецца на стале. Люблю рабіць для гэтага намаганні. Яшчэ ўмею гатаваць розныя стравы з нічога. Падабаецца збіраць зёлкі для гарбат. Калі я раблю звычайныя дзеянні, стараюся да іх падыходзіць з глыбокай жыццёвай філасофіяй. Давайце адчуваць і паважаць уласныя хвіліны жыцця на зямлі.

**У БУДУЧЫНІ ХАЦЕЎ БЫ ...**

— Давесці да ладу які-небудзь з праектаў. Жыццё ідзе, есці трэба, апранацца таксама. Можна пайсці працаваць будаўніком ці ў іншы не музычны бізнес, але разумееш: калі столькі часу прысвяціў сваёй музычнай працы, то пакідаць яе складана. Мая жонка пачала актыўна займацца дзіцячымі музпраектамі. У прыватнасці, гэта песенны праект «Скворечник» і дзіцячы праект «Бусы», дзе мы паказваем спектаклі для дзетак і праводзім музычныя заняткі. Таму можна пражыць і за музыку. Калі ты ў нашай краіне граеш розныя каверы, то на гэтым можна добра зарабіць. Але я па сваёй прыродзе гэта рабіць не магу. Я спрабую, але нешта не гучыць. Яшчэ сумна ад таго, што людзі чакаюць чагосьці, што ўжо мільёны разоў чулі, у той час як побач гучыць штосьці ўнікальнае.

*Запісала Ганна ШЫБУТ*



КАНАЛ «КУЛЬТУРА» БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ

# Кніжная экспансія

***Досыць часта, калі запрашаю на «Кухню» пісьменнікаў, даводзіцца цікавіцца, як правільна іх прадставіць слухачам. Многія не толькі пішуць, але яшчэ і займаюцца дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, бізнесам, выдаюць кнігі. Прычым, робяць гэта з не меншай таленавітасцю, чым прыдумваюць сюжэты для ўласных кніг.***

***Асоба Людмілы РУБЛЕЎСКАЙ не патрабуе доўгіх рэкамендацый і характарыстык, асабліва для аматараў літаратуры. Але побач з назоўнікам пісьменнік варта ўжываць архітэктар і мастачка.***

— У нас няма такога паняцця — «пісьменнік як прафесія». Таму кожны літаратар чымсьці займаўся да таго, як прыйшоў у прафесію. Я скончыла Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Працавала два гады архітэктарам. А маляванне — адно з захапленняў, якое ішло паралельна з напісаннем вершаў. Апошнім часам, праўда, няма калі ім займацца. Мяне справядліва залічваюць да інсітных мастакоў. Люблю такое мастацтва. У мяне дома ёсць два прафесійныя мастакі: дачка і сын. Дачка скончыла Акадэмію мастацтваў, сын яшчэ вучыцца.

**— Маміны работы яны не крытыкуюць?**

— Безумоўна, не. Яны ж маму любяць! Тым больш, на многіх работах яны адлюстраваны. Карціны вельмі цёплыя, шчырыя, упрыгожваюць дом.

**— Калі вы абіралі архітэктуру як прафесію, чым кіраваліся?**

— Выбар давялося рабіць у 16 гадоў. Я вучылася ў школе, дзе была не вельмі творчая атмасфера. Пасля 8 класа мы з сяброўкай вырашылі сысці. Узялі даведнік па сярэдніх спецыяльных установах і пачалі шукаць нешта творчае. Я тады займалася ў доме піянераў, малявала, хацела паступіць у мастацкае вучылішча, але настаўніца сказала, што пасля яго не абавязкова малююць для выстаў. «А раптам будзеш аздабляць упакоўкі для запалак?» Я не была ўпэўнена ў сабе як мастаку і пайшла на спецыяльнасць тэхнік-архітэктар. Пасля, калі пазнаёмілася ў літаратурным інстытуце з будучым мужам, аказалася, ён таксама вучыўся ў гэтым тэхнікуме, толькі на некалькі курсаў раней.

Літаратура — не прафесія, а вобраз жыцця, спосаб бачання свету. Я заўжды ведала, што буду пісаць.

**— А веды па архітэктуры вы часта выкарыстоўваеце?**

— Пісьменнік, як алхімік, любы досвед пераўвасабляе ў іншыя якасці, у свае мастацкія творы. І я не выключэнне. Напрыклад, першы твор — містычная аповесць «Дзеці Гамункулуса». Там гераіня, нагружаная радыёдэталямі, вязе іх у Прыбалтыку. Гэта спісана з натуры. Мяне сапраўды адпраўлялі ў камандзіроўку ў Прыбалтыку. Прычым нагрузілі так, што я магла толькі перасоўваць скрыначкі па снезе. У іншых раманах і аповесцях таксама можна знайсці водгалас майго досведу.

**— Ці скардзяцца тыя, хто пазнае сябе ў вашых героях?**

— Бывае. Тады даводзіцца казаць, што гэта зборны вобраз. Напрыклад, калі выйшаў мой твор «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію», у адным з герояў пазнаў сябе муж маёй сяброўкі. Ён гісторык, захапляецца радаводамі, вельмі цікавы чалавек. І я выкарыстала пару рэальных эпізодаў з яго жыцця. Але герой — мажны чалавек, кілаграмаў сто.

Прататып пачаў абараняць свой спартыўны стан. Тады давялося абараняць героя, казаць, што гэта зборны вобраз. А бываюць абсалютна дзіўныя выпадкі: у аповесці «Пярсцёнак апошняга імператара» ёсць персанаж Крумкач — птушка амаль інфернальная, якая суправаджае аднаго з герояў, пераходзіць у сучаснасць, дастаецца ў спадчыну дзяўчыне. Птушку завуць Карл Карлавіч. А прататыпам стаў наш хатні папугайчык. Ён быў надзвычай разумны: лётаў па кватэры і крычаў: «Карлуша — беларускі папугай». Прадстаўляўся ж так: «Карл Карлавіч, прафесар».

**— Уласныя праблемы вы пераносіце на старонкі сваіх кніг, каб пераджыць гэта ў літаратуры, вырашыць штосьці?**

— Я не магу сказаць, што ад хатніх праблем уцякаю ў творчасць. Не люблю гэтага. Наша жыццё, адносіны — гэта паўнавартасны свет, які адбіваецца ў творчасці, але вырашаць у тэкстах тое, што не атрымліваецца ў сапраўдным свеце… Дзякуй богу, я гэтага не раблю. Не збіраюся праз мастацкую творчасць зводзіць з кімсьці рахункі.

**— Чытала, у вас ёсць хобі — збіранне камянёў…**

— Я, здаецца, яшчэ ў дзяцінстве збірала іх. Ставілася як да геалагічнай калекцыі. А калі з мужам пачалі падарожнічаць, захацелася мець нейкае матэрыяльнае пацверджанне. І цяпер для мяне кожны каменьчык, цаглінка — матэрыяльнае ўвасабленне энергетыкі той мясцовасці, дзе мы былі. Калі ведаеш, што гэты — з Мірскага замка, гэты — з Чарнагорыі, то можаш дадумаць шмат высокіх матэрый. Люблю камяні і ракавінкі. Гэта больш каштоўна, чым набыць які-небудзь сувенір. Прычым я не цягаю са сцен, не разбураю архітэктурныя помнікі. Бяру заўжды тое, што само адвалілася і ляжыць на зямлі.

**— Гэтая любоў распаўсюдзілася і на ўпрыгажэнні.**

— Натуральна. Я набываю пярсцёнкі, пацеркі з вялікімі камянямі, прыдумваю пра іх гісторыі. Не кожны камень з табой супадзе. Гэта ж жывая энергетыка. Некаторыя камяні з табой не ўжываюцца — вылятаюць, напрыклад, з пярсцёнка. Ёсць шчаслівыя камяні — тыя, што былі са мной у добрыя моманты. А здаралася і наадварот. Я не звязваю з камянямі дрэнныя падзеі, але калі нешта такое адбылося падчас набыцця каменя, я асацыірую апошні з негатывам. Магу такі камень каму-небудзь падарыць.

**— Вы прымхлівы чалавек?**

— Я веруючы чалавек. Хаджу ў царкву. Але ёсць рэчы, над якімі мы не ўладныя. Былі выпадкі, калі я апісвала ў творах нешта, прыдумвала, а пасля гэта здаралася насамрэч. Дарэчы, што тычыцца містыкі… 10 гадоў кірую суполкай «Літаратурнае прадмесце». І здарылася трагедыя — загінуў паэт Сяргей Мацін. Гэта было вельмі недарэчна. А ў газеце «Рэспубліка» яшчэ да гэтай падзеі выйшла падборка твораў нашых паэтаў. Верш Сяргея называецца «Развітанне». Чаму рэдакцыя абрала менавіта гэты верш з некалькіх, не ведаю. Праўда, заўважана і тое, што калі хтосьці памірае, заўжды пачынаюць шукаць містыку. І звычайна знаходзяць.

**— А што яшчэ збіраеце?**

— Калісьці мелі вялікую калекцыю лістоў. Муж любіў перапісвацца з сябрамі. Напрыклад, з Анатолем Сысам, калі служыў у войску. Нас з дому рукапісы ўжо выжываюць. Мы свае зборы пакрысе пераносім у Архіў-музей літаратуры і мастацтва. З 1992 года маем альбом, дзе распісваюцца госці, якія прыйшлі да нас першы раз. Цяпер там каля двухсот запісаў.

**— А доступ кніг ва ўласную бібліятэку фільтруеце?**

— Вось кнігі дакладна нас выжываюць. Калі ў доме нейкія дзверы зачынены, значыць, за імі кнігі. Я даўно прызвычаілася чытаць з манітора. Аднойчы нават узрадавалася — менш кніг будзе прырастаць. Але не. Немагчыма нават адсачыць, адкуль яны бяруцца. Але кнігі — гэта лепшы інтэр'ер.

**— Працоўны стол вы загрувашчваеце чымсьці асабістым?**

— Раней на працы стаяў партрэт Паўлюка Шукайлы, падораны Віталем Скалабанам. Гэта партрэт надзвычай харызматычнага і прыгожага чалавека, ён мяне натхняе. Я шмат напісала пра расстралянае пакаленне. Мы нават уявіць не можам, што мы згубілі. Каб усе яны змаглі спраўдзіць свой патэнцыял, літаратура мела б іншае аблічча.

Таксама на стале стаіць дзіўны пясочны гадзіннік, яго падарыла калега-сяброўка. Пясочак у ім ружовы, дзявочага эмаўскага колеру. Прыходзіш на працу, перакульваеш яго — і вось яна, частка працоўнай атмасферы. Дакладней, унясенне творчай атмасферы ў працоўную.

**— Вам не замінае ў рэдакцыі вялікая колькасць людзей і адсутнасць адзіноты?**

— Нават дома я магу пісаць толькі па начах. Тады і ёсць мой працоўны час. Муж стараецца сачыць, калі я кладуся, і пакрыквае, каб гэта адбывалася ў час. Безумоўна, каб пісаць па поўнай праграме, патрэбна надзвычайная канцэнтрацыя…

*Даша МАРОЗАВА*

# ПАНТЭОН



***Даша Марозава нарадзілася 12 кастрычніка 1994 года ў Мінску. Вучыцца на філфаку БДУ. «Літаратурны вопыт сціплы і хаатычны, не друкуюся, бо сапраўды люблю пісаць у стол. Усе планы на будучыню так ці іначай зводзяцца да коней».***

***Но, когда закатился свет***
***блистательный солнца,***
***Боги, желая почить,***
***уклонилися каждый в обитель.***

Гомер, «Илиада»

Аблокі апаўзалі ўніз з гары. Спачатку пухнатую выспу праткнуў востры камяністы пік. Затым густа сплеценае сеціва хмар пачало паволі апускацца, нанізвацца на вяршыню, то хаваючы, то агаляючы яе няроўную паверхню. Густыя ды вільготныя аблокі прыкрылі сабою пару самотных дрэўцаў, абрасілі велізарныя валуны, пагладзілі засохлыя рэчышчы горных ручаёў, пракаціліся праз голы выступ з купкаю жывых істот і запаволілі свой рух, марудна спыняючыся далёка пад вяршыняй гары, але ўсё яшчэ высока над зямлёй. Аблокі аперазалі каменную глыбу. Яны адрэзалі ціхі прыстанак нешматлікіх горных насельнікаў ад засушлівага і мітуслівага свету ўнізе.

…Над іх галовамі свістаў вецер, які больш нішто не стрымлівала. Ён ускудлаціў рэшткі сівых валасоў на галаве мужчыны. Той не зварухнуўся. Усе рухі, якія можна было б заўважыць, ствараліся ветрам. Абляцеўшы вакол самотнай калоны, якая адыгрывала ўжо нікому не вядомую ролю, ён звыкла пакруціўся між пакінутых на стале прадметаў, нібыта правяраючы, ці ўсё стаіць на сваім месцы: дванаццаць важкіх келіхаў, некалі бліскучых, з засохлымі слядамі ад невядомага напою; безліч чарак — значна болей за колькасць прысутных тут асоб; шматлікія талеркі і глыбокія місы. Пустыя гарлачы традыцыйна прагулі сваю маркотную песню, калі вецер паказытаў іх знутры. Усё было звыкла. Як, напрыклад, і ўчора. Не стрымаўшыся, узмахнуў высока ў неба, зрабіў крутую пятлю, агінаючы млявую птушку, і рынуўся долу, назад; скокнуў пад стол, разрэзаўшы паветра ціхім свістам, абляцеў спарахнелыя ножкі і пакінуў урэшце яго ў спакоі, вярнуўшыся да сатрапезнікаў.

Тым часам сонца хілілася да густых, рэльефных аблокаў. У самым іх цэнтры распачало бурчэць, вуркатаць і енчыць.

Вецер гарэзліва зварухнуў крысо бруднага плашча. Пападкідваў яго: уверх, уніз, улева, уверх... Жанчына

вялікімі мутнымі вачыма ніякавата паглядзела на падранае сеціва нітак. Цяжкавата было вызначыць, якога яны колеру. Ды яна ўжо і не памятала. Галава яе цяжэла, хаця даўно зняла высокі шлем. Вылятalі з галавы імёны і постаці. Можа, гэты ашалелы вецер выносіў іх?.. Застаўся хіба толькі вобраз чыіхсьці шырокіх плячэй, па якіх ненатуральна марудна сцякаў струменьчык крыві, і было ад гэтага няёмка і балюча. Калі ўжо спыніцца тая кроў? Чаму яна настолькі *не спяшаецца*?.. Шуміць, грукае ў скронях. Дрыгаецца павека. З замкнёных вуснаў цячэ ціхуткае мычанне.

Звысоку добра відаць тое, чаго ніколі не заўважыш, не ўзняўшыся. Зрэшты, няшмат вясёлага было ў тых, хто сядзеў побач з жанчынаю. Даўно назіраў вецер за гэтымі хваравітымі ды спалоханымі целамі. Памятаў іх здаровымі, дужымі і чыстымі, як тая духмяная вада, што калісьці поўніла іх кубкі. Не меў і блізка тады той свабоды, якою не можа наталіцца па сёння. Незаўважна, паступова саслабелі магутныя, зрабіўшыся дзікунамі, перасталі адыходзіць ад убранага стала, скурчыліся, асалавелі. Рукамі, што некалі моцна сціскалі зброю ды кубкі, апанаваў трэмар, і ўсё радзей яны ўздымаліся. Дзіка і няўтульна адчувалася б тут жывому чалавеку, але вецер... За доўгія тысячагоддзі ўпершыню адчуў сваю волю. Не баяцца дзівакоў, не аблятаць іх за мілю, не бегчы да іх на першы вокліч, але рваць іх плашчы, падкідваць валасы, гуляцца па сваіх правілах!

Уніз, улева, угару, уверх, уніз...

Аблокі зацягнулі сонца ў сябе. Яны пачалі разрастацца, павялічвацца, надзімаючыся брудна-белымі бурбалкамі. Бульканне, скавытанне ўзмацнілася. Набліжалася навальніца, якая ўрэшце заліла б сухія трэшчыны ў зямлі далёка ўнізе. Неба, якое аддзялялася ад яе аблокамі, выглядала пустым, як быццам адно вялікае вока мёртвай птушкі.

Вецер ашалеў ушчэнт. Абраў новую ахвяру сваіх гульняў. Разагнаўся і кінуў сябе ў жаўтаваты твар старога. Не адразу, марудна, але той расплюшчыў свае на дзіва маладыя і ясныя вочы. Прызвычаіўся да чырванаватага святла, што праз аблокі яшчэ далятала да стала, да калоны. Стары ў бруднай анучы-плашчы аглядаў сваіх сатрапезнікаў, і ў ягоных ясных вачах плёскаўся паўжывы яшчэ агеньчык. Невядома было ветру, як вытлумачыць такі позірк, але гэта і не мела аніякага значэння. Ён абвіўся вакол старэчай шыі, абмацваючы кожную жылку ды зморшчынку, прашыў наскрозь рэдкую кучаравую бараду, пагладзіў худыя плечы ды адляцеў, нацешыўшыся.

Падзяляла з яснавокім старым дзіўнае і велічнае яго крэсла жанчына, якая не здолела адказаць на выпады, дотыкі і шэпты ветру. Хіба што кучаравыя валасы ды незлічоныя залатыя бранзалеткі адгукнуліся шоргатам ды перазвонам. Змэнчаны ейны твар, хай нават і са слядамі колішняй прыгажосці, быў такім хударлявым і выцягнутым, шыя — такой тонкай і даўжэзнаю, а вочы — такімі шырокімі, што міжволі кабета нагадала ветру сумную галаву адной яго знаёмай кабылы. Праз увесь лоб, па яго шараватай скуры з маленечкімі кратарамі пор, бегла роўная стужка. След ад металічных пацерак ці ад вытанчанай дыядэмы, а мо ад пампезнай кароны?..

Што за дзіўнае пасяджэнне? Чаму яно так зацягнулася? Чым мусіць скончыцца? Ізноў уверх, уверх, далей ад стала і ад аблокаў, віраваць уверсе, выконваць асабісты танец, вымалёўваць сваю карціну... Хай яны там, унізе, — сядзяць за сталом, нерухомыя, а іншыя, аднааблічныя, крыху ў баку ад стала, хай і надалей таўкуцца ў бязглуздым нерытмічным руху, павольна пераступляючы тонкія ногі і няўклюдна ўзмахваючы рукамі. Шмат вакол стала па сцежках схілу блукае народу: агаленыя жанчыны, што выцінаюць стогнам вар'яцкія спевы, шмат мужчын і стварэнняў, да якіх не хацелася падлятаць ці прыглядацца.

Лётаць і  ў любы момант змяняць накірунак! І чарговае падзенне да цвёрдай зямлі, якая асцярожна трымала на сабе сонных істот. Вецер зблытаў валасы бялявай парачцы, што сядзела на лаве. Сутыкнуўшыся галовамі, неверагодна падобныя, яны драмалі і трызнілі. Бровы жанчыны часам уздрыгвалі, падскокваючы да апранутага на галаву ўпрыгожання ў выглядзе паўмесяца. Здавалася, быццам працінаў яе боль ці калючая думка. Мужчына ж быў спакойны, прыгожы нават праз налёт пылу і часу на ягоным твары. Прыадкрыўшы вусны, прамаўлялі яны адно за адным незразумелыя словы, імёны, назвы гарадоў, клікалі...

Грукоча. Аблокі бурляць, рыхтуюцца выбухнуць, выплюнуць, выкрычаць усё, што назбіралі за месяцы. Але не абудзяць дзівакоў ані гукі, ані бліскавіцы; вецер не адно стагоддзе назірае за гэтымі таямнічымі палоннымі невядомага цара.

Усё застанецца, як ёсць. Таму можна няспешна абляцець вяршаліну камяністай гары ды напалохаць самотных птахаў, якія шукаюць сабе любыя дзюры, каб прыхавацца падчас блізкай буры.

Вецер плыў і бег, ішоў і імчаў — наперад і назад, на захад і на ўсход, да падножжа і да вяршыні. То сцягваўся вузенькай змяёй, то з лопатам разгортваўся на такую адлегласць, што мог цалкам накрыць велізарную гару, нібыта коўдраю. Вецер быў паўсюль. Ён пагладжваў ласкавыя галовы гнеўных хмар, колючы свае рукі аб вострыя маланкі, лавіў апошні прамень кволага сонца. Ён чуў, як далёка ўнізе адна з кабет нечакана рассмяялася, разварушыла цішыню старэчай бяседы, заліваючыся рогатам; але гучаў ён так, як гучыць голас чалавека пасля доўгай хваробы, калі горла і звязкі, адвыклыя ад працы, заржавелыя, спрабуюць узгадаць, якім чынам вымаўляюцца гукі.

Вецер абагнуў вяршыню гары і не абмінуў сваёй увагай ані птушак, ані трох паўпразрыстых незнаёмак, што сядзелі ў цьмянай каменнай альтанцы пад самым пікам і спявалі, кожная на свой лад, песню, якая здалася ветру вельмі блізкай да яго самога. Белыя жанчыны спявалі і перабіралі перад сабою рукамі ў паветры, не зважаючы на стыхію. Вецер ужо прызвычаіўся да дзіўных стварэнняў, што насялялі тую мясцовасць. Ён скалыхнуў бясконцыя танюткія ніткі, што ў руках жанчын спляталіся і ўтваралі сабою дзівоснае вязьмо. Прабягаючы па вытанчаных пальцах кабет, адчуў... Зрэшты, не адчуў нічога: ён вецер, ён толькі дорыць адчуванні, але ніяк не можа прымаць і адчуваць іх.

Вецер імкліва ірвануў далей. Тут, над аблокамі, панавала такая ж непагадзь, як і пад імі, як быццам дождж і маланкі разыходзіліся ад хмар і ўніз, і ўверх. Грымоты, электрычнасць і цемра ахуталі свет. Паветра раз за разам расколвалася на кавалкі, а потым злучалася наноў.

Вецер круціўся ў паветры і лавіў бліскавіцы. Падкідваў угору пыл і пясок, што танчылі на камяністым схіле гары. Пырскаў дажджавымі кроплямі, прысвістваў, прытанцоўваў. Ён вярнуўся да самотнай калоны, сарваў з апусцелых лаваў старыя апранахі і доўга падкідваў іх, пакуль тыя канчаткова не парваліся, разляцеўшыся ў розныя бакі свету. Наўрад ці дагоняць яны сваіх гаспадароў.

Доўга яшчэ будзе буяніць, чыніць вэрхал прырода. Вецер не спыніць сваёй гульні. А тры паўпразрыстыя кабеты не пакінуць сваёй альтанкі.

Цімур БУЙКО

# «КАХАЮ». І КЛІЧНІК!



***Цімур Буйко нарадзіўся 5 ліпеня 1995 года ў Віцебску. Звычайны чалавек, са звіхамі і праўкамі, — піша. І яшчэ: «Хаця ўўціснуцца карэньчыкам пераплёту ў кніжную палічку — справа спакушальная, але да таго не імкнуся».***

## ГАРЛАЧЫК І ЛІЛЕЯ
**(Развітанне)**

Ашчаперыў другую восень
паўзабыты гадовы смутак,
абяцаны старэчай млосцю.
Неданоскаў бялюткіх мама
ператрэсла чыгунны попел
на рухавыя ножкі плыні.
Прыгажуня-лілея моўчкі
несуцешна глядзела ў люстра,
прычакаўшы заходу сонца.
Таласою блішчэлі воды,
не спяшаўся гаротны вецер
да каханай царыцы кветак.
Заглядаўся гарлачык белы
на чужую нявесту ночы.
Балявала самотна ціша.
Нераскрыты дзіцёнак свету
саматугам ірваўся крыкнуць
аб каханні ў замглёны вечар.
І пялёсткі ружанцам кволым
абдымалі надзею-зорку,
светапалу жывога іскру.
Узышоўшы вялебным знічам,
па нявесце гарлачык плакаў
надарванай слязою шчасця.
Невядомы ліхтарнік неба
у люстэрка павольнай рэчкі
любаваўся царыцай кветак.

* * *

*Amor tussisque non celatur*

Калі б нарэшце ты магла
пра ўсё даведацца заўчасна...
Тваё ўскалыханыя пасмы
гатовы ў сэрцы запалаць.
Імгненнай жарсці вулканы

зыркочуць лавай неспадзеўкі.
Мільгаюць промністыя вейкі,
брывяты зладжаныя ў ніць.
Узняўшы кроплі вачанят,
прагоніш літасціва смагу.
Вады чысцюсенькае прагну,
лаўлю нявызнаны пагляд.
...У паркалёвым тумане
Прыгоства ціхае свяціла,
пры ззянні месячыка сціплым
ішло з нябёсаў да мяне.
Радзела ўпоцемках імгла,
ясней цвіла пачуццяў краска,
калі даведацца заўчасна
пра ўсё нарэшце ты змагла.

* * *

Ашчаперана крыламі рэк паўнаводных,
запырскала сэрца крынічнай крывёй.
Полюсы зварухнуліся,
кіпнем шалёным прабіліся вечныя льды.
І коцікі вербаў грамадай плывуць
наперад у шлях сакавіцкі.
Грабарам душы самавітай рыдлёўкай
рубіны кахання здабыты.
Плюскоча жамярка у сонечным мёдзе.
Жыццё, ты вясна! Вясна, ты каханне!
Дзе молаты пару іскрыстай любові,
спадзеваў жаданых, чуллівай смугі
выплёўваюць смела праз мілі, парсекі,
экватары, грынвічы, мерыдыяны.
Сягайма да зорак, сядлайма планеты,
імклівасць каметы!
Абгонім упарта
Сусветы!

**З «ПАЭМЫ ГНЕВУ»**

Брамы раскрыюцца шалу
тысячаводных каналаў.
Буду вірлівае семя
паводкамі сеяць.
Нябесся хаўтуры
нізрынуцца бурай
на чэрапы вашы
каменнаважка.
Мачанкі паднебнай
усе нахлябаюцца,
глытарнямі пеўняў
з ночы да раніцы.
Гнеў мой дарэшты
сярбаламі ўсмокчуць
праведны, грэшны,
д'ябал і Ойча.
Будзе народжана
чара мая векапомная
чорнаю поўняю
над агароджаю.
Бацькі Пелея
сыне вялебны!
Табе, Ахілесе, мой братка,
не тое, каб дзеля парадку,
прыношу крывавы расольчык.
Сядай на услончык:
не вычарпаць хеўры
прызначанай меры!

* * *

Вяшчайце
з усіх кайданаў
маё каханне!
З мігатлівых
зорак тэлескапічных
скажыце мне:
«Кахаю». І клічнік!
Шыхтуецца збродзень,
заточка за спінай.
Мой любы народзе,
я сёння святкую
РАДЗІНЫ!

* * *

Перастварыць і выкрасліць,
наноў адсекчы лішняе.
Зашытым вуснам прыкрасці
пагарда боль суцішвае.
Скамечаным паперынам
зашыцца ў куце сметніцы.
Усё, што не праверана,
прымерыцца, пацвердзіцца.
Таўчы не спапяліўшыся,
разлічваць не чытаючы.
Дзе костачкай у вішаньцы
мігціць надзея ўдалечы.

*Мікіта ВОЛКАЎ*

# ДАРОГА ДАМОЎ

— Яначак, можна я ў цябе на каленях паляжу, бо ехаць жа яшчэ далёка, — пад грукат чыгункі саладжава прамаўляла Надзейка.

«Наступны прыпынак — станцыя Раманы», — агучыў жаночы голас.

— Толькі калі прыедзем, ты не стой ля парога, як бэйбус, праходзь адразу да стала, будзь як дома. Маці мая цябе не з'есць, хоць настаўніца яна строгая, праўда, бацька з братам крыху кухталёў надаюць, але ж гэта так, для знаёмства.

Электрычка імкліва ляцела, да Маладзечна было ўжо зусім нічога.

— Вось, паглядзі, які прыгожы касцёл. Тут часта Кандрусевіч служыць. Мы з мамаю сюды ездзілі на Дзясятуху. Такі фэст тут бывае! Ой, хутчэй бы ўжо, не дачакаюся.

Цягнік паволі спыняў ходу, у шыбіне электрычкі паказаўся невялікі будынак чыгуначнага вакзала. На даху віднеўся надпіс «Маладзечна».

— Усё, Яначак, бяры торбы, сыходзім, канцавая.

Праз сваё задуменне і разгубленасць хлопец і не пачуў аб'яву пра канцавую станцыю. Дзяўчына працягвала:

— Так хутка час мінуў, не верыцца, што мы першы раз да мяне дамоў едзем. Весялей, чаго ўнурыўся? Вось наш вакзал. Глянь, які харошы. Яму ужо больш як сто гадоў, зірні на элегантныя арачныя вокны, пілястры ды рызаліты.

— А што гэта хаця за астры?

— Ну ты смешны, пілястры — гэта такія выступы, якія, быццам калоны, упрыгожваюць будынкі, — крыху насмешліва адказала Надзея, працягваючы:

— Цяпер мы ідзём вуліцай Прытыцкага, паглядзі, якая шырокая і прасторная, нездарма яе называюць «Брадвей». Але мне яна нагадвае кіеўскі Крашчацік. А як добра тут летам! На гэтай вуліцы спяваюць і граюць тутэйшыя музыкі — студэнты з музычнага вучылішча імя Міхала Клеафаса Агінскага. Нашаму гораду пашчасціла…



***Мікіта Волкаў нарадзіўся 13 сакавіка 1992 года ў Барысаве. Беларускую мову вывучаў у Краснадворцах пад Салігорскам і Рагатцы пад Барысавам — на малой радзіме і духоўнай бацькаўшчыне. Упершыню сур'ёзна зацікавіўся літаратурай у ліцэі БДУ дзякуючы выкладчыцам В. В. Кушнярэвіч і Н. А. Вайніловіч Студэнт Белдзяржмедуніверсітэта.***

Надзея гаварыла і гаварыла. Яна нават не заўважыла, што Янак ужо даўно не слухае яе. Ён глядзеў некуды ўбок, часта азіраўся назад, быццам хацеў уцячы. А Надзея, смакуючы кожнае слова, з асаблівым запалам працягвала:

— Вось мы і падышлі да самага сакральнага. Раней тут стаяў помнік пакутнікам за волю і незалежнасць. На бяду, падчас дажынак перанеслі яго ў парк. Ён там нядаўна і раскалоўся па іроніі лёсу. Але цяпер тут стаіць не горшы помнік, «Папараць-кветка» завецца, бачыш, закаханыя хлопец і дзяўчына ў папараці. Як мы з табой.

І ў гэты момант смелая дзяўчына пацалавала Янака. Але ён быццам і не быў гэтаму рады. Усё неяк мітусіўся, нешта выглядаючы ў наваколлі. А дзяўчына гэтага і не заўважала.

Янак і Надзея вучыліся разам ва ўніверсітэце. Надзея, патомная інтэлігентка, дачка настаўнікаў, пакахала хлопца, які паходзіў з самых горкіх парабкаў. Янак толькі і адрозніваўся ад астатніх тым, што меў моцныя ды шырокія перадплеччы — знак вясковай працы. Уменне спрытна касіць ды трымаць у руках сахор перайшлі Янаку ў спадчыну ад шматлікіх пакаленняў працавітых продкаў. Надзея ж вабіла многіх кавалераў, шмат хто з іх да яе заляцаўся, аднак пакахала яна Янака. І што магло прымусіць дзявочае сэрца скарыцца, ніхто не ведаў. Надзея так апантана любіла Беларусь і ўсё, што з ёй звязана, што марыла закахацца ў хлопца з народных нетраў. Магчыма, нейкае адмысловае вымаўленне, дыялектная мова, хоць і змяшаная з русізмамі, русыя валасы і шэрыя вочы, — усё гэта разам адыграла нейкую ролю. Стварыўшы вобраз ідэальнага хлопца, Надзея шукала і нарэшце знайшла. Тыпова беларускае аблічча хлопца яна заўважала ў іхнім інтэрнаце. Аднойчы Надзея ішла з вакзала і несла цяжкія торбы. Голас з-за спіны: «Дзяўчына, мо не дасцё рады, я вам памагу!», — агаломшыў яе. Гэтае «не дасцё рады» працяла наскрозь. Выраз яна чытала ў кнігах, але пачуць яго ад хлопца, які быў яшчэ і сімпатычны, не спадзявалася. Так яны і пачалі сябраваць, пакуль сяброўства не перайшло ў нешта большае. Пакрысе Надзея пачала ляпіць з Янака тое, што было ёй патрэбна. Хлопец падпрацоўваў, таму яны маглі часта наведваць Купалаўскі тэатр, хадзілі ў мастацкі музей, Надзея нават завяла яго ў грэка-каталіцкую царкву, змусіла ахрысціцца, і ён падначаліўся. Ці «паксцілі» яго ў дзяцінстве, Янак не ведаў, бо ў роднай вёсцы не было ані касцёла, ані царквы. Праўда, бабуля на Посную Каляду заўсёды варыла куццю, а да Вялікадня пякла смачныя булкі ды фарбавала яйкі. Вось і ўсё ягонае веданне пра рэлігію. Гадавала Янака маці, бацьку ён ніколі не ведаў. Вельмі крыўдаваў Янак, бо яго, бязбацькавіча, клікалі байструком. «А вось, жанкі, гляньце, Гэлін байструк увесь збіты пайшоў, відаць, з хлопцамі зарэчанскімі дужаўся», — джалілі яго вясковыя абгаворы.

— Чаго задумаўся, мы ўжо амаль прыйшлі. Калі выйдзем з парка, то апынемся адразу насупраць майго дома.

— Ты, гэта… ты даруй, але я не пайду да цябе. Мо рана яшчэ з бацькамі тваімі знацца, — сказаў Янак.

— Рана? Ужо два гады сустракаемся, мама мая напякла смачных піражкоў. Бацька віна свайго дастаў, усе чакаюць цябе, — гаварыла Надзея і разумела, што не зможа ўгаварыць застацца.

— Ды не трэба мне вашай гасціннасці. Мне заўтра трэба быць дома. Буракі выбіраем.

Надзея заплакала. Янаку самому захацелася зараўці. Ён разумеў, што знаёмства — гэта тыя ж агледзіны. Сустрэча з бацькамі каханай азначала толькі адно — крок да заручын. А Янак усё ж быў ёй не роўня. Яму хацелася ўцячы, але пакінуць Надзею ў такім стане ён не мог, пачаў супакойваць:

— Любая, не плач. Я прыеду, абавязкова прыеду, толькі пазней. Скончым універсітэт, пачнём працаваць, а там і бачна будзе. А пакуль я жаніх нядошлы.

— А можа, тады позна будзе, можа, я іншага сабе знайду, лепшага за цябе, — у істэрыцы даводзіла Надзея. Але раптам паспакайнела, змянілася і мовіла:

— Я даўно ўжо хацела табе сказаць… Ведаеш…

— Надзечка, можа, адыдзем убок, а то людзі ўсё бачаць і чуюць, — тарахцеў Янак.

— Ды ідзі ты, знаць цябе не хачу, — рэзка абарвала Надзея і пайшла.

Янак застаўся стаяць пасярод парку зусім адзін. Людзей і след прастыў. Ён доўга ўглядаўся ў постаць Надзеі, пакуль тая паволі не знікла. У збэрсаных думках Янак сігануў назад. Усё той жа парк, альтанкі, помнік, гадзіннік на вуліцы Прытыцкага. Хутка ён дайшоў да вакзала. «І недалёка адышліся, а столькі паспела расказаць». Ён купіў квіток, да адпраўлення электрычкі заставалася пяць хвілін. Заходзячы ў вагон, Янак працягваў думаць. Яму амаль удалося абстрагавацца.

«Асцярожна, дзверы зачыняюцца, наступны прыпынак — Фестывальны».

Знянацку нейкая трывога пачала агортваць Янака. Нешта было не так, але што, ён здагадаўся не адразу. Торба, якую ён, і седзячы ў вагоне, не выпускаў з рук, была Надзіна. «І як жа я адразу не здагадаўся ёй аддаць?» — думаў Янак. Паволі ў яго нараджалася ахвота пакорпацца ў Надзінай торбачцы. Зрэшты, нічога цікавага ў ёй і не было. Цёплая кофта, пустыя кантэйнеры ад ежы, свечкі, якія яна запальвала на апошняй іхняй рамантычнай сустрэчы ў яго інтэрнацкім пакоі, — усё знаёмае, звыклае воку. У бакавой кішэні ляжала памада, люстэрка, нататнік. Янак усё быццам агледзеў. Засталася апошняя маленечкая кішэня, якая знаходзілася ўнутры сумкі. Янак расшпіліў замочак і дастаў дзіўную рэч. Што гэта было, ён зразумеў не адразу. Нейкая белая даўгаватая палоска з дзвюма чырвоненькімі рысачкамі. Нарэшце ён дапяў. Надзея зацяжарыла. Гэтая навіна так нечакана абрынулася на яго галаву.

З Надзеяй яны часта сустракаліся ў ягоным пакоі, калі хлопцы з’язджалі дамоў. «Але гэта многае мяняе. Гэта гамон усяму майму жыццю. Дзе ж браць грошы?» — плылі думкі. Заставаўся апошні год вучобы. Кідаць не выпадала, не вяртацца ж Янаку ў вёску свіней пасвіць. А дзе ён грошы возьме? Вядома, маці-п’яніца не памочнік у гэтым.

Да дома заставалася мала. На дварэ пакуль было светла, і ён вырашыў сысці крыху раней, на знаёмай станцыі. Яму патрэбны быў шпацыр, каб падумаць. Пачынаўся ўзлесак, за якім адкрывала свае ўладанні лугавая імшарына. Улетку яны з дзядзькам Кастусём і касіць ездзілі сюды, бо скрозь было суха. Аднак цяпер стаяла восень, мінула малая Прачыстая, і імшарына напоўніцу налівалася вадой. Хлопец хутка знайшоў патрэбную яму сцежку. Вялізны камень і цяпер служыў арыенцірам. Побач стаяла крывая шыльда: «Гидрологический памятник природы. Охраняется государством». Ён зламаў гэтую шыльду і пайшоў далей. Ягоныя сляды хутка напаўняліся іржавай каламутнай вадой. Каб не прамачыць ногі, ён стараўся болей ступаць па купінах.

Торкаючы ў багну палкай, ён расчароўваўся. Балота штогод мялела. Імшара была ўжо не тая, як у ягоным маленстве. Памалу ступаючы з купіны на купіну, ён забываўся на нядаўнюю навіну. Бухматыя лазнякі ды алешнікі ачышчалі ягоную свядомасць. Дзе зялёны, а сям-там бела-кудзелісты мох пераліваўся на сонцы ўсімі адценнямі дурманных балотных чараў. Чырвоныя журавіны, бы рассыпаныя пацеркі наўкола, абуджалі ў свядомасці дзіцячыя ўспаміны. Як даўно ён збіраў гэтыя ягады, стараючыся абагнаць сваю бабулю, якая шпарка напаўняла чарговае вядзерца. Пасля яму давядзецца несці ейныя і свае вёдры ў ванзэлку за плячыма. Цяжка смылелі плечы, аднімаліся ногі, але малы ўпіраўся, не выдаваў зморанасці. Ён ведаў, што назаўтра старая Хведрыха павязе ў горад прадаваць самагонку дый возьме яго з сабой, дзе ён, стоячы акрай царквы, будзе прадаваць ягады. Але тое было ў мінулым, пасля смерці бабулі ён ніколі не прыходзіў сюды. Не было калі. А як з'ехаў у Мінск на вучобу, дык нават і летам не вяртаўся. Рабіў на будоўлі падсобнікам. Прыязджаў толькі па Вялікадні ўзараць дый раз-пораз абагнаць бульбу. Цяпер ён ніколі гэтага рабіць не будзе. Абыдуцца і без яго. Апошнія гады маці співалася ўсё больш, гарод стаяў зусім зарослы, а яна і без яго пражыве. Хлопец ужо і дома не хацеў бываць, збольшага сядзеў у інтэрнаце ў Мінску.

«І куды гэта я зайшоў? Зусім сваё балота не пазнаю». Імшарына заканчвалася, балота пакрысе пераходзіла ў лес. «Мабыць, забрыў у Боркі, тут жа непралазная гушчэча была раней». Ён ведаў, што тут вадзіліся дзікі. Гэтых лясных жыхароў хлопец баяўся з маленства. Памятаў, як парвалі яны маленькую дзяўчынку Зоську, якую доўга шукалі, а знайшлі толькі чырвоны лапік сукенкі... «А вось і свежыя рыцвіны ды сляды». Янак ведаў, што, убачыўшы дзіка, трэба хіснуцца ўбок, бо яны ніколі не вяртаюцца назад, не паварочваюць галавы. Ён шпарка ішоў на іх голас, а пад ім гучна храбусцела паламанае голле. Балота скончылася. Бурую касматую дзічыху і чародку чарнюткіх парсючкоў было ўжо відаць. Цяпер ён пабяжыць ім насустрач…



Аліса МІНІНА

# ТОЛЬКІ Б ЗАХАЦЕЦЬ ЗІХАЦЕЦЬ...

Не пісаць нам цяпер,
Не ісці, не верыць.
Узгадай — адзін май
І адзін верасень.

Небакрай не кранаць,
Не круціць кранаў.
Люты — Познер,
А чэрвень занадта рана.

Не спяваць на сон,
Не гайдаць калыску.
Забывай — ціхі жнівень,
Кастрычнік — хісткі.

Снежань — кропка,
А студзень... доўгая рыска
Тры куты, чатыры куты,
І выйсце.

Не збіраць ажынаў.
Што ты тут зробіш?
Пінск — дажджы,
Буйныя дажджы ў дробі.

* * *

Толькі б захацець
Зіхацець.
Толькі не забаяцца
Быць хоку, быць танка
Быць танцам.
Быць лёгкай —
У дваццаць,
Чырвонай — у сорам.
Знайсці сабе хлопца —
Не вочы, а зоры,
Знайсці сабе месца
Не горад — а мора,



***Аліса Мініна нарадзілася 3 сакавіка 1993 года ў Асіповічах. Студэнтка Інстытута журналістыкі. Вучыцца спакою, піша харэі, прыпыняе джаз. Марыць выдаць асаблівы танцавальны слоўнічак з малюнкамі.***

Дзе дыхаць глыбока.
А ты нараджаешся
Простым алоўкам,
Звычайнай паперкай,
Ногі ў цыпках.
Ну што за манеры
Ціхенька цыкаць
І хлусіць у вочы?
А ён бярэ цыркуль
І крэсліць, і крочыць,
І баіць напеўна.
А боль такі моцны,
Што нават прыемна,
Што нават не дзіўна...

А ты нараджаешся
чоўнікам з дзіркай.

* * *

Ты такі ўжо дарослы звонку,
Але трэба яшчэ вучыцца,
Як паштоўкі паміж старонак
Зберагчы свае таямніцы.

Ганьбу, каб не вярталася плеццю,
Плёткай чыейсьці балбатлівай жонкі,
Лекі свае, каб ніхто ў свеце
Не здагадаўся, дзе рвецца тонка.
Узрост — каб рукаліся сытыя твары.
Грошы — ці кроны, ці франкі, ці літы.
Зараз паўшэптам: нікога-нікога
Не далучай да святой малітвы.
Часам бывае і цяжка, і груба —
Шчыліну ў хаце трымай рукою,
Гэта простае правіла, любы!
Кубак пашаны — на кубак спакою.
І не чакай падарункаў лёсу,
А як раптам што зваліцца з неба:
П'яны пішы, рэдагуй цвярозы,
Толькі казаць не трэба!

* * *

Згубіўся, блукаў
Апантаны нечым,
Намулялі боты — знямог.
Дайшоў, прытуліўся:
радасць сустрэчы
я — дрэўца паміж дарог

Самотнае сінім цвярозым ранкам
Сыходзіў. На паўшляху вяртаўся,
Люляў, спяваў калыханкі,
Каб заўтра зноўку сысці.

Па рэйках ляцеў, раствараўся ў маі,
У птушак браніраваў дах
Лічыў, что вяртанні «прыкмета благая»,
Але ж паварочваў на пах.

Танюткі і спелы восеньскі водар,
Дрыготкі драўляны стан.
Казаў: «Я ў палоне» і з гэтай нагоды
Першы яблык дастаў.

Частуйся, каштуй, адпачні на лоне,
Увайдзі ў тую ж ваду.
Я чырваннем яблычным у далоні
Твае сарвуся, упаду.

* * *

Ноч не клеіцца.
Наўпакі — свеціць у вочы.
Трэш шурпатыя ступакі —
Не дзявочыя.
Выдумляеш чарговы план:
Плён і травень.
Чуеш, у кухні бурбоча кран...
Круціць страўнік.
Голаў светлы і залаты.
Толькі рыбкай
З самаробнай маёй вуды
Скочыць рыфма.
Адбівай ужо, не цягні,
Гэты мячык.
Я цяпер усё на зямлі
Растлумачу.
За суседаў залезу плот
У пах вішнёвы
І пісаць магу круглы год
На замовы.
Абадраць на гарбатны дым
Кветкі ліпы.
Нікуды, нікуды, нікуды
Больш не ўліпнуць.

* * *

Ты і сам разбурыў наш апошні мост —
Не руйнуй. Будзе дзень, будзе час, будзе пост —
Не раўнуй. Не глядзі ўглыб, не хістай ў бакі,
Не пытай у рыб, дзе канец ракі —
Не сумуй. А як сум, а як сын, як сон у руку —
Нам подарaць кожнаму па мастаку,
Прынясуць у дзюбе. Яны без і бэз, і дом на рагу
Намалююць. Панальюць вады, прынясуць вуду,
Калі я прыду паглядзець,
Не шкадуй — Trast and fall
Не псуй словаў...
Яна ў цябе будзе анёл,
Вядома, што папяровы.

* * *

Калі я прыду паглядзець на ваду, пашкадуй.
Паспрабуй адшукаць паміж дзвюх прывакзальных вежаў
Калі ты па праспекце, я з табой поруч пайду.
Калі ты да мяжы — я пужаюся межаў.
Я сачу за тваёй упартай нервовай хадой
У драным зэдліку нейкай старой кіназалы.
Я — твой першы прыхільнік. Ты — мой лепшы настрой.
І прабач, што раней я такога табе не казала.
Ты не так ўжо глыбока, прыкладна, дно Пцічы,
Спуск у метро, пустая більярдная луза...
Ты прыходзь — пасядзім, памаўчым,
Дачакаемся нашай музыкі.



Алёна БЕЛАНОЖКА

# АПАВЯДАННІ



***Алёна Беланожка нарадзілася 17 студзеня 1985 года ў Магілёве. Паэтэса, празаік, сцэнарыст, рэжысёр. Пераможца конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы». Аўтар кнігі «Чамадан з кракадзілавай скуры» серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць».***

**КАВА З ЦУКРАМ**

Санжыка не цікавілі віртуальныя камп'ютарныя гульні з умоўнымі трафеямі. Ён прагнуў нажывы, а з ёй — свабоды, якую абяцаюць жывыя грошы свайму ўладальніку. Канешне, можна было б паспрабаваць зарабіць сабе «на свабоду», але дзеля гэтага давялося б працаваць гадоў дваццаць, не меней. У сорак гадоў, разважыў Санжык, свабода ўжо не прыярытэтная з'ява, бо на тое, каб ёй скарыстацца на поўную, можа не хапіць здароўя.

Можна было б кінуць сілы на пошукі скарбаў, але шукальнікаў было замнога, яны, як землярыйкі, перакапалі ледзьве не ўсе месцы, на якія ўказвалі архіўныя карты, але незлічонага багацця так ніхто і не займеў. Да таго ж некаторыя падрываліся на снарадах часоў Другой і нават Першай сусветных войнаў, астатніх пастаянна пераследавалі і білі сябры афіцыйнай грамадскай арганізацыі «Археалагічная паліцыя». Паразмаўляўшы з аднаногім жабраком-скарбашукальнікам, Санжык вырашыў, што не будзе прысвячаць лёс такому сумніўнаму і небяспечнаму хобі.

Існаваў яшчэ цэлы спіс заняткаў, з якіх можна было б азалаціцца, але ўсе яны былі брыдкія ці звязаныя з парушэннем закона.

Перабраўшы ў галаве ўсе магчымыя варыянты атрымання капіталу, Санжык выбраў самы, на ягоны погляд, хуткі, лёгкі і акуратны. Для здзяйснення плана патрабаваліся «пад'ёмныя», і хлопец іх атрымаў без праблем: калі бацькі даведаліся, што іх сын збіраецца паступаць ва ўніверсітэт, бацька зняў з банкаўскага рахунку ўсе свае зберажэнні і аддаў хлопцу. «Трэба ўкладваць сродкі ў маладосць, а не ў старасць: так больш шанцаў, што яны вернуцца і памножацца. Адукацыя — лепшы ўклад», — сказаў ён.

У цэлым Санжык быў з бацькам згодны, але ў дэталях іхнія погляды на працэс памнажэння сродкаў разыходзіліся. Праўда, хлопец аб гэтым бацьку не сказаў.

Першае, што зрабіў Санжык, калі выйшаў з цягніка ў сталіцы, — накіраваўся ў прывакзальны іграві клуб. Там хлопец пакінуў усе бацькоўскія зберажэнні і наручны гадзіннік, які атрымаў ад маці ў дзень паўналецця. Там жа Санжык пахаваў шанцы зрабіцца студэнтам: пакуль ён безвынікова адыгрываў гадзіннік, ва ўсіх ВНУ прайшоў апошні тэрмін падачы дакументаў на залічэнне.

Санжык выйшаў на прыступкі іграваго клуба. Вяртацца дадому грошай не было — ды і не хацелася.

Хлопец пацягнуўся рукой у кішэню за цыгарэтамі. Калі ён выцягваў амаль пусты пачак, з кішэні вывалілася змятая купюра. Гэтых грошай хапіла б на тое, каб набыць адну фішку ў клубе. Санжык нахіліўся за паперкай, але тую падхапіла ветрам і пацягнула па тратуары.

Санжык кінуўся даганяць купюру. Яна не давалася ў рукі, круцілася ў віхуры, падскоквала ўверх, рэзка падала долу і, нарэшце, павольна апусцілася на плячо дзяўчыны ў чырвонай уніформе.

— Не жадаеце білецік? Апошні застаўся, шчаслівы! — сказала дзяўчына і працягнула Санжыку латарэйны білет.

— Сёння не мой дзень, — адмовіўся хлопец, але дзяўчына ўсміхнулася ў адказ:

— Зарана вы так мяркуеце. Дзень яшчэ не скончыўся.

Санжык крыху павагаўся. Дзяўчына была прыгожая, ёй пасаваў чырвоны колер. Мужчыны рэдка адмаўляюць прыгажуням.

— Добра. Давайце, — нарэшце пагадзіўся хлопец: латарэя ўпісвалася ў ягоную методыку ўзбагачэння. Санжык узяў білет і накіраваўся ў бок вакзала.

— Пачакайце! Рэшту забыліся! — дзяўчына дагнала Санжыка і перасыпала яму ў руку жменю манетак. — Тут яшчэ хопіць на каву.

Калі дзяўчына сказала пра каву, Санжыку захацелася кавы. Хлопец кінуў манеткі ў кішэню і накіраваўся ў шэранькую, прапахлую гарэлым алеем прывакзальную кавярню.

Санжык увайшоў, замовіў у афіцыянткі кубак кавы з цукрам і заняў вольны столік.

Збоку ціха мармытаў тэлевізар. У чаканні кавы Санжык паддаўся яго гіпнатычнаму ўздзеянню і прымёрз вачыма да экрана.

— Мы пачынаем розыгрыш латарэі «Машына часу!» — сказаў дыктар. — Нагадваем: наш галоўны прыз — падарожжа ў будучыню на цэлыя суткі!

Афіцыянтка прынесла каву, пачуўшы дыктара, пагардліва матлянула валасамі:

— Знайшлі мне галоўны прыз. Ды каму гэта цікава! Лепш бы выдалі грашовую кампенсацыю. За пяцьдзясят мільёнаў долараў два разы можна ў космас злётаць, каб на зоркі паглядзець! А што там у будучыні — халера яго ведае; усе, хто адтуль вярнуўся, маўчаць, як камяні, ні слова, што пабачылі, а калі так, то, можа, гэта ўсё падман і правакацыя!

Хлопец высыпаў на столік манеты. Афіцыянтка адлічыла неабходную суму, пакінуўшы лішак.

— А цукар? — спытаўся Санжык.

Дзяўчына хмыкнула, кінула на абрус пакецік з цукрам і пайшла абслугоўваць іншых кліентаў.

Тэлевядучы распытваў невядомую Санжыку знакамітасць пра надвор'е і настрой. Знакамітасць, дэманструючы выдатныя прафесійныя здольнасці свайго дантыста, пачала выцягваць з меха бочачкі з лічбамі.

Санжык памяшаў каву, паднёс да вуснаў, але не паспеў зрабіць і глытка, бо вядучы істэрычна закрычаў:

— Пераможца! У нас ёсць пераможца!

Асістэнтка абыякавым голасам абвясціла нумар выйгрышнага білета. Санжык праверыў нумар на сваім білеце і не паверыў вачам: ён выйграў.

Вядучы затараторыў: «Запрашаем шчаслівчыка прыйсці па адрасе, што ўказаны на адвароце…», але Санжык ужо не слухаў. Ён згроб манеткі рукавом у кішэню пінжака і выбег з кавярні, трымаючы перад сабой білет у будучыню.

«Як у кіно! — думаў хлопец, пакуль трамвай тахкаў коламі па рэйках, везучы яго ў офіс турыстычнай кампаніі. — Я, як у кіно, злётаю ў будучыню, даведаюся аб выніках усіх латарэй, спартыўных матчаў, конскіх забегаў і конкурсаў прыгажосці! Калі я вярнуся, то атрымаю нават не пяцьдзясят мільёнаў, а ў сотні, у тысячы разоў больш! Вось гэта пачнецца жыццё!»

— Вы будзеце там роўна суткі, — сказаў немалады менеджар, калі праверыў білет Санжыка па базе дадзеных. — Пентхаус пяцізоркавага гатэля. Вы можаце карыстацца інтэрнэтам і глядзець тэлевізар, але вам нельга пакідаць нумар, званіць па тэлефоне, размаўляць з жыхарамі суседніх пакояў. Таксама забаронена браць з сабой у падарожжа лекі, ежу і любыя носьбіты інфармацыі, у тым ліку нататнік. Усё, што спатрэбіцца, вам даставіць у нумар асабістая пакаёўка. Перад тым, як вярнуцца ў наш час, усе прадметы з будучыні вы пакінеце ў гатэлі. Вам усё зразумела?

Санжык кіўнуў. Доступ да інтэрнэту будучага — адзінае, што яму было трэба ад гэтага падарожжа.

— Цяпер вам трэба падпісаць дамову, — менеджар паклаў перад Санжыкам аркуш, шчыльна пакрыты дробным тэкстам. — Па вяртанні вы не можаце нікому распавядаць пра тое, што вам давялося бачыць, чуць і адчуваць. Інакш вам пагражае прымусовае лячэнне ў псіхіятрычнай клініцы.

«Ага, вярнуўся — і ўсім расказаў пра выйгрышныя нумары. Ашчаслівіў усё чалавецтва і застаўся без нічога», — падумаў Санжык і пакінуў росчырк насупраць слоў «З умовамі азнаёмлены і пагаджаюся».

Мужчына націснуў кнопку на пульце. Паверхня стала засвяцілася, на ёй паказаліся даты.

— Гэта падрабязны электронны каляндар. Тут паказаны самыя цікавыя астранамічныя і кліматычныя з’явы, якія адбудуцца на Зямлі ў бліжэйшыя тры стагоддзі. Цунамі, землятрусы, каметы, сонечныя і месяцовыя зацьменні, парады планет, вывяржэнні вулканаў… Вы зможаце асабіста прысутнічаць і назіраць іх. Выбірайце.

— Паглядзіце, калі ласка, дзве тысячы соты год. Сённяшняя дата, — сказаў Санжык, нават не дакрануўшыся да календара: ён збіраўся пражыць яшчэ не больш як стагоддзе, а што там будзе далей — яго не займала.

— Харошы, спакойны… звычайны будні дзень, без катаклізмаў, — абвясціў менеджар, прагледзеўшы інфармацыю ў календары. — Жадаеце прагледзець іншыя дні?

— Не, не трэба. Мяне задавальняе гэты, — сказаў хлопец. Ён не жадаў, каб гатэль шкуматала землятрусам або вулканічны попел сыпаўся на галаву, замінаючы яму здабываць з сеціва важную інфармацыю.

— Вы аматар спакойнага адпачынку, — крыху расчаравана зазначыў мужчына.

— У мяне хворае сэрца, — Санжык ухапіўся за рэбры злева. — Эмацыйныя перажыванні і стрэс могуць мяне забіць.

— Добра. Тады выбірайце горад.

— Мінск, — сказаў Санжык. — Няма розніцы, у якім горадзе не пакідаць нумар гасцініцы, праўда ж?

— Згодны, — кіўнуў менеджар. — Калі жадаеце адправіцца?

— Сёння, — адказаў хлопец: лепш, безумоўна, пераначаваць у пентхаусе, чым на вакзале.

— Ваша права. Я так разумею, нічога з забароненага да ўвозу ў будучыню ў вас няма? — спытаўся мужчына, акінуўшы вокам Санжыка, які стаяў з пустымі рукамі ў тонкім летнім касцюмчыку.

Хлопец дастаў з кішэні некалькі манет:

— З сабой толькі гэта.

— Гэта можна. Ах, ледзьве не забыўся!

Менеджар выняў з шуфляды некалькі пачак грошай, перацягнутых гумкамі.

— Наяўныя.

— А грошы нашто? Усё ж аплочана? — здзівіўся Санжык.

— У вашым нумары ёсць гульнёвыя аўтаматы, — адказаў мужчына.

За гэтым менеджар націснуў кнопку на пульце. У сцяне адкрыліся патаемныя дзверцы, паказаўшы маленькую кабіну кшталту ліфтавай.

— Прашу, — мужчына жэстам запрасіў Санжыка ўвайсці ў кабіну. — Скачок у часе можа быць балючым, але толькі адно-два імгненні. Потым усё вернецца ў норму. Да сустрэчы праз суткі!

Санжык увайшоў у машыну часу. Дзверы зачыніліся, нешта шчоўкнула. Хлопца ўдарыла ў грудзі, і ад нечаканага ўдару ён зажмурыўся.

Калі Санжык апрытомнеў, то знайшоў сябе ў ложку гасцінічнага нумара. Ложак быў неабсяжны, як і сам нумар таксама. Хлопец знаходзіўся ў пентхаусе з шыкоўнай мэбліроўкай. Аднак нішто не нагадвала шчасліўчыку, што ён скочыў у часе. Нязвыклых прадметаў і абсталявання вакол не назіралася, пейзаж у акне не быў фантастычным, а на дубовым стале стаяў самы звычайны ноўтбук. Нават іграваыя аўтаматы былі з XXI стагоддзя. Нічога звышарыгінальнага.

Санжык уключыў ноўтбук. Надыходзіла ноч, хлопец меў намер правесці яе з максімальнай карысцю для сябе. Каб не заснуць, ён вырашыў выпіць кавы і падсілкавацца. Агледзеўшы памяшканне, знайшоў тры апараты для сувязі з пакаёўкай: адзін каля ложка, другі — збоку ад дзвярэй, трэці — у стале. Хлопец замовіў каву і вячэру.

Праз хвіліну ў дзвярах нумара з'явілася пакаёўка. Санжык чакаў убачыць сталую сур'ёзную жанчыну, але столік з ежай і кавай прыкаціла дзяўчынка-падлетак у сіняй сукенцы і белым фартушку. З-пад галаўнога ўбора дзяўчынкі выбіліся кудзеркі, і дзяўчынка дзьмула на іх, каб яны не траплялі ў вочы ды не казыталі шчокі.

Пакаёўка ўсміхнулася і спрытна наліла каву ў кубак.

— Ваша вячэра, спадар. Жадаеце што-небудзь яшчэ?

Санжык здзіўлена спытаўся:

— Колькі табе гадоў?

— Дванаццаць, — адказала дзяўчынка.

— І ты працуеш тут?

— Я маю двухгадовы працоўны стаж. У наш час дзецям рэкамендуецца ісці працаваць па дасягненні дзесяці гадоў.

— А вучышся ты калі?

— Па выхадных і толькі па сваёй прафесіі.

— І ты не хочаш паступіць ва ўніверсітэт?

— Добрая прафесія заўсёды пракорміць, а доўгая вучоба — для лайдакоў, якія не хочуць працаваць. У інтэрнэце можна знайсці любую інфармацыю, нашто губляць сем-восем гадоў на ўніверсітэт?

— Зразумела. — Санжык пацягнуўся за кубкам кавы і паспытаў яе. Кава была горкая.

— А цукар? Ці ёсць у вас цукар? — спытаўся хлопец.

— Толькі штучныя замяняльнікі, — адказала пакаёўка і дзьмухнула на непаслухмяны кудзерык.

— Ва ўсёй гасцініцы не знойдзецца кавалка цукру? — здзівіўся Санжык.

— Цукар прадаецца толькі ў аптэцы.

— А ты не магла б спусціцца ў аптэку і прынесці мне пару кавалкаў?

Дзяўчынка адмоўна пакруціла галавой:

— Ён вельмі дарагі. Мне трэба працаваць тры месяцы, каб набыць адну дозу.

— У мяне ёсць грошы, глядзі! — Санжык пацягнуўся за пачакам купюр. — Я дам, колькі трэба.

— Нічога не выйдзе, — сказала пакаёўка.

— Слухай, калі ты не хочаш мне дапамагчы, я сам зганяю ў аптэку і набуду сабе цукар, бо кава без яго жахлівая! — раззлаваўся Санжык.

— Вы не выйдзеце. Дзверы на блакіратары, — паведаміла дзяўчынка і паправіла валасы.

— Дзверы, але не акно! — Санжык падбег да яго, адкрыў і выбраўся на пажарную лесвіцу.

— Стойце! Чакайце! Вам нельга пакідаць гатэль! — пакаёўка падбегла да акна, але Санжык яе не слухаў: хлопец спускаўся ўніз, трымаючы ў руках грошы.

Дзяўчынка зняла фартушок, кінула яго на падлогу і пералезла праз падаконне.

— Пачакайце! Я з вамі! — крыкнула яна хлопцу.

— Сядзі тут, я хутка вярнуся! — адказаў той.

— Я не магу адпусціць вас аднаго! — цвёрда сказала дзяўчына. — Сёння вы — мая праца, і калі з вамі нешта здарыцца, то мне зробяць тое ж самае!

Аптэка знутры была блакітная і залатая, нібы вароты ў Эдэм, а аптэкар няўмольны, як апостал Пётр.

— Ваш рэцэпт! — цярпліва паўтарыў ён у пяты раз.

— Я забыўся яго дома! Я жыву на другім канцы горада! Вы ж не прымусіце мяне ехаць у такую далячынь за нейкай паперкай? — настойваў Санжык, пакуль пакаёўка чакала яго звонку, пры ўваходзе.

— Я не магу прадаць вам лекавы сродак без рэцэпта. Вазьміце грэлку або пластыр, — параіў аптэкар.

— Слухайце, мала таго, што ў вас кавалак цукру каштуе як тэлевізар, дык вы яшчэ і не хочаце яго мне прадаваць! — абурыўся Санжык. — Я гэта не пакіну! Я буду скардзіцца!

З аптэкі выйшаў апошні наведвальнік. Санжык прасунуў галаву ў акенца да аптэкара, паказаў грошы і ціха прамовіў:

— Я дам поўны кошт дозы зверху асабіста вам.

— Я выклічу паліцыю, — так жа ціха адказаў аптэкар.

Санжык раззлавана ўдарыў нагой прылавак і выскачыў вон, ляпнуўшы дзвярыма.

— Пойдзем адсюль, — сказаў хлопец і ўзяў дзяўчынку за руку.

— Куды? — спыталася дзяўчынка, якая зусім не хацела ісці куды-небудзь яшчэ.

— У іншую аптэку! Спадзяюся, гэта не адзіная ў горадзе?

— У іншай аптэцы будзе тое ж самае. Давайце вернемся ў гатэль! — папрасіла пакаёўка.

— Слухай, гэта шчыры здзек. Няўжо камета Галея ўпала на плантацыі цукровага трыснёгу, а хвастом папаліла буракі на палях? Чаму ў вас так напружна з цукрам?

— Вы ж нічога не ведаеце! — дзяўчынка пачала гаварыць цішэй. — Пасля таго, як паўстагоддзя таму назад Незалежная фармацэўтычная кампанія вынайшла танны сродак, які лечыць цукровы дыябет на генетычным узроўні, і перлячыла ім амаль усіх дыябетыкаў, пачалася Цукровая вайна. Па яе выніках Незалежная фармацэўтычная кампанія была ліквідавана, а ўсе правы на выраб цукру перайшлі да фармацэўтычнага альянсу «МедЭЯ», які раней меў вялікія прыбыткі ад продажу інсуліну. Цяпер альянс знімае не меншыя прыбыткі ад продажу цукру і прэпаратаў, якія паніжаюць узровень інсуліну ў крыві. Цукар заканадаўча аб'яўлены лекавым сродкам. Дэпутаты з гэтага маюць «салодкую датацыю» — да мандата прымацаваны кілаграм цукру на месяц. Цукар у наш час — мера раскошы.

Дзяўчынка ўздыхнула і дадала:

— Падпольны выраб і збыт цукру караецца расстрэлам на месцы. У мяне брата расстралялі, калі ён пайшоў да варыльшчыкаў за цукрам… ён хацеў, каб я магла яго пакаштаваць.

Пакаёўка расплакалася.

На суседнім доме, пад месяцам, які з дакорам глядзеў на горад, свяцілася вялікая рэклама: «Цукар “МедЭЯ” — смак жыцця».

— Свет не змяніўся. Зусім, — падумаў Санжык услых і звярнуўся да дзяўчынкі, якая старалася перастаць плакаць, але не магла. — Пакаёвачка, няўжо ты ніколі не каштавала цукар?

Тая адмоўна паматляла галавой.

— Дзяўчынкам, з якімі мы працуем, іншым разам перападаў цукар, калі ў гасцініцу заязджалі багацеі. Мне так не шанцавала.

Упершыню за ўсё жыццё Санжыку захацелася зрабіць што-небудзь добрае не толькі для самога сябе. Ён схапіў дзяўчынку за руку:

— Пойдзем!

— Куды?

— Шукаць цукар! Што гэта за дзяцінства, калі яно не салодкае!

— Мяне звольняць і пакараюць! — сказала пакаёўка і вырвала далоньку з рукі хлопца.

Санжык узяў дзяўчынку за плечы і паглядзеў ёй у вочы:

— Паслухай… як цябе завуць?

— Ніна, — адказала тая.

— Паслухай, Ніна. Жыццё без рызыкі, як і жыццё без цукру, такое прэснае, што няхай бы яго зусім не было. Мы будзем вельмі асцярожныя, бо, Ніначка, у мяне яшчэ ёсць справы ў тваім часе. А ў свой час я жадаю вярнуцца жывым.

Ніна ўсхліпнула.

— Хіба ты не хочаш даведацца, за што загінуў твой брат? — спытаўся Санжык, і дзяўчынка ўзяла яго за руку.

— Пс! — пачулася з неасветленага праёма між будынкамі.

Санжык і Ніна павярнулі галовы. Постаць у шэрым плашчы, нервова азіраючыся, знакамі клікала іх да сябе.

Санжык пайшоў да чалавека і пацягнуў за сабой дзяўчынку.

— Цукар трэба? — спыталася постаць і шморгнула носам.

— Трэба. Колькі возьмеш? — пацікавіўся Санжык.

— Утрая больш ад кошту ў аптэцы.

— Лады. Давай.

— Хадземце са мной, — паклікаў чалавек.

— Э-э, не, ты мяне за паваротам прыкладзеш па галаве!

Чалавек пакрыўджана паглядзеў на Санжыка:

— Я варыльшчык, а не забойца. Да таго ж дзяўчынкі крычаць гучней за паліцэйскую сірэну. Мне гэта трэба?

Ніна абвяла варыльшчыка нявіннымі анёльскімі вачыма і тарганула Санжыка за руку:

— Не бойся. Ён адзін.

— Эх… ладна. Вядзі! — пагадзіўся Санжык.

Варыльшчык павёў новых кліентаў начнымі дварамі і закавулкамі, трымаючыся ў цяні будынкаў. Ён пятляў і зварочваў з дарогі, калі заўважаў наперадзе ліхтар. Нарэшце чалавек спыніўся каля цёмнага аднапавярховага барака.

— Прыйшлі, — сказаў ён і адчыніў дзверы магнітным ключом.

Унутры было змрочна, вокны, закрытыя чорнай тканінай, не прапускалі месяцовае святло. Пасярод памяшкання на агні стаяў вялікі бліскучы чан, у якім пузырыўся мутны духмяны сіроп. Яго вымешваў драўлянай лапаткай другі варыльшчык, з ручніком на плячы. У куце гарой ляжалі няроўна паколатыя брыкеты неачышчанага цукру.

— З чаго варыце? — спытаўся Санжык.

— З кляновага сіропу, — адказаў варыльшчык з лапаткай.

— Яго вязуць з Канады, — дадаў варыльшчык у плашчы. — Бяром у перакупшчыкаў. Харошы сіроп, сапраўдны. Колькі цукру табе ўзважваць?

— На ўсе, — Санжык працягнуў чалавеку пачак грошай. Той усміхнуўся і пачаў пералічваць купюры.

Раптам з вуліцы пачуўся віскат сірэн і голас, зменены на рык мегафонам:

— Будынак акружаны! Выходзьце па адным! Лічу да пяці, пасля пяці — адкрываем агонь на паражэнне! Адзін!

— Чаго да вас выходзіць, усё роўна — расстрэл! — сказаў варыльшчык у плашчы.

Ніна спалохана прыціснулася да Санжыка. Другі варыльшчык кінуў лапатку ў сіроп, выцер рукі аб ручнік, прыгнуўся і тарганул кальцо, якое тырчала з падлогі. У падлозе адкрыўся люк.

— Два! — грымнуў з вуліцы мегафон.

— Хутчэй, сюды! — паклікаў варыльшчык Санжыка. — І бегам, бегам па калідорчыку, а потым, на развілцы, — направа. Толькі хутчэй, каб не дагналі!

— Грошы забяры, а то палісмены між сабой падзеляць! — варыльшчык у плашчы сунуў Санжыку грошы, якія так і не паспеў пералічыць.

Санжык спусціў перапалоханую Ніну ўніз і скочыў следам.

— Тры! — зароў мегафон.

— А вы самі? — спытаўся Санжык, падняўшы галаву.

— Мы праз люк у суседнім пакоі! — адказаў варыльшчык і апусціў крышку.

Грымнулі аўтаматныя чэргі: паліцэйскія не далічылі да пяці.

Калі б за імі гналіся, то ўжо даўно б дагналі: Ніна падвярнула нагу і ішла, абапіраючыся на Санжыкава плячо.

— Табе вельмі баліць? — спытаўся Санжык, калі дзяўчынка ў чарговы раз аступілася і сціснула пальчыкамі ягонае плячо, прыкусіўшы вусны.

— Я сама вінавата. Сама. Я пайшла з вамі. Трэба было застацца, — адказала Ніна. — Цяпер мой боль — толькі мая бяда. Дзе выхад з гэтых катакомбаў?

— Здаецца, вось ён, — сказаў хлопец, убачыўшы лесвіцу наверх.

Санжык і ягоная спадарожніца выбраліся на паверхню і апынуліся перад жалезнай рабіцай. Плот цягнуўся ўлева і ўправа, на колькі хапала вока. За сеткай расла сакаўная высокая трава, а крыху воддаль блішчалі дахамі будынкі з паўкруглымі дахамі.

— Гэта аэрадром? — Санжык падышоў да плота і з цікаўнасцю паглядзеў праз сетку.

— Ваенная база, — адказала Ніна, агледзеўшыся. — Мы пратупалі восем кіламетраў.

— А гэта — ангары?

— Так, — кіўнула дзяўчынка. — Толькі ў іх не самалёты, а правіянт. Ведаеш, добрага салдата трэба добра карміць. Хаця… нашы ваякі — так сабе. Страляюць міма, лётаюць крыва, бегаюць недалёка. Але іх кормяць так, што можна было б дзве арміі накарміць, і нават даюць цукар. Кожны дзень!

Затарахцеў матор аўтамабіля. Санжык і дзяўчынка прыгнуліся. Міма іх па дарозе праехаў грузавік. Каля далягляду, дзе плот паднімаўся на пагорак, грузавік прытармазіў, павярнуў направа, абагнуў плот і знік, але праз некалькі хвілін зноў з'явіўся — каля аднаго з ангараў. Там ён спыніўся і заглушыў матор. Дзверы ангара адчыніліся, з іх выйшлі салдаты і пачалі выгружаць з машыны мяхі. На мяхах быў выбіты надпіс «цукар» і знак альянса «МедЭЯ». Калі борт быў разгружаны, салдаты замкнулі ангар, і пусты грузавік з'ехаў прэч.

Санжык апусціўся на калені і пачаў выдзіраць траву з-пад плота.

— Ты што гэта? — не зразумела Ніна.

— Зверху — калючы дрот, не перабяромся. Зраблю падкоп, пралезем на базу. Калі ў ангарах харчы, то і цукар там таксама ёсць.

На ангары вісеў вялікі замок.

— Гэта ж трэба: XXII стагоддзе, а замок — гуменны! — здзівіўся хлопец.

— Тэхналогія, якая добра сябе зарэкамендавала, — вечная. Як кола, — сказала Ніна. — Пагляджу, ці ёсць тут вокны.

Дзяўчынка знікла ў высокай траве. Санжык пацягнуўся да замка.

Нехта за спінай хлопца скамандаваў:

— Рукі ўгору!

Санжык паслухмяна ўзняў рукі і павольна павярнуўся да ахоўніка. Той пасвяціў хлопцу ў твар ліхтаром.

— Хто такі? Адкуль? Што тут робіш? — спытаўся салдат і перадаў па рацыі на пост, — у мяне тут парушальнік.

Нехта ціха свіснуў. Салдат павярнуўся на гук — і ўпаў.

— Звычайна я людзей не б'ю, — сказала Ніна і пацёрла кулачок.

— Дзе ты гэтаму навучылася? — Санжык апусціў рукі долу.

— Адзін з галоўных навыкаў пакаёўкі — самаабарона! — з гонарам зазначыла Ніна. — Нага, можа, у мяне і пашкоджана, але хук левай — абзайздросцішся!

Зараўла сірэна, па дарозе затупаталі берцы, падкаваныя металам. Санжык і Ніна кінуліся да агароджы. Нехта загадаў: «Агонь!», і першая ж куля чыркнула хлопца па левым плячы. Парушальнікі начнога спакою прабраліся пад плотам ды ўскочылі ў пусты грузавік — той самы, які прывёз на базу цукар. Грузавік выехаў на дарогу, якая вяла ў горад, і, уздымаючы пылок, прыпусціў па асфальце.

З пляча хлопца цякла кроў. Санжык прыціснуў рану далонню. Ніна сцягнула з яго пінжак і кашулю.

— Давядзецца пусціць на бінты, — дзелавіта сказала дзяўчынка і адарвала ад кашулі рукаў.

Грузавік уехаў у горад і спыніўся. Санжык і пакаёўка саскочылі з яго. Перад імі зіхацеў неонам вялікі будынак.

— Гэта знакамітае «Цукровае казіно»! — ахнула Ніна. — Тут замест фішак — кавалкі цукру. У ім засядае ўся «МедЭЯ».

— Трэба ў яго зазірнуць! — абрадаваўся Санжык.

— Нас не пусцяць. У нас сумніўны выгляд, — сказала дзяўчына.

— Затое ў нас ёсць грошы! — хлопец падміргнуў пакаёўцы.

Праз некалькі хвілін Санжык у кашулі, набытай у афіцыянта, і Ніна з пёркавым шалікам увайшлі ў залу. Санжык набыў кавалак цукру.

— Пастаў на чырвонае! — папрасіла Ніна і падвяла хлопца да стала, дзе круп’е раскручваў рулетку.

Санжык паслухаўся маленькую спадарожніцу.

Чырвоныя выйгралі.

Ці тое зоркі сышліся ў правільную анаграму, ці тое Ніна прыцягвала ўдачу, але фартуна павярнулася да Санжыка тварам, а не патыліцай: хлопцу шанцавала. Калі побач з ім ляжала тры кілаграмы адборнага рафінаду, Ніна сказала:

— Хопіць. Удача не паважае сквапных.

І Санжык ізноў паслухаўся. Ён склаў цукар у вялікі папяровы пакунак і пад руку з Нінай накіраваўся да прыпынку таксі.

Там іх ужо чакалі. Пяцёра мужчын у масках накінуліся на Санжыка, адабралі пакунак з цукрам, паваліў хлопца на зямлю і пачалі біць.

— У нашым казіно нельга выйграваць. Ты зразумеў? Ты? Зразумеў? — крычаў на хлопца галоўны над астатнімі.

Ніна кінулася на дапамогу, але адзін з мужчын адмахнуўся ад дзяўчынкі, як ад мошкі. Ніна ўпала каля пустой таксоўкі і заплакала.

Калі мужчынам надакучыла здзекавацца з хлопца, дзяўчына падпаўзла да збітага Санжыка.

— Паедзем у гатэль! — папрасіла яна. — Калі ласка, паедзем, здаўся табе гэты цукар? Жыла я без яго і яшчэ пражыву!

— Добра. Угаварыла, — сказаў Санжык і страціў прытомнасць.

Апрытомнеў хлопец у гасцінічным ложку, з перавязанай галавой. Побач з ім сядзела Ніна.

— Праз дзве гадзіны ты пакінеш гатэль, — сказала дзяўчына са смуткам.

— Праз дзве? — Санжык скаціўся з ложка і падбег да камп’ютара.

— Паслухай, Ніна. Я хачу цябе папрасіць, — сказаў хлопец, уводзячы ў графу пошуку «самыя вялікія джэк-поты XXI стагоддзя».

— Так? — дзяўчынка падышла да Санжыка.

Хлопец скінуў штаны. Пакаёўка зачырванелася.

— Спакойна, Ніна. Бяры асадку і перапісвай з экрана нумары выйгрышных білетаў.

— Куды перапісваць?

— На мяне! Мне нельга адсюль нічога вывозіць, а надпісы ў рэнтгене не заўважныя. Мяне прасвецяць і не стануць распранаць. Не стой — пішы!

Калі на Санжыку не засталося чыстай плямы, хлопец апрануў штаны і рубашку.

— Я хутка сюды вярнуся і куплю для цябе гэтую «МедЭЮ» разам з усім яе цукрам! — сказаў ён і ўзяў пінжак са спінкі стула.

— Не трэба «МедЭЮ». Вяртайся сам, — сказала Ніна. — Гэта засталася пасля казіно.

Дзяўчынка працягнула Санжыку пакамечаную грашовую купюру.

Пінжак быў увесь у пыльных плямах. Санжык як след трасянуў яго.

З кішэні высыпаліся манеткі — тыя самыя, што пакінула на рэшту афіцыянтка ў прывакзальнай кавярні. Разам з манетамі на падлогу ўпаў парцыённы пакецік цукру.

У Санжыкавай сучаснасці дажджыла. Хлопец выйшаў з офіса турыстычнай кампаніі, нацягнуў на галаву пінжак, дабег да прыпынку і з разбегу ўскочыў у трамвай, які ішоў да вакзала.

Каля вакзала Санжык агледзеўся і ўбачыў знаёмую дзяўчыну ў чырвоным, што пад вялікім парасонам прадавала латарэйныя білеты.

— Дайце мне адзін білет на наступны выхадны, калі ласка, — сказаў Санжык, працягнуўшы ёй пакамечаную купюру.

— Выбірайце! — дзяўчына расклала білеты веерам.

Санжык выцягнуў каляровую паперку і прачытаў: «Галоўны прыз — падарожжа ў мінулае!»

— А ў будучыню? Мне трэба ў будучыню! — сказаў хлопец.

— Туры ў будучыню ўчора забаранілі, — адказала дзяўчына.

Санжык моўчкі вярнуў білет дзяўчыне.

Хлопец выйшаў на пустую вуліцу пад дождж, зняў пінжак і кашулю. Па ягонай скуры пацяклі сінія плямы: залева змывала выйгрышы, якімі Санжык так і не паспеў авалодаць.

## НАМАЛЮЮ ТАБЕ ГОРЫ

— Таксі прыехала. Мне трэба ісці! — крыкнула Марціна з вітальні.

Эміль выйшаў да Марціны. Гэтым разам ён не пацалаваў яе на развітанне, а нервова зацягнуўся цыгарэтай і прамовіў:

— Мне не падабаецца твая праца.

— Раней цябе ўсё задавальняла, — адказала Марціна, якая стаяла спінай да Эміля. Эміль яе не пачуў.

— Ты не пойдзеш у свой начны клуб! — сказаў ён.

Марціна дастала з касметычкі памаду, якая вытачала пах журавін і была аднаго колеру з самай позняй восеньскай ягадай. Дзяўчына спакойна дафарбавала вусны ў барвовае, толькі пасля гэтага павярнулася тварам да Эміля.

— Скажы мне, ці многа карцін ты прадаў за апошні месяц? — ціха спытала яна.

— Ты ж ведаеш, што ніводнай! — Эміль зноў зацягнуўся тытунёвым дымам.

— А чаму?

— Я мастак, а не кампазітар! Я не буду пісаць гэтымі новымі фарбамі! — Эміль расчырванеўся і пачаў глыбока дыхаць: калі ён хваляваўся, яму не хапала паветра.

— Добра, добра. Не завадзіся. Я пайду на працу, — сказала Марціна, пагладзіла Эміля па плячы і, адвярнуўшыся, дадала, — каб ты мог спакойна пісаць карціны, якія ніхто не жадае набываць.

— Але ж я таксама працую! — крыкнуў Эміль. — І я гатовы знайсці другую працу, і трэцюю, калі спатрэбіцца!

Марціна паглядзела на малярны валік, што панура стаяў у кутку.

— Перспектыўная работка — фарбаваць сцены! — іранічна зазначыла яна і схапіла ключы. Бліснула бразготка — мініяцюрная вежа Эйфеля.

Эміль прытрымаў дзверы, але Марціна з сілай тарганула іх і пакінула кватэру. Мастак загасіў недакурак.

Таксі завуркатала, шорхнула шынамі аб асфальт і пачало павольна выбірацца з завулка, дзе Эміль і ягоная жонка жылі апошнія некалькі месяцаў. Здымная кватэра на краі горада — усё роўна што на краі свету, далёка ад метро, і таксісты ў такую далячынь едуць неахвотна: баяцца паркавацца ў неасветленых дварах.

Эміль падняўся ў мансарду, абсталяваную пад майстэрню, падышоў да мальберта, накрытага чорнай тканінай, і сцягнуў покрыва. На мальберце стаяў няскончаны партрэт Марціны. Яна была падобна да анёла, але невыносна смярдзела сінтэтычнымі растваральнікамі, якімі мастак разводзіў свае фарбы. Эміль пісаў алеем; здабыць такія фарбы каштавала высілкаў, бо іх паступова здымалі з вытворчасці. Цяпер у фаворы была новая распрацоўка — «музычныя полівінілы»: карціны, напісаныя такімі фарбамі, гучалі. Чым больш колераў і іх адценняў ужывалася для напісання палатна, тым багацейшая атрымлівалася музыка; ад памеру малюнка залежала, ці далёка ён будзе чутны. Некаторыя карціны гучалі як сімфанічныя аркестры. На выставах пад такія творы вылучаліся асобныя залы, каб яны не заглушалі меней маштабныя, але не горшыя па кампазіцыі працы. Людзі прыходзілі ў галерэі, каб «паслухаць жывапіс». Вялікай папулярнасцю карысталіся выставы авангардыстаў і сюррэалістаў, а для прадстаўнікоў класічнай школы жывапісу надышоў складаны час — іх творы гучалі нецікава. Палотны марыністаў манатонна вуркаталі, партрэты гудзелі, нацюрморты свісцелі і шчоўкалі… Пашчасціла хіба што баталістам з іх шматлюднымі і крывавымі карцінамі, праўда, каб музычны малюнак палатна атрымліваўся завершаным і гарманічным, аматарам батальных сцэн усё часцей даводзілася дамалёўваць над воінамі неверагодную колькасць рознакаляровых сцягаў, з-за чаго бітвы атрымліваліся падобнымі да вясёлага карнавалу. Многія мастакі цяпер вучыліся ў кансерваторыях на завочных аддзяленнях.

Эміль быў абсалютна глухі: ён згубіў слых у дзяцінстве пасля цяжкага захворвання. Толькі тады ён зразумеў, што навакольны свет — гэта складаная павуціна ліній, колераў і фактур. Эміль вырашыў прысвяціць жыццё разблытванню гэтай павуціны. На ягоных карцінах людзі, рэчы, святло і цень сустракаліся, каб пасяляць у сэрцах гледачоў спакойныя згадкі і простыя, светлыя ісціны.

Мастак запаліў новую цыгарэту, узяў пэндзаль і ледзьве не ўпусціў яго: з далоні тонкім струменьчыкам пабегла кроў.

Марціна ўбегла ў клуб са службовага ўваходу, бо каля галоўнага яе чакаў цэлы натоўп прыхільнікаў. Яна ўзляцела на другі паверх, у свой грымёрны пакой, і пачала пераапранацца ў касцюм — белы бліскучы станік у стразах і неонавы німб…

У грымёрную ўварваўся арт-дырэктар Рома Гагенцолер. Ён увесь знерваваўся, пакуль чакаў Марціну, таму што меў ад яе выступленняў добры прыбытак.

— Марціна! Пяць хвілін да выхаду! Дзе цябе носіць? — закрычаў ён.

— З маіх акраін пакуль дасюль дабярэшся — пасівееш, — адказала Марціна і схапіла белыя анёльскія крылцы. — Дапамажы надзець.

— Чаму ты не пераедзеш у цэнтр? — спытаўся Рома, замацоўваючы крылы на спіне Марціны і сплёўваючы белае пер'е, што трапляла яму ў рот.

— Муж не хоча. Ён увогуле не хоча, каб я тут працавала.

— Ён у цябе феадал-мільянер? — здзівіўся Рома.

Марціна засмяялася.

— Кідай ты яго, — сказаў Гагенцолер. — Усё роўна не любіш.

— То можа ты, Цоля, мяне ў жонкі возьмеш? — спыталася Марціна і пацалавала Цолю ў лоб.

— Ладна, ладна, Марціначка, — бяжы на сцэну! — сказаў збянтэжаны Цоля: калі б ён і пабраўся шлюбам, то толькі з мужчынам.

Марціна танцавала стрыптыз. Калісьці яна скончыла балетную школу, але балерынай так і не стала: за другарадныя партыі ў «Шчаўкунку» і «Папялушцы» плацілі малыя грошы, а прыма-балерына была гатовая памерці на сцэне ад старасці, абы толькі не аддаць маладым дзяўчатам галоўныя ролі. Таленавітая і прыгожая Марціна цэлы год стаяла ў другім шэрагу балетнай масоўкі, механічна вырабляючы нагамі батманы, а потым павесіла пуанты на цвік і пайшла на кастынг у начны клуб.

Там яе і ўбачыў Эміль, калі прыйшоў разам з сябрамі-малярамі адзначыць апошні халасты вечар у жыцці свайго прараба. Пакуль Марціна танчыла стрыптыз — упершыню ў сваім жыцці, — мастак намаляваў яе партрэт на сурвэтцы і, набраўшыся смеласці, сунуў яго за падвязку дзяўчыны. Праз два месяцы яны згулялі вяселле. Марціну не збянтэжыў той факт, што Эміль нічога не чуў: ён рыхтаваўся да вялікай выставы ў цэнтральнай галерэі, крытыкі бесперапынна спявалі яму оды і прарочылі славу Рафаэля Санці. Марціна не збіралася далей затрымлівацца ў клубе: яна планавала з'ехаць у Парыж з мужам, які павінен быў зрабіцца самым высокааплатным мастаком у свеце. Яна яго не кахала, але Эміль гэтага не заўважаў.

Але раптам у моду ўвайшлі «музычныя полівінілы». Выставу Эміля адмянілі, крытыкі аб'явілі яму байкот. Марціна вымушана была працягнуць танчыць стрыптыз.

На выступленнях Марціны заўсёды былі аншлагі. Мужчыны свісцелі і галёкалі, сыходзячы потам, развязвалі на сабе гальштукі і скідалі сарочкі, засоўвалі за тонкія тасёмкі стрыптызёршы свае апошнія грошы. Мужчыны плацілі за тое, што не ўмелі рабіць іхнія жонкі — за ўменне быць спакушальнай. Трэцюю частку ад той сумы, што патрапляла ў стрынгі, Марціна аддавала Цолі. Астатняе было ейнай законнай здабычай.

Сёння Марціна выходзіла тройчы, і тры разы вярталася ў грымёрную з пухнатай бахрамой грошай на сцёгнах. Яна скідвала грошы на столік, каб па заканчэнні вечара старанна палічыць іх, падзяліцца з клубам, а астатняе схаваць у сумачку.

Калі Марціна падлічвала ўлоў, а Цоля за дзвярамі грымёрнай чакаў сваёй долі, да яго падышоў мужчына ў шэрым касцюме.

— Я хачу заказаць прыватны танец, — паведаміў ён.

— Дзяўчына не танцуе «прыват»! — адказаў Цоля.

— Для мяне — станцуе, — сказаў мужчына. Ён нешта напісаў на грашовай купюры. — Вось, перадай ёй.

— Нельга. Не паложана! — упіраўся Цоля.

— Я ведаю чароўнае слова. «Калі ласка», — мужчына дастаў яшчэ адну купюру, той жа вартасці, і сунуў у кішэню арт-дырэктара.

Цоля, адчуўшы мужчынскую руку ў сваёй кішэні, зажмурыўся, каўтнуў сліну, павіс на дзвярах грымёрнай і ўехаў на іх у пакой.

— Марціначка… вось, табе тут нататку перадалі! — сказаў ён, захлопнуў дзверы, аддаў грошы дзяўчыне і падбег да століка, на якім стаяла бутэлька з вадой.

Марціна ўзяла купюру.

— Калі гэта нататка, то яна толькі для мяне, — сказала дзяўчына, схавала паперку ў станік, з усмешкай паглядзела на сапрэлага Цолю, які лакаў мінералку, і дадала, — тым больш, што і цябе не пакрыўдзілі. На сёння я скончыла. Замаўляй таксі.

Эміль спаў у майстэрні на канапцы. Ягоныя далоні былі перавязаныя анучкамі, якімі мастак звычайна выціраў пэндзлі. Анучкі былі напітаныя крывёю.

Марціна ўвайшла ў майстэрню. Убачыўшы мужа, яна кінулася да яго.

— Эміль? Эміль! Зноў рукі? Давай я пазваню ў «хуткую»!

— Не трэба, — адказаў абуджаны Эміль і сеў на канапе.

— Тады я сама! — Марціна кінулася да аптэчкі і закашлялася. — Чортавы растваральнікі. Як ты можаш знаходзіцца ў майстэрні. Гэты пах выядае лёгкія!

Марціна хацела ўзяць скрываўленую далонь Эміля, але ён не дазволіў.

— Трэба прамыць і перабінтаваць, Эміль! Каб не было заражэння! — настойвала Марціна.

Эміль неахвотна працягнуў Марціне руку.

— Хачу на Кайлас, — сказаў ён. — Кайлас мяне вылечыць.

— Зноў за сваё. Даўся табе гэты Кайлас?

— Там усё па-іншаму. Паветра чыстае. Неба — блізка. Нават час бяжыць не так, як тут. Утрая хутчэй. Паедзем?

— Не хачу састарыцца ў тры разы хутчэй. Паедзем лепей у Парыж! — сказала Марціна і ўзялася бінтаваць другую руку мужа.

— Францыя больш не тая, што раней, Марціна. Цяпер там у пашане не тыя, у каго самае прыгожае цела, а тыя, у каго самы дарагі хіджаб, — прамовіў Эміль. — Хочаш, я намалюю табе горы?

Эміль расшпіліў вуснамі гузік на кофтачцы жонкі.

— Горы, якіх ты ніколі не бачыў на свае вочы? Не, не хачу. Я хачу, каб ты лёг спаць. Да світання яшчэ далёка, — сказала Марціна і абрэзала лішак бінта. — А я вельмі стамілася.

Калі Эміль выняў з паштовай скрыні ранішнюю газету, то ўбачыў на першай паласе вялікі каляровы фотаздымак з начнога клуба. На ім красавалася Марціна ў касцюме анёла, а мужчыны ўзнагароджвалі яе грашыма.

Раз’ятраны мастак парваў газету на маленькія кавалачкі і шпульнуў на металічны паднос у кухні. Пасля Эміль узяў сумачку Марціны і выкалаціў на паднос

усе грошы. Чыркнуўшы запалкай, ён падпаліў цыгарэту, пару секунд паглядзеў, як агеньчык паглынае драўляны тронак, і кінуў запалку на паперкі. Грошы і выява Марціны пачалі чарнець. Газета добра гарэла.

У кухню ўвайшла Марціна.

— Ты спаліў яечню? — сонна спыталася яна, але, убачыўшы, як на падносе дагарае яе заробак, умомант прачнулася і кінулася да крана.

Плёснуўшы на полымя кружку вады, дзяўчына закрычала:

— Што ты нарабіў? Чым мы будзем выплочваць крэдыты? Чым мы заплоцім за кватэру? Нас выселяць!

— Лепш жыць на вуліцы, чым кожную раніцу бачыць цябе голую ў газетах, — адказаў Эміль. — Яны лапаюць цябе. Ты ўсім даеш дакрануцца да сябе, акрамя мяне!

— Я не прастытутка, я танцорка, не абвінавачвай мяне ў тым, чым я не займаюся!

— Як дакажаш?

Марціна не была гатова апраўдвацца і таму прамаўчала. Эміль схапіў малярскі валік і выйшаў з дому.

Зазваніў тэлефон. Марціна ўзяла трубку і пачула: «Нагадваем вам, што пры адсутнасці крэдытнай выплаты банк мае права падаць на вас у суд…»

Марціна, паразважаўшы, набрала нумар сваёй прыяцелькі.

Дзіна і Марціна хоць і называлі сябе сяброўкамі, але спінамі адна да адной стараліся, на ўсякі выпадак, не паварочвацца. Сябраванне прыносіла абедзвюм карысць — матэрыяльную, і гэта ўтрымлівала іх ад вялікіх здрад, прымушала быць далікатнымі ў дробных здрадах, якімі звычайна поўняцца такія адносіны.

— Я спазнілася, так? — спыталася Дзіна, з разбегу апусціўшыся на стульчык у кавярні і паклаўшы на яго вялікі і дарагі фотаапарат.

— Як заўсёды, роўна на палову гадзіны, — прамовіла Марціна.

— Гэта я ніяк не магла знайсці фоцік, усё абшарыла, а ён пад ложкам ляжаў. Чаго так зранку, што здарылася?

— Дзіначка, пазыч грошай, крэдыт не аплочаны.

— А многа? Эй, ты! — крыкнула Дзіна афіцыянту, які прабягаў міма, але той не пачуў. — Проста ў мяне Венічка збіраецца набываць квадрацыкл, дык цяпер хіба што не ўсе нашыя зберажэнні пойдуць на гэтую цацку.

— А нашто вам квадрацыкл? — здзівілася Марціна.

— Вось і я кажу: нашто, Венічка, нам гэтая тэхнічная каракаціца, давай мы мне футра лепш набудзем сабалёвае! — сказала Дзіна і зноў паклікала афіцыянта, але той памахаў рукой і не падышоў.

— Дзіначка, мне многа не трэба. І я хутка аддам.

— Ну, я не ведаю, — працягнула Дзіна. Было заўважна, што яна проста не хоча развітвацца з грашыма, якія ў яе маюцца.

На праходзе зноў паказаўся афіцыянт. Ён хацеў прабегчы міма століка, дзе сядзелі дзяўчаты, але Дзіна схапіла яго за фартух і замовіла сабе каву.

Марціна крыху памаўчала і раптам сказала:

— Дзіначка, я б табе не тэлефанавала, але сёння Эміль убачыў у вядомай нам з табой газеце мой фотаздымак і спаліў усё, што я зарабіла за ноч.

Дзіна адвяла вочы. Марціна працягнула наступ:

— Акрэдытацыя на здымкі ў гэтым клубе ёсць толькі ў цябе. Здаецца, мы з табой дамаўляліся, што ты не друкуеш фота без узгаднення са мной. Так?

Дзіна кіўнула.

— Нядобра, — сказала Марціна. — Няхораша.

— Прабач, Марціначка, што так атрымалася, я не паспела табе пазваніць, матэрыял трэба было тэрмінова аддаваць у нумар…

— Ты ж ведаеш майго Эміля: ён проста вар'яцее, калі бачыць мяне ў непрыстойных ракурсах! — Марціна звяла бровы. — Або я скажу Цолі, і ты больш ніколі…

Дзіна паклала перад Марцінай кашалёк.

— Вось. Бяры ўсе. Аддасі, калі зможаш. Праз тыдзень, праз два. Дарэчы, глядзі, якую я кніжку ўчора набыла! — карэспандэнтка дастала з сумачкі чытво ў ружовазалатой вокладцы. — «Дзесяць спосабаў зрабіцца багатай»!

— У цябе ж такая ёсць! — сказала Марціна, кінуўшы позірк на вясёлы томік.

— Ды не, такой няма. Ёсць «Замовы на багацце», ёсць «Паспяховая кар'ера», ёсць біяграфіі розных мільянераў…

— Дык нашто табе яшчэ і гэтая? Каб зразумець, як трэба дзейнічаць, дастаткова бывае прачытаць і адну старонку… — Марціна адкрыла томік пасярэдзіне. — «Калі вы жанчына, завядзіце сабе багатага прыхільніка: мужчыны не шкадуюць грошай на каханак». Хм, ніколі пра гэта не думала.

— Падабаецца? Вазьмі ў падарунак! — радасна прапанавала Дзіна, а пасля дадала, — канешне, я цябе разумею… глухі муж — гэта вялікі цяжар…

Марціна хутка ўстала і, прыхапіўшы кнігу, накіравалася ў прыбіральню: яна ўспомніла, што з ночы ў яе станіку ляжыць нататка, зробленая незнаёмай мужчынскай рукой на асігнацыі.

На нататцы значыўся нумар тэлефона і подпіс: Эдуард.

Эміль падышоў да вагончыка, у якім сабраліся рабочыя, і яшчэ з-за дзвярэй пачуў:

— О, Эмілька прыйшоў! — раскінуў рукі для абдымак маленькі кірпаты маляр. — А што гэта ў цябе з клешанькамі?

— Абпёк, — адказаў Эміль.

— Ай-ай. А кроў адкуль?

— І парэзаў.

— Трыццаць тры няшчасці! Давай, пераапранайся: сёння фарбуем заходні фасад!

Плям Плямыч узяў вядро і валік ды патрусіў да высотнага будынка, дзе маляроў ужо чакала старая, перапэцканая фарбамі лябёдка. Эміль нацягнуў робу і пайшоў за напарнікам.

— Жанчыны любяць мастакоў, — сказаў Плям Плямыч, калі лябёдка здрыганулася і, скрыгочучы, паехала ўверх. — Фатографаў, пластычных хірургаў, але больш — мастакоў. Тыя могуць з любой страшыдлы такую багіню зрабіць! І заўваж — ніякіх табе наркозаў і надрэзаў. Намалюе ёй вочы большыя, грудзі пышнейшыя, спашлецца на мастацкую задуму, а панначка і рада, што для нашчадкаў застанецца такой прыгажуняй! А потым унучачкі глядзяць на партрэт і думаюць: вось бабулька ў нас — прыгажуня была, што ж мы такія недарэчныя атрымаліся? Гены далі збой, ці што?

Лябёдка спынілася на ўзроўні шостага паверха. Плям Плямыч апусціў валік у фарбу і пачаў вадзіць ім па блокавай сцяне.

— Дык вось, што тычыцца мяне, — працягнуў ён, забыўшыся, што Эміль яго не чуе, — то я лічу, што ў пытаннях адлюстравання людзей ды іншых жывёлак мастак

павінен быць абсалютна шчырым. Партрэты я б пісаць не змог. А сцяна ж не скажа: нешта ты, Плямыч, дрэнна мяне адкаларыраваў! Калі б са мной загаварыла сцяна, я б выпаў з лябёдкі.

Эміль паглядзеў на захад. Там заканчваўся горад і пачынаўся кастрычніцкі лес.

— Я калі бяру чысты валік і сваёй лапачцы па спіне катаю, яна пачынае мурлыкаць… як кацянё. Вось яна, сіла мастацтва! — Плям Плямыч з задавальненнем паглядзеў на свежапафарбаваны кавалак сцяны. — А ты не думай, хутка сцены з намі пачнуць размаўляць. Я ж учора, — маляр пастукаў Эміля па плячы, і той павярнуўся, — я ўчора са сваёй хадзіў на выставу, дзе карціны музыку транслююць, як тое радыё!

— Ну і як? — спытаўся мастак.

— Як-як. Ніхто на іх і не глядзіць, на тыя карціны: усе танчаць. Мы з лапачкай таксама патанцавалі і дадому пайшлі. А калі ты мяне спытаешся, што я там бачыў, дык я ніводнага малюнка не ўзгадаю. Плямы, кропкі, рысачкі. Постмадэрнізм!

У абедзенны перапынак Эміль пакінуў Плямыча ў вагончыку і пайшоў у той бок, дзе залацеў лес. На ўскрайку, парослым бярэзнікам, мастак спыніўся. Ён некалькі разоў шумна ўдыхнуў салодкае паветра і павярнуўся, каб ісці назад.

На яго глядзела дзяўчына ў белай шапачцы.

— Вам не патрапляўся на вочы пэндзлік? — спыталася яна.

Эміль пакруціў галавой.

— Я ўчора тут малявала і згубіла яго... мой шчаслівы пэндзлік, вавёркавы… — сумна сказала дзяўчына.

— Вы мастачка? — Эміль пільна глядзеў на дзяўчыну, каб бачыць яе вусны. Дзяўчына збянтэжана апусціла позірк.

— Так, — адказала яна. — Але цяпер я рэдка пішу. Звычайныя фарбы знайсці немагчыма — у крамах толькі тыя, якімі музыку пішуць.

— Я вам дапамагу знайсці звычайныя фарбы, — сказаў мастак і падаў дзяўчыне руку. — Эміль.

— Эла, — адказала тая і асцярожна дакранулася да перабінтаванай далоні Эміля. — Што з вашымі рукамі?

— Нічога. Я іх парэзаў, але яны ўжо зажылі.

— Аднак бінты — свежыя?

— Не верыце? Можаце паглядзець.

Эла мякка ўзяла руку Эміля і пачала асцярожна размотваць бінт. Ён быў у засохлай крыві, але раны на далоні не аказалася, як і на другой: усё зацягнулася і бясследна знікла.

Эла заўважыла заручальны пярсцёнак на пальцы Эміля і адпусціла ягоныя рукі.

— Вы жанаты? Віншую вас. Каханне — гэта чароўна!

Эміль уздыхнуў і паглядзеў у неба.

Эла ціха сказала:

— Усё будзе добра, вось пабачыце. У сапраўднага кахання, як у сапраўднага шэдэўра, заўсёды ёсць перспектыва.

Эміль маўчаў. Калі праз некалькі хвілін ён павярнуўся да новай знаёмай, яе ўжо не было, і толькі, прывязаныя да бярозкі, трапяталі на ветры бела-чырвоныя бінты.

Мастак зрабіў крок наперад і ўбачыў пад сваёй падэшвай пэндзлік з пераламаным троначкам. Крыху паразважаўшы, Эміль падняў яго і схаваў у кішэню.

Эміль вярнуўся дадому з вялікім букетам рамонкаў. Ён заспеў Марціну пры выхадзе каля люстэрка; яна расчэсвала валасы.

— Даруй мне, — абняў мастак жонку. — За раніцу. Сам не ведаю, што на мяне найшло. Трымай: рамонкі, твае любімыя.

— Ага, — абыякава адказала Марціна.

— І ты нават не спытаешся, дзе я ўзяў рамонкі ў кастрычніку?

— Я ведаю: у аранжарэі. Пастаў іх у банку.

— Я пастаўлю іх у вазу! — сказаў Эміль.

— У вазе ружы, — папярэдзіла Марціна і вылаялася, бо расчоска заблыталася ў яе валасах.

— Ад каго? — насцярожана спытаў мастак.

— Ад прыхільніка маёй творчасці.

Марціна пачала вызваляць расчоску з шавялюры. Расчоска не давалася.

— Што за прыхільнік? — спытаўся Эміль.

— Табе справа?

— Гэта ты да яго збіраешся?

— А калі б і да яго, ты не можаш забараніць мне выходзіць за парог!

Эміль кінуў рамонкі на падлогу і схапіў Марціну за плечы:

— Магу! Я твой муж!

— І што далей? — Марціна спакойна паглядзела на яго. — Паслухай, маё рамонкавае шчасце, не трэба скандалаў, ты ўсё роўна не ўмееш іх учыняць.

— Хто ён. Хто ён такі? — не супакойваўся мастак. Ён ухапіўся за расчоску, якая вісела ў валасах. Марціна ўзяла манікюрныя нажнічкі і моўчкі адрэзала заблытаную пасму.

— Даўно збіралася пастрыгчыся, ды ўсё грошай не было, — сказала яна. — Цяпер дакладна знойдуцца. Усё, Эмільчык, да сустрэчы!

Марціна нырнула за дзверы.

Эміль абапёрся далонямі аб сцяну. Сцяна пачырванела.

Раніцай Эміль прачнуўся на канапцы ў майстэрні. Ён дрыжаў ад холаду.

На падаконні адчыненага акна сядзела Марціна. Яна трымала ў руках нейкія паперы.

— Добрай раніцы, — сказала дзяўчына, — слухай уважліва. Калі ты ў гэтую ж хвіліну не падпішаш гэтыя дакументы — я выкінуся вон.

Марціна звесіла ногі на вуліцу.

— Дзявяты паверх. Высока, — прамовіла яна і правай нагой зняла туфлю з левай. Туфля паляцела ўніз. — Падпісвай.

Эміль агледзеўся ў пошуках асадкі, але ў мастака яе проста не было; тады ён узяў пэндзаль, абмакнуў у кроў, што бегла з далоні, і паставіў подпіс пад дакументам, не чытаўшы яго.

Марціна задаволена вярнулася ў пакой і зачыніла акно.

— Віншую цябе, Эмільчык. Мы сталі мільянерамі. Цяпер табе трэба спусціцца ўніз і пазнаёміцца з тваім менеджарам. Яго завуць Эдуард. Пойдзем!

Жонка ўзяла Эміля за руку і павяла за сабой.

Эдуард дапіваў трэцюю каву. Убачыўшы Эміля, ён паставіў кубак, падняўся і працягнуў мастаку руку, каб павітацца, але заўважыў, што рукі Эміля ў крыві, і зноў узяў спадачак з кубкам.

— Прывітанне… эээ… Эміль, — сказаў ранішні госць. — Марціна многа рас-

казвала пра вас. Вы разумееце, што ў нас з вамі небагата часу да першай выставы — па дамове, два месяцы. Трэба вельмі пастарацца, прыкласці максімум намаганняў… Там жа адбудзецца аўкцыён, і нам трэба прадаць не меней як пяцьдзясят палотнаў.

— У мяне ёсць і болей, можаце паглядзець: яны там, наверсе! — сказаў Эміль, але Эдуард пакруціў галавой.

— Вы не зусім мяне зразумелі. Работы павінны быць намаляваны вашай крывёю. Да кожнай работы будзе дадавацца вынік ДНК-экспертызы: ён будзе сведчыць, што аўтар палатна — сапраўды вы. І самае галоўнае: вашыя карціны будуць аглушальна маўчаць! Гэта будзе тое, што выгодна вылучыць нас з кампаніі мастакоў-музыкаў! Я проста бачу банеры: «Чырвонае маўчанне!», «Цішыня, напісаная кроўю»…

— Вы гаварылі мне пра аванс, — падала голас Марціна. — Мастаку патрэбны ўмовы для працы, калі ён застанецца тут — аўкцыён можа не адбыцца.

— Колькі вы хочаце? — спытаўся Эдуард у Марціны.

Праз тыдзень, калі Дзіна вырашыла зайсці ў госці да сяброўкі, яна заспела яе каля пад'езда дома. Марціна кіравала працэсам пераезду, крычала на грузчыкаў і пераможна глядзела на жанок, якія стаялі крыху воддаль і радаваліся, што іх маладая і прыгожая суседка з'язджае прэч.

— Прывітанне. Высяляюць? — спытала Дзіна, калі падышла бліжэй, і адкрыла аб'ектыў фотаапарата.

— Сама высяляюся, — адказала Марціна, не павярнуўшы галавы. — Фоцік закрый.

— Дай сфатаграфую цябе, на памяць! — папрасіла Дзіна.

— Не цяпер. Я цябе запрашу на вечарыну ў новы катэдж, акрэдытую, і там ты зможаш шчоўкаць усё, што захочаш! — сказала Марціна.

— А грошы? Ты мне вернеш?

— Ледзьве не забылася. Добра, што нагадала, — Марціна выняла з сумачкі кнігу, нядаўна падораную Дзінай, уклала ў яе грошы і дала прыяцельцы. — Трымай. Дзякуй. Кнігу прачытай: вельмі карысная. Я табе пазваню.

— А дзе Эміль? — спытала Дзіна.

— У новай майстэрні. Абжываецца.

— У катэджы?

— Яшчэ чаго не хапала! На супрацьлеглым канцы горада. Паасобку нам будзе спакайней. Куды валачэш па зямлі, я цябе лычом па газоне пракачу! — крыкнула Марціна на грузчыка, што зачапіў зямлю адным са шматлікіх чахлоў, у якія былі запакаваны сцэнічныя касцюмы стрыптызёршы.

Эміль абсталёўваў сабе майстэрню ў той самай новабудоўлі, якую яшчэ нядаўна расфарбоўваў разам з Плям Плямычам. Маляр ужо дапамог мастаку перавезці ў трохпакаёўку ягоныя карціны і цяпер наразаў нажыкам кілбасу на газеце, пасцеленай на падаконні.

— Ты падумай, кватэру адхапіў! Ты, Эмілька, ціхі жук: тыдзень назад нават слова не сказаў, што маёмасць збіраешся набываць!

Эміль прыкнопіў да сцяны вялікі плакат з Кайласам.

— А гэта што за гара? Арарат, можа? — спытаўся Плямыч і аблізнуў нажык.

— Гэта Кайлас. У Тыбеце.

— І чаго ты яе на сцяну павесіў? Што за радасць на горы глядзець? Яны ж халодныя і каменныя. Глядзі!

Плям Плямыч дастаў з-пад пахі вялікі насценны каляндар, з якога бессаромна ўсміхалася фотамадэль у адных завушніцах.

— Во! — сказаў маляр. — Гэта мы з хлопцамі ў вагончык купілі, а прараб сказаў зняць. Карацей, хай вісіць у цябе.

— Не трэба!

— Трэба! Трэба, каб у памяшканні была жанчына. Ад гэтага сэрца мякчэе.

— Добра, — пагадзіўся мастак. — Хай будзе. Глядзі, Плямыч, што ў мяне ёсць!

Эміль паказаў сябру бутэльку дарагога каньяку.

— О! Дык што ж мы, удваіх будзем піць? Не, так не пойдзе: у нас жа не рамантычнае спатканне. Трэба знайсці трэцяга.

Плям Плямыч высунуўся з акна, агледзеў пусты пейзаж і раптам радасна закрычаў:

— Паненачка! Паненачка, можна вас на хвілінку? Нам трэба дапамога, вы не маглі б падняцца, дзявяты паверх?

Праз пару хвілін у дзверы пазванілі. Плямыч падштурхнуў Эміля, і той пабег адчыняць.

Пры ўваходзе стаяла Эла.

— Прывітанне, — сказала яна.

Эміль усміхнуўся і працягнуў дзяўчыне пэндзлік з адрамантаваным троначкам, што ўжо тыдзень насіў з сабой у кішэні.

Цяпер Эла прыходзіла да Эміля кожны дзень. Яны разам праваджалі восень: рабілі каралі з рабіны, плялі вянкі з лісця, аблізвалі шэрань з салодкіх бярозавых галінак, глядзеліся ў замерзлыя лужыны. Разам яны сустрэлі і першы снег, што ў адну ноч густа пакрыў зямлю, як белы грунт пакрывае льняное палатно. Мастак і мастачка малявалі адно аднаго — на снезе, паперы, сценах майстэрні… а пасля пілі гарбату і моўчкі глядзелі на выяву Кайласа. Яны марылі паехаць туды разам. Эміль забыўся пра Марціну і паперы, якія падпісаў кроўю: з таго часу, як Эла з'явілася ў жыцці мастака, раны на яго руках больш не адкрываліся.

Аднойчы ўвечары, калі Эла з Эмілем пілі гарбату, тэлефон мастака падскочыў на месцы: яго абудзіла паведамленне. Эміль прачытаў тэкст і змяніўся ў твары.

— Эла, мне трэба твая дапамога, — сказаў ён.

— Я зраблю ўсё, што папросіш, — адказала мастачка.

— Мне трэба да заўтрашняй раніцы намаляваць яшчэ трыццаць карцін. Але мае рукі… яны зажылі.

Эміль узяў нож і нагрэў яго над полымем запальнічкі.

— Я парэжу рукі… не, пачакай. Я прашу ўзяць пэндзаль і маляваць. Проста браць любое чыстае палатно на падрамніку, любую паперу. І я таксама буду маляваць. Разам мы паспеем да раніцы. Добра?

Эла кіўнула.

— Калі што-небудзь здарыцца… са мной — тады…

— Я пазваню ў шпіталь, — сказала Эла.

Эміль сціснуў вусны і зрабіў надрэз на левай далоні.

На світанні, калі Эміль зрабіў апошні мазок на апошнім палатне і асеў на падлогу, Эла выклікала «хуткую дапамогу».

У палату да Эміля ўвайшла Дзіна. Абяскроўлены мастак з перавязанымі далонямі ляжаў на белым ложку і глядзеў у акно, дзе пунсавела адзінокая рабінавая гронка.

— Эмільчык? Я выпадкова даведалася, што ты тут, і адразу ж прыляцела! — сказала яна.

— А дзе Марціна?

— Яна займаецца выставай і таму не змагла прыйсці да цябе. Але яна перадала табе мандарыны і паштоўку…

Дзіна адкрыла сумачку, каб дастаць мандарыны. Але за пакункам з сумачкі выпала не паштоўка. На плячо Эміля восеньскім лістом апусціўся фотаздымак. На ім былі Марціна і Эдуард, заспетыя за тым заняткам, які не пакідае прасторы для фантазій, — пакрыўджаная пагардай прыяцелькі, Дзіна не дарэмна правяла некалькі гадзін у зарасцях ядлоўцу каля яе катэджа.

— Эмільчык… — спужалася Дзіна і націснула на кнопку выкліку медсястры. — Я думала, ты ўсё ведаеш! Марціна сказала мне, што падае на развод і з’язджае ў Францыю… з Эдзікам.

Разам з медсястрой у палату ўбегла Эла.

Марціна ўвайшла ў майстэрню і, аблаяўшы мужа за тое, што ён пакідае дзверы адчыненымі, задуменна агледзела палотны.

На ўсіх карцінах былі намаляваны горы.

На наступны дзень Дзіна была каля Галерэі сярод карэспандэнтаў, якія прыехалі асвятляць страшны пажар, што адбыўся там уночы. Згарэлі работы Эміля, а разам з імі загінула ў полымі маладая супрацоўніца Галерэі. Хадзілі чуткі, што гэта яна падпаліла карціны, якія ляжалі ў падсобным памяшканні, і не змагла выбрацца з агню.

Эміль бясследна знік са шпіталя.

Чалавек выйшаў з возера, у якім адбіваўся непакораны, велічны Кайлас. Возера змыла з чалавека яго імя, мінулае, жаданні, страхі, каханне і пакліканне. Хвалі залізалі шнары на яго далонях.

Чалавек апусціўся на пясок і задумліва паглядзеў на гару.

— Я прыйшоў, — сказаў ён. — Я хачу расказаць табе, чаму я так затрымаўся…

Чалавек гаварыў, гара слухала. Ёй даводзілася чуць і цікавейшыя споведзі, але гара была каменнай і таму не ўмела ні спачуваць, ні абрываць аповед. І нават калі б яна загаварыла, гэты чалавек яе б не пачуў.

Скончыўшы гаварыць, чалавек накрэсліў на пяску горны хрыбет. Нечаканая хваля заліла малюнак блакітам, адабрала ў чалавека пэндзаль і ўцягнула за сабой.

— Што мне рабіць цяпер? — спытаўся чалавек.

Гара маўчала.

## КАЛІ РАСПЛАВІЦЦА БУРШТЫН

Верас ішоў па вуліцы. Праз тэрмаўстойлівыя падэшвы чаравікаў ён адчуваў гарачыню пліт, якімі быў вымашчаны тратуар. Гэта нагадвала шпацыр ёга па вуголлі. Стаяць на месцы было немагчыма, бо пачыналі падсмажвацца пяткі, і нават газоны больш не радавалі прыемнай прахалодай: трава на іх даўно высахла і скруцілася,

а зямля патрэскалася і стала такая ж гарачая, як і тратуарная плітка. Асфальт праезджнай часткі ўжо даўно абтаяў ды сцёк пад гравій.

Каб не атрымаць сонечны ўдар, Верас трымаў над сабой парасон — правай рукой; у левай ён нёс чырвоны чамаданчык, і яшчэ адзін такі ж чамаданчык быў заціснуты ў яго пад мышкай.

Верас дайшоў да скрыжавання дзвюх вуліц, над якім узвышаўся вялікі, для аднапавярховага гарадка нават задужа, рэкламны шчыт. Ён перакрываў трэцюю частку неба і прапагандаваў не тытунь, не алкаголь і нават не заманлівую крэдытную палітыку аднаго з камерцыйных банкаў. Палатно пераразаў кароткі чорны надпіс, які ўтрымліваў усяго чатыры словы: «Камфортнае жыццё, гуманная смерць». Шчыт вырас тут дзесяцігоддзе таму як напамін пра чалавекалюбівы сацыяльны строй новага грамадства. За дзесяць гадоў шчыт ніводнага разу не мылі і не перафарбоўвалі.

Верас звыкла павярнуў налева, на вузкую вуліцу, што вяла ўверх, на пагорак. На вяршыні стаяў дом, дзе Вераса чакала Нежка. Яны абвянчаліся год таму, калі зямныя нетры яшчэ не пачалі разаграваецца і свечы ў касцёлах стаялі прама — жоўтыя і цёплыя, як бурштын. Перад усімі святымі, што глядзелі са сцен храма, Верас і Нежка пакляліся да апошняга берагчы адно аднаго.

— Добры дзень, спадар Брыль! — павітаўся Верас з суседам, што сядзеў на прыступках свайго невялікага дамка. Напраўду, суседа звалі Міколам, а мянушку «Брыль» атрымаў з-за таго, што амаль ніколі не здымаў з галавы саламяны брыль, падвязаны пад барадой сіняй стужкай. Ён добра ратаваў свайго гаспадара ад сонца, пад якім той правёў большую частку свайго жыцця, — мужчына быў садоўнікам.

Спадар Брыль нічога не адказаў Верасу і нават не паглядзеў у ягоны бок. Перад ім стаяла вялікая пустая лейка. На каленях ляжаў чырвоны чамаданчык.

Брылёў сад ссох. Цяжкія ружы — чырвоныя, белыя, жоўтыя, між якіх раней звівалі гнёзды салаўі, — скінулі рэдкія бутоны ды лісце і цяпер стаялі, працягваючы мёртвыя рудыя шыпы да неба. Высокія яблыні, што ў канцы кожнага лета згіналі галіны пад цяжарам пладоў, сёлета ўпершыню засталіся бясплоднымі. Спёка распранула іх, распранула грушы і вішні, слівовыя і абрыкосавыя дрэвы, аблаташыла недаспелыя ягады з агрэставых і ажынавых кустоў, спаліла лозы ў вінаградніку і бэз у палісадніку.

Спадар Брыль адчайна змагаўся за свой сад. Спачатку ён днём і ноччу паліваў яго са шланга, але пасля ў водаправодзе не стала вады — яе забіралі з неглыбокай рэчкі, якая не вытрымала націску тэмпературы і высахла. Тады спадар Брыль пачаў вазіць ваду са старога калодзежа, за два кіламетры ад дому. З узыходам сонца ён ставіў на цялежку вялікі алюмініевы бідон і пехам адпраўляўся да калодзежа. Адтуль, адстаяўшы доўгую чаргу і набраўшы поўны бідон вады, садоўнік па пыльных выбоінах дарожкі цягнуў цялежку назад. Калодзеж быў глыбокі і халодны, але за той час, пакуль вада ў бідоне ехала пад сонцам, яна добра прагравалася. Аднак дрэвы і кусты з радасцю пілі нават такую гарачую — амаль што кіпень — ваду і з усіх сіл стараліся захаваць плады.

Потым калодзеж абмяльчэў і таксама высах. Людзі набывалі прывазную ваду ў краме, па два літры на чалавека ў дзень. Лішняя вада для раслін не прадугледжвалася і таму ў краму не завозілася.

Плады з дрэў абсыпаліся. Самі дрэвы да апошняга чапляліся за жыццё, але, у рэшце рэшт, здаліся. Садоўнік адламаў ад кожнага свайго пітомца па галінцы і, каб захаваць хаця б гэта, расставіў у шкляны посуд па ўсім доме.

У разагрэтых пакоях было душна. Садоўнік кожны дзень хадзіў у краму па ваду і ўсю яе аддаваў «абломышам». Аскепкі былога саду чэзлі.

Спадар Брыль зусім перастаў піць. На трэці дзень раніцай ён знайшоў амаль усе «абломышы» мёртвымі. Толькі вішнёвая галінка пратрымалася яшчэ два дні, але і яна загінула.

Садоўнік нічога не адказаў Верасу і нават не паглядзеў у ягоны бок. Ён зняў брыль і паклаў яго на прыступкі побач з сабой. Пасля, нікуды не спяшаючыся, адамкнуў чырвоны чамаданчык.

Верас адвярнуўся і паскорыў хаду, але праз колькі крокаў азірнуўся. Садоўнік нерухома ляжаў на прыступках. На яго падаў цень ад сухой яблыні.

«Спадар Брыль не ведаў, што такое камфортнае жыццё», — падумаў Верас.

Далей па вуліцы, у доме з паласатым дахам, жыў спадар Жан-Жан. Ён быў дырэктарам цырка.

«Цырк Жан-Жана» дэманстраваў відовішчы, вядомыя на ўвесь свет! Ягоныя гастролі былі сапраўднай падзеяй у любым горадзе. Артысты прывозілі з сабой казачны свет, поўны цудаў. Гімнасты, гнуткія, як спружыны, запляталіся ў неверагодныя фігуры і збіраліся ў высокія «жывыя пірамiды», а потым у адно імгненне рассыпаліся па арэне. Эквілібрысты балансавалі на дыбачках на вежах з шароў і шастоў, такіх няўстойлівых, што адзін подых ветру мог разбурыць іх. Акрабаты, лёгкія і хуткія, нібы чайкі, лёталі пад купалам і патаналі ў святле ды авацыях! Ілюзіяністы спрытна падманвалі гледачоў, паказваючы фокусы, якія немагчыма было разгадаць. Вясёлыя клоўны смяшылі людзей да колік. Ліхія вальтыжыроўшчыкі адважна галапіравалі на конях, стоячы ў сёдлах адзін у аднаго на плячах.

Але гледачам асабліва падабаліся жывёлы. На арэну выходзілі дрэсіраваныя сабачкі, малпы, сланы, тыгры, львы, мядзведзі. Жывёлы ўмелі выраблячь самыя розныя штукі: скакаць з тумбы на тумбу і праз вогненныя колы, катацца на веласіпедах з трыма, двума і адным колам, кувыркацца, танчыць і нават лічыць уголас. Кожнае выступленне чатырохногіх артыстаў суправаджалася шквалам апладысментаў.

Артысты цырка мелі ўтульныя, светлыя грымёрныя, каб адпачываць у іх паміж рэпетыцыямі і імпрэзамі. Звяры жылі ў прасторных вальерах і ніколі не мелі недахопу ў ежы, вадзе і даглядзе.

Калі пачалася спёка, людзі перасталі хадзіць у цырк: ім зрабілася не да забаў, яны ратавалі свае целы ад дыскамфорту. У артыстаў не стала работы. Спачатку яны праводзілі час у трэніроўках і рэпетыцыях, аднак пасля, адзін за адным, раз’ехаліся ў розныя бакі, каб быць са сваімі блізкімі. Людзі разбегліся, а звяры засталіся. Некалькі тэхнікаў да апошняга даглядалі сваіх выхаванцаў, але пасля вінавата папрасілі ў Жан-Жана прабачэння, знялі ўніформу і сышлі прэч: спёка прагнала і іх.

Хутка выйшлі са строю моцныя кандыцыянеры. Затым перастала хапаць вады. Звяры пакутавалі ад гарачыні. Яны пачыналі паміраць.

Жан-Жан адкрыў вальеры, каб жывёлы змаглі паспрабаваць захаваць сабе жыццё на волі. Але звяры, прыручаныя чалавекам, не выходзілі клетак. Яны сядзелі і чакалі, што чалавек выратуе іх, дасць вады, спыніць спёку, выклікае дождж. Жывёлы думалі, што чалавек — гэта Бог. Тады Жан-Жан кінуўся ў вальеры. Ён стаў біць і выганяць звяроў прэч. «Ідзіце адсюль! Пайшлі, пайшлі!» — крычаў ён, але яны цярпліва зносілі пабоі і з дакорам глядзелі на гаспадара, нібыта казалі: «Нашто ты

нас гоніш? Мы шчыра служылі табе, былі тваімі грашыма і тваёй славай — няўжо ты болей нас не любіш?»

Жан-Жан расплакаўся. Ён адчуў сябе самым вялікім здраднікам на зямлі. Яму не было адкуль узяць ежу і ваду для сваіх грацыёзных тыгрыц, спрытных сабачак, магутных сланоў… Дырэктар цырка пакінуў вальеры адкрытымі і пайшоў дадому.

Жан-Жан стаяў каля адчыненага акна і жангліраваў пярэстымі шарыкамі.

— Прывітанне, спадар Жан-Жан! — крыкнуў Верас. — Хадземце да нас, у нас дастаткова месца і ёсць кандыцыянеры!

— Прывітанне, спадар Верас! Глядзіце, я навучыўся жангліраваць! Канешне, мне яшчэ трэба трэніравацца… — сказаў Жан-Жан, і шарыкі адзін за адным упалі на падлогу.

— У вас няблага атрымліваецца для пачаткоўца, — падтрымаў суседа Верас.

Жан-Жан цяжка ўздыхнуў.

— Ведаеце, — прамовіў ён, — я заўсёды марыў, што калі-небудзь выйду на арэну з усімі сваімі артыстамі. Я марыў, што буду жангліраваць — шарамі, кеглямі, талеркамі, палаючымі факеламі! Але ў мяне ніколі не ставала часу, каб авалодаць гэтым мастацтвам. А цяпер — ёсць час… і няма для каго. Зямля — патэльня ў пекле… Людзі стогнуць на расчырванелым чыгуне, ім не да весялосці. Я ніяк не магу дапамагчы. Адзінае, што я б мог зрабіць, — арганізаваць самыя вясёлыя правады Зямлі ў апошні шлях, феерычнае відовішча, якому не было б роўных ні дагэтуль, ні пасля!

Дырэктар цырка засмяяўся, выцер лоб рукавом, падняў з падлогі шарыкі і падкінуў іх у паветра. Шарыкі ў яго руках зноў залёталі па крузе.

— Дарэчы, спадар Верас, — спытаўся Жан-Жан, — вы не шлі міма цырка? Як там справы ў майго любімчыка Рамзеса?

Леў Рамзес першым загінуў ад смагі: у яго было хворае сэрца.

— Ён… трымаецца, — адказаў Верас.

— Ён моцны, ён выжыве. Але-гоп! — дырэктар цырка злавіў шарыкі ў палёце, адкрыў чырвоны чамаданчык і сказаў: — Мае звяры заслужылі чырвоныя чамаданчыкі больш за мяне.

У суседнім доме жыў ювелір, спадар Шульц. Ён вырабляў са срэбра і золата казачна прыгожыя карункі — тонкія, як шоўкавыя ніткі, і моцныя, як рыцарскія даспехі. Спадар Шульц умеў дастаць з неапрацаванага кавалка горнай пароды яго жывое, ззяючае сэрца і аграніць так, каб самае яснае зорнае святло цьмянела перад яго зіхаценнем. Камяні, што выйшлі з-пад рук майстра, мякка свяціліся ўночы, даравалі сваім гаспадарам спакой і дабрабыт, прадказвалі надвор’е. Але дыяменты не маглі вярнуць жыццё ці ўратаваць, маглі толькі ўпрыгожыць і таму былі вышэйшай прыступкай на лесвіцы камфорту.

Учора вечарам ювелір пастукаўся да Вераса. Яму адчыніла Нежка.

— Праходзьце, спадар Шульц! — запрасіла яна суседа. — Праходзьце і заставайцеся. Верасок — інжынер. Мы абклалі дом ізаляцыйнымі блокамі, у нас ёсць генератары электрычнасці, і разам з намі вам будзе весялей!

Ювелір у адказ працягнуў Нежцы бурштынавае сардэчка на срэбным ланцужку.

— Вазьміце, спадарыня.

— Што вы, спадар Шульц, не трэба... — збянтэжылася Нежка.

— Я разумею, што ў час выжывання ўсім не да прыгажосці, але... Гэта мая першая ювелірная работа. Калі я знайшоў гэты кавалак бурштыну, мне было дзевятнаццаць. Цяпер мне семдзесят, у мяне няма ні жонкі, ні дзяцей, мне няма каго ратаваць і дзеля каго ратавацца. Мае камяні перажывуць мяне, але ці застанецца хто-небудзь, каб захапляцца імі?

Бурштын гойдаўся з боку ў бок, а з ім, як на арэлях, калыхаўся маленькі палоннік — камар, што неасцярожна патрапіў у смалу некалькі мільёнаў гадоў таму і не змог вызваліцца.

— Вазьміце гэты бурштын, спадарыня, — сказаў ювелір. — Павесьце яго за акном, і, калі прыйдзе час, ён заплача па мне.

— Дзякуй, спадар Шульц, — адказала Нежка.

Ювелір развярнуўся і цяжка патупаў да сябе.

Нетры зямлі разаграваліся. Вучоныя вялі складаныя разлікі, малявалі дыяграмы і графікі, ладзілі бесперапынныя міжнародныя перамовы і кансультацыі, аднак ні адзін прагноз, нават самы аптымістычны, не выглядаў суцяшальна. На думку вучоных, у глыбінях зямлі ішоў імклівы незваротны працэс, і «канчатковай кропкай незвароту» для знікнення жыцця на планеце была афіцыйна прызначана сярэдняя тэмпература на яе паверхні, роўная ніжэйшай тэмпературы плаўлення бурштыну.

Людзі масава кінуліся купляць вентылятары, кандыцыянеры, маразільнае абсталяванне, генератары сухога льду. Планета гінула, але людзі не проста хацелі жыць. Яны хацелі жыць як раней і верылі, што цудоўныя тэхнічныя навінкі дапамогуць ім. Людзі прывыклі давяраць прыборам, якія рабілі іх жыццё камфортным.

З кожным новым днём спёкі грошы імкліва абясцэньваліся. Раней сярэдняга камфорту хапала для ўсіх, павышанага — толькі для абраных. Цяпер яго не хапала нікому: тэхніка не апраўдвала ўскладзеных на яе спадзяванняў. У людзей пачалася ломка: яны не маглі сабе нават уявіць, якім моцным наркотыкам з’яўляецца камфорт.

Калі паказчыкі самых сучасных, дакладных і надзейных тэмпературных датчыкаў у найгарачэйшым месцы планеты шчыльна наблізіліся да крытычнага максімуму, пачалася паніка. Панікаваць было прасцей, чым думаць. Простыя спажыўцы прывыклі да таго, што нехта безназоўны ўсё прыдумае за іх, зробіць так, каб дастаткова было проста націснуць кнопку — і ўсё было б добра.

Прыдумаць за некалькі мільярдаў людзей, як зрабіць ім добра ў крытычных умовах, было немагчыма. Адзінае, што засталося, — забяспечыць кожнаму пакутніку гуманную смерць. Людзям пачалі раздаваць чырвоныя чамаданчыкі. Кожны такі чамаданчык утрымліваў індывідуальны набор для самагубства з падрабязнай інструкцыяй на дзесяці старонках. Чалавек мог сам выбраць як памерці: ад імгненнай атруты, абяскроўлення, асфіксіі або электрычнасці, прапушчанай праз сэрца. Эўтаназія была дабравольным выбарам тых, хто не мог перажыць расстанне з камфортам, што быў адзіным сэнсам іх жыцця. Вялікія гарады вымерлі першымі і амаль поўнасцю.

Невялікія памяркоўныя гарадкі чакалі, маліліся, рыхтаваліся і трывалі, пакуль было можна трываць, пакуль у цярпенні заставаўся сэнс і было для каго жыць.

Спадар Шульц адкрыў свой чырвоны чамаданчык яшчэ ўчора. За ноч на ганку яго дома з’явіўся насып з каштоўнасцей. Жыхары гарадка прыносілі ўпрыгожанні,

калісьці набытыя ў ювеліра, і пакідалі іх каля дзвярэй у знак павагі да памяці майстра. Цяпер золата і камяні ім былі без патрэбы.

Верас атрымаў тэхнічную адукацыю і таму добра ведаў, з чаго і ў якіх умовах нараджаецца камфорт. Да таго ж ён разумеў, што светлая галава нічога не каштуе, калі да яе не дапасуюцца ўмелыя і працавітыя рукі.

Таксама ён ведаў, што ні на адным з тых прыбораў, якія дораць чалавечаму целу камфорт, кнопкі «выжыць» няма — яе яшчэ не прыдумалі. Але ён ведаў, што добра сабраны, належным чынам наладжаны і правільна скарыстаны ў пэўнай сістэме, кожны тэхнічны прыбор можа ў гэтым дапамагчы. Верас, як і большасць людзей, прывык давяраць тэхніцы, і ў яго былі тыя самыя рукі, якія выратоўваюць сваіх уладароў.

Некалькі месяцаў таму назад Верас і Нежка пачалі рупліва рыхтавацца да доўгай асады. Спёка была ворагам, які падступіў пад сцены іх дома — крэпасці, форта, замка, што быў абавязаны вытрымаць наступ і абараніць сваіх жыхароў.

Бесперабойная электрычнасць — першае, пра што падумаў Верас. На доме, як на моднай паненцы, хутка з'явіўся новы ўбор: моцныя сонечныя антэны і цеплаўтрымальнікі — яны дазвалялі генератарам выпрацоўваць энергію, каб кандыцыянеры і лядоўні маглі працаваць бесперабойна. Таксама Верас і Нежка паклапаціліся пра ваду. Яны зрабілі пад домам маразільнае сховішча і змясцілі туды вялікі запас чыстага лёду. Там жа знаходзіўся запас ежы. Для кантролю тэмпературы паветра і зямлі Верас пакрыў будынак складанай сістэмай датчыкаў — самых сучасных, дакладных і надзейных.

Верас штурхнуў дзверы свайго дома плячом: металічная ручка была такая гарачая, што магла б пакінуць на далоні глыбокі апёк. Нежка, як заўсёды, сустрэла мужа ўсмешкай і накрытым сталом.

Верас паставіў перад ёй чырвоныя чамаданчыкі.

— Я быў апошнім, хто прыйшоў па іх, — сказаў ён.

— Добра. Знясі ў падполле. Прынясеш іх, калі расплавіцца бурштын, — сказала Нежка і вывесіла за акно сардэчка з камарыкам унутры.

— Нашто ён за акном? — спытаўся Верас. — Дом увесь пакрыты тэрмадатчыкамі.

— Гэта была апошняя просьба спадара Шульца. Я паабяцала. Цябе чакае абед.

Пасля абеду яны закрыліся ў доме і наглуха заткнулі ўсе шчыліны, праз якія спёка магла б пратачыцца ў яго.

Мінуў тыдзень. Потым мінуў другі. Тэлебачанне і радыё даўно не вяшчалі. Горача было на зямлі, горача было і пад зямлёй, палалі трапічныя лясы, дыміліся саваны, таялі арктычныя і антарктычныя льды, і нідзе нельга было схавацца ад нарастаючай, няўмольнай спёкі, якая паглынала ўсё жывое. За акном награвалася жоўтая і празрыстая, бы малады мёд, кропля скамянелай смалы.

На трэці тыдзень кандыцыянеры захліпнуліся і пачалі адзін за адным выходзіць са строю. Верас зірнуў на паказчыкі з датчыкаў тэмпературы.

— Роўна, — сказаў ён. — Я прынясу чамаданчыкі?

Нежка паглядзела на бурштын праз адтулінку ў тэрмаізаляцыі і прытулілася да Вераса.

— Не, пачакай.

— Але ж мы спячомся зажыва.

— Усё роўна пачакай. Хто хоча жыць — умее чакаць.

Датчыкі міргалі чырвоным, пішчалі, як камарыны рой. Яны пішчалі дзень, другі, трэці. Але камар, заточаны ў бурштыне, пагардліва маўчаў і не рушыўся з месца. Верас прынёс чамаданчыкі, аднак Нежка спакойна займалася гаспадаркай і нават не глядзела ў іх бок.

Калі датчыкі задыміліся, Верас не вытрымаў і адкрыў чамаданчык.

І тут знадворку пайшоў дождж.

Ён ішоў, як ідуць у атаку батальёны, — шчыльнымі, роўнымі, цяжкімі шэрагамі, доўга, сурова і неадступна, змываючы з зямлі плямы, якія пакінула спёка. Адбылося тое, што не мог прадказаць ні адзін вучоны: прагнозы не спраўдзіліся, і зямля, калыхнуўшы воссю, пачала астываць.

Калі дождж сціх, Верас і Нежка выйшлі з дому. Нежка зняла з акна бурштынавае сардэчка.

— Нават не абмякла. Такое ж роўнае і цвёрдае.

Верас ускараскаўся на дах. Метадычна, адзін за адным ён браў у рукі тэрмадатчыкі і аглядаў іх.

— Зламаны. Зламаны. І гэты... зламаны.

Верас ускрыў датчык. Потым наступны. І яшчэ адзін. Пасля ён выцер пот з ілба.

— Дык яны... Яны ўсе з бракам, Нежка! Яны выдавалі няправільныя паказчыкі.

Нежка паглядзела на патрэсканы рэкламны шчыт, што ўзвышаўся на скрыжаванні вуліц, і надзела на сябе кулончык з бурштыну.

— Датчык з бракам — не такая вялікая бяда як бракаваная надзея. Спускайся ўніз, — сказала яна мужу. — У нас шмат працы: трэба разбіць сад і зладзіць будачку. Я хачу завесці сабаку.



Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ

# ВЕРШАВАНАЯ ПАМЯЦЬ



***Ірына Чарняўская нарадзілася 20 лістапада 1987 года ў вёсцы Більдзюгі Шаркаўшчынскага раёна. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка і магістратуру пры ім. Аспірантка Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Любіць шумныя кампаніі і ціхія вершы.***

* * *

Жытнія спевы
Лашчаць палі.
Вёска мяняе ўбор.
Лета саспела!
Белы наліў
Градзінамі ў падол

Сыплецца з яблынь —
Толькі б злавіць!
Толькі паспей, паэт,
Спелыя ямбы
Рыфмай спавіць,
Нібы тугі букет.

Лету не спіцца:
Лета знарок
Грэецца, нібы прас.
Шчокі суніцам
Чэрвень апёк —
Папрыгажэлі ўраз!

Спеюць чарэшні…
Водар п’янкі —
Густа-салодкі мёд…
Сціплыя знешне,
Побач шпакі
Аблюбавалі плот

І з хітрых пазіцый
Сочаць за тым,
Як налівае бок,
Як аж свіціцца
Днём залатым
Ў пахкіх чарэшнях сок...

Сонца, як свечку,
Вечар задзьмуў.

Рэха былога дня
Коціцца ў рэчку —
Заўтра яму
Песняй ўставаць са дна.

Песня не спета —
Зноўку пячэ!
Зноў за сабой заве
Звонкае лета…
Колькі яшчэ
Вершаў у ім жыве?..

* * *

Скарачаючы шлях удвая
Ад расстанняў да новых прыездаў,
Хіліць голаў  вясёлка твая
У маю шэравокую бездань.

* * *

Дай спакою маёй галаве.
Ад былых успамінаў аж горача.
Па радках палыноваю горыччу
Вершаваная памяць плыве.

Раскашуе за вокнамі бэз.
Настальгічным ахутае водарам —
І настроем туга авалодае,
І твой голас пачуецца спрэс.

У палоне маім да пары
Ён жыве і на волю не просіцца,
А заціхне — адразу даносіцца
Маліто ўна маё «гавары!»

Дамаўлялася колькі разоў,
Ды ў яго не гаючая місія:
Ён караючай нотай увысь, а я —
Пад нябачнага ката лязо.

Ад расстання да «больш не баліць»,
Кажуць людзі, дарога няблізкая.
Я іду. Вершаванымі нізкамі
Намагаюся шлях скараціць.

* * *

Прыходзь да мяне на вяселле.
Я пільных вачэй не збаюся.
Былыя гаркоты аселі
Рабінай на белым абрусе.

Снягі нашых стрэч і расстанняў
Святочны засыпалі вэлюм.
Дзе макам гарэлі прызнанні,
Там сёння віно ружавее.

На сэрцы спакойна і ясна:
Ні крыўды, ні горкай нястачы.
Прыходзь да мяне, калі ласка,
Я шчыра хачу цябе бачыць.

* * *

Я умею так, каб усё у парадку
з рытмам,
Каб некульгавы дактыль і ніякіх праблем
з анапестам.
Але калі я пішу пра цябе,
то за выключэннем рыфмы,
Філфакаўскія азы ігнарую начыста.
Парушаю усе законы. Набіваю руку.
Ты занадта неадназначны, каб жыць
у традыцыйным радку.



*Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ*

# АПОШНІ ДЗЕНЬ ВОСЕНІ



***Уладзімір Мажылоўскі нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслававa Дубровенскага раёна. Аўтар захапляльных гістарычных аповесцей, напоўненых рамантыкай і радкамі, што просяцца ў цытатнік. Прапанаванае апавяданне ён напісаў, каб паказаць: ад вайны найбольш пакутавалі не мужчыны — жанчыны.***

**1**

Трывожная вестка параненай птушкай уварвалася ў спакойнае, размеранае жыццё Мішневіч — невялікага, на дваццаць пяць двароў, паселішча, што адным бокам прытулілася да мелкай, але свавольнай Обалі. Каваль Фёдар Сапун, які ездзіў да свайго цесця ў Храпавічы, па вяртанні паведаміў, што тры дні таму памёр тамтэйшы пан Васіль і што пахавалі яго на мясцовых могілках побач з раней загінулым бацькам.

Вестка не бог ведае якая важная — кожны дзень на Полаччыне пamiралі людзі, але, атрымаўшы яе, гаспадарыня Мішневіч пані Арына адразу збялела, абмякла — быццам вядро ледзяной вады знянацку вылілі на яе плечы. Хваля пякучага холаду ахінула яе нутро, да горла падкаціў адчай. Да самай глыбіні душы дабраўся холад і яна каторы ўжо раз за апошнія гады адчула сябе маленькай пясчынкай на шырокай пыльнай дарозе, бездапаможнай, пакінутай, нікому не патрэбнай на гэтым свеце. Вестка каваля абарвала апошнюю нітачку, нават не нітачку — павуцінку, што яшчэ падтрымлівала яе кволае жаданне жыць. Гора, адчай, жаласць да сябе, свайго знявечанага жыцця, злосць і нянавісць да сваіх крыўдзіцелей — усё раптоўна абрынулася ў яе нутры са сваіх палічак, змяшалася ў адзін балючы камяк, пачало выпальваць вантробы, ірваць сэрца, спазмамі сціскаць горла. Яна ледзьве стрымала дзікі крык, які вырваўся з яе сэрца і, змятаючы ўсё на сваім шляху, ірвануўся вонкі. Закрыўшы далонямі твар, да крыві закусіўшы вусны, няцвёрдымі крокамі смяротна хворага чалавека яна накіравалася ў адзінае месца, дзе яшчэ магла знайсці нейкае суцяшэнне свайму гору. Гэтым месцам была невялікая каплічка на яе двары. Там, распрасцёршыся ніц на халоднай, выкладзенай дзікім каменнем падлозе яна выпусціла вонкі таго шалёнага звера, што з лютасцю раздзіраў яе грудзі. Працяглым стогнам вырваўся гэты звер на волю, ударыўся аб адну сцяну каплічкі, аб другую, адскочыў ад трэцяй і пад гарачыя словы жаночай малітвы абязволіўся, заціх. А пані малілася. Малілася і прасіла Бога дапамагчы ёй вытрымаць, не зламацца, не здрадзіць свайму каханню,

прабачыць таго, хто раструшчыў яе жыццё і хто быў для яе самым ненавісным чалавекам. Ці чалавекам? Кім быў асабіста для яе вялікі князь маскоўскі — чалавекам ці вылюдкам? На гэтае пытанне яна не магла адказаць вось ужо больш за пятнаццаць гадоў. Пятнаццаць гадоў выбеленага жыцця! Быццам і не было яго, быццам і не жыла! Але жыла. Жыла і кожны дзень чакала, што з наступнай раніцы жыццё зменіцца, спадзявалася на гэта, верыла. А тут усё разам абрынулася — і вера, і спадзяванне, і надзея.

Прыціхла вёска, прыціх панскі двор. Пані знаходзілася адна ў сваёй капліцы, дзе кожны гук, кожны шорах узбуджаў у ёй пакутлівыя прадчуванні жорсткай незваротнасці, яна зноў і зноў падала на калені, заходзілася ў вар'яцкім галашэнні і малілася, малілася, малілася. Малілася апантана, да бяспамяцтва, да поўнага знясілення. Глыбокая пашана, святая адлучанасць ад усяго зямнога нябачнымі прамянямі зыходзілі ад яе і яна сваім аголеным сэрцам адчувала, якім чыстым і цнатлівым павінен быць Божы свет, у якім павінны жыць людзі. І ў той жа час, у думках наноў перажываючы сваё жыццё, яна адчувала страх ад безвыходнасці, аднастайнасці, пакорлівасці і ўбогасці таго свету, які стварыў для сябе чалавек і ў якім ён жыве. Яе перапаўняў боль ад таго, што яна не змагла да канца супрацьстаяць злу, хаця і працівілася яму ўсё жыццё; што была пакорлівай няпраўдзе і, здаралася, закрывала вочы, каб не бачыць яе, не чуць, не ведаць; што баялася і саромелася сваіх пачуццяў, берагла іх, адкладвала на потым. Ад шчымлівага пачуцця поўнай адзіноты і безвыходнасці не хапала паветра, збівалася дыханне, сціскала горла. Нясцерпна хацелася вярнуцца назад у бесклапотнае дзяцінства, адчуць на сваіх валасах мяккую далонь маці, усміхнуцца з няхітрага жарту бацькі, і разуменне нерэальнасці, немагчымасці гэтага вырывалася з яе стогнамі, вылівалася горкімі слязьмі. Жыццё адно, і яго не пераробіш, не спыніш, назад не павернеш. Нават памылкі не ўсе можна выправіць, не ўсе грахі замаліць, а тое, што ўжо зроблена, адышло ў мінулае і чалавеку не падуладна.

Дзве служкі, якія дапамагалі ёй распранущца перад сном, маладыя і румяныя, поўныя жыццёвае моцы, стаялі пад дзвярыма і цярпліва чакалі.

Пані Арына выйшла з каплічкі, калі халодная ноч апошняга лістападаўскага дня шчыльна ахінула наваколле. Яна была маўклівай, змрочнай, змучанай душэўнымі пакутамі і доўгім маленнем. Твар яе быў шэрым, бы дрэнна выбеленае палатно, вялікія чорныя вочы ўваліліся і нагадвалі дзве адтуліны ад куль, вакол куткоў вуснаў утварылася густая сетка дробных маршчынак. Аднак яна ўсё роўна заставалася прыгожай. Ні нясчаснае замужжа, ні працяглае ўдаўства, ні яе пустэльніцтва не маглі перамагчы яе душы і цела. Да гэтага дня яна шчыра верыла ў сваё шчасце, берагла сябе, таму па-ранейшаму заставалася здаровай і велічнай.

Убачыўшы пані, служкі схілілі галовы. Арына некалькі імгненняў няўцямна глядзела на іх, потым кволая ўсмешка расцягнула яе вусны.

— Пойдзем спаць, дзяўчаты, — замагільным голасам прагаварыла яна і накіравалася да спальнага пакоя.

## 2

У спальні панаваў змрок. Адзіная свечка, што стаяла ля ложка, даўно аплыла і амаль не давала святла — толькі кідала на сцены няроўныя, палахлівыя цені.

— Зрабіце святлей, — загадала гаспадыня і, пакуль адна са служак мяняла свечку, пацікавілася:

— Што новага ў вёсцы?

— У Фёдарыхі сёння мядзведзь-шатун мужыка ў лесе задраў, дык баба бегала на рэчку тапіцца. Ледзь выратавалі гаротніцу.

— Так кахала мужа?

— Кахала ці не — не ведаю, але засталася яна адна з пяццю дзецьмі, старэйшаму з якіх яшчэ і дзесяці няма... Гора бабе адной.

— Што яшчэ? Што кажуць пра смерць пана Васіля з Храпавічаў?

Адна, старэйшая, якая вазілася са свечкай, зрабіла выгляд, што не пачула пытання. Другая перастала рассцілаць ложак, выпрасталася.

— Нічога не кажуць, — голас яе гучаў няўпэўнена. — Спачуваюць толькі, што памёр рана.

— Дзіва, што яшчэ да зімы дацягнуў, — уступіла ў гутарку другая, — бо прывезлі яго з-пад Полацка ледзьве жывога, усяго пасечанага.

Пані Арына больш не стала затрымліваць служак.

— Можаце ісці, — ледзь чутным голасам прагаварыла яна, — я сама распрануся. А пра Фёдарыху, Аксіння, нагадай мне заўтра раніцай.

Калі дзяўчаты выйшлі, яна, бы падкошаная, павалілася на разасланы ложак. Плечы яе затрэсліся, а цішыню спальні разадралі нечалавечыя стогны — так скуголіць ваўчыца, калі бачыць галодныя вочы сваіх ваўчанят. Аднак праз нейкі час яна ўсё ж суцішылася, павольна прыўзнялася, села на ложак. Потым у цемры распранулася, легла і з галавой накрылася кодрай.

І адразу падзеі апошніх гадоў абрынуліся на яе вадаспадам, яна не магла нават выбраць галоўнае з успамінаў, што нахлынулі. Раней перад сном яна часта марыла аб сумесным з Васілём жыцці, уяўляла, як разам з ім будзе весці гаспадарку, выхоўваць дзяцей, ездзіць у царкву, госці. Потым, калі прайшла чутка, што яе Васілёк загінуў пры абароне Полацка і яе, беспрытомную і абязволеную, аддалі за пана Фёдара з Чарніцы, яна марыла аб хутчэйшай смерці, каб там, на небе, сустрэць свайго любага. Аднак і з Фёдарам у яе жыцця не атрымалася, бо загінуў ён недзе пад Улаю ў студзені шэсцьдзесят чацвёртага, і ў свае няпоўныя сямнаццаць гадоў яна стала былой нявестай аднаго і ўдавой другога. Незайздросны пачатак жыцця. Але, як вядома, кожны пачатак канцом шчаслівы, і ўсё было за тое, каб жыццё яе ўсё ж такі ўдалося, наладзілася.

У адна тысяча пяцьсот шэсцьдзесят сёмым годзе вярнуўся ў Літву з маскоўскага палону былы ваявода полацкі Давойна. Разам з ім вярнулася некалькі дзясяткаў ліцвінскай шляхты, у тым ліку і Васіль з Храпавічаў. Колькі было радасці! А шчасця! А надзей! Здавалася, што жыццё адновіцца, што ўрэшце спраўдзяцца яе спадзяванні, летуценні і мары. Аднак не затрымаўся шляхціц надоўга ў радавым гняздзе. Толькі і пацешыў яе адным наведваннем, і то — развітальным.

— Чакай, любая, — як зараз чуе яна яго апошнія словы. — У палон ворагу я ўжо больш не дамся.

Палічыў, пэўна, што сказаў дзяўчыне самае важнае, самае галоўнае. Сказаў і з'ехаў з дзясяткам такіх жа, як сам, у войска Радзівіла. Але і ад гэтых слоў яна ажыла. Зноў расквітнела, пачала сніць тое, што перарвала недарэчная чутка аб яго смерці.

«Божа ж мой! Пятнаццаць гадоў мінула з тых падзей, а яны стаяць перад вачыма, бы адбыліся толькі заўчора. Пэўна і ў труну лягу разам з імі!»

Пані Арына прыўзнялася, каб ямчэй сесці, уладкавала падушкі, пашукала позіркам кут, дзе віселі абразы і дзе ледзь прыкметна міргала полымя каганца. Яна перажагналася раз, другі, трэці, закрыла твар рукамі, заплакала. На гэты раз заплакала з палёгкай, быццам там, у цёмным куце, убачыла душу таго, пра каго марыла і за каго перажывала ўсё сваё жыццё. Выплакаўшы чарговую порцыю гора, яна адкінулася на

падушкі, і адразу на яе наплыла светлая, шчымлівая хмара ўспамінаў. Бы праз лёгкі вэлюм яна ўбачыла мінулае. Аказваецца, яно ніколі не знікала ў небыццё, яно жыло недзе побач, а магчыма, і ў ёй самой. Яно было напоўнена тымі ж гукамі, пахла тымі ж пахамі, гучала тымі ж словамі, і чым далей прасцірала памяць свае крылы, тым яскравей яно бачылася, тым было паўней і праўдзівей.

**3**

Лета 1562 года было шчодрым на цяпло і дажджы. Усё квітнела і зелянела, бы на добрай заквасцы. Ураджай абяцаў быць добрым і гэта ўсіх радавала.

Неяк у канцы жніўня на двор пана Андрэя Мішневіча заехала двое конных шляхціцаў, па знешнім выглядзе — бацька і сын. Маладзейшы першым саскочыў з сядла і дапамог старэйшаму спусціцца на зямлю. Перадаўшы коней слугам, прыезджыя нейкі час абдымаліся з гаспадаром, потым, па яго запрашэнні, накіраваліся ў хату.

І ўжо ў хаце, прадстаўляючы нечаканых гасцей жонцы, пан Мішневіч паведаміў, што са старэйшым госцем, панам Міхалам з Храпавічаў, ён даўно знаёмы і ў маладосці яны неаднаразова з харугвай Корсака хадзілі і на татар, і на маскавітаў.

— Слаўныя то былі часы, — пры гэтым гаспадар хітра ўсміхаўся і, непрыкметна ківаючы сябру на сваю жонку, запытаўся: — А памятаеш, Міхал, колькі віна мы захапілі ў асаджаным намі Іслам-Кермені?

— О-о-о! — закаціў вочы пан Міхал. — І якога віна!

Але гаспадыня адразу зразумела гульню мужчын.

— Ну, татарскім вінам я вас не пачастую, — бесклапотна ўсміхнулася яна ў адказ мужу, — а вось гарэлкі, настоенай на нашых суніцах, збанок выстаўлю.

— Насценька, — узмаліўся той, — што такое збаночак жаночага напітку для трох слаўных шляхціцаў!

— Добра, аддаючы належнае вашаму геройскаму мінуламу, выстаўлю збан акавіты.

Гаспадар у знак падзякі задаволена хітнуў галавой і праз імгненне пацікавіўся:

— А дзе Арына? Трэба і яе пазнаёміць з маім баявым сябрам і яго сынам.

Вось тады яна ўпершыню і ўбачыла малодшага сына пана Храповіча, Васіля.

Яна ўжо чула, што яму споўнілася дваццаць гадоў, аднак яго хударлявасць і хваравітая бледнасць настолькі яго маладзілі, што ён падаваўся намнога маладзейшым. Маладзіла яго і адсутнасць шчаціны на твары, а ледзь прыкметны пушок на шчоках і барадзе толькі падкрэсліваў выразнасць і глыбіню яго праўдзівых вачэй. Росту ён быў невысокага. Светлыя валасы, пэўна, пасля хваробы, былі коратка абстрыжаны, і таму вушы госця дзяўчынцы падаліся вялікімі і адтапыранымі. Усё гэта разам з вясёлымі вачыма і шэльмаватым выразам на твары рабілі яго падобным да вясковага хлапчука-гарэзы, якому толькі і карціць зрабіць нейкае свавольства.

Таму першае ўражанне ад малодшага Храповіча ў дзяўчыны было абыякавым — не ўразіў ён яе ні сваім ростам, ні сваёй постаццю, ні сваёй прыгажосцю. Не такімі яна ўяўляла сапраўдных рыцараў, пра геройскія подзвігі якіх ведала з кніг, што знаходзіліся ў бібліятэцы бацькі. Не такім сніла свайго будучага мужа.

Пакуль служкі накрывалі на стол, а гаспадыня з дачкой пераапраналіся, мужчыны завялі гутарку пра мясцовыя навіны. Гэтых навін было небагата, таму размова хутка перакінулася на палітыку і вайну Маскоўскага княства з Інфлянтамі[1]. Дзівіліся незразумелай жорсткасці маскавітаў, іх састарэлай тактыцы баявых дзеянняў. Васіль жа сядзеў задумлівы і маўклівы. Ён нават не прыслухоўваўся да размовы старых

шляхціцаў. А тыя, не саромячыся прысутнасці служак, бэсцілі ўсходніх суседзяў і ў хвост, і ў грыву.

— Сустрэў я неяк у Полацку свайго знаёмага з Браслаўскага павета пана Ігнатовіча, — як вялікі сакрэт, паўшэптам паведаміў гаспадар. — Ён апавядаў, што маскоўцы проста звар'яцелі ад безабароннасці і пакорлівасці латгалаў, ад подласці і срэбралюбства нямецкіх рыцараў. Ён мне такіх жахаў панарасказваў, што я многаму з расказанага ім не паверыў, а пра тое, у што паверыў, не хачу расказваць пры жанчынах.

— Мы і так ведаем, што там, дзе маскавіт праходзіць, зямля падымаецца ад могілак. Зямлі становіцца больш, а аратых менш.

— А цар іх, Івашка…

— Ды які ён цар! — груба перапыніў на паўслове сябра пан Міхал. — Нявартьі ён царства… Няварты! Ды ён і сам ведае пра гэта! Цудоўна ведае і ад гэтага, сволач, яшчэ больш мітусіцца, злараднічае, ліхадзейнічае! Ведае сабака, чыё мяса з'еў! Баіцца ён не толькі сваіх дзіцячых успамінаў. Страшна яму, што вакол яго ёсць князі, па сваім нараджэнні больш годныя на вялікакняскі трон, таму і нішчыць ён гэтых высакародных, высякае тых, каго апаіў словам сваім хлуслівым, аблудным. Ён абрынуў мараль хрысціянскую, растаптаў яе, падмяніў распустай… Не цар ён, братка, не цар! Ён вырадак семя жлукты Аўчыны-Абаленскага, якое выспеліла ў сваёй вантробе распусная дзеўка Алена Глінская[2]… Ён служка д'ябла!

— Ты, Міхал, ужо хапіў!

— Крый Божа сутыкнуцца з гэтым вылюдкам сам-насам на вузкай сцяжынцы. Для яго подласць і словаблуддзе — самыя каштоўныя чалавечыя якасці. Такіх людзей ён любіць, адзначае, набліжае да сябе, а тым, хто хоча жыць па хрысціянскіх запаведзях, — употай ламае хрыбет ці прылюдна сячэ галовы…

Пан Міхал расказаў бы яшчэ нешта новае ды цікавае пра маскоўскага вялікага князя Івана, але ў пакой зайшлі маці з дачкой, і шляхціцы перапынілі сваю гутарку, узняліся.

— А ў вас, акрамя як пра вайну, і размаўляць больш няма пра што, — спынілася ў дзвярах гаспадыня.

Пані Анастасія, не пакрыўджаная ні Богам, ні прыродай, побач са сваёй пятнаццацігадовай дачкой выглядала не як яе маці, а як яе старэйшая сястра. Невысокая, хударлявая, з прыгожым прамым носікам і пунсовымі, створанымі для пацалункаў, вуснамі яна была вельмі прывабнай, пра што ведала і чым карысталася. Вось толькі вочы не пасавалі да яе вобліку. Яны жылі дарослым жыццём, па іх можна было зразумець, што іх уладальніца — жанчына, якая нямала перанесла цяжкасцей за свае трыццаць тры гады і добра ведае сапраўдны кошт не толькі чалавечым учынкам, але і словам.

Убачыўшы жонку, пан Андрэй расквітнеў ад захаплення.

— Ну чаму няма? — ён наблізіўся да Насці, асцярожна падхапіў яе за локаць, павёў да стала. — Пра вайну мы ўспамінаем толькі ў цвярозым стане, а як вып'ем — размаўляем выключна пра вас, нашы любыя жанчыны.

— Ведаю, пра якіх жанчын вы тады ўспамінаеце, наслухалася за сваё жыццё.

— Ну-у, — не знайшоў, што адказаць гаспадар. Ён разгублена азірнуўся на сябра і пацiснуў плячыма: — Гэта мы так жартуем!

А пані Анастасія працягвала:

— Вось вы ўсё ваюеце, забіваеце адно аднаго, калечыце, а нам, жанчынам, потым адаграваў вашы сэрцы, каб яны не скамянелі, не згарэлі, не ператварыліся ў чорныя галавешкі… І калі вы так ужо не можаце жыць без войнаў, то не чапайце хаця б нас потым, не прымушайце пакутаваць, не ганьбіце за свае ж грахі.

Муж у адказ толькі цяжка ўздыхнуў.

Селі за стол, які ламаўся ад розных страў і прысмакаў. Тут смачна дыміўся тлусты гусак, якога служка толькі што дастала з печы і абкладвала мочанымі яблыкамі. Побач зыходзіла бурштынавым тлушчам смажанае свінчо. Яно быццам бы ўсміхалася сваімі паўзамкнёнымі пашчэнкамі і радавалася, што паслужыць такім людзям. Тут жа ляжалі пірагі з вантробамі і грыбамі, каўбасы вараныя хатнія і вэнджаныя на ядлоўцы, стаялі місы са студнем, вэнджанай і заліўной рыбай. Два пачарнелыя ад часу срэбраныя падсвечнікі на тонкіх вітых ножках высвечвалі збаны з духмяным півам, глякі з мясцовай аераўкай і медавухай.

— Ух ты! — перахапіла дух у пана Міхала ад густога апетытнага паху. — Ды за такі стол і вялікага князя пасадзіць не сорамна.

Гаспадар уладкаваўся ў галаве стала. Па левую яго руку села жонка, па правую — старэйшы з Храповічаў, і так атрымалася, што Арына размясцілася насупраць сына баявога бацькавага сябра.

Здавалася, што Васіль і не заўважаў Арыны. Ён моўчкі піў, але піў нямнога, моўчкі закусваў, на пытанні адказваў сцісла ці наогул толькі хістаў галавой. Але час ад часу дзяўчына лавіла, часцей — адчувала на сабе яго цікаўны позірк, і гэта яе забаўляла.

Пасля абеду гаспадары і госці перайшлі ў гасцінную, каб крыху перавесці дух, пакуль служкі памяняюць на стале посуд і закускі. Убачыўшы на сцяне лютню, пан Храповіч звярнуўся да Анастасіі:

— Гэта вы, паважаная пані, граеце на такім далікатным інструменце?

— Некалі спрабавала, — сціпла адказала гаспадыня і перавяла позірк на дачку. — Цяпер на ёй музіцыруе Арынка.

— А можна папрасіць вас, яснавяльможная панначка, заспяваць нам штонебудзь? — пан Міхал ветліва паглядзеў на Арыну.

— Калі гэта вам прынясе асалоду, — усміхнулася ў адказ дзяўчына і зняла са сцяны музычны інструмент.

Нейкі час яна задумліва вадзіла пальцамі па яго струнах, ці то збіраючыся з духам, ці то прыпамінаючы словы адпаведнай песні. Потым меладычным галасам заспявала:

Ведай жа, рыцар, табе не схавацца
Ні ў полі, ні ў лесе, ні дома.
Як ні ўцякай ты, а сэрца параніць
Злая страла Купідона.

— Во дае! — шэптам выказаў сваё захапленне спевам пан Міхал.

Арына працягвала:

Нават героя шчыт не ўратуе
Ад вострыя ракавога,
Дзе ж там схавацца маленькай птушцы
Горліцы белагаловай!

— Гэтыя белагалоўкі баяцца купідонавых стрэл, бы кошкі мышэй, — шэптам адказаў сябру пан Андрэй і, задаволены, засмяяўся.

Госці з'ехалі пад вечар. Яны доўга развітваліся з панам Андрэем і яго сям'ёй, абдымалі гаспадара, пакрывалі пацалункамі рукі гаспадыні, слёзна запрашалі наведаць з візітам у адказ іхні двор, абяцалі не забывацца пра іх гасціннасць. І слова сваё стрымалі. Ва ўсялякім разе адзін з іх: Васіль амаль кожны дзень наведваў Мішневічаў. Спачатку свае візіты ён тлумачыў нейкімі дробязнымі справамі да пана Андрэя, затрымліваўся ў яго ненадоўга і толькі дзеля ветлівасці вітаўся з пані Анастасіяй і Арынай, прычым чырванеў пры гэтым бязбожна.

Васіль у прысутнасці Арыны спачатку паводзіў сябе нясмела і скавана, а яна ці то з пачуцця спагады, ці то ад уласцівай ёй міласэрнасці адносілася да яго як лекарка да хворага дзіцяці. Аднак з кожным днём іх узаемаадносіны станавіліся смялейшымі, усё часцей з альтанкі, дзе бавілі час маладыя, даносіўся звонкі смех, і пані Анастасія ўжо не працівілася іх сустрэчам сам-насам. А Арына, чым бліжэй пазнавала Васіля, тым больш захаплялася яго дасціпнасцю і сціпласцю, шчырасцю і свавольствам, яго дабрынёй і прыстойнасцю. Зусім не прыкметна для сябе яна закахалася. А ў канцы верасня нават дазволіла яму пацалаваць руку…

Успомніўшы гэты эпізод са свайго жыцця, яна сумна ўсміхнулася: «Якой я была тады шчаслівай! Той восенню я спазнала, што значыць быць каханай і што такое рай на зямлі!»

У пачатку кастрычніка пры развітанні пан Андрэй даўжэй затрымаў далонь хлопца ў сваёй руцэ.

— Так ты, хлопец, хутка ўсіх бацькавых коней запаліш. Хопіць табе гойсаць сюды-туды... Прысылай сватоў.

**4**

Недзе перад Пакровам, адвячоркам — Арына ўжо збіралася класціся спаць — на іхнім панадворку з'явілася шумная кампанія. Незнаёмыя людзі гучна пра нешта спрачаліся, некаторыя нават размахвалі рукамі.

— Што за чорт? — пан Андрэй быў заклапочаны. — Не хапала яшчэ перад сном валтузіцца з нейкімі жлуктамі. — Ён непрыкметна падміргнуў жонцы і кіўнуў на Арыну: «Няхай апранецца ў лепшы свой строй», а ўголас працягваў: — Трэба ісці ўсё ж разабрацца.

— Ты толькі, Андрэйка, не бі іх моцна, — папрасіла Насця. — А можа, і ў хату запрасі.

— Навошта яны тут, мама? — здзівілася словам маці Арына. — Няхай падалей едуць адсюль.

— У хаце і паглядзім, што з імі рабіць. А ты, дачушка, пераапраніся пакуль. Нягожа шляхцянцы сустракаць гасцей у адной кашулі.

Арына не стала спрачацца і выйшла ў другі пакой. Яна чула, як бацька гучна запытаўся ў незнаёмцаў, хто яны такія і як заблудзілі да іх у вёску. Тыя пачалі расказваць пра нейкую цялушку, пра куніцу, якая ўцякла ад іх і якую яны хочуць пашукаць на іх двары ды просяць у бацькі дазволу. «Нейкія нягеглыя купцы, — падумала Арына пра шумных незнаёмцаў. — Гэта ж трэба ноччу пагубляць цялят, а потым шукаць іх па чужых дварах!» Хутка гамонка з панадворка перамясцілася ў хату, і толькі калі Арына па просьбе маці выйшла са свайго пакоя, яна сціхла. Нейкі час панавала цішыня, якую парушыў мажны незнаёмец. Ён з вясёлым ззяннем у вачах: «Пэўна п'яны!» — падумала дзяўчына, — агледзеў Арыну і запытаўся:

— Ці можам мы ў вашай хаце пагасціць, вашу нявесту пабачыць, а вам нашага маладога паказаць?

«Што адбываецца? — не на жарт занепакоілася Арына. — Якую нявесту? Якога маладога?»

Згадаўшы свой спалох, жанчына стрымана ўсміхнулася. Светлыя ўспаміны яе кароткага шчасця! Як хораша прыгадваць, але шкада, што іх было так мала!

Першым сярод незнаёмцаў яна пазнала ўзрушанага і расчырванелага пана Міхала, а Васіля ўбачыла ледзь ці не апошнім. Быў ён нейкі ціхі, збянтэжаны,

стараўся схавацца за чыю-небудзь спіну, бы саромеўся гэтага шуму і гвалту. «Як баіцца, што бацька ім выставіць гарбуза, — адразу зразумела страх Васіля Арына. — Не бойся, не выставіць!»

За сталом сядзелі доўга: спачатку выпілі збан гарэлкі, што прывезлі сваты, потым пан Андрэй выставіў яшчэ большы гляк сваёй аераўкі, потым, зразумеўшы, што бацькі нявесты не супраць такога жаніха, усе частаваліся і гаманілі. Паехалі госці пад раніцу. «Вось ты, дачушка, і нявеста, — пасля іх ад’езду пані Анастасія абняла дачку, — хутка ў цябе будзе іншае жыццё!»

Аднак іншага жыцця не атрымалася, бо амаль адразу пасля заручын Васіля і ўсю навакольную шляхту полацкі ваявода пан Станіслаў Давойна склікаў у Полацк, а праз тыдзень на тэрыторыю Полаччыны ўварваліся першыя атрады маскавітаў. Яны рабавалі паселішчы, маладзейшых бралі ў палон, старэйшых — бязлітасна высякалі. Яны, бы зграі ашалелых ад крыві ваўкоў, насіліся на сваіх нізкіх махнатых конях па памежжы Літвы[3], пакідаючы пасля сябе толькі папаленыя паселішчы. Бы чорныя вестуны смерці, яны сеялі вакол сябе толькі смерць, разбурэнні і пажарышчы. Іх адразу ахрысцілі служкамі д’ябла, памагатымі Люцыпара.

Не зважаючы на мароз, палачане пакідалі сваё жытло і разам з хатняй жывёлай шукалі паратунку ў лесе.

— Праўду казаў пан Міхал, што маскавіт пакідае пасля сябе толькі магілкі, — урэшце паверыў свайму сябру пан Андрэй. Ён, як і многія старэйшыя шляхціцы, збіраўся ў апалчэнне. — А вы, мае даражэнькія, перачакайце пакуль навалу ў лесе — хутка мы навядзём тут ранейшы парадак.

Сказаць лёгка — зрабіць аказалася цяжка, а калі Полацк аблажыла велізарнае войска маскавітаў на чале з царом, то вера ў праўдзівасць слоў старога воіна наогул аказалася мізэрнай. Праўда, надзея на перамогу трымалася амаль да сярэдзіны лютага. «Нашы не здаюцца! Нашы трымаюцца! Нашы б’юць маскавіта!» — такія чуткі невядомымі шляхамі даходзілі да лясных жыхароў, і яны радаваліся, верылі, чакалі перамогі і вяртання сваіх родных.

А потым наваколле абляцела страшэнная вестка аб падзенні Полацка і жудаснай смерці яго абаронцаў. Вестка, якая пазбавіла Арыну розуму і тады, спалохаўшыся яе вар’яцкай адлучанасці, маці прыняла прапанову суседа Фёдара з Чарніцы і пагадзілася на яго шлюб з дачкой.

Нават цяпер успамін пра той час адгукаўся пад сэрцам тупым, шчымлівым болем, і чым даўжэй яна думала пра гэта, тым бліжэй падступаў боль, тым трывожней білася сэрца. Аднак усё гэта было на самай справе, даўно, але ж было! Хаця і ўспаміналася неяк сарамліва, цьмяна, невыразна, быццам адбывалася не з ёй, а з нейкім яе знаёмым. Што рабіць з гэтымі ўспамінамі, Арына не ведала. Яны, бы скалечаныя дзеці, нічога, акрамя пакут і бяссонных начэй, прынесці не маглі і не прыносілі. Яны не жадалі жыць мірна са светлай памяццю пра Васіля, бунтавалі, адмаўляліся разумець яе да яго каханне. Яны займалі зусім іншае месца ў яе галаве і ўвесь час нагадвалі: «Тваім законным мужам быў Фёдар, а не Васіль!», і мелі на тое поўнае права.

**5**

Свечка некалькі разоў міргнула і канчаткова згасла. У пакоі на нядоўгі час усталявалася поўная цемра, пасля якой ён паступова пачаў запаўняцца начным святлом. Ярчэй забялела на чорнай сцяне акно і праз яго разам з мутным, мёртвым ззяннем месяца ў памяшканне паплылі няясныя, размытыя цені. Яны то памяншаліся ў памерах, то павялічваліся, то наогул бясследна раствараліся ў крохкім нежывым святле. «Пэўна, душы маіх дзядоў збіраюцца на нейкую нараду!» Ёй нават падалося, што яна не толькі бачыць, але і чуе іх няясны шэпт, разумее яго. Жанчыне стала жудасна. Гэты жах вырваўся стогнам і, як ні дзіўна, ад яго ёй адразу ж палягчэла. Цені зніклі.

Ачуняўшы, Арына яшчэ раз паспрабавала легчы і заснуць. Аднак, заплюшчыўшы вочы, яна адчула нясцерпнае галавакружэнне, якое прымусіла яе зноў прыўзняцца ў ложку і адкінуцца на падушкі. Яна глядзела на светлую пляму акна, імкнучыся ні пра што не думаць, спрабуючы забыцца сном. Але з гэтага нічога не атрымлівалася: адны думкі адступіліся, другія, яшчэ больш паскудныя, уюнамі вярцеліся ў галаве. Для чаго я тут? Каму патрэбна? Хто можа адказаць на гэтыя пытанні? Хто зможа супакоіць мой розум? Чалавек нараджаецца, жыве і, стаміўшыся ад жыцця, пераходзіць у іншы свет. Адны сыходзяць самі, другім дапамагаюць гэта зрабіць іншыя, аднак для кожнага працэс гэты нязменны і незваротны. Колькі людзей жыло да мяне! І колькі яшчэ будзе жыць пасля маёй смерці! Хто пра мяне ўспомніць і каму будуць цікавымі маё каханне, вернасць, гора і перажыванні? Дзеля чаго мы жывём? Ці адказаў хаця б адзін з тых, хто пакінуў гэты свет, на гэтыя пытанні? Жыць для сябе і свайго роду! Жыць дзеля самога жыцця! Дзеля дзяцей, каб дзеці нарадзілі сваіх дзяцей, а тыя — сваіх! Навошта такі кругаварот і ці вечным ён будзе? «Вось вы для нечага сабраліся тут у маім пакоі, а скажыце: ці ведаеце вы праўду аб жыцці, ці спасцiглі вы яе, ці зразумелі яе там, за мяжой?» — жанчына яшчэ нейкі час чакала адказу ад сваіх дзядоў, імкнулася позіркам, слыхам злавіць яго. Аднак у пакоі было ціха, і ёй з цяжкасцю верылася, што яна сама яшчэ жывая, што не ператварылася ў лёгкае воблачка.

Раптам перад яе вачыма паўстаў вобраз бацькі. Яго строгі і ў той жа час ласкавы твар то выразна выдзяляўся ў цемры, то ў ёй расплываўся. «Пасля смерці мы пераходзім у вас, жывых, — адчула яго словы Арына. — Так мы дапамагаем вам, жывым, аберагаем вас, ратуем. Вы называеце гэта памяццю…» Вобраз бацькі, не паспеўшы дагаварыць, нечакана знік, растварыўся. Значыць, праўда ў памяці? Хто не ведае свайго мінулага, той не жыве? І хаця Арына разумела, што калі гэта сцверджанне і праўдзівае, то яно няпоўнае, ёсць яшчэ і другія складнікі праўды. Аднак яна ўсё ж крыху супакоілася, выцерла са шчок слёзы, ямчэй уладкавалася на падушках.

**6**

Успаміны выцягвалі з далёкіх куточкаў памяці самае патаемнае, такое, пра што яна саромелася думаць і пра што ніколі не расказвала нават на споведзі бацюшку. Тут жа яна не саромелася, бо спавядалася перад душой свайго любага, свайго адзінага. Яна спавядалася свайму Васілю, верыла, што душа яго недзе побач, што ён чуе яе думкі, і няхай пасля смерці, аднак зразумее яе і… прабачыць. Як гэта добра, калі верыш! Верыш сабе, верыш сябру, верыш у Бога. Вера ратуе чалавека лепей за любую браню, і толькі той, хто шчыра верыць, можа дасягнуць самага неверагоднага. А таму, пэўна, праўда і ў веры! Чаму пра гэта прамаўчаў бацька?

Слёзы цяклі з вачэй Арыны і па дробных маршчынках сплывалі на падушку. Але яна іх не заўважала — перад ёй, бы жывы, стаяў яе Васілёк. Не той, увесь паранены і знявечаны, якім яго прывезлі з-пад Полацка, а малады, невысокі, але прыгожы і зграбны, з блакітнымі вачыма, моцнымі рукамі — такі жаданы і такі любы. І яна зразумела, чаму бацька не дагаварыў. Ён ведаў адказы, аднак хацеў, каб яна сама знайшла іх у сабе і зразумела тое, пра што ён змаўчаў. І да Арыны дайшло — праўда ў каханні! Яна цяжка выдыхнула ў цемнату пакоя: «Я ўсё жыццё кахала толькі цябе, маё сонейка, чакала, спадзявалася! Я так табе верыла, а ты пакінуў мяне адну, пакінуў у адзіноце!» і зноў заплакала.

Няма на свеце нічога страшнейшага за адзіноту. За адзіноту не фізічную, бо амаль заўсёды паблізу ёсць людзі. За адзіноту душэўную, калі ніхто не падзеліцца з табой сваім горам, сваімі страхам і перажываннямі, калі ніхто не аголіць перад табой сваёй душы, ніхто не прылашчыць цябе хаця б словам ці позіркам. І калі так працягваецца да скону, то жыццё ператвараецца ў сапраўднае пекла, а смерць тады падаецца жаданым збавеннем». А мо і я даўно памерла, бо душа мая не прачынаецца? Яна не адчувае ні цяпла, ні холаду, ні ласкі, ні пяшчоты, ні злосці, ні адчаю. Яна даўно захлынулася ад бясконцага маўчання і адзіноты. Не, я яшчэ жывая. Хаця што такое смерць, чаго яе баяцца? Як такой яе няма. Гэта слова прыдумалі людзі, каб абазначыць мяжу, што падзяляе розныя формы жыцця. Больш таго, жыццё на зямлі — гэта праверка перад жыццём нябесным, выпрабаванне тваёй праўды. Не зразумела яшчэ гэтага Фёдарыха, ледзьве не здрадзіла свайму роду, сваім дзецям. Трэба ёй дапамагчы, заспакоіць, даць добрую карову, каня, а магчыма, і новага гаспадара пашукаць, бо не дарэмна ж бацюшка кажа, што праўда і ў патрэбе рабіць дабро».

Жанчына паднялася, паправіла падушкі, зноў легла пад коўдру.

За акном скавытаў марозны вецер, сек калючым снегам па сценах, скрыгатаў па аконнай слюдзе. «Першы дзень зімы, — абыякава адзначыла Арына і заплюшчыла вочы. — Але як не хочацца спаць, а яшчэ больш — прачынацца. Бо за наступным днём прыйдзе наступная ноч, гэткая ж бяссонная і таму бясконцая. Ды і навошта яны, гэтыя наступныя дні і ночы, калі душу маю смяротна паранілі там, пад Полацкам, і яна канчаткова памерла ўчора, у апошні дзень восені».

КАМЕНТАРЫІ:

[1] **Інфлянты** — тэрыторыя сучасных Латвіі і Эстоніі.

[2] Існуе меркаванне, што бацькам Маскоўскага вялікага князя Івана Васільевіча Жахлівага з'яўляецца не Васіль III, а палюбоўнік яго другой жонкі Алены Глінскай баярын Аўчына-Абаленскі.

[3] **Літва** — скарочаная назва Вялікага Княства Літоўскага.



Айцец ЯЎСТАФІЙ
(ХАЛІМАНКОЎ)

# Віленскі лямант

***Плачучи проплака в ночи,***
***И слезы его на лице его.***
***Несть кто бы и потешил.***
***Вси друзи его погордели им,***
***и сталися суть врази ему…*** [1]

О, Вільня, Вільня!..
Замкавая гара.
Гедэмінава вежа.
Юнацтва з пасмай ранняй сіvoты,
плачучы я праплакаў
ночку і дзень мой,
і слёзы мае, што пітво мне,
і горкі камяк у горле — нажом —
ежа мне.
Няма каму суцешыць мяне —
сябрына мая разышлася па свету
і па сустрэчы ваўкамі напалі,
крояць вантробы мае
пытаннямі…
*А хто там ідзе,*
*А хто там ідзе…*
Хуценька, хутка…
Не гані, пане,
хопіць усім
срэбранікаў
па чарзе.
Дык
хто
*Ў агромністай такой чарадзе?*
*МЫ…*
Грахххх!
Я зрываюся, я не паспеў адказаць
Анічога! Хоць і хацеў, братка мой,
але ж не паспеў…
Толькі певень-алектар тройчы ўжо
згаласіў — ты сваё ўсё сказаў,
што мог, што сапраўды
хацеў-не хацеў.

О, Вільня, Вільня!..
Гара Трох крыжоў,
дзе заблукаў я, нібыта ў трох
народах тваіх — у трох
прасторах, адно аднаму паралельных.

Вільня, мая жывая яшчэ маладосць,
навошта прыйшоў я сюды,
каб апынуцца — вочы ў вочы
з праўдай, якая выгрызла
хворае сэрца маё
дашчэнту.
Страшна прызнацца сабе

[1] *Кніга «ПЛАЧЬ ЕРЕМИИ» — з Біблії перакладу Францішка Скарыны (Прага, 1519 г.).*

*Малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ*

ў тым, чаго не было
і чым трызніў ты ўсе
дваццаць год суцэльнай
вялікалітоўскай ілжы.

Што табе трэба, басяк?
На, каўтані, ды ідзі ўжо,
хоць захлыніся,
Хопіць хлусні
на ўсіх.

О, Вільня, Вільня!..
Брама Святая,
Божая Маці,
І вершнік
з мячом —
куды скачаш ты
на гібель сабе…
Не будзе старасці, дружа,
Пара паміраць.
Што скажаш? Але…
Прамаўчыш, як заўжды
І ўбачыш:
над тваёй галавой
белы сцяг, чужы крыж,
Дый сам стаў даўно чужаніцаю ты,
белай постаццю, што вырастае
з галоднай імжы

на краю свету, на
нечай — нічыйнай — зямлі,
вартаўнік фантомнай душы
якая была сапраўды тут…
калісь.

Госпадзе, злітуйся!
Багародзіцэ,
памажы!..

*Віктар ШНІП*

# СЯРОД МЛЕЧНАГА ШЛЯХУ



***Віктар Шніп нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. У 12 гадоў, даведаўшыся, што ў 10 кіламетрах ад Пугачоў знаходзіцца Вязынка, хадзіў да Янкі Купалы, каб паказаць Песняру свае вершы. Да Купалы не асмеліўся зайсці, а кніжку ягоных твораў купіў. Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».***

* * *

Лістоў асенніх залатыя горы
З вяршынямі, з якіх віецца дым
У неба, дзе, як лісце ў скверы, зоры
Раскіданыя ветрам маладым,
Люблю, хоць сумна мне ад іх заўсёды,
Бо пройдзе дзень і гор не будзе зноў,
І попел іх скуецца хрумсткім лёдам,
Дзе будзе дым аціхлы ад лістоў
Бялець, як малако, што ў Млечным Шляху
Бялее вечна — з вечнасці яно,
Куды аднойчы ўсе з лістотай лягуць,
Не далюбіўшы волю і віно,
Якіх заўсёды многім не хапае
І будзе не хапаць, бо гэты свет
Больш іншага жыцця даўно не знае,
Чым той, які прыдумвае Паэт…

* * *

Ты ў сабе забіваеш самоту
Веснім сонцам, якога няма,
Бо яно, нібы кветка з-пад лёду,
Не прабілася — гэта зіма
Не здае свае права на холад,
Ад якога дубее душа.
Дрэва ў полі стаіць, нібы волат,
І лістота пад ім, як іржа,
Што ад зброі яго засталася,
Хоць і зброя была залатой
І патрэбнай, як коска у сказе
Пра самоту, пра снег і спакой,
Ад якіх ты ратунку шукаеш,
П'еш, як чорнае сонца, віно
І самоту ў сабе забіваеш,
Быццам бы разбіваеш акно,
За якім спіць вясна маладая,

І якой быццам бы і няма,
Хоць лятае пчала залатая
Кропкай сказа: «Мінула зіма».

* * *

Мы жывём на востраве ў сусвеце,
Пра які тут знае толькі Бог.
Млечны Шлях — замерзлы
жоўты вецер,
Што ляцеў і больш ляцець не змог,
І застаўся ў небе па-над намі,
Каб нам жыць спакойна не даваць
На зямлі, якая пад нагамі
Востравам ляжыць, і адшукаць
Гэткі востраў у сівым сусвеце
Хочацца сягоння многім нам…
Восень. Змрок. Халодны з поля вецер
І дарога, па якой у Храм
Ты ідзеш, каб там прызнацца Богу
У сваіх надзеях і грахах,
І табе не трэба больш нічога
Акрамя як быць у Божанькі ў руках,
І не думаеш, што мы ў сусвеце
Тут, нібы на востраве, адны.
Ты жывеш і думаеш аб леце,
Што прайшло, як дзень пасля вясны…

* * *

Тут анічога новага, нічога,
Ды ў кожнага заўжды свая дарога
У гэтым свеце, дзе снягі, дажджы,
Дзе быў Хрыстос распяты на крыжы
І дзе б яго распялі сёння зноў,
Гаворачы пра веру і любоў.
І ты, нібы вяртаешся з палону,
Ідзеш і, згледзеўшы ў кустах варону,
Гаворыш ёй, што любіш гэты свет,
Што ты самотны, як крыжы ў царкве,
Дзе з вераб'ямі Бог яшчэ жыве,
І ты не бачыш новага нічога,
І ты не адракаешся старога
У гэтым свеце, дзе снягі, дажджы,
Дзе быў Хрыстос распяты на крыжы,
Дзе ты, нібы вяртаешся з палону,
Ідзеш, трымаючы, нібы карону
Свой саламяны капялюш…

* * *

На возеры ранак. Вясновая сцюжа
І лебедзь чырвоны чырвонаю ружай
Па возеры белым няспешна плыве,
Нібы дзень апошні на свеце жыве.
На беразе ты, зняўшы шапку, стаіш,
І шапка ў руках тваіх, быццам бы глыж,
І сцюжа ўплятае ў твае валасы
Свой снег, як пражытыя намі часы,
Дзе лебедзь быў белым і белым было
Усё, што навокал расло і цвіло
Ля возера белага, дзе быць траве,
Дзе сонца, як лебедзь чырвоны, плыве…

* * *

Мама сядзіць на прыпынку,
З Мінска чакае мяне.
Вецер старою пласцінкай
Вечную песню пяе
Пра адзіноту, якая
Кожнага з нас тут чакае,
Быццам бы маці старая,
Быццам жана маладая,
Быццам бы доня малая…

Сёння прыехаў дахаты,
Толькі ніхто мне не рады
Гэтак, як мама была.
Стрэўшы мяне на прыпынку,
Доўга дахаты вяла
Ціхай бязлюднай дарогай
Той, што нядаўна да Бога
Наша суседка пайшла…

Мамы няма на прыпынку,
Толькі ўсё ж бачу яе.
Вецер старою пласцінкай
Вечную песню пяе
Пра маю маму, якая,
Нават памершы, чакае…

* * *

Ты самота мая незямная,
Ты прыгожая, нібы віно,
Што ў бакалы ўначы разліваеш,
Быццам бы разбіваеш акно,
За якім цішыня ледзяная
Рассыпаецца ў тысячы зор
І цябе, і сусвет асвятляе,
І замецены лісцямі двор,
Па якім я прайшоў, адзінокі,
Ля твайго залатога акна,
Як ля сонца, якое аблокі
Ад мяне зноў схавалі. Адна
Ты ў бакалы віно разліваеш,
Быццам бы разбіваеш акно.
Ты нікога даўно не кахаеш,
Я цябе не кахаю даўно…

* * *

На крыжах залатых не трымаецца неба,
Бо яно на драўляных
магільных крыжах,
А крыжы, урастаючы ў родную глебу,
На зямлі нас трымаюць,
паказваюць шлях
У бязмежнае неба, дзе продкавы душы
І для нас шчэ нявечных
шукаюць спакой.
Нам спакою не трэба ні ў спёку,
ні ў сцюжу,
Бо з нас кожны разумны і кожны герой,
І, цалуючы ў Храмах крыжы і іконы,
Нехта думае, што ён ужо без грахоў
І цяпер па-над ім будзе вечна карона
І анёлак ахоўнік, і Бога Любоў.
Але ўсё ж толькі сонца лагодныя промні,
Як салому, нам сыпле на слізкі наш шлях,
І памерлыя продкі, якіх мы шчэ помнім,
На крыжах нас трымаюць,
нібы на руках…

* * *

Я цябе намалюю на небе начным
Сярод Млечнага Шляху, які, нібы дым,
Залаты, як і ты для мяне залатая.

Ты даўно ўжо, напэўна, забыла мяне
І таму, калі ўбачыш на небе ў акне
Свой партрэт, то ўсміхніся яму,
хай лунае

Над зямлёй, дзе ўжо больш
не сустрэнемся мы,
Бо між намі гады і бясконцасць зімы,
Як між намі ад моста згарэлага дым

І хай бачаць усе, што я помню цябе
І жыву, як палонны, у вечнай журбе…
Я цябе намалюю на небе начным…

**ПАЭТ**

Ён згубіцца ў заўтрашніх днях,
Як сцежка ў апалых лістах,
Якія з бяроз ападуць,
Што сёння над сцежкай растуць.
Ён згубіцца, каб зноў з’явіцца,
Нібыта з хмурын бліскавіца,
Што сцежку асвеціць да Бога.
І стане сцяжына дарогай
На нашы старыя клады,
Дзе сталі крыжамі гады
У горле стагоддзя з крывёю…
Ён згубіцца разам з вадою,
Што з чорнага неба пральецца.
Дождж пройдзе, і сонца ўсміхнецца.
Ён будзе ісці, адзінокі,
І будуць, як вершы, аблокі
Спакойна над светам плысці.
І ў вершах — апалым лісці —
Ён будзе шукаць ратавання
Ад здрады, ад суму, кахання.
І зробіцца крыжам дарога,
Якая ад Бога да Бога…

# ЛЯВОН ГМЫРАК — НАШАНІВЕЦ

Мяне заўсёды бянтэжыла ў нашым літаратуразнаўстве схільнасць да зухаватых абагульненняў. Калі савецкі час яшчэ ствараў для такой метадалогіі падставы, імкнучыся засунуць увесь светапарадак пад адну накрыўку марксісцка-ленінскай тэорыі фармацый і класавай барацьбы, то сёння сінтэтычныя выкладкі выглядаюць больш чым дзіўна. Прынамсі, у нас, у нашай філалагічнай навуцы, якая, у адрозненне ад многіх іншых, не прайшла фазу франтальнага збору, каталагізацыі і публікацыі фактычнага матэрыялу па гісторыі літаратуры. Дагэтуль яшчэ можна знайсці невядомыя аўтографы Купалы, Коласа, Багдановіча, а тыя пісьменнікі, якім менш пашчасціла з міфалагізацыяй і бронзавымі пастаментамі, наогул застаюцца ў глыбокім падполлі, амаль не даследуюцца і прышпільваюцца толькі праз коску — як падмацаванне да чыйгосьці чарговага абагульнення па пэўным перыядзе развіцця літаратуры.

Так вядзецца справа нават у найбольш «зорным» і «пастаментавым» перыядзе — «нашаніўстве». Кожны, хто займее 5 выпускаў факсімільнай «Нашай Нівы», уразіцца колькасці незнаёмых прозвішчаў і псеўданімаў пад апавяданнямі, нарысамі, вершамі. Можна ўсміхнуцца і сказаць, што многія з гэтых аўтараў «заслужана забытыя», але, гаворачы пра нашаніўства, трэба разумець усю важнасць гэтага часу, у якім адбывалася нараджэнне рэгулярнай літаратуры і нараджэнне праекта незалежнай Беларусі, завершанага ў 1991 годзе. Кірункі, якія прапаноўвалі малавядомыя цяпер нашаніўцы (не з першых шэрагаў), патэнцыйна маглі стаць дамінантамі новай беларускай эстэтыкі і ўсяго беларускага руху. Творчыя метады Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага, Бядулі, якія праз «Нашу Ніву» працялі ўсю беларускую літаратуру XX стагоддзя, атачалі менш уплывовыя, як казаў Максім Багдановіч, «слаі». І даследаванне гэтых слаёў дагэтуль ідзе вельмі марудна: і цяпер застаюцца ў архівах іх неапублікаваныя творы, лісты, матэрыялы ды біяграфіі. Маю цвёрдае перакананне, што толькі тады, калі будуць сабраны ў персанальныя кніжкі, уведзеныя ў навуковы ўжытак усе творы і лісты нашаніўцаў, філалогія атрымае магчымасць *зразумець* гэты важны для нацыянальнай літаратуры перыяд у поўным сэнсе гэтага слова. Да таго часу рабіць абагульненні я б паасцярогся.

Лявону Гмыраку (псеўданім Мечыслава Бабровіча, 1891—1915), у адрозненне ад астатніх «другарадных», крыху пашанцавала: яго спадчына выйшла ў 1992 годзе кніжкай, і рыхтаваў тое выданне адзін з лепшых тагачасных беларускіх філосафаў Уладзімір Конан. Ёсць у кнізе і грунтоўная прадмова, дзе сабрана практычна ўсё, што было вядома пра Бабровіча на той час. Але з філалагічнага боку кніга мае пэўныя недахопы, галоўны з іх — рэдагаванне тэкстаў Уладзімірам Конанам. Імкнучыся наблізіць мову аўтара да сучаснай беларускай мовы, укладальнік замяняў русізмы ў Лявона Гмырака ўласнабеларускай лексікай, а часам і не толькі русізмы, але і малаўжывальныя каларытныя беларускія слоўцы. Праз гэта томік Гмырака 1992 года, пры ўсёй сваёй прывабнасці, не можа лічыцца ідэальным. Да таго ж ёсць у кніжцы і істотная лакуна: укладальнік не змог (ці не было яму дазволена) уключыць туды лісты. Эпісталярый Гмырака, які захаваўся ў віленскай акадэмічнай бібліятэцы імя Урублеўскіх, шчодра цытаваўся Конанам у прадмове да выдання (з такім жа ненавуковым падыходам), але ў арыгінальным выглядзе змешчаны не быў. Шкадуючы, што гэткі цікавы і параўнальна аб'ёмны эпісталярны комплекс дагэтуль

не публікаваўся ў поўным аб'ёме, я пры нагодзе, будучы ў Вільні, перадрукаваў яго з рукапісных арыгіналаў. Усяго 6 лістоў, напісаных у першай палове 1914 года, калі Гмырак актыўна супрацоўнічаў з «Нашай Нівай». Захаваўся ў справе і канверт з аўтографам Гмырака. Таксама далучаю да публікацыі і паштоўку творцы ад 31 снежня 1911 года, якая захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Магчыма, што гэта далёка не ўсе ацалелыя лісты Гмырака, невядомыя тэксты могуць адшукацца сярод нядаўна адкрытых беларускіх фондаў Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва, куды пакуль што даволі рэдка, з прычыны фінансавай неўладкаванасці, ступае нага беларускага гуманітарыя.

Вобраз аўтара лістоў складваецца даволі выразны: прынцыповы і бескампрамісны юнак, які чытае ўсю прагрэсіўную перыёдыку, навязвае кантакты з рабочым рухам Еўропы і Расіі. Ён мог бы стаць адным з ідэолагаў беларускага марксізму, каб няўмольная хада падзей не зрушыла ўсе планы: сусветная вайна забрала Гмырака, і патэнцыял ягоны, і спадчына — «самая нязначная частка таго, на што можна было спадзявацца», паводле Максіма Гарэцкага. Да беларушчыны ён прыйшоў дастаткова рана, яшчэ ў гімназіі. Пакуль што гэта не надта шырока вядома, і Уладзімір Конан у прадмове да аднатомніка Гмырака, паўтараючы за Максімам Гарэцкім, піша: «Якіх-небудзь слядоў лучнасці гімназіста Мечыслава Бабровіча з беларускай літаратурай не знойдзена. Відаць, ён далучыўся да адраджэнскага руху ў апошні год вучобы ў Варшаўскай тэхніка-прамысловай школе (1908 — 1912)». Гэтаму цалкам супярэчыць Гмыракаў сябрук па 1-й віленскай гімназіі Клаўдыюш Дуж-Душэўскі (рукапіс ягоных кароткіх мемуараў захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, у фондзе № 3): «Адзін мой таварыш М. Бабровіч (псэўдонім Гмырак) трапіў у партыю С.-Р. I вось мы вялі зь ім доўгія гутаркі на грамадзка-палітычныя тэмы. Ён мяне вучыў соцыялізму, а я яго нацыянальнай справе. Нашы безканечныя гутаркі, зразумела, былі даволі наіўнымі, але ў рэзультаце іх мы парашылі ісьці "у народ беларускі" і цэлае лета "працавалі у народзе" над разьвіцьцем соцыяльных і нацыянальных проблемаў. У рэзультаце гэтай працы ён трапіў у турму, а я неяк ацалеў». Такім чынам, Бабровіч трапіў у турму не толькі з-за атмасферы задушэння рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, але і праз сваю нацыянальную работу. Дуж-Душэўскі падае ў сваіх успамінах і прычыну звароту да Беларусі: навучэнцы гімназіі маглі выбіраць, да каго ім далучыцца ці то да рускіх, ці то да польскіх нацыянальных віленскіх суполак. Але беларуская моладзь часта адчувала сябе і там, і там — чужаніцамі. I нават адной кніжкі, аднаго беларускага вечара, арганізаванага ў Вільні старэйшымі нашаніўцамі, было дастаткова для выхадцаў з Беларусі, каб зразумець, што да чаго.

Лісты публікуюцца з захаваннем усіх асаблівасцей аўтарскага напісання. Гэта патрэбна не толькі для адчування «духу часу», але і для даследчыкаў гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Перапраўленне аўтарскага напісання пазбаўляе філолагаў магчымасці зразумець станаўленне мовы ў «датарашкевічаўскі» перыяд.

**№ 1**

31/XII — 11 г.

Пересылаючы пры гэтым 2 р. 85 к грошы, маю гонар прасіць Высокоповажаемую Редакцію высылаць мне ціраз поўгода (да 1 ліпня значыць) «Нашу Ніву» рускімі літэрамі. Акром таго прашу переслаць мне такія выданьня 1) Лучына — Вязанка — 4 к, 2) Паўловіч Снапок — 15 к, 3) Купала — Гусьляр — 50 к. 4) Бурачок — Дудка беларуская — 25 к 5) Реўка — Смык беларускі — 20 к. 6) Віткевіч — Дзядзька Голад — 2 к 7) Казкі — 6 к. 8) «Аб гаспадарцы на хутары і шнюрох» — 5 к усіо разам 1 р. 27 к. Дзіліж таго што подпіска каштуе 1 25 — на пірасылку значыць астаецца яшчэ 33 к. Спадзеваюсе што гэтаго будзе досыць, каліж пірасылка болій будзе каштаваць будзьце добры напішыце: я гэтые расходы з удячнасьцю Вам зьвярну. Усе кніжкі рускімі літэрамі — акром тых што істнуюць толькі у лац. друку. Я ужо пісаў што голас свой даю за друкаваньне «Н.Н.» рускімі літерамі

*З пошаною М. Бобровіч*

**№ 2**

**Высокоповажаемы Паночку!**

Пасылаю Вам рукапісы дзьвух стацьцей. Адну з іх («Ешчэ аб лясным голадзе») надрукуйця у каторым з бліжэйшых намяроў газэты, як хочыця ці у формі стацьці ці у формі коррэспондэнціі з Міншчыны. Здаецца нічога надта вострага у ей німа і хіба надрукаваць можна. Калі якое мейсцэ завострае што ж рабіць… выкіньце яго. Надрукуйце у такім намяры дзе ня будзе ніякай другой маей стацьці, бо падпісаў я яе так — яе заўсягды стацьці падпісываю т.е. Лявон Гмырак.

Другая стацьця («Вялікая гадоўшчына») напісана для таго каб надрукаваць яе у № найблізшым да 19 лютаго. Праўда, сёлета німа юбілея гэтага дня, а толькі 53 гадоўшчына, але мне здаралося спатыкаць у расейскіх газэтах стацьці аб гэтым дні і у такіе гады калі німа юбілею яго (напр. у Совр. Слов. за 1909 г.) — вось па моему зусім уместна будзе калі у 53 гадоўшчыну скасаваньня прігону надрукуе Н.Н. гэту стацьцю.

Востраго нічога німа тамака — усё гэдкае пішецца цяпер нават і у календарах выданьня Сытіна, спадзяюся што надрукуіця гэту стацьцю без ніякіх пірамен.

Скора я ужо выеду у Прывісляншчыну. Свайго ~~майбутняго~~ тамашняго адрэса пакуль што ня ведаю, як даведаюся напішу. Пакуль што газэты на «Полочаны Рачково» — мне не высылайця — калі прішлю свій новы адрэс — прышліця тады усе выйшаўшые намяры пачынаючы з №1 за 1914 г. Калі Вам будзе вядомы мой новы адрэс — напішыця — ці надрукуіця «Вялікую гадоўшчыну» ці не, — калі не — дык чаму? Ад пары да пары да Вас я буду стацьці прісылаць. Калі нагадаіця якую тэму каторая павэдле Вас падходзіла бы мне — напішыця аб гэтым можэ я яе выкарыстаю. У «Маладую Беларусь» адну стацьцю я ужо паслаў, калі пачне выхадзіць «Лучынка» треба будзе што небудзь напісаць і туды.

Трошку крыўдую я за тое што у «Каляднай пісанцы» Вы надрукавалі стацьцю Багдановіча, а не надрукавалі маю, тут ужо трошку самолюбіе закранута — ды і сумна тое што відаць ужо у «Нашай нівай» зусім запанавала крытычная манера a la Богдановіч (у 50 №№ нейкі І.Л. напісаў «Агляд кніг» як раз гэдкім фасонам як пішэ крытычные стацьці Багдановіч, не ~~ужыв~~ убываіцца неяк у Вас реальная крітыка, а шкада).

Максім Іванавіч — як відаць добра стацьці пішець по крайней мере аб беларускім тэатры напісаў дужа добра. Паганяйце яго каб пісаў болій.

У Каляднай жэ Пісанцы я ізноў ~~пабачыў~~ спаткаўся з творам Аўрэйцэвіча. Дужа рад што у тым кутку дзе я пражыў гадоў около 20 і каторы знаю бадай ці ня лепей ~~як бацька родны~~ Докшыцкую воласьць аткуль мы вядзёмся — завёўся гэдкі важны пісьменнік.

Пакуль што бывайця здаровенькі. Паклон Купале, Бядулі, Гарэцкаму і усім знайомым беларусам якіе цяпер лі Вас ёсьць. Калі буду ведаць новы адрэс і прішлю яго Вам, будзьця ласкавы аткажыця на мої пытаньня.

*З пашанаю М. Бабровіч*

P.S. Цяпер я працую над вялікай стацьцёй «Белорусское національное возрожденіе». Як кончу пашлю яе у «Русское богатство» можэ надрукуюць.

3/I — 1914 г.

**№ 3**

**У Редакцію Нашай Нівы**

Пасылаю Вам юбілейную стацьцю аб Тарасе Шевченко. Ена выйшла даўгаватай — надрукаваць яе дзілі таго найлепей будзе у фельетоні — у тым мейсцы номера дзе друкуюцца апаведаньня (у расейскіх газетах часта гэдак робляць што друкуюць заместа апаведаньня, у фельетоні, стацьцю) — чаму бы гэтаго не зрабіць і Нашай Ніве.

Стацьця мая дае кароткую біографію і характэрыстыку творчасьці Шевченка — гэдкаю стацьцю я нахажу для Нашай нівы патребнай. Пэўне і Вы згодзіцеся з тым што кожны сьведомы беларус павінен ведаць хто гэдкі Т. Шевченко, тымчасам нават сярод чытачоў Наш.[ай] Нів.[ы] селян — бадай ці не палавіна калі ня болій або зусім ня чула гэтаго імення або ведае аб нім дужа мала. Вось корыстаючысе з юбілея варта ім хоць каротка растлумачыць хто гэта быў.

У рабочых газэтах я часта спатыкаў з прычыны розных юбілеяў (Добралюбова, Короленкі, Помяловскаго і др.) стацьці якраз гэдкаго тыпа як мая — заключаюшчые у сабе кароткую біографію і характэрыстыку творчасьці. Маю надзею што гэту стацьцю Вы не адкініця. Калі хто ешчэ што напісаў аб Шевченку — можна і тое надрукаваць, варта было б калі набярэцца мацерьял нават спеціальны Шевченкаўскі номер выпусьціць.

Цяпер скажыця чаму Вы мне не пасылаіця газэту. Сёлета я ешчэ ні воднаго номера не бачыў, хоць ужо два разы пасылаў Вам цяперешні адрэс. На уселякі скрай пасылаю Вам яго ешчэ трэцьці раз — ужо «заказным» каб ткі напэўне ён да Вас дайшоў. Адрэс гэдкі[:]

«Почт.[овая] ст.[анция] Ивангородъ Люблинской губ.[ернии]; Въ Собешинское Сельско-Хозяйственное Училище въ им.[ении] Бржозова; технику практиканту М. Бобровичу».

Як атрымаю намяры зараз жэ Вам аб гэтым пашлю аткрытку. Вось калі ня выслалі ешчэ, будзьця ласкавы вышліця усе намяры пачынаючы з 1-аго за сёлетні год. На цяперешнім мейсцы я прабуду ешчэ зы два тыдні, посьле выеду адгэтуль.

Ці дашлі да Вас маі стацьці «Хто з намі, хто супроціў нас», «Вялікая гадаўшчына», «Ешчэ аб лясным голадзе», «Аб вясковай інтэлігэнціі». Калі чаго з гэтаго ня хочыця надрукаваць, напішыця мне аб гэтым. «Белорусское національное Возрожденіе» я ужо напісаў і перепісаў, толькі почта тут далёка, паслаць німа як, пашлю выехаўшы з Бржозовай. Ешчэ раз прашу Вас парупіціся каб ткі газэта мне ішла — без яе на чужыні неяк надта нудна. Паклоны знаёмым беларусам.

*З пашанаю М. Бабровіч*

20/I-14 г.

**№ 4**

**Высокоповажаемы Паночку!**

Як толькі да мяне дайшоў № 8 Н.[ашай] Н.[івы], і пры нім спіс ~~новы~~ беларускіх кніг — ды я пабачыў колькі гэта выйшла цяперека новых, дужа я усьцешыўся. Пересылаю Вам у гэтым пісьме марак на 1 р. 69 кап. прашу выслаць мне гэдкіе кніжкі заказной пасылкай.

1) Немнаў дар — Тараса Гушчы — 6 кап
2) Тоўстае палена — Т. Гушчы — 5 коп
3) Апаведаньня — Галубка — 6 коп
4) Проклёнышы — Л. Гвозда — 6 коп
5) Вянок — Богдановіча — 50 коп
6) Прапаў чалавек і др. Я. Коласа — 6 коп
7) Z rodnahozahonu. A. Ziaziuli — 5 коп
~~8) Аб чым шепацелі лісьц~~

84

Пірасылка лічучы па 2 коп — ад 10 коп = 2.9 = 18 коп. Заказ = 7 коп. Усяго разам = 1 р. 09 коп.

Прышліця яшчо «Аб чым шепацелі лісця». Цэна не паказана, значыць ня ведаю якая, але насчот ужо калі нібудзь сосчытаімся.

Акром гэтаго будзьця ласкавы яшчо 60 коп. маркамі пірадаць рэдакціі «Іскрачка» (па абвестцы указано што гэтулька каштуе яе падпіска у год) — ды нехай на цірас год ідзе павэдле гэдкаго адрэсу «Почт. ст. Долгиново Виленской губ.; Имение Шимковщина; С. И. Бобровичу».

Кніжкі будзьця ласкавы пірашліця мне зараз бо быці можэ што скора я пірамяню кварціру (хацелася б атрымаць іх яшчо на старым мейсцы).

Пасылаючы Вам сваі стацьці, я, дайжэ кожны раз сёе-тое пытаўся, — спадзеваючыся што Вы збірыцёся напісаць да мяне і атказаць на гэта. Тымчасам дагэтуль я ні воднаго ні пісьма ані пісулькі ад Вас не атрымаў. Чаму гэта? Няўжож ніяк ня можыця зыбрацца з адказам. Жыву я у чужай старане, далёка ад беларуск. жыцьця, находжуся адным словам зусім не «у курсі спраў» — вось дужа быў бы я рад каб гэта хоць адчасьці запоўняла пірапіска. Вось цяпер мне яшчэ нескалькі месяцоў прыдзецца жыць у Варшаві; ёсьць же тамака сярод студэнтаў — беларускі гурток — ён устраівае нават вечарынкі — адным словам вядзецца нейкая работа; можэ бы у гэтай рабоці і я чым небудзь быў карысьцен; калі не дык усё ж такі хацелася б бачыць хоць тое што людзі робяць. Наскалькі мне вядома павадыр варшаўскіх беларусаў гэта Леўчык — хвамілііі яго я ня ведаю сыскаць ніяк не магу — (дык каб і ведаў дык мала маю часу у будніе дні, а адрэсны стаў у сьвяты дні зачынены). Вось я дужа прасіў перeслаць мне яго адрэс тымчасам дагэтуль ніякаго

«ни привета ни ответа». Ня ведаю што і думаць аб гэтым.

Будзьце ласкавы хоць цяпер пірашліця мне гэты адрэс — ды аткажыця на мае пытаньня якіе я у гэтым пісьме пастаўлю.

Насчот Богдановічоваго «Венка» — калі Вы яго прышліцё мне і я прачытаю, хацелася б напісаць крытычнаю стацьцю. Але дзілі таго што на маю крытычную манеру Вы глядзіцё коса; часу свабоднаго у мяне дужа мала і дарма, біз надзеі пабачыць сваю працу надрукаванай, пісаць ня хочыцца — я і звяртаюся з пытаньням — ці надрукуіця Вы гэтаю стацьцю (калі канечно ня будзе у ей вострых літэратурных «недостатков» ці не. Меній болій Вы ведаіця што я у ей магу напісаць — вось калі дэкляруіця надрукаваць пастараюся як небудзь напісаць — калі не — шкада працы.

Далей у Вас знаходзяцца дзьве мае даўжэйшыя стацьці («Жыве Беларусь», «Беларускае нацыональнае адраджэньне») — з каторых можэ падыйшла бы адна у «Вялікодную Пісанку». Насчот «Жыве Бел.[арусь]» я ужо пісаў перш, што пірамяніць у ёй згаджаюся, насчот другой здаецца пірамяняць там нічога Вы не захочыця (бо і адразу сказалі мне што стацьця ніщто сабе — толькі дзілі таго ідзе «пад сукно» што надрукаваць яе німа дзе); супроціў дробных паправак і пірамен я нічога не маю.

Акроме гэтаго паслаў я Вам яшчо «Сумные рахункі», але яна лепей падходзіць да Нашай Нівы, я так сама […][1] яшчэ хацеў бы яе […] [Вя]лік.[однай] піс[анцы]» — нехай ена ідзе ужо толькі у такім разі калі «Жыве Бел.[арусь]» ды «Белар.[ускае] нац.[ыянальнае] адрадж.[энне]» — Вы збракуіця. Вось напішыця калі ласка як з усім гэтым будзе.

«Рэжэ вуха» у № 8 Н.[ашай] Н.[івы] стацьця «Бездомные» і корэспондэнцыя «Звярье ня людзі». ~~Нашто ужо даходзіць да нейкаго~~ Ня трэба шукаць людзей гэдак жэ нешчасных як беларусы аж у Індыі, калі напр. расейскіе украінцы як раз у гэдкім палажэньні знаходзяцца, а бадай што не так ужо шмат лепей жывецца «господствующей націі». Нацыональнаго гнёту тут няма, але «сторона наша убогая, выгнать некуда коровушку» — і у ніх! Хіба ж і Вы сагласны з тым што гэта большае мае значэньне, як тая ці іншая пастаноўка нац. справы.

Што мужыкі не ратуюць коні тонушчаго пана (едзе ён у касцёл, коні мае 200-рублёвых — значыць або пан або грашавік шляхтун) нічога тут благога німа. Цешыцца з гэтаго треба і жадаць каб болій было такіх праяў, бо ня зверства тут праяўляіцца а сьвядомае зразуменьне — «классовых противоречій» ды вынікаюшчая з гэтаго ненавісьць.

Недаўна прачытаў я у 7-ай кніжцы «Русс.[ого] Бог[атства]» за леташні год што у Себежскім павеце Вітебск.[ай] губ.[ерні] нейкі Сьцепан Діомідавіч Зенченко быў пасланы «Русским Зерном» за границу вярнуўшысе так энергічно начаў насаждаць у роднай вёсцы хутары (з помаччу паліціі хіба) што цяжка скрыўдзіў сваіх суседаў і тые яго спалілі. Посьле гэты ж Зенченка […] [«Русского] зерна» (пред [седа]цель яго А. А. Столыпинъ […] [рэ]ферат і дастаў як «ахвяра» — 600 руб. з-том (падробна аб гэтым калі цікавіцеся гляньце «Гордобоев сіятельная литература» Русс.[кое] Бог.[атство] 7 кн. 1913 г.). Прачытаўшы гэта дужа я усьцешыўся што і у нашай старонцы ёсьць людзі каторые натрапляюць караць здраднікоў ідушчых проціў «міра» і крыўдзячых яго, але здавалася мне што як бы я гэта іменьне бачыў у «Н.[ашай] Н[івы]». Стаў я прагледаць намяры аж і найшоў у адным з леташніх №№ стацьцю «Да роднай старонкі» С. Зенченкі. Ну і дзела, няўжож гэта гэты самы. Будзьця ласкавы напішыця хто такі супрацоўнік «Н.[ашай] Н.[івы]» Сьцепан Зенченка — дакажыце калі можыця што ткі не праўда — ня пішуць у газэці «мірскіе здраднікі», каторых заслуженно «міром» спаліваюць. Хаця? «Н.[аша] Н.[іва]» заўсягды ж стаяла за хутары (толькі ў № 5 сёлета напісана слова праўды аб іх), друкавала ад часу да часу корэспондэнціі дзе зусім ня «трудовые» селянскіе думкі прагледаюць (напр.[ыклад] хоць бы і у № 8 «Звяры ня людзі»), можэ гэта і зусім натуральна што людцы з помачу паліціі грабяшчые «мір» знаходзюць у ей прытулак. Растлумачыця мне — што гэта, бо ей Богу «ум за разум заходит».

Вось з нецярпялівасьцю чэкаю Вашаго пісьма, можэ ткі акажыцца што гэта ня той а які іншы Зенченка.

*З пашанаю М. Бабровіч*
*25 лютаго 1914 г.*

[1] У гэтым і наступным месцах, пазначаных […], ліст пашкоджаны, ёсць страты паперы.

**№ 5**

**Высокоповажаемы Паночку!**

Пасылаю Вам разам з гэтым пісьмом вырэзку з лева-народніцкай (с-р) газэты «Стойкая Мысль» (№ 22 от 13 апр. 1914 г.). Я думаю што варта было бы аб гэтым напісаць і у Н.[ашай] Н.[іве] Толькі треба што небудзь сваё составіць бо жыўцом узяць гэта перетлумачыць і надрукаваць не указаўшы адкуль яно узята ня гоже, передрукаваць же паказаўшы адкуль няможна (гэты номер канфіскаваны, сама газэта ужо цяпер закрыта). Калі аб гэтым што напішэця у газэту то калі хочыця додайця што адзін з супрацоўнікаў Н.[ашай] Н.[івы] дэкляраваў напісаць некалькі стацей на тэму «Земства і воласьць» і што яны хутка ужо будуць надрукаваны у газэці (гэты супрацоўнік т.е. я, стацьці скора прышлю, толькі друкуйця). Ці надрукуіця вы — тые 3 мае стацьці якіе у Вас ёсьць (Недахват рабочых рук, Вымаганьне жыцьця, Бюджэт на 1914 г.). Я іх Вам даўно ужо даў, мо згублены гэтые рукапісы. У такім разі магу прыслаць іх ізноў, перепісаўшы з чернавіка (чернавік гэтых стацей у мяне ёсьць).

Цяпер, чаму у 15 № Н.[ашай] Н.[івы] надрукавана у вестках «З усіх старон» — звестка што нібы то расейскіе рабочые протэстуюць супроціў таго што соціалісты іх представнікі. Гэтая звестка надрукавана без ніякіх комэнтарыяў зы стараны рэдакціі; — няўжож редакція нічого не магла бы аб гэтым сказаць? Ня хораша. А калі ня хочыця ці баіцёся казаць праўду — дык лепей гэткіе хвакты замалчываць — чым трымацца гэдак што «і нашым і вашым».

Табэрко гэтымі днямі едучы дамоў заедзіцца да Вас — думае узяць на продажу болей кніг. Але пэўне Вы з нім ужо бачыліся. Пакуль што бывайця заровенькі.

*Ваш М. Бабровіч*

29/IV-14 г.

P.S. Добраю стацьцю напісаў Гарэцкі. Маладзец.

**№ 6**

**Высокоповажаемы Паночку!**

Разам з гэтым пісьмом пасылаю Вам праводам 1 р 15 к і заказной бандеролью рукапіс сваей работы «Земства і воласьць». Работа гэта заняла у мяне шмат часу — бо і пісаць треба было многа, і спраўляцца у дзе якіх кнігах. Ведаючы раней што напісаць такую рэч — труды, — я пытаўся ў Вас — ды і не адзін раз, ці знадобіцца Вам гэта, ці надрукуіцця. Вы мне усё давалі атказвы што надрукуіцца, — пішы толькі. Я і напісаў, тое што яе, я, пісаў як бы на заказ служыць мне да некатарай сьцепені — поручіцельством — што мая праца ня згіне дарма і стацьця убачыць сьвет. Пры тым жэ і тэма важная. Аб земстві наагул у нас надта мала ведаюць (здаралося мне гаварыць аб гэтым з 2-мя народнымі вучыцелямі у Сеннінскім павеці — у Магілёўшчыне. Самі яны маюць дзялы з земствам — а што гэта за штука добра сабе не представлялі — толькі я ужо растлумачыў); ведаць же — ня шкодзіць. Я у стацьці правёў — такіе папулярные — агульно прызнанные праўды — што разногласія у думцы — мяне з Вамі — на гэты счот здаецца быць не павінна.

Ітак пасылаю стацьцю. Ена складаіцца з нескалькіх стацей злучаных супольным загалоўкам «Земства і воласьць». Калі будзіця друкаваць у Нашай Ніве дык я стаўлю гэдкіе ніпраменные варункі. 1) Перад кожным загалоўкам у кожным номеры — друкаваць вялікімі літэрамі «Земства і воласьць» каб было відаць што кожная стацьця не аддзельна сама па сабе, а усё яны твораць супольнае цэлае. 2) У кожным номеры дзе будзе гэта стацьця ніпраменне у канцы памешчаць «далей будзе» — з пачатку «гл. №№…» (тые намяры у каторых перш друкавалася стацьця). 3) Дзіля таго што кожны раздзел представляе як бы аддзельнае цэлае, можна надрукаваўшы I раздзел — калі у газэці мацеріалу будзе многа — прапусьціць адзін другі номер тады надрукаваць другі раздзел і г.д. Проціў гэтаго нічога не маю — вымагаю толькі каб усюды, дзе належыцца, было «далей будзе» і «гл. №№…» 4) Першы чым прыняцца друкаваць «Земства і воласьць» надрукуйця у газэці стацьці «Недахват рабочых рук» і «Вымаганьня жыцьця». Гэтые стацьці пісаны на злобы дня (новые данные статыстыкі, ціркуляр Кассо аб вучыцельскіх

хаўрусах) — цяпер яны ешчэ не надта устарэлі — а пакуль кончыцца друкаваньнем «Земства і воласьць» будуць устарэўшые.

Вы за апошніе часы забралі моду скарачываць і перарабляць мае стацьці. Я прасіў Вас, і не адзін раз, — гэдкіе піраробкі рабіць толькі з маего ведама. Вось стацьцю «Бел.[арускае] нац.[ыянальнае] адрад.[жэнне]» — праўда Вы пірарабілі — запытаўшы маего сагласу — гэта так; а дробные стацьці («Ізноў пэркалёвые» і др.) пірарабляіця самі. Праўда пірарабілі Вы іх не надта многа, — і ешчэ з грахом — можна на тое згодзіцца. Але перарабляючы у адным трошку, у другім мо схочыця пірарабіць і надта многа. Вось дзілі таго я і прыпомінаю Вам ешчэ раз сваю просьбу.

Стацьці аб «Земстві і воласьці» доўгаваты, — але гэта патрэбна для популярызаціі, для таго каб нават і чытач нічога не ведаюшчы дагэтуль аб земстві — прачытаўшы стацьцю уцяміў гэта. Вось на прыкметнае, вялікае пакарачэньне стацей, — маей згоды — німа. Трошку — піраробця, калі хочыця, як надумаіцеся зробіць большіе піраменны — напішэця мне — што і як.

Можэ захочыця памесьціць гэтые стацьці у газэту а у «Календар» на 1915 г. (У Календары ж друкаваліся доўгіе рэчы — напр.[ыклад] за 1913 г. «Бацькам і маткам» Г.Б.). На гэта сагласен — з тым каб выпоўніць мае сказанные перш варункі, і калі пусьціць дык у календар — рускімі літэрамі (супрацоўнічаць у выданьнях друкаваных лацыннікай я адказваюся раз на заўсяды)

Гэтулька аб пасыланай стацьці. Мо надумаіцеся — у скорым часе выдаць які зборнік ці што такое — дзе бы была патрэбнай даўжэйшая сярьёзная стацьця. У мяне у галаве тоўпяцца — ажно 4 гэдкіх стацьці. Не пішу іх шкадаючы хватыгі. Працую я цяжка, часу свабоднаго маю мала — вось і неахвота пісаць дарма. Ведаючы што мая праца мае шансы быць у скорасьці — надрукаванай я бы ужо найшоў час за гэта узяцца, — але пісаць у надзеі, што гэта зробіцца только «после дождика въ четвергъ» — ужо зусім ня хочыцца.

Далей мне з Вамі треба ругацца за некатарые рэчы у газэці. Чаму вы надта многа пушчаіця — сьмецьця у бэллетрыстычным аддзелі газэці. Вось Піліпова ажно у двух намярах (14 і 18) пусьцілі. Нехай бы сваё «глубокомысліе» п. Піліпоў праяўляў у Маладой Беларусі ці дзе небудзь, — «Наша ніва» популярная народная газэта і гэдкім рэчам там ня мейсцэ. Ня ужож Гушча, Лейко, Бядуля, Ядвігін Ш, Гарэцкі і др. не надсылаюць Вам лепшаго мацерьялу? Калі нема добрай — падходзячай бэллетрыстыкі дык лепей у «фэльетоні» на яе мейсцы — стацьцю памясьціць — чымся друкаваць абы што.

Посьле, гэдкая заметка у аддзелі з усіх старон «правы бок Думы многа мае супольнаго з ахранкой» (гэта так) «левы з катаргай». Яно, калі добра як сьледовае зразумець нічога тут німа, але зразумець можна усяк, і дужа нават паскудна. Лепей ужо выражацца ясней.

Дзе ня дзе прабіваіцца — лізаньне панскіх рук («Колькі слоў аб інст. курсах» № 18) шмат чага. Ня гэдак як трэба — сказано у апошніх стацьцях Юрыя Верешчакі і а-н-а. (не маю змогі даўжэй затрымліватцца над імі — пры тым там жэ зачэпляны глаўные пункты — моіх з Вамі разногласіяў).

Можа Вы лічыця непрыстойным што я дужа часта звертаю увагу на тые ці другіе недахваты у газэці. Можэ быць гэта — моветон. Але я челавек шчыры і аткрыты. Беларускай справе усей душой спагадаю, хоць шмат іначэй ад Вас яе разумею. Віжу — робіцца што ня гэдак, — гвалту крычу. Па моему калі газэта хочэ быць цесна звязанай з чытачамі і супрацоўнікамі, моршчыцца на крытыку ена не павінна, а павінна лічыць яе нармальным і здаровым явішчэм. Калі гэдак, дык і на мае увагі — гневацца Вам німа чаго. Калі іначэй — што ж значыцца у нас прыбаўляіцца ешчэ адно «разногласіе» і я гэта наматаю сабе на вус.

Эх. Шмат у чым — крыва глядзіця Вы, панове генералы, беларускаго адраджэння. Гэдкая ясная, простая, шырокая ляжыць дарога, а Вы у тым ды сім, блукаіцеся па зводных сьцежках. Глядзіця — каб ня вышла — Цусіма.

Пакуль што бывайця здаровенькі

*Ваш М. Бабровіч*

12/V-14 г.

**№ 7**

**Высокоповажаемы Паночку!**

Недаўна паслаў я Вам стацьцю «Земства і воласьць». У № 19, Н.Н. ужо пачала яе друкаваць. Праўда я у лісьце прасіў перш на-

друкаваць мае стацьці «Няхв.[ат] раб.[очых] рук», «Вымаг.[анння] жыц.[ця]», але нехай сабе і гэдак ужо будзе. Гэтые стацьці за нескалька тыдняў гэдак ужо надта не устарэюць, можна іх будзя надрукаваць і пазней.

Цяпер я звертаюся да Вас — вось у якой справе. Работніцкіе газэты за апошніе часы ад пары да пары выдаюць «Областныя приложенія» — гэта значыць лісткі, каторые укладываюцца у № газэты. Гэтые лісткі пасвячэны разгледаньню палажэння работнікоў у якой небудзь аднэй обласьці ці галузі працы, друкуюцца стацьці ды корэспондэнціі толькі аб гэтым І дагэтуль выйшлі 2 гэдкіх дадаткі «Шахтёрск.[ий] Лист.[ок]», скора маніцца выйсьці лісткі пасвячэные Уралу, Цэнтру, Поўдню, Каўказу Полуноча Заходу (Беларусі і Літве). Работніцкі рух — гэта бадай ці не найпрыкметнейшая праява грамадскаго жыцьця сучаснай Расеі. Пролетарíат пакуль што ядыная сіла — зноў посьле нескалька гадавога зацішшя выступаючая акціўна. ~~Дойдзе ён да мэты тады калі~~ Свядомые беларусы у ніякім разе не павінны ігнарыраваць гэтай сілы. У нас, як і у усіх іншых народоў, пролетарíат адна з найважнейшых кляс грамадзянства. Пролетарíат у нас, як бы там не было, ёсць. Памінаючы ужо дворных парабкоў каторые посьле шырокай аграрной рэформы счезнуць зусім і стануць самі гаспадарамі — мы маім шмат такіх людзей каторые наймітамі астануцца і посьле найшырэйшай нават аграрн. рэформы. Па усей Беларусі раскіданы гарбарні, лесапілкі дробные уселякіе заводы і майстэрні. Разам у усіх іх набярэцца нескалька дзесяткаў тысяч рабочых. Ешчэ болей беларусаў працуе на чужбіне па расейскіх гарадох. Беларускае работніцтво мае свае спэціальные інтэрэсы, як для селян важна аграрн. справа, так для іх 8-гадзінны рабочы дзень і др. Само сабой ніякаго антагонізма прамеж інтэрэсамі селян і фабрычных нема і быць ня можэ. Программа, обхоплíваюшчая абарону тых ды другіх, лічушчая іх за ядыны працоўны народ і ёсьць праўдзівая, здольная да жыцьця, праграмма.

Для беларуск.[ай] справы важна каб наш пролетарíат быў сьвядомым ня толькі класcово але і національно. Але для гэтаго треба каб ён пачуў у беларускай мове слова у сваю абарону каб хоць ад пары да пары (дакуль ня будзе змогі наладзіць пастаяннаго работніцкаго выдавецтва) выходзілі лістоўкі і кніжкі беларускіе, разгледаюшчые работніцкае пытанне. Вось аб гэтым я і кажу.

Ці ня можна было б ад пары да пары, хоць разы 2—3 у год — выдаваць пры Н.[ашай] Н.[іве] кшталтам «областн.[ого] прилож.[ения] работніцкіх газэт» — вкладные лісты на 2 ці 4 страніцы (гэта як будзе змога) пасьвячэные наймітам пад загалоўкам «Работніцкая Лістоўка» або «Работніцкая Пісанка» дзе памешчаліся б стацьці аб работніцкіх пытаньнях, коррэспондэнціі з хвабрык і заводоў, хроніка работніцкаго руху, вершы з работніцк. жыцьця і т.п.

Падумайце, дзядзенька, аб гэтым, парайцеся ды пагаварыцця з другімі. Справа вельмі важная, варта яе наладзіць. Калі б не нашлосе другіх супрацоўнікоў я адзін абавязываюся пісаць гэтулькі стацей — колькі будзе треба. Насчот корэспондэнцій треба звярнуцца да свядомых беларусаў-работнікоў у Піцер і др.[угія] мейсцы дзе яны ёсьць. (Вы казалі мне неяк перш што маіця дужа важнаго беларуса-работніка у Кацярынославі, мо і у другіх мейсцах нойдуцца). Каб пашукаць нашліся б найміты-коррэспондэнты і па беларускіх гарадох ды мястэчках сярод гарбароў, муляроў і іншых. Мацерыялу уселякаго не помала будзе, а скарэй што увесь ён і ня споўніцца. Беларуская Работніцкая лістоўка павінна стаяць на становішчы класавай барацьбы. Партыйнага а тым болей фракціоннаго характеру — насіць яна не павінна.

Работніцкая программа адна і тая ж і у народнікоў і у марксістаў. Треба пісаць гэдак каб нашу лістоўку уважаў сваей, — чытаў ды шырыў і народнік (с-р) і марксіст (с-д). «Спорных пунктаў» лепей не чэпаць, калі успомныўшы іх мімоходом — треба прыпомінаць, што патребна еднасьць і солідарносьць усіх напрамкоў у супольных выступленнях, што з часам яны могуць злучыцца, што гэта добра было бы, ды ня шкодзіла б гэту хвіліну прыбліжаць. Пісаць треба сдержанно, дзеля цэнзурных варункоў — але хоць з недомолвкамі праводзіць думку клясавай барацьбы неупынна. Вось ці ня можна было б наладзіць гэдкае штукі пры Н.[ашай] Н.[іве]? Н.[аша] Н.[іва] аста-

лася тым чым іна ёсьць дагэтуль — органом національнаго адраджэньня і селянскай газэтай, «Лістоўка» здавольняла бы патрэбы работнікаў.

Справа не абы якая. Пагаварыця, дзядзенька, з другімі беларусамі. Крок гэта атветственны. Дужа може быць што Работніцкая Пісанка зверне на Наш.[у] Ніву увагу начальства, пасыплюцца штрафы, канфіскаціі. Во гэта треба добра абдумаць. Може лепей выдаваць «Лістоўку» як аддзельнае выданне — выхадзяшчае ад часу да часу аднаднёўкай — зусім незалежна ад Н.[ашай] Н.[івы] (тады у апошняй ня будзе «компрометірующчаго» суседа). На аддзельнае выданне патрэбны большые кошты, редактор (які мо і ня нойдзіцца), пры Н.[ашай] Н.[іве] або піцерскім органе моладзі наладзіць работніцкі дадаток было б лягчэй і таней.

Вось абдумайце усё гэта, парайцеся з другімі, абгаварыця. Тады паведамця — мяне, якое адношенне спаткаў мой праект, ці падтрымаюць гэту справу хвінансово і агулам як «што». Я грашмі многа не помагу (бо нічога не маю) і памагчы магу толькі шыручы «Лістоўку», пішучы стацьці ды прысылаючы невялікае складку (як гэта робяць свядомые расейскіе работнікі для сваей прэсы). Гэткую ж помач могуць аказаць і другіе наймiты-беларусы. Грашавых выдаткаў пакрыць мы ня можым. Я Вам падаю проект, дiскусiю над нiм i дальнейшые крокi рабiця ужо Вы. Жыву я на чужбiне, далёка ад Вас, беларускаго пролетарiата тут нiма анi, — вось i зачапiцца мне нiма за што. Калi нойдзiця патрэбным выпоўнене гэтаго — напiшыця да Цiшкi Гартнаго, Станюлевiча, Гурлы, работнiка у Кацерынаслаўшчыне i другiх вядомых Вам асоб, просячы iх папрацаваць над матэрыялом для «Лiстоўкi» (корэспондэнцыямi з заводоў, вершамi i т.д.) — i пашыраннем яе. Пэўне усе яны на такую справу — жыва адгукнуцца. Нехай калi ня можна часьцей, дык хоць раз або два у год выйдзе «Работнiцкая Лiстоўка» усё ткi — мы, беларусы пролетарii будзiм мець свой орган у роднай мовi. Дарагi i цэнны будзе ён нам сам па сабе, а ешчэ болей як способ шырэньне беларускiх думак сярод нашай работнiцкай массы.

Дзеля таго: што вiнен за календары я быў Вам — 45 коп., кнiжкi (я iх учора атрымаў) разам каштуюць — 60 к., пiрасылка iх — 21 к. — усяго 1 р. 26 к., а паслаў я Вам грошы 1 р. 15 к. — дык далучаю пры гэтым 11 к. маркамi (iх нойдзiця у гэтым лiсце) i мы будзiм квiты.

Працую я цяпер над прадмовай да кнiжкi Грiнченко «Національна та інтернаціональна ідея» (Вы яе чыталi) i перетлумачаннем яе. Гэта брашурка тлумачыць як па праўдзi глядзiць соціалiзм на національную справу, i змагаiца з вульгарнымi космополiтычнымi думкамi каторых трымаюцца некатарые тэарэтыкi с-д (але далёка ня усе) i мала свядомая масса. Нам такая рэч дужа патребна. Я ведаю, што у скорым часе, беларускiе выдавецтвы яе не выдадуць, але калi небудзь яна знадобiцца, цяпер жэ ёсьць свабодны час каторы я i выкарыстываю. Шмат болей пiсаў бы я па беларуску i даўгiх i кароткiх стацей — чым пiшу дагэтуль — каб ведаў што яны скора будуць надрукаваны. Дарма — пiсаць неахвота.

Бывайця здаровенькi пакуль што. Жду атказу Ваш

*М. Бабровiч*

P. S. Адрэс мой ведаiця. Пры работнiцкiх газэтах може выйдзе «Северо-Западное Областное Приложенiе». Каб яно наладзiлося пры газэцi народнiкоў, або лiквiдатароў («Наша Раб.[очая] Газета») — то туды можно было б уторкнуць стацейку аб патрэбе національнаго адроджэньня для беларускаго пролетарiата; калi пры «Пути Правды» органе гэдак называюшчых сябе «последовательных марксiстоў» — то бадай што гэдкаго яны не памясьцяць. Але i у лепшым разе, приложенiе гэта будзе «Северо-Западное а не беларускае, беларушчына у iм калi i дапушчэна будзе дык на палажэньнi «беднаго родственника», пiсаць туды можна толькi па расейску (бо i газэты самi ж расейскiе, дык iначэй i трудна). Адным словам ня шкодзiць выкарыстаць i гэты дадаток — што я, калi не «прозеваю» дык i зраблю, але у нiякiм разе ня може замянiць ён беларускай «Работнiцкай Лiстоўкi», i гэта справа усё роўна астаецца аткрытай.

***Падрыхтоўка да друку і публікацыя Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА***

*Яўгенія ШЧОКІНА*

# ЦІ ЁСЦЬ У БЕЛАРУСІ ПРЫГОДНІЦКІ РАМАН?

Прыгодніцкая проза папулярная ў шырокай чытацкай аўдыторыі дзякуючы дынамічнаму сюжэту, інтрыгам, загадкам і таямніцам. Яна выконвае дзве асноўныя функцыі: забаўляльную і эскапічную. У беларускай літаратуры XXI стагоддзя авантурна-прыгодніцкія элементы больш часта рэалізуюцца ў сярэдняй эпічнай форме. Тым не менш у сённяшнім мастацтве слова займелі ўвасабленне многія жанры і субжанры прыгодніцкага рамана.

Мастацкім параметрам **гатычнага рамана** з яго сярэднявечным каларытам, містычна-вусцішнай атмасферай, замкнёным хранатопам адпавядае тая сюжэтная лінія твора Людмілы Рублеўскай «Скокі смерці» (2006), дзе апісваюцца падзеі XIV стагоддзя. У шэрагу тыпалагічных прыкмет жанру — локус замка з яго лабірынтамі-пасткамі-лёхамі. У творы Рублеўскай яго ролю выконвае ратуша ў мястэчку Старавежск. Містычную атмасферу абумоўліваюць «скокі смерці» — вядомы ў гісторыі факт масавага псіхозу ў дні Святога Віта. Людзі, напужаныя пандэміяй чумы і вялікай колькасцю памерлых, пілі віно і пачыналі рытмічна танчыць, даводзячы сябе да істэрычнага стану. Не ў сілах спыніцца, многія падалі мёртвыя.

Яшчэ адна таямніца — загадкавыя гадзіннікі лекара Гервасія Бернацоні, звязаныя з яго эксперыментамі над жывымі людзьмі. Увасабляючы героя-злодзея, лекар, тым не менш, не з'яўляецца адназначным вобразам, як тое прынята ў гатычным рамане. Фларэнціец не выбірае сродкаў, але мэта ў яго высокая — вынайсці магутную зброю для абароны сваёй айчыны — Італіі. Мадыфікуе пісьменніца і кананічны вобраз галоўнай гераіні гатычнага рамана — сціплай і чуйнай дзяўчыны-ахвяры, якая выратоўваецца толькі дзякуючы з'яўленню мужнага высакароднага героя. Анэта Ляскевічанка — дачка князя, асоба з моцным характарам, узгадаваная бацькам, патрыётам свайго роду, на свабодалюбівых прынцыпах, — спрабуе процістаяць лекару і абараняе годнасць свайго горада. Нават боль Анэты ад усведамлення таго, што ранейшага незалежнага Старавежска ўжо не існуе, не перакрэслівае яе максімалісцкіх прынцыпаў раздзялення дабра і зла, здрады і вернасці.

Другая сюжэтная лінія «Скокаў смерці», мае ў цэнтры вобраз двайніка Анэты — нашу сучасніцу, ускладняецца матывамі забойства і авантуры са старажытнымі гадзіннікамі, што таксама сведчыць пра яе прыналежнасць да прыгодніцкага жанру.

**Дэтэктыўны раман** — адзін з самых запатрабаваных жанраў у галіне буйнафарматнай прозы — рэалізуецца ў цэлым шэрагу субжанраў.

Адной з адметнасцей беларускай **гістарычнай дэтэктыўнай прозы** з'яўляецца адасобленасць ад масавай літаратуры, бо яна нярэдка выконвае пазалітаратурныя функцыі: рамантызуе і міфалагізуе мінулае, супрацьпастаўляючы шляхецкую Беларусь рабоча-сялянскай. Падзеі часта адбываюцца ў сучаснасці, але крыніца — таямніца дэтэктыўнага сюжэта — хаваецца ў даўніне. Элементы дэтэктыва прасочваюцца ў «паралельным рамане» «Золата забытых магіл» (2004), «рамане-інструкцыі» «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» (2007), раманах «Сутарэнні Ромула» (2011) і «Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега» (2012) Людмілы Рублеўскай. Героі першага са згаданых твораў сутыкаюцца з таямніцай роду Рашчынскіх, схаванай у надмагільнай кампазіцыі фігур, і кідаюць усе высілкі і веды на разгадку. Пачынаецца гісторыя з забойства маладога вучонага Артура, якое цягне за сабой махлярства з дакументамі на маёмасць і напад банды-

таў. Дапаўняюць карціну пошукі скарбу і наяўнасць загадкавай мапы. Гістарычным дэтэктывам нярэдка ўласцівы акцэнт на нацыянальным пытанні. Так, ключом для разгадкі шыфру надмагілля з'яўляецца сакрэтнае вітанне паўстанцаў: «Каго любіш? — Беларусь! — То ўзаемна!».

Вытокі **міліцэйскага дэтэктыва** знаходзяцца ў сацыяльна-бытавой прозе. Росшукамі ў такіх творах займаюцца прафесіяналы, а матэрыял для сюжэтаў часам даюць рэальна задакументаваныя злачынствы. У цэнтры аповеду рамана Віктара Праўдзіна «Танцавальны марафон» (2001) — барацьба аддзела міліцыі Мінска з магутнай мафіёзнай сеткай, якая займаецца продажам наркотыкаў і гандлем людзьмі. Падпалкоўнік Мікуліч — вобраз мудрага настаўніка з вялікім жыццёвым вопытам і трывалымі маральна-этычнымі прынцыпамі — застаецца нязменным на працягу твора. Менавіта ён, звярнуўшы ўвагу на дробязі ў справе Шапавалава, прызнанай няшчасным выпадкам, раскручвае шэраг значных падзей.

Сюжэтная лінія, звязаная з Віктарам Аляксандравым, генералам расійскіх спецслужб, відавочна мае прыкметы **шпіёнскага дэтэктыва**. Яшчэ студэнтам герой быў завербаваны савецкім КДБ для справы, звязанай з кітаянкай Мэй Лі. Уцягнуўшыся ў складаную сістэму шпіянажу, шантажу і інтрыг дзяржаўнага ўзроўню, Віктар Пятровіч становіцца адным з лепшых у сваёй справе: яго баяцца ворагі і калегі, за спінай называючы «чорным кардыналам». У цэлым канспіратыўная дзейнасць генерала застаецца па-за сюжэтам (акрамя першай справы з Мэй Лі), што гаворыць пра другаснасць прыкмет шпіёнскага рамана.

Элементы **містычнага дэтэктыва** выразна бачныя ў раманах Сяргея Балахонава («Імя грушы», 2005), Наталкі Бабінай («Рыбін горад», 2007), Наталкі Харытанюк («Смерць лесбіянкі», 2013). У апошнім з

**Жанр «Пятай цэнтурыі...» Юры Станкевіча відавочна суадносіцца з навуковай фантастыкай і мае прыкметы рамана ідэй**

**У айчыннай прозе XXI стагоддзя знайсці «чыстую» love-story даволі складана, што абумоўлена, думаецца, агульнай нераспрацаванасцю масавай літаратуры, да якой традыцыйна адносяць любоўныя раманы**

названых раманаў рэальнае забойства шчыльна пераплятаецца з прымхлівымі забабонамі Наталкі, якая шчыра верыць у праклён, насланы на яе невядомай старой па тэлефоне. Гераіня вытлумачвае падзеі згодна са сваёй верай у міфалагічнае, у пачвару, што жыве ў лёхах Полацкага ўніверсітэта. У рамане яскрава апісаны моманты блытаніны свядомасці гераіні, блізкія да галюцынацый. Росшукі забойцы вядуцца пад містычным ціскам мясцовай легенды пра праклён, які абяцае смерць кожнаму, хто патрапіць у полацкія лёхі. Нават следчы спрабуе вывесці гэтую версію ў якасці асноўнай пры расследаванні справы. Пісьменніца ўступае ў своеасаблівую гульню з чытачом: стварае займальны сюжэт з забойствам і «смяротнай легендай», прымушаючы засумнявацца ў магчымасці рэальных прычын забойства, а ў фінале вытлумачвае містыку снабачаннем стомленай гераіні, тым самым падманваючы чаканні. Аднак канцоўка застаецца адкрытай, бо, прачнуўшыся, гераіня вяртаецца да пачатку падзей, якія паўтараюць малюнкі з яе сну.

**Сюжэт любоўнага рамана** («love-story», «дамскага», «жаночага», «ружовага») арганізуе меладраматычная інтрыга, а наратарам заўсёды з'яўляецца жанчына, якая пасля пакутлівых выпрабаванняў у фінале набывае асабістае шчасце. У айчыннай прозе XXI стагоддзя знайсці «чыстую» love-story даволі складана, што абумоўлена, думаецца, агульнай нераспрацаванасцю масавай літаратуры, да якой традыцыйна адносяць любоўныя раманы. У рэалізацыі жанравых прыкмет love-story вылучаюцца дзве тэндэнцыі. Па-першае, адыход ад зададзенай сюжэтнай канвы. Па-другое, перыферыйнае месца любоўнай лініі ў структуры сінтэтыч-

> Раман Сержа Мінскевіча «Сад замкнёных гор» мае вызначэнне «3D-action ад першай асобы (з элементамі аркады і квэста)»

нага па сваёй жанравай прыродзе твора. Так, у рамане Людмілы Рублеўскай «Золата забытых магіл» элементы love-story спалучаюцца з рысамі гістарычнага дэтэктыва, у «Скоках смерці» — з гатычным раманам. «Менада і яе сатыры» (2008) Алены Брава яднае прыкметы жаночага рамана і рамана выхавання. Вольга Куртаніч у «рамане-парафразе» «Залюстрэчча для Алісы» (2003) сінтэзуе несумяшчальныя жанры — інтэлектуальны раман і love-story.

У цэнтры твора — маладая жанчына Аліса, якая знаходзіцца ў стане дэпрэсіі пасля разводу з мужам. Згодна з канонамі жанру, гераіня валодае знешнім хараством: *«Мне было дваццаць два гады, і пры ўважлівым аглядзе можна ўпэўніцца, што гады шлюбу не сапсавалі ані твару, ані фігуры; бляск недаспаных вачэй, худзіна, што прыкінулася, як хвароба, ад ляжання на нечакана мулкім ложку, нездаровы румянец яшчэ больш зрабілі мяне падобнай да Шэран Стоўн»*[1]. Адпаведна схеме любоўнага рамана, павінен з'явіцца Ён — ідэальны прыгажун з чыстым сэрцам. Менавіта такімі рысамі надзелены Дзям'ян, які аднойчы раніцай падвозіць гераіню да працы. Аднак любоўныя адносіны Алісы і Дзям'яна заканчваюцца трагічна: юнак памірае ад цяжкай спадчыннай хваробы. Чытач назірае шлях станаўлення Алісы, змены яе жыццёвых статусаў — ад адзінокай самотнай жанчыны да маці новага Месіі, багіні-ахвяры ў навастворанай рэлігіі шэфа. Увесь тэкст працяты цытатамі з казкі Кэрала «Аліса ў Залюстрэччы». Яны набываюць у творы сімвалічны сэнс, які чытачу неабходна дэшыфраваць. Акрамя таго, персанажы пастаянна вядуць размовы на сур'ёзныя філасофскія тэмы, закранаючы пры гэтым розныя пласты культуры, міфалогіі і рэлігіі.

Сярод **фантастычных раманаў** XXI стагоддзя варта назваць творы «Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн» (2003), «П'яўка» (2010) Юры Станкевіча, «Дзікія кошкі Барсума» (2009) Генадзя Аўласенкі, «Сад замкнёных гор» (2004) Сержа Мінскевіча.

Жанр «Пятай цэнтурыі…» Юры Станкевіча відавочна суадносіцца з навуковай фантастыкай (праз тэхналогіі, якімі валодаюць прышэльцы, — сінхранізатар, дзіўны гелікоптар без апазнавальных знакаў, — і кантакт з іншапланетным розумам) і мае прыкметы рамана ідэй. Апошні тычыцца пададзенай у творы канцэпцыі светаўладкавання. Філосаф Зайцаў адстойвае ідэю Сімуляцыі, Матрыцы, даводзіць, што свет — гэта камп'ютарная гульня. Ідэя Сімуляцыі была развіта ў наступным творы Станкевіча — «П'яўка», сінтэтычная структура якога яднае адразу некалькі відаў фантастыкі: навуковую, сацыяльную і міфалагічную.

Раман Сержа Мінскевіча «Сад замкнёных гор» мае вызначэнне «3D-action ад першай асобы (з элементамі аркады і квэста)». Герой праходзіць шэраг выпрабаванняў-пабоішчаў (аркада), вымушаны выканаць місію ахоўніка Саду, а потым, здзейсніўшы своеасаблівы квэст, знайсці выхад з замкнёных гор. Сам Сад Замкнёных гор уяўляецца казачна-фэнтэзійным вобразам: «*А жывуць у ім птушкі, дробныя грызуны і дробныя драпежнікі, што пільнуюць колькасць грызуноў. Жывёлаў, небяспечных для чалавека, тут няма. Спакой і радасць»*[2]. Але ў адрозненне ад біблейскага Эдэма Сад створаны толькі для жыцця аднаго чалавека, калі з'явіцца другі — слабейшы з іх загіне.

Як бачым, прыгодніцкі раман, прадстаўлены ў Беларусі цэлым шэрагам падвідаў, з'яўляецца даволі прадуктыўным жанрам і дэманструе ўласцівую сучаснай літаратуры тэндэнцыю да жанравай дыфузіі, ідэйна-структурнага сінтэтызму.

[1] Куртаніч, В. Залюстрэчча для Алісы / В. Куртаніч. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2003. — С. 5—6.

[2] Мінскевіч, С. Сад замкнёных гор / С. Мінскевіч. — Мінск: Галіяфы, 2011. — С. 58.

# УЛАДЗІСЛАЎ ЧЫЖЫКАЎ: «НА ФІЛФАК Я ТРАПІЎ ВЫПАДКОВА»

***Практыка паказвае, што ў рубрыку «Без в/а» можа трапіць хто заўгодна. Галоўнае, каб гісторыя чалавека пацвярджала: «корачка» — неабавязковая рэч для паспяховай прафесійнай самарэлізацыі. Наш чарговы герой — малады, таленавіты і сціплы. Даволі ўжо вядомы спявак не без дасягненняў: пераможца другога сезона музычнага праекта АНТ «Акадэмія талентаў» Уладзіслаў Чыжыкаў. Але па адукацыі ён... будучы філолаг-балгарыст. Што ўзыходзячая эстрадная зорка робіць на філфаку? Тэма для гутаркі.***




— На філфак я трапіў выпадкова. Недзе з класа дзявятага ў мяне на прыкмеце быў толькі адзін варыянт развіцця падзей пасля школы — эстраднае аддзяленне Універсітэта культуры і мастацтва. Іншыя варыянты ўвогуле не разглядаліся. Але калі наведваў курсы перад паступленнем, раптам зразумеў, што не хачу там вучыцца. Нейкі «бзік» у галаве з'явіўся: зразумеў, што спяваць я і так змагу, а вучыцца трэба ісці ў нейкае іншае месца. У мяне няшмат было варыянтаў, бо я здаў толькі два ЦТ. Трэцім іспытам павінна была быць творчасць. Са сваімі двума ЦТ я мог ісці або на філфак, або на журфак.

**— Чаму ты вырашыў, што табе, каб спяваць, вышэйшая адукацыя не патрэбна?**

— Я не ўзношу вышэйшую адукацыю на алімп. Некаторыя маюць па дзве вышэйшыя адукацыі, а на справе нічога не ўмеюць. Па маіх перакананнях, вышэйшая музычная адукацыя дасць дарогу кудысьці ў музычную школу, у выкладанне музыкі дзецям. А з эстрадай у яе няма нічога агульнага. У мяне за плячыма музычная школа па класе флейты, у якой я жахліва вучыўся. Тым жа, хто не мае ніякай музычнай адукацыі, шмат што трэба вучыць з нуля. Увогуле трэба наведваць заняткі маўлення, напрыклад. Гэта каштуе нятанна. Карацей, калі ты хочаш стаць добрым спеваком, патрэбна ўсяго толькі шмат грошай і часу.

**— А як развіваешся ты сам? Ці ёсць у цябе асабістыя метады?**

— Асабіста мне дапамагае тое, што я ўвесь час жыву ў музыцы: слухаю, спяваю, рэпетую. Калі ты хочаш вывучыць замеж-

ную мову, табе трэба ўвесь час трэніравацца, размаўляць на ёй. Калі ты доўга не спяваеш, ты таксама губляеш форму.

**— Які складнік для цябе больш значны — твая асабістая праца над уласным развіццём ці дапамога іншых людзей?**

— Творчым людзям вельмі складана: яны заўсёды ў нечым сумняваюцца. Нават калі ты вельмі ўпэўнены ў сабе. Спевакі, якія абыходзяцца без выкладчыкаў вакалу (самі выкладчыкі, напрыклад), таксама не могуць абысціся без парады. Нават суперпрафесіяналы з дваццацігадовым вопытам.

**— Ці дзеліш ты сваё жыццё на *да* і *пасля* «Акадэміі талентаў»?**

— Я стаўлюся да гэтага вельмі проста: не лічу «Акадэмію» нейкім незвычайным праектам. Калі казаць пра тое, што змянілася пасля яе, то, напэўна, мяне заўважылі, з’явіліся прыхільнікі, змяніліся адносіны да мяне з боку некаторых людзей, прычым, у кагосьці ў добры бок, у кагосьці — наадварот. Я не даю ніякіх нагод для агрэсіі, але людзі ўсё роўна іх знаходзяць. Проста камусьці падабаецца псаваць настрой.

**— Ці не задумваўся ты, чаму абавязаны перамогай у «Акадэміі»?**

— Напэўна, таму, што цалкам ёй аддаўся. Кожную секунду думаў пра тое, што мушу зрабіць сваю справу добра. Неабходна сябе ёй цалкам прысвяціць. Нават здаралася, што ад хвалявання не спаў па начах. Я такі чалавек: раблю сваю справу ад усяго сэрца. Гэта часам перашкаджае, бо можна перахвалявацца.

**— Добра, калі такі гіперадказны чалавек знаходзіць сваё. Ты шчаслівы?**

— Мне здаецца, што людзі, якія ставяцца да ўсяго працей, — нашмат шчаслівейшыя. Іх няпроста зачапіць.

**— Ці не шкадуеш, што трапіў на філфак?**

— Я ўвогуле ніколі ні пра што не шкадую. Нават калі праз пэўны час разумею, што і не варта было. Я сустрэў на філфаку шмат добрых людзей. І дэкан, і намеснік дэкана мяне падтрымліваюць. Увогуле, на філфак не ідуць людзі не творчыя. Быць філолагам — значыць, быць творчым чалавекам. Тым больш на філфаку адны дзяўчаты…

**— Чаму менавіта балгарыстыка? Цікавіўся гэтым раней?**

— Не асабліва. Нават не ведаў, што такая мова існуе. Проста спадабалася славянскае аддзяленне. Потым даведаўся, што ў тым годзе набіралі на чэшскую ў спалучэнні з беларускай і на балгарскую ў спалучэнні з рускай мовай. Я здаваў іспыт па рускай літаратуры, таму мусіў ісці на балгарскую. Не вельмі быў узрадаваны, але падрыхтаваўся маральна і пачаў вучыцца.

**— Наконт рускай філалогіі не думаў?**

— Не, бо славянскае аддзяленне больш прэстыжнае. Там якая-ніякая замежная мова! Можна сувязі з Кірковым завязаць. Ён зацікавіцца, калі я з ім па-балгарску пачну гаварыць. Самае смешнае, што балгары разумеюць рускую. Так крыўдна! Увогуле ўсё, што я вучу, можна ахарактарызаваць словам «экзатычна». Цікава вывучаць культуру Балгарыі, параўноўваць гэтую краіну з Беларуссю. Сувязей з Балгарыяй у нас вельмі мала, што б там ні казалі, і вывучэнне балгарскай мовы і культуры наўрад ці дасць мне практычную карысць. Хутчэй, я раблю гэта для сябе. Вучуся на 7—8. Шмат прапускаю з-за музыкі, таму ў мяне такія нізкія рэйтынгі, што асабліва заўважна падчас сесій. Калі мы праходзілі Сярэбраны век па рускай літаратуры, я заспяваў раманс. Гэта было цудоўна! За такія заняткі я і люблю філфак! Выкладчыкі, што вядуць у мяне з першага курса балгарскую мову і літаратуру, вядома, ведаюць пра маю дзейнасць, але я не бачу ад іх ніякай палёгкі.

**— Ёсць назіранне, што чалавек, які мае здольнасць да моў, мае і добры музычны слых. Што думаеш пра гэта?**

— Пра гэта я не чуў. Але ведаю, што ёсць мовы з музычным націскам, напрыклад кітайская. І людзям з добрым музычным слыхам прасцей яе засвоіць. 

*Запісала Тамара САРАЧЫНСКАЯ*



# ВЕДАЙ НАШЫХ... ІЛЬВЯНЯТ!




***Львяняты гралі, спявалі, танчылі. Але гэта былі не проста святочныя канцэрты і нават не іспыты за навучальны год, а сапраўдны творчы конкурс. Чаму ж арганізатары такой падзеі прапанавалі ў якасці яе сімвалу памульцяшнаму гарэзлівую выяву «цара прыроды»? Хто прыдумаў для юных спаборнікаў вобразнае параўнанне з ільвянятамі? Дый наогул, пра які конкурс тут гаворка?***



*Дамрыстка Эвеліна Шаўчук (Бяроза), 1-я прэмія.*

## АД ГЕРАЛЬДЫКІ ДА СТАТЫСТЫКІ

Радавод конкурсу, эмблемай і талісманам якога абрана крэатыўнае львяня, да горада Львова зусім не мае дачынення. Гэты турнір юных талентаў ладзіцца ў Лідзе і звязаны менавіта з яе гісторыяй. Дакладней, са старажытным, вядомым яшчэ з XVI стагоддзя, лідскім гербам, які змяшчае выяву льва. Геральдычны залацісты леў, узняты на заднія лапы, з ключамі ў пярэдніх, сімвалізуе моц і волю, мужнасць, смеласць і гонар, высакародны дух гараджан, выхаваных у варунках магдэбургскага права. Таксама здавён Львом або Мэтрам называлі таго, хто дасягнуў вышынь у мастацтве і, магчыма, спазнаў славу.

Ёсць відавочнае падабенства паміж гербам горада і маляўнічай эмблемай Лідскай дзіцячай школы мастацтваў, у сценах якой і праводзіцца творчы фэст з яго дасціпнай двайной назвай: «ЛьВёнок» — «Лідскі вянок». І з той самай, знаёмай эмблемай. «Школьнае» львяня нібы нясе ў сабе цікаўнасць і натхненне, імклівасць, скіраванасць да развіцця, і рухаецца гэтая непаседлівая істота, трымаючы пры сабе скрыпічны ключ. Месцічы ведаюць: забаўна «зашыфраваную» назву для фестывалю-конкурсу прыдумаў старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук Валерый



*Гітарыст Георгій Рыбак (Ліда), уладальнік Гран-пры.*



*Трубач Аляксандр Барташэвіч (Радунская ДШМ), Гран-пры.*



*Наталля Тоўсцік (Бабруйск), Гран-пры ў намінацыі «акадэмічны вакал».*



*Фартэпіянны дуэт з Оршы Дзіяна Рудакова і Кірыла Атрошчанка, Гран-пры.*

Сліўкін, а дызайн эмблемы — мастачка Тэрэса Кедык. Першы рэгіянальны фестываль-конкурс дзіцячага мастацтва «ЛьВёнок» прайшоў у 2008 годзе, уразіўшы мноствам намінацый і колькасцю ўдзельнікаў: больш як 450 юных музыкантаў з 29 школ Гродзеншчыны ды Мінскай вобласці. На трэцім конкурсе ўдзельнікаў было ўжо каля тысячы, і прадстаўлялі яны ўсю нашу краіну, а таксама суседку-Літву. А сёлета «ЛьВёнок» — «Лідскі вянок» упершыню праводзіўся ў новым статусе: як Рэспубліканскі (адкрыты) фестываль-конкурс дзіцячага мастацтва. Сярод арганізатараў — Міністэрства культуры краіны, Беларускі саюз музычных дзеячаў, галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама, Лідскі райвыканкам.

Статыстыка ўражвае! Фэст сабраў у Лідзе 2 545 удзельнікаў. Намінацыі, у якіх спаборнічалі юныя музыканты, цяжка пералічыць. Толькі ўявіце: сольнае выканальніцтва прадстаўляў 931 чалавек (тут і піяністы, і трубачы, і гітарысты; спевакі акадэмічныя і эстрадныя; выканаўцы на ўдарных інструментах, на баяне, домры, скрыпцы, валторне, жалейцы, кларнеце, балалайцы...) У намінацыі «ансамблевае выканальніцтва» выступілі 204 калектывы (аднародныя паводле складу і змяшаныя, інструментальныя і спеўныя, фальклорныя і акадэмічныя) з агульнай колькасцю 987 чалавек; намінацыя «харэаграфічнае мастацтва» ўключала 57 танцавальных пастановак з удзелам 627 чалавек.

А геаграфія? На фестывалі-конкурсе былі прадстаўлены выхаванцы 157 навучальных устаноў нашай краіны. Выступалі юныя таленты са Смаргоні, Ракава, Кіраўска, Маларыты, Іванава, Пінска, Драгічына, Жыровічаў, Дзятлава, Баранавічаў, Фаніпаля, Смалявічаў, Оршы, Смаргоні, Слуцка, Жодзіна, з вёсак Селішча і Стары Свержань, аграгарадкоў Дзераўная і Геранёны, са сталіцы і ўсіх абласных цэнтраў — зноў жа, не пералічыць!

## А ВІДАВОЧЦЫ ШТО КАЖУЦЬ?

Не варта стамляць чытачоў спісамі конкурснага журы ды шматлікімі прозвішчамі лаўрэатаў: паспрабуй назваць хаця б трацiну лепшых з лепшых, калі сярод іх толькі ўладальнікаў Гран-пры — трынаццаць: салісты, ансамблі... Няхай падзеляцца сваімі непасрэднымі ўражаннямі ды высновамі сябры па музычнай суполцы, якія рупяцца пра выяўленне і падтрымку маладых талентаў, пра выхаванне новай генерацыі майстроў-прафесіяналаў і аматараў мастацтва.

**Старшыня праўлення БСМД, народны артыст Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Міхась ДРЫНЕЎСКІ:**

*«Гэты конкурс адкрывае ўсё новыя імёны адораных дзяцей. За кожным іх выступленнем — велізарная праца, эма-*

*цыянальнае напружанне і ў выніку — трыумф або расчараванне. Але расчараванняў быць не павінна. Нам пашчасціла займацца самай прыўкраснай з усіх з'яў на зямлі: Музыкай. Гэта і ёсць найвялікшая ўзнагарода! Зразумела, не ўсе спаборнікі стануць у будучыні выбітнымі майстрамі, але дзякуючы ўдзелу ў конкурсе яны атрымаюць новыя магчымасці для прафесійнага росту і навучацца заўсёды і ва ўсім імкнуцца да самага высокага выніку. Не варта сканцэнтроўваць думкі на прызах, саперніках і адзнаках, бо фестываль-конкурс "ЛьВёнок" ("Лідскі вянок") — не толькі сур'ёзнае выпрабаванне. Перадусім гэта — адметнае мастацкае свята ў жыцці краіны! Няхай яго гісторыя будзе доўгая і яркая».*



*Лаўрэат 1-й прэміі магіляўчанка Ганна Асеева (домра).*

**Вядомы артыст і педагог, лаўрэат міжнародных конкурсаў, старшыня Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў БСМД Мікалай МАРЭЦКІ, узначальваў журы ў намінацыі «домра-мандаліна»:**

*«Больш як 60 навучэнцаў па нашай спецыяльнасці, прадстаўнікоў дзіцячых музычных школ і школ мастацтваў з усіх рэгіёнаў Беларусі спаборнічала ў чатырох узроставых катэгорыях. Пераканальны паказчык росту цікавасці да домры і мандаліны! Апроч таго, парадавалі прыклады высокага выканальніцкага ўзроўню ігры на гэтых інструментах. Добрыя тэхнічныя навыкі, шчырая музыкальнасць, разнастайны рэпертуар, падабраны педагогамі, — усё гэта варта адзначыць. Сярод найбольш яркіх уражанняў — ігра Ільі Кокіна (Гран-пры конкурсу, Бабруйская ДШМ № 1 імя Я. Цікоцкага) і выступленні ўладальніц 1-х прэмій: Таісы Кушынай (сталічная ДШМ № 17), Эвеліны Шаўчук (ДШМ г. Бяроза), Аляксандры Тарасевіч (Зельвенская ДШМ), Ганны Асеевай (Магілёўская гімназія-каледж мастацтваў). Мае шчырыя віншаванні настаўнікам і канцэртмайстрам — яны годна падрыхтавалі ўсіх удзельнікаў да конкурсу, а таксама яго выдатным арганізатарам, сярод якіх сваёй велізарнай працай вылучылася дырэктар Лідскай ДШМ Алена Спірына. Што пажадаць? Паспяховага далейшага правядзення фестывалю-конкурсу і пашырэння намінацыі "домра-мандаліна" праз удзел адпаведных малых ансамбляў».*



*Улада Чайка (домра) і Кірыла Ражкоўскі (баян) — бабруйскі дуэт «Усмешка», адзначаны Гран-пры.*

**Лаўрэат міжнародных конкурсаў, артыстка трыа «Кансананс» Беларускай дзяржаўнай філармоніі, старшыня журы ў намінацыі «цымбалы» Таццяна ШУМАКОВА:**

*«Я ўражана і маштабам фестывалю-конкурсу (доўжыўся цэлы месяц і ўключаў агромністую колькасць намінацый), і высокім узроўнем правядзення гэтага свята. Спаборнікі ўсіх узроставых катэгорый выступалі ў Вялікай зале Лідскай дзіцячай школы мастацтваў, у цудоўных акустычных умовах. Удзельнічала больш як 70 цымбалістаў. Слухала іх — і мяне перапаўнялі радасць ды гонар за наш цудоўны інструмент, за беларускую выканальніцкую цымбальную школу, за тое, што гэтулькі багата*



*Танцавальны ансамбль «Забавушка», (Ліда), 1-я прэмія.*



*Два лідскія сімвалы — леў і львяня.*

*юных таленавітых музыкантаў вучыцца граць на нашым народным інструменце. Многія выступленні былі яскравыя, выразныя і артыстычныя. Хтосьці зачароўваў сваёй дзіцячай непасрэднасцю і жвавасцю, а хтосьці ўражваў глыбінёй і шчырасцю выканання, музыкальнасцю, высокай культурай гукавядзення, разнастайнасцю дынамічных адценняў і штрыхоў, — словам, досыць прафесійным валоданнем цымбаламі. Аднак не ўсім удалося справіцца з хваляваннем і выканаць сваю конкурсную праграму настолькі добра, каб стаць пераможцам. Ды многім усё ж удалося! У нашай намінацыі вучаніца мінскай ДМШ № 7 Аляксандра Андрушкевіч атрымала Гран-пры, званнем лаўрэата розных ступеняў і ў розных узроставых катэгорыях адзначаны 21 удзельнік, а 22 спаборнікі сталі дыпламантамі. Пагадзіцеся, гэта вельмі добры вынік! А ў ім адлюстроўваецца ўражлівая, вялікая праца педагогаў. Дзейнасць такіх настаўнікаў надзвычай важная: яны рыхтуюць новае пакаленне цымбалістаў-выканаўцаў, перадаючы ім любоў да нашага інструмента і ўводзячы іх у дзівосны свет Музыкі. Хочацца назваць хаця б некаторых педагогаў, чые вучні сталі лаўрэатамі: Л. Папкова, Ж. Савіцкая, З. Мінуліна, І. Ціхановіч, Т. Марчанка, Д. Шкут, Н. Забеліна, Т. Бондар, Т. Грынцэвіч, Ю. Калягіна, Л. Лашкова, І. Кульчыцкая... Варта падзякаваць і канцэртмайстрам, без якіх выступленні канкурсантаў не былі б такімі яркімі ды запамінальнымі: гэта В. Гайдукевіч, Л. Шабаліна, Т. Целярыцкая, Т. Бахта, Н. Кузьмянкова, І. Махмуранц, Н. Русіна, С. Іванова, М. Мандрова, Т. Каралёва, І. Афоніна, А. Лагута ды іншыя цудоўныя музыканты».*

**Наталля ВІТЧАНКА, першы намеснік старшыні праўлення БСМД, член конкурснага журы:**

*«Заўважце: такі маштабны праект нарадзіўся і паспяхова здзяйсняецца не ў сталіцы, а ў раённым цэнтры, і не побач з Мінскам, а на Гродзеншчыне! Гэта ламае ўстойлівы стэрэатып у адносінах да магчымасцей малых гарадоў. Аснова такога поспеху — суладдзе ў дзеяннях усіх звёнаў арганізацыі: ад райвыканкама да педагагічнага калектыву школы. І ў межах кампактнага горада гэта куды лягчэй дамагчыся, чым у сталічным мегаполісе. Ды і людзі да гэтай справы прычыніліся асаблівыя. Аргкамітэт фестывалю-конкурсу ўзначаліў намеснік старшыні райвыканкама Антон Глаўніцкі — інтэлігентны, культурна адукаваны, дэмакратычны, які і павінен быць сучасны кіраўнік. І, вядома ж, дырэктар школы Алена Спірына, чые чалавечыя і дзелавыя якасці заслугоўваюць самай высокай адзнакі. "Вагу" конкурсу надае і тое, што на прапанову паўдзельнічаць у працы журы адгукнуліся "мэтры" беларускага музычнага мастацтва, у свой час узнагароджаныя лаўрамі міжнародных спаборніцтваў самага высокага класа і прэстыжнымі прэміямі. Ні кульмінацыя навучальнага года, ні выхадныя дні, ні стамляльная дарога не сталі прычынай для ваганняў. Яны з энтузіязмам паехалі ў Ліду. І потым казалі, што гэта была выдатная магчымасць убачыць "зрэз*



*Лідская ДШМ.*

*будучыні” таго ці іншага віду выканальніцкага мастацтва і з прыемнасцю пераканацца ў вельмі высокім узроўні падрыхтаванасці асноўнай часткі канкурсантаў. Актыўны ўдзел у працы журы бралі педагогі Лідскага музычнага каледжа, што сведчыць пра атмасферу агульнай зацікаўленасці падзеяй у прафесійным асяродку».*

* * *

«Фірмовую марку» арганізатары трымалі нават падчас урачыстага падвядзення вынікаў. Кожнаму ўладальніку Гран-пры быў уручаны гіганцкі леў, а ўсім удзельнікам фестывалю-конкурсу, незалежна ад вердыкта журы, дасталіся мяккія цацкі. Дыпломамі адзначылі ўсіх фіналістаў, а лаўрэатаў трох ступеней узнагародзілі адмысловымі знакамі з відарысам эмблемы «ЛьВёнка» — «Лідскага вянка». Узнагароды, падарункі... Юныя твары ззяюць ад радасці, якая жывіць атмасферу ў зале, і гэта кранае ўсіх прысутных. Але самае прыемнае, што ў новым статусе лідская мастацкая імпрэза дае таленавітым ільвянятам ды іх педагогам, найперш маладым настаўнікам-музыкантам, харэографам, кіраўнікам дзіцячых калектываў усёй краіны, новы стымул да прафесійнага ўдасканалення і творчасці.

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ***

## КРУГЛАЯ ДАТА

**У складзе мінскага трыа баяністаў Таццяна Брагінец (Кароткая) неаднойчы заваёўвала званне лаўрэата на міжнародных конкурсах. А яшчэ яна выхавала нямала сапраўдных музыкантаў, сярод якіх — мастацкі кіраўнік вакальнага ансамбля «Камерата» Ігар Мельнікаў; дырыжор Пётр Вандзілоўскі; кампазітары Сяргей Хвашчынскі, Уладзімір Саўчык; вядучыя педагогі БДУ культуры і мастацтваў, музычных навучальных устаноў Брэста і Наваполацка. Амаль паўстагоддзя выкладае Таццяна Пятроўна ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі: вядзе клас баяна і курс методыкі навучання ігры на ім, перадае студэнтам сакрэты ансамблевага выканальніцтва. У жніўні Таццяна Брагінец адзначае сваё 70-годдзе.**

## ДУША ПЯЕ!

**Аўтарскія песні,** музыка для баяна (акардэона) і ансамбля народных інструментаў, харавыя апрацоўкі песеннага фальклору Беларусі, Германіі, Польшчы, Расіі, Украіны, пералажэнні для баяна шэдэўраў Баха і Вівальдзі, п’есы для дзяцей... Музыкант-выканаўца, заўзяты аматар народнага спеўнага мастацтва Віктар Фяцісаў з энтузіязмам займаецца творчасцю і выдае зборнікі сваіх разнажанравых кампазіцый. Вучыўся Віктар Васільевіч у Бранску, Арле, Маскве, жыве і працуе ў Брэсце, якому, дарэчы, прысвяціў нямала сваіх патрыятычных песень. Як баяністу яму даводзілася шмат выступаць па Беларусі ды Расіі, а таксама ў Балгарыі, Германіі, Малдове, Польшчы, Славакіі, Фінляндыі, Чэхіі. Віктар Фяцісаў, аўтар ужо больш як чатырох з паловай соцень твораў, свой новы, чатырнаццаты па ліку нотны зборнік выдаў пад назвай «Шкада, заснежана сцяжынка». Сярод іншага, у ім ёсць і новыя песні.



Ягор КОНЕЎ

# ПРА АНІСЕНКУ



**ДАВЕДКА «М»**

***Валерый АНІСЕНКА — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, акадэмік Міжнароднай Кірыла-Мяфодзіевай акадэміі славянскай асветы, лаўрэат дзяржпрэмій. Мае ордэн Францыска Скарыны. Сёлета адзначае 70-годдзе.***

## ДЗЯЦІНСТВА

Бацька — Данііл Ягоравіч — быў майстар, як кажуць, «залатыя рукі»: умеў і печы класці, і ветраны млын збудаваць, і прыклад да паляўнічай стрэльбы вырабіць. У маладосці на спатканне да будучай жонкі ездзіў на ровары, які змайстраваў з дрэва. Але разам з тым меў і сур'ёзны недахоп — дужа часта «зазіраў у келіх». У дзень зарплаты мог набыць скрыню гарэлкі, склікаць «сябрукоў» — і капітальна «загуляць».

Маці — Антаніна Ягораўна — характар мела цвёрды і не жадала бясконца цярпець загулы мужа. У 1951-м бацькі разышліся. Сямігадовы Валерка, яго старэйшы брат Уладзімір, малодшы брат Аляксандр і сястра Эма засталіся з мамай. Бацька сумаваў без дзяцей, часта з імі бачыўся, аднак адцурацца згубнай цягі да алкаголю не здолеў. У 1969-м памёр.

Антаніна Ягораўна паўторна замуж не пайшла, хоць сваталіся неаднаразова: баялася, што новы муж пакрыўдзіць яе дзяцей. На ўсё жыццё ў Анісенкі захаваўся ўспамін — зімой на золку матуля будзіць яго, падсоўвае пад коўдру адзенне, каб сагрэў, ён апранаецца і брыдзе па замеценым сумётамі завулку ўслед за ёю і сястрой на ферму. Там маці доіць кароў, а Валерка і Эма насыпаюць корм, наліваюць ваду. Пасля школы — зноў на ферму. І яшчэ раз увечары.

## КНІЖКІ, ДУХАВЫ АРКЕСТР, ХАЎТУРЫ

Без асаблівага замілавання прыгадваецца і нарыхтоўка дроў у зімовым лесе. Слабы конь ледзьве цягне сані па разбітай дарозе. Аднойчы знясілена валіцца — і Валерка ўсю ноч цягае ламачча. Ад стомы яго хістае. Раніцай вяртаецца дадому з адзервянелымі рукамі і нагамі, жуе кавалак сала і тэпае ў школу. Адтуль — на ферму. Паслабленняў ніхто не дае.

Куды больш светлыя ўспаміны пра летнюю пару. У памяці найперш захаваліся чароўнай прыгажосці світанкі ды заходы,

звонкія спевы жаўрукоў, бег аблокаў у празрыстай сінечы. Здаралася, пакуль статак шчыпле траву на лузе, юны Валерка ляжа на ўзгорку, закіне рукі за патыліцу і, гледзячы ў неба, сачыняе, марыць.

Няўрымслівую гульню ўяўлення разварылі кніжкі. Першым творам, які добра запомніўся, быў «Вершнік без галавы». Бацька папрасіў сына пераказаць сюжэт, і малога Валерку вельмі ўсцешыла тое, з якой увагай слухаў яго тата. Пэўна, тады ў хлопца з'явілася ўсведамленне, што ён можа голасам зачароўваць, настройваць на адпаведны лад успрымання.

Мажліва, гэта адчуванне спрычынілася да таго, што ў 12 гадоў Валерка Анісенка далучыўся да мясцовай мастацкай самадзейнасці. Ён запісаўся ў духавы аркестр.

У калектыве развучылі тры ўрачыстыя маршы, якія гралі, маршыруючы па цэнтральнай вуліцы Талачына, тройчы на год — 1 мая, 9 мая і 7 лістапада. У астатнія дні аркестр запрашалі пераважна на пахаванні, дзе музыканты выконвалі 3-ю частку санаты № 2 Шапена. Пасля смерці Сталіна ў СССР усталявалася такая мода — праводзіць годных людзей у апошні шлях пад духавую музыку. З выкананнем марша Шапена аркестр гастраляваў — на павозках улетку, на санях узімку — па ўсім Талачынскім раёне. Пасля пахавання музыкантаў запрашалі на хаўтуры, дзе гарэлка лілася ракой. На долю юнага Анісенкі, як адзінага цвярозага ў калектыве, выпадала адказная задача — сабраць інструменты і напаўпрытомных аркестрантаў, датранспарціраваць без страт да Талачына і развесці па хатах. Здаралася, гэты пачэсны абавязак займаў у яго цэлую ноч. А на досвітку ён шоў на ферму, потым — у школу.

Аднойчы ўзімку аркестр прыкаціў у далёкую вёску. На памінках музыканты перапілі. Валерка звыкла «пакаваў» старэйшых таварышаў па санях — і раптам аднаго не далічыўся. Абышоў усе вуліцы, нават на могілкі зазірнуў — чалавек знік бясследна. І распытаць няма каго — уся вёска п'яная ўшчэнт.

Цямнела. Падлетка агортваў адчай. Куды б ні знік п'яны дурань, уночы на марозе сканае. А снегу намяло столькі, што дарога пралягае на ўзроўні дахаў. І раптам Анісенка чуе аднекуль жаласлівы стогн. Хлопец ідзе на гук і неўзабаве адшуквае калодзеж глыбінёю метры два. На дне енчыць зніклы аркестрант. Той калодзеж выкапала для гульняў мясцовая дзятва.

Па дарозе ў Талачын юны Анісенка адзначае: трэба надзвычай любіць музыку, каб граць у такім калектыве!

## СЦЭНІЧНАЕ ВІДОВІШЧА «НАШЧАДКІ РАБУРДЭНА»

У раённым Доме культуры дзейнічалі розныя гурткі. Валера Анісенка запісаўся спачатку ў танцавальны, потым у харавы, затым — у драматычны. На занятках танцамі ён з асалодаю «таптаў паветра». У хоры да дрыжыкаў у каленях адчуў моц калектыўнага голасу. На занятках драмгуртка зразумеў: яго наканаванне — тэатр.

Яму было 15, калі ў Талачын прыехалі артысты Тэатра імя Якуба Коласа. Сцэнічнае відовішча «Нашчадкі Рабурдэна» ашаламіла яго. Нарадзілася слушнае пытанне: як трапіць у незвычайную рэальнасць?

Валерка пашыбаваў да гасцініцы, у якой пасяліліся віцебскія акцёры, дачакаўся іх вяртання і, адольваючы сарамлівасць, спытаў у паважнага мужчыны (ім аказаўся акцёр Анатоль Шэлег):

— *Дзядзечка, а як у артысты трапляюць*?

— *Вучыцца трэба*.

— *Дзе?*

— *У інстытуце*.

Перад хлапцом пашырыліся далягляды — аказваецца, недзе існуе «кузня» тэатральных кадраў. Значыць, ён абавязаны туды патрапіць!

Матуля, праўда, меркавала, што сыну больш пасуе прафесія механізатара. Каб дагадзіць ёй, Валерка пасля 8-га класа нават сабраў дакументы для паступлення ў Коханаўскі тэхнікум механізацыі. Але ў апошні момант перадумаў падаваць іх, а маці сказаў, што атрымае закончаную сярэднюю адукацыю.

## СЭНС МУДРАГЕЛІСТАЙ ЗАЯВЫ

У 10-м яго падсцерагла новая «небяспека». У Талачын прыехаў з Ленінграда прадстаўнік Вышэйшага радыётэхнічнага вучы-

лішча — шукаў таленавітых вучняў. Многіх кандыдатаў забракаваў, а выбар спыніў на кемлівым Анісенку. Ды Валерка агучыў матулі жыццёвы план:

— *Не хацеў я быць механізатарам, і ваенным не хачу. Калі можна, я спачатку паспрабую туды, куды хачу. Калі ж не атрымаецца, то пайду, куды скажаш*.

Антаніна Ягораўна ўзважыла сэнс мудрагелістай заявы, убачыла, як палаюць хлапечыя вочы — і пагадзілася: абы сын пачуваўся шчаслівым!

Улетку 1961-га Валера Анісенка скончыў сярэднюю школу № 2 і пастанавіў, што час яму выбірацца з дробнага Талачына ў вялікі свет. Яго звязвала з родным гарадком адзіная нітачка — шаша Масква—Брэст. Па ёй і пакаціў Анісенка ліпеньскім ранкам у кузаве папутнага ЗІСа. Праз пяць гадзін язды, запылены з галавы да ног, высадзіўся ў Мінску ля Акадэміі навук — там гарэў адзін з нешматлікіх у тую пару светлафораў, — перайшоў Ленінскі праспект і ступіў на парог Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.

Ішоў набор на курс прафесара Дзмітрыя Арлова. На іспыце Анісенка ўзнёсла прадэкламаваў верш Пятра Прыходзькі пра Беларусь і пранікнёна — маналог пра маці Алега Кашавога з рамана Аляксандра Фадзеева «Маладая гвардыя». І пачуў:

— *Анісенка, вы не прыняты. Але не засмучайцеся. Чакайце. Будзе дадатковы набор. Вы першы ў шэрагу кандыдатаў*.

Агарошаны хлапец вярнуўся ў Талачын. Але аднойчы спякотным поўднем цётка Вольга здалёк памахала канвертам і сказала:

— *Скачы*.

Сонечны прамень прасвечваў скрозь канверт паведамленне: «*Залічаны*».

## ЯК РАЗМАЎЛЯЦЬ З КАРОВАЙ

У тэатральна-мастацкім Анісенка спярша вучыўся пасрэдна. Гэта ў Талачыне ён быў лепшым вучнем у школе, а тут, у Мінску, да жаху саромеўся выкладчыкаў і на заліках ад хвалявання ледзьве языком варушыў. Пералом адбыўся ў час іспыту па акцёрскім майстэрстве. Належала адыграць эцюд — без адзінага слоўца выявіць завершаную па сюжэце дзею. Анісенка прадэманстраваў выпадак з дзяцінства — як даіў злосную карову. Падкраўшыся да ўяўнай жывёліны, прывязаў ёй уяўны хвост, памасіраваў уяўнае вымя, а карова тым часам узбрыквала. Сярод гледачоў пачуліся смяшкі. Калі ж Анісенка, атрымаўшы ўяўны ўдар капытам, паваліўся і крыкнуў: «А ё…!», грымнуў рогат. Валерый сеў на месца. Аднагрупнік Віктар Зубараў ціха прарочыў:

— *Цяпер цябе адлічаць*.

— *За што*?

— *Ты мацюкнуўся.*

— *А як яшчэ з каровай размаўляць?*

Кіраўнік курса Арлоў выціраў слёзы ад смеху і паўтараў:

— *Малайчына, Аніс*…

З таго дня мянушка «Аніс» на доўгія гады замацавалася за Анісенкам. І з таго ж дня хлопец паверыў у свой талент і непазбежны поспех. «*Такая ўжо ўласцівасць сялянскіх дзяцей. Яны, бы сырыя дровы, доўга разгараюцца, затое потым палка гараць*».

## ТРАВІНКІ ДЫ ГАЛІНКІ

У 1965-м курс пад кіраўніцтвам Арлова рэпеціраваў дыпломны спектакль «Ягор Булычоў ды іншыя» паводле п'есы Горкага. Галоўную ролю выконваў Валерый Варонін. Анісенка быў яго дублёрам. Аднойчы на рэпетыцыі Майстар сагнаў са сцэны Вароніна, незадаволены ягонымі высілкамі.

— *Паспрабуй, Аніс*!

На адзеравянелых нагах Валерый выйшаў на авансцэну і вымавіў:

— *Народу папсавалі столькі, што глядзець страшна*...

— *Стоп*! — злосна крыкнуў Арлоў.

І ўчыніў групе прачуханку — саркастычна «даў дыхту»: маўляў, лайдачаць, не рыхтуюцца да роляў.

— *Яшчэ раз паспрабуем заўтра. Калі вынік будзе, як сёння, варты жалю, — здымаю спектакль*!

Анісенка ў роспачы пабрыў у парк Чалюскінцаў, сеў на траву і ледзь не расплакаўся. Здавалася, жыццё скончылася. Бо як ён будзе жыць без тэатра?..

Ён стаў засяроджана збіраць травінкі ды галінкі і будаваць з іх памяшканне для вайсковага шпіталя. І раптам у фантазіях «убачыў» палату цяжкапараненых, у ёй — ложкі, на іх — знаёмых яму людзей. У кагосьці пашкоджана галава, у некага — гніе нага. Анісенка нават адчуў смуродны пах хворай плоці. Прычым, разглядаў гэта не сам Валерый, а яго персанаж — Ягор Булычоў. Праз шмат гадоў, ужо ў якасці рэжысёра-пастаноўшчыка, ён будзе патрабаваць ад выканаўцаў, каб праз напружанае фантазіраванне і аналіз уласнага досведу «*насычалі шкілет ролі мясам вобраза*».

Назаўтра Анісенка некалькі кіламетраў тэпаў па горадзе, выпрацоўваючы хаду Ягора Булычова. У вызначаны час падняўся на сцэну і прамовіў:

— *Народу папсавалі столькі, што глядзець страшна…*

І пачуў крык Арлова:

— *Стоп*! *Адразу відаць, што чалавек працаваў над роляй. На такога чалавека можна спадзявацца. Малайчына*!

**ПАВОДЛЕ АПОВЕСЦІ БЫКАВА**

Два гады Валерый Анісенка бліскуча (згодна водгукам крытыкаў) граў на сцэне Коласаўскага тэатра. Яму шанцавала на каларытныя ролі. А вось «заручыны» з кінематографам не адбыліся. У 1966-м яго запрасілі на галоўную ролю ў мастацкім фільме «Пастка» паводле аповесці Быкава. Узрадаваны артыст памкнуўся да начальства — адпрошвацца на здымкі. Але дырэктар Геральд Асвяцінскі строга забараніў:

— *Замяніць вас няма кім*.

Паўстала нежартоўная дылема: тэатр ці кіно? І Анісенка, думаючы пра тэатр, у якім да яго паставіліся так зычліва, адмовіўся ад удзелу ў фільме.

Яго яшчэ колькі разоў запрашалі здымацца ў кіно — ён адхіляў прапановы. У 1967-м галоўны рэжысёр Тэатра імя Янкі Купалы Барыс Эрын прапанаваў яму пераехаць на працу ў Мінск. Анісенка ахвотна пагадзіўся. Але перад тым мусіў на працягу года служыць у Савецкай Арміі. Паколькі ў тэатральна-мастацкім інстытуце не было ваеннай кафедры, то мабілізавалі яго цяпер. Калі ж пасля дэмабілізацыі Анісенка прыйшоў у Купалаўскі, то заспеў там кардынальныя перамены. Барыс Эрын звольніўся, тэатр спачатку ўзначаліў Ціхан Канрашоў, а неўзабаве — Валерый Раеўскі.

Для Анісенкі наступіла неспрыяльная пара. Ён не належаў да кагорты любімых артыстаў Раеўскага, таму значных роляў не атрымліваў. Гэта падавалася яму тым больш крыўдным, што ў адрозненне ад многіх іншых артыстаў сябраваў з дысцыплінай і не «зазіраў у кілішак». Між тым, некаторым яго калегам даручалі галоўныя ролі ў спектаклях менавіта для таго, каб уратаваць ад непрабуднага п’янства.

Нельга сказаць, нібыта ён зусім быў пазбаўлены роляў. Яго часта ўводзілі ў так званыя «старыя» спектаклі — іх захоўвалі ў рэпертуары для гастроляў па правінцыях. У «старых» пастаноўках Анісенку пашчасціла быць партнёрам Паўла Малчанава і Лідзіі Ржэцкай, Сцяпана Барылы і Леаніда Рахленкі, Здзіслава Стомы і Уладзіміра Дзядзюшкі, Галіны Макаравай і Стэфаніі Станюты. Але рэжысёрскага даверу бракавала. Аднойчы Раеўскі прапанаваў яму роль Юры ў п’есе «Вясёлы тракт». Ды як толькі пачаліся рэпетыцыі, радыкуліт зваліў Валерыя ў бальнічны ложак. Калі выпісаўся, спектакль быў пастаўлены, галоўную ролю ў ім бліскуча адыграў Генадзь Гарбук. Раеўскі суцешыў:

— *Даю табе слова гонару, будзеш граць Юру*!

І забыўся на абяцанне.

**ЧАС ПАЛІЦЬ МАСТЫ**

Яшчэ да пачатку «купалаўскага» перыяду свайго жыцця — на 4-м курсе інстытута ён ажаніўся з аднакурсніцай Святланай Некіпелавай. Нарадзілася дачка Ганна. Але праз 6 гадоў шлюб разладзіўся. Жонка раўнавала мужа да прафесіі. Дзіця засталося пад наглядам маці, Анісенка пайшоў жыць у тэатр. Яго пасялілі ў музеі, на пятым паверсе...

***Цалкам тэкст чытайце на www.maladost.lim.by***

Рубрыка гістфакаў краіны

Эдвард Тамаш МАСАЛЬСКІ

# З УСПАМІНАЎ (1799—1824)*

## IV

Пасля выбараў я выправіўся разам з дзядзькам у Рудаўку, забраўшы з сабой маю шматмоўную Біблію, з якой меркаваў вывучаць усходнія мовы. Прыехаў Слізень з сынамі, у іх кампаніі Корбут адправіў мяне і Даменіка, намовіўшы нам правадніком ў дарогу Карнеля, які абавязаўся знайсці для нас у Вільні жытло. Выпраўляючы нас у дарогу, дзядзька, як чалавек дакладны і акуратны, выдаў нам маршрут з указаннямі, як мы павінны былі ехаць, куды і на колькі часу заязджаць у госці. Была парада, каб заехалі ў Нянькава[1], дзе жыў Аўгуст Вайніловіч, які нядаўна ажаніўся з Жазефінай Корбут. Туды, апавядаў дзядзька, трэба прыехаць рана, пасля начоўкі ў Карэлічах, паснедаць у іх і потым на абед паспець у Наваградак, дзе можна патрапіць за стол да Ігельстромаў[2], адтуль на ноч ужо не памятаю да якога месца, і так на цэлую дарогу. Слізень і Карнель абяцалі прытрымлівацца гэтых парад.

Такім парадкам мы трапілі ў Вільню і знайшлі выгоднае жытло ў пансіянаце пана Жако, швейцарца, жанатага на шляхцянцы Камінскай. Пансіянат той месціўся на другім паверсе капітульнага дома[3] на Замкавай вуліцы[4] каля Бернардзінскага завулка, дзе потым знаходзілася кнігарня Завадскага[5]. Заспелі мы там Юзафа і Людвіка Касакоўскіх, Брунона, Урбана Беніслаўскага, якія з'яўляліся нашымі полацкімі калегамі, і некалькі новых. Адразу пасля таго, як запісаліся ў журнал, пачаў наведваць лекцыі розных універсітэцкіх курсаў, каб выбраць дысцыпліну і вызначыцца трохі з тамтэйшым яе выкладам і магчымасцю здаць іспыт для пацвярджэння якой-небудзь з маіх полацкіх ступеней: то бок магістра філасофіі або магістра права. Універсітэцкія ўлады, да якіх я звяртаўся за пацвярджэннем, паставілі падобны іспыт як абавязковую ўмову. Тое пацверджанне я хацеў атрымаць спачатку, каб ужо праз год, які збіраўся правесці ва ўніверсітэце, атрымаць ступень доктара. Аднак мусіў адступіцца ад таго праекта, бо гэта было зацяжка, урэшце запісаўся на юрыдычны аддзел і рупліва прыступіў да вучобы.

У хуткім часе стараннасцю і адказамі з прачытаных лекцый (такі быў звычай ва ўніверсітэце, калі прафесура пасля некалькіх лекцый ладзіла штосьці накшталт невялікага экзамена, на падставе якога атрымлівалі ўяўленне аб поспехах вучняў) займеў добрую рэпутацыю ў прафесараў Капеллі[6],

---

* *Працяг. Пачатак у № 6, 7, 2014 г.*

[1] Нянькава — вёска ў Навагрудскім раёне Гарадзенскай вобласці (Асташынскі сельсавет).

[2] Ігельстромы — графскі і дваранскі род шведскага паходжання. Густаў Густававіч Ігельстром (1777 — пасля 1834), генерал-маёр, камандзір 2-й брыгады Літоўскай уланскай дывізіі. Канстанцін Густававіч Ігельстром (1799—1851), сябра масонскай ложы «Вузел адзінства» ў Наваградку, дзекабрыст.

[3] На Замкавай вуліцы знаходзілася некалькі двухпавярховых дамоў, якія належалі некалі віленскаму капітулу.

[4] Замкавая вуліца — адна з найбольш старажытных вуліц Старога горада. Пачынаецца ад паўднёва-ўсходняга кута Кафедральнай плошчы і вядзе з поўначы на поўдзень у кірунку Ратушы на Ратушнай плошчы і далей да Вострай брамы.

[5] Завадскі Юзаф (1781—1838) — віленскі выдавец, кнігагандлёвец, масон. Кнігарня Завадскага з'яўлялася папулярным месцам сустрэчы віленскай інтэлігенцыі.

[6] Капеллі Алозій (Алаізій) — доктар права і філасофіі, з 1804 года выкладаў у Віленскім універсітэце царкоўнае права, яго лекцыі вызначаліся вальнадумнай антыклерыкальнай скіраванасцю.

Даніловіча[1], Лялевеля[2] і павагу сярод сваіх калег. Гэта быў рэдкі выпадак у асяродку тых, хто прыбыў са мной; запісаўшыся ва ўніверсітэт, яны ледзь паспявалі; іншыя, адчуўшы цяжкасці, думалі толькі пра гулянкі і паступова знікалі з універсітэцкіх лаваў.

Мая стараннасць у навуках і добрыя паводзіны выклікалі такую прыхільнасць з боку старэйшых калег, што яны ўганаравалі мяне запрашэннем у Таварыства філарэтаў[3]. Прымалі туды не ўсіх, хто вучыўся ва ўніверсітэце і хацеў таго сам, а толькі выбраных. Таварыства тое было нібыта таемным, хаця і кіраўніцтва, і ўсе добра пра іх ведалі. Таямніца была толькі ў тым, што пасяджэнні не былі публічнымі, а толькі для сяброў таварыства. Мэтай арганізацыі з'яўлялася грамадскае выхаванне моладзі на карысць краю; гэта быў сродак паляпшэння нораваў і адносін да адукацыі. На працягу некалькіх гадоў пасля вайны з французамі ўніверсітэцкая моладзь Вільні кінулася без тармазоў у свавольніцтва, занядбала навуку і праславілася сваёй разбэшчанасцю і нахабствам. Цяжка было гэта выправіць, віленскія ўніверсітэцкія ўлады не мелі тады права пакарання моладзі; выключыць паскуднікаў з шэрагаў навучэнцаў таксама магчымасці не было, загніванне ахапіла ўсю віленскую вучнёўскую моладзь; да таго ж наведваць лекцыі мог кожны, нават запісвацца ў журнал не патрабавалася, таксама свабодна можна было з'язджаць дамоў. Некалькі прыстойных памешчыкаў, сярод якіх былі Ян Ходзька[4] і Міхал Ромер[5], дбаючы пра маральнасць, што мусіла вельмі пацярпець, калі б універсітэцкая гніль разам з сапсаванай моладдзю пачала распаўсюджвацца далей, з ведама ці, можа, па натхненні князя Чартарыйскага[6], куратара ўніверсітэта, вырашылі ўплываць на моладзь сродкамі, здольнымі заахвоціць іх да працы і паляпшэння маралі. За найлепшы сродак яны ўважалі ўтварэнне таварыства сярод моладзі.

Запрашэнне ў дадзенае таварыства мусіла быць узнагародай за добрыя паводзіны і стараннасць у навучанні. Яны звярнулі ўвагу на лепшых у той час універсітэцкіх вучняў і заахвоцілі іх да ўтварэння таварыства, нібыта з іх уласных памкненняў. Знайшлося тады мізэрна мала годных з аграмаднай колькасці вучняў, а менавіта: Францішак Малеўскі[7], сын рэктара ўніверсітэта, Адам Міцкевіч[8], Тамаш Зан[9], Юзаф Яжоўскі[10] старэйшы, Петрашкевіч[11],

---

[1] Даніловіч Ігнат Мікалаевіч (1787—1843) — гісторык права і археограф, прафесар, выкладаў у Віленскім універсітэце ў 1814—1824 гадах права.

[2] Лялевель Іаахім (1786—1861) — польскі гісторык і грамадска-палітычны дзеяч, выкладаў у Віленскім універсітэце ў 1815—1818 і 1821—1824 гадах гісторыю.

[3] Таварыства філарэтаў — польская таемная студэнцкая арганізацыя, дзейнічала ў Віленскім універсітэце ў 1820—1823 гадах.

[4] Ходзька Ян Барэйка (1776—1851) — масон, удзельнік таварystваў дабрачыннасці і шубраўцаў, тэатрал, літаратар, грамадскі дзеяч.

[5] Ромер Міхал Юзаф (1778—1853) — з 1817 года маршалак шляхты Віленскай губерні, адзін з арганізатараў масонства ў Беларусі, майстар ложы «Руплівы літвін» («Gorliwy Litwin») і «Дасканалая згода» ў пачатку XIX ст.

[6] Чартарыйскі Адам Ежы (1770—1861) — польскі і расійскі дзяржаўны дзеяч, у 1804—1806 гадах — міністр замежных спраў Расійскай імперыі, куратар Віленскай навучальнай акругі (1803—1824), ідэолаг паланізацыі на беларуска-літоўскіх землях.

[7] Малеўскі Францішак (1800—1870) — адзін з арганізатараў Таварыства філаматаў, сын рэктара Віленскага ўніверсітэта Шымана Малеўскага, журналіст, публіцыст, мемуарыст, дырэктар аддзела Метрыкі ВКЛ 3-га дэпартамента Сената (з 1829). У 1830 г. заснаваў «Tygodnik Petersburgski».

[8] Міцкевіч Адам (1798—1855) — адзін з арганізатараў Таварыства філаматаў, польскамоўны паэт, ідэолаг польскага месіянізму. Вучыўся ў Навагрудскай дамініканскай школе і Віленскім універсітэце (скончыў у 1819).

[9] Зан Тамаш (1796—1855) — адзін з арганізатараў Таварystваў філаматаў, філарэтаў і прамяністых, польскамоўны паэт, мемуарыст. Вучыўся ў Менскай гімназіі, Маладзечанскім павятовым вучылішчы і ў Віленскім універсітэце (скончыў у 1820).

[10] Яжоўскі Юзаф (каля 1793—1855) — на працягу 6 гадоў прэзідэнт Таварыства філаматаў, пасля 1829 г. выкладаў у Маскоўскім і Казанскім універсітэтах класічную філалогію.

[11] Петрашкевіч Ануфрый (1793—1863) — адзін з арганізатараў Таварыства філаматаў, польскамоўны паэт.

Адам Сузін[1], Ян Сабалеўскі[2], Вінцэнт Будрэвіч[3], Ксаверы Высоцкі і колькі іншых, прозвішчы якіх забыў. Усе яны ў 1816 годзе ўтварылі Таварыства пад назвай філаматы, што азначае «сябры працы»[4], з той мэтай, каб найперш самім удасканаліцца да ўзроўню выхавацелей моладзі, каб на ўласным прыкладзе давесці іншым старанным і працавітым вучням карысць уступлення ў таварыства. Калі самі яны скончылі навучанне і атрымалі ступені, засталіся ва ўніверсітэце як студэнты і, выхаваўшы колькі маладых на ўласным прыкладзе, праз два гады ў 1818 годзе запачаткавалі Таварыства прамяністых[5], названае так па аналогіі: з сяброў таго таварыства, як промні выходзяць з полымя, разыдзецца асвета, пабожныя норавы і дабратворны вобраз мыслення. І не падмануліся з тым прарочым назовам, бо з таго часу пачала паляпшацца мараль ва ўсім нашым краі: бязбожнасць, п’янства, шулерства, распуста паволі мізарнелі.

Для Таварыства прамяністых статут улажыла ўніверсітэцкае кіраўніцтва. Далучыліся да яго трыста вучняў, а прэзідэнтам выбралі Тамаша Зана. Адразу выявіліся цудоўныя вынікі, выразна змяніліся паводзіны моладзі; даўней у лекцыйных залах знаходзіліся адзінкі, у касцёле зусім нікога не было; цяпер жа зала заўжды была поўнай і касцёл наведваўся лепш; ранейшыя распуста і бойкі пачалі лічыцца за ганьбу. Цешыліся заснавальнікі і ўсе высакародныя людзі ў Вільні і ў цэлым краі такой змене спосабу мыслення моладзі. Але, як тое звычайна бывае, побач з высакароднымі і разумнымі знайшліся нікчэмныя і цёмныя.

У 1819 годзе прафесар палітычнай эканоміі Зноска[6], тхор і недалёкі чалавек, пачуў, што цар Аляксандр цяпер скоса пазірае на масонаў і лібералаў, якім раней сам сябе выказваў, і пачаў пераследаваць лібералізм, уздумаўшы, што такое моладзевае таварыства таксама можа лічыцца ліберальным, тым больш, што польская моладзь пачала разважаць аб падтрымцы нацыянальнага, і праз гэта цар можа ўсердавацъ на ўніверсітэт, скасаваць яго, і прафесары страцяць свае пенсіі. Сам сябе ўзбудзіўшы, пачаў нерваваць і калег, урэшце патрапіў да біскупа Кундзіча[7], настрашыў яго, маўляў, моладзь пад назовам «прамяністыя» запачаткавала новую рэлігію, абагаўляе сонца, збіраецца за горадам перад усходам сонца і вітае яго гімнамі і гэтак далей. Тыя ранішнія зборы за горадам сапраўды адбываліся; праз іх Зан мераўся заахвоціць моладзь да ранняга абуджэння і бадзёрасці, каб не замінаць лекцыям, праводзіў пасяджэнні прамяністых летнімі ранкамі за горадам у прыгожых далінах Паплаў або Грыбішак; там пры раннім снеданні са свежым малаком рабіліся прамовы, чыталіся вершы, спяваліся гімны для забавы, там былі прысвячэнні прамяністым і сонцу.

Біскуп Кундзіч, узнерваваны прафесарам, пайшоў да рэктара і папрасіў яго забараніць таварыства, каб моладзь сапраўды не трапіла ў якую бяду адносна рэлігіі. Дапамаглі і пэўныя калегі Зноскі, збольшага чужаземцы, якіх ён застрашыў; яны распаўсюджвалі розныя плёткі пра небяспечныя намеры моладзі, рэктар адступіў ад свайго статута і скасаваў таварыства. Заснавальнікі і філаматы, зрабіўшы высновы на прыкладзе прамяністых, вырашылі ўтварыць новае, таемнае таварыства і, ужо навучаныя, пастанавілі выкарыстаць тую забарону, каб пазбыцца ад тых, хто ўвайшоў у таварыства толькі дзеля

[1] Сузін Адам (1799—1880) — адзін з лідараў Таварыства філаматаў, мемуарыст.

[2] Сабалеўскі Ян — адзін з сяброў Таварыства філаматаў, выкладаў у Крожах.

[3] Будрэвіч Вікенці Антонавіч — адзін з сяброў Таварыства філаматаў, кандыдат філасофіі, займаўся рэпетытарствам у Вільні, пазней выкладаў матэматыку ў Цвярской гімназіі.

[4] Філаматы — ад грэчаскага «аматары навук», таемнае студэнцкае таварыства ў Віленскім універсітэце, дзейнічала ў 1817—1823 гадах.

[5] Таварыства прамяністых — легальная польская арганізацыя студэнтаў Віленскага ўніверсітэта, заснавана ў красавіку-чэрвені 1820 года Тамашам Занам. Дзейнічала да 1822 года.

[6] Зноска Ян (1772—1833) — эканаміст, філосаф-логік, з 1815 года прафесар Віленскага ўніверсітэта, выкладаў палітычную эканомію, з’яўляўся адным з першых польскамоўных папулярызатараў вучэння Адама Сміта.

[7] Кундзіч Тадэвуш (1747—1829) — рымска-каталіцкі дзеяч, езуіт, прафесар Віленскага ўніверсітэта з 1780 года, выкладаў практычную матэматыку.

забавы, і дапусціць да яго найбольш годных. Для ўплыву на астатніх вучняў прыдумалі, каб сябры таварыства ўзялі апеку над астатнімі, падзяліўшы іх па колькі чалавек, якіх мусілі кантраляваць і прыкладам сваім скіроўваць да добрых учынкаў. Такім чынам усе вучні былі агорнуты ўплывам дабратворнай кіруючай ідэі. Гэтае новае таварыства, цяпер нібыта таемнае, назвалі філарэтамі — сябрамі цноты.

Такім парадкам я быў заўважаны праз некалькі месяцаў адным з наглядальнікаў філарэтаў, Якубам Ягелам, якому без майго ведама і быў даручаны, дзякуючы яго хадайніцтву я быў запрошаны ў шэрагі таварыства. Зразумела, я з ахвотай і радасцю прыняў тое запрашэнне і быў адведзены на галоўнае пасяджэнне, што адбывалася пад кіраўніцтвам прэзідэнта таварыства Тамаша Зана. Нейкіх фармальнасцей пры прыёме не было, прэзідэнт толькі вітаў у прамове ўступаючага, тлумачыў яму мэты таварыства, абавязкі, навічок зачытваў абавязацельствы, якія падпісваў і аддаваў у рукі прэзідэнту. Тыя абяцанні прыстойных паводзін і слова гонару не былі прысягай, але былі вартыя яе, бо мы шчыра імі прасякаліся і прытрымліваліся. Я з імпэтам зачытаў абавязацельствы, падпісаў і з таго часу лучыў у шэрагі таварышаў, з якімі пачаў выконваць супольную працу.

Таварыства падзялялася на сем грон, якія мелі назвы колераў сонечнага спектра: ружовы, аранжавы, жоўты, зялёны, блакітны, сіні, фіялетавы; тыя назвы колераў засталіся ў спадчыну ад папярэдняга Таварыства прамяністых. Кожнае грона ладзіла свае пасяджэнні асобна, раз на два тыдні, пад ачолай выбранага сябрамі кіраўніка. Раз на два тыдні адбываліся пасяджэнні кожнага грона, а ў астатнія два — галоўнае пасяджэнне, так, каб яны ладзіліся па чарзе — адзін тыдзень — галоўнае, другі — у гронах. На тых пасяджэннях праходзіла справаздача кіраўнікоў аб чыннасці сяброў з гледжання паспяховасці іх нагляду за калегамі, што не належалі да таварыства, таксама чыталіся навуковыя працы і рэфераты з розных навуковых дысцыплін. Ад кожнага грона вылучаліся па чарзе два прадстаўнікі і кіраўнік на галоўны сход пад кіраўніцтвам прэзідэнта таварыства, дзе адбывалася справаздача аб пасяджэннях і дзейнасці грон, прымаліся новыя сябры.

Грона звычайна фарміравалася з прадстаўнікоў аднаго факультэта, гэта значыць: у асобным — юрысты, у іншых — філосафы, матэматыкі і медыкі. Але падобны падзел не быў такім строгім; філолаг, напрыклад, мог знаходзіцца ў гроне юрыстаў, і наадварот, хоць кожны хацеў быць разам са сваімі калегамі па факультэце, бо навуковыя даклады на пасяджэннях чыталіся звычайна па тэмах, блізкіх навуковым інтарэсам большасці сяброў грона. З пэўных факультэтаў фарміравалася па два грона, з іншых — адно, гэта залежала ад колькаснага складу факультэта, хоць і гэта не было абавязковым правілам. Я, трымаючыся былога апекуна майго Ягелы, быў залічаны да літаратурнага грона, што называўся блакітным, да якога і ён належаў, і ў якім кіраўніком быў Юзаф Кавалеўскі[1].

У доме, дзе быў наш пансіянат, на трэцім паверсе жыла асоба, якая пазней прычынілася, хоць і не наўмысна, да непрыемнасцей філарэтаў. Гэта была тая самая славутая Тэкля Валянціновіч[2], з якой у тым годзе ажаніўся Зубаў[3]. Валянціновічы мелі маёнтак пад Вільняй з некалькімі прыгоннымі; бацька ўжо памёр, была толькі маці. Апошняя, маючы некалькі прыгожых дачок, прыехала з імі ў Вільню з намерам забяспечыць ім лепшыя ўмовы для пошукаў мужоў. Той намер рэалізаваўся паспяхова. Старэйшая дачка была ўжо за земскім пісарам Пісанкам; аднак калі Зубаў ажаніўся з другой дачкой, і тая ў хуткім часе аўдавела ды паланіла сваёй грацыяй Навасільцава[4],

---

[1] Кавалеўскі Юзаф (Восіп) Міхайлавіч (1800—1878) — філолаг, гісторык, арыенталіст. З 1862 года прафесар і дэкан гісторыка-філалагічнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта.

[2] Валянціновіч Тэкля (Фёкла Игнатьевна Валентинович (Зубова, Шувалова), 1801—1873) — дачка дробнага шляхціча, жонка Платона Зубава, пасля смерці апошняга пабралася з Андрэем Шувалавым.

[3] Зубаў Платон Алякседравіч (1767—1822) — рускі князь, фаварыт Кацярыны II, з 1814 года жыў у Віленскай губерні.

[4] Навасільцаў Мікалай Мікалаевіч (1761—1838) — расійскі дзяржаўны дзеяч, пераемнік Адама Чартарыйскага на пасадзе куратара Віленскага ўніверсітэта (1824—1831) і Віленскай навучальнай акругі.

знайшліся аматары і на астатніх дачок і на Пісанку, якая адчувала ўжо для сябе занізкім быць паняй пісаравай. Яна тэрмінова скасавала шлюб з мужам і пабралася з віленскім віцэ-губернатарам Бабятынскім[1], паабяцаўшы яму спрыянне Навасільцава ў прыдбанні пасады гарадзенскага губернатара, якое ён хутка атрымаў. З астатніх паненак адну схапіў нейкі Сясіцкі, здаецца, сусед Зубава на Жмудзі, другую — Астрамецкі, мой універсітэцкі калега, паходжаннем з Гародні, абодва багатыры. Будучая княгіня Зубава, на той час яшчэ сціплая паненка, была нарачонай і мусіла хутка пабрацца з нейкім Выжыцкім з Беларусі, які адукоўваў яе за свой кошт і, здаецца, дапамагаў усёй яе сям'і, бо ведаю, што амаль усю сваю маёмасць у сто з нечым тысяч выдаткаваў на іх патрэбы. Ведаю тое ад самога Выжыцкага, які часта ў мяне бываў, асабліва калі Зубаў пачаў заляцацца, спавядаўся мне тады аб сваіх правах. Зубаў напачатку не меў намеру ажаніцца, спадзяваўся, што ўлагодзіць яе з крэўнымі на звычайных сваіх умовах, якіх ён раней прытрымліваўся з былымі сяброўкамі, гэта значыць мільён для яе самой і па мільёне на кожнага з дзяцей, якіх бы з ёй займеў. Убачыўшы Валянціновіч на раўце, даслаў тую прапанову яе маці. Апошняя, разумнейшая за іншых, паспрабавала прадаць дачку больш выгодна. Адхіліла прапанову, адказаўшы, што калі пан Зубаў хоча валодаць яе дачкой, атрымае яе не інакш як праз шлюб. Аднак ужо было вырашана, нягледзячы на ўсе ахвяры Выжыцкага, скасаваць дадзеныя яму абяцанні.

Стары Зубаў пасля пэўных ваганняў, развярэджаны грацыяй панны, вобраз якой часта наведваў яго, вырашыў прасіць яе рукі. Панна Тэкля напэўна спачатку нічога пра тыя прапановы не ведала. Кахала, здаецца, Выжыцкага, бо калі Зубаў прасіў яе рукі, яна з вялікай агідай ад яго ўцякла, плакала, лямантавала, абяцала Выжыцкаму, што ніколі яго не кіне. Але, калі маці і сёстры на каленях яе пачалі ўпрошваць, каб ахвяравала сябе для карысці сям'і, яна «ахвяравала», і шлюб з Зубавым адбыўся неадкладна. Выжыцкі падчас таго сужэнства знаходзіўся ў мяне і хутка пасля таго, адмовіўшыся нават ад некалькіх дзясяткаў тысяч рублёў, якія яму абяцаў Зубаў для кампенсацыі праз яго нанесеных страт, выехаў у Польскае каралеўства і там завербаваўся на вайсковую службу. Пазней выявілася, што пані Зубава не толькі ахвяравалася, але і сумленна выраклася свайго кахання да Выжыцкага. Калі пасля смерці князя яна засталася багатай і вольнай, прыляцеў Выжыцкі, мяркуючы, што цяпер яна можа ўзнагародзіць яго сабой за тую ахвяру, але яна яго адрынула. Пакруціўшыся нейкі час са сваім апекуном Навасільцавым, калі памерла яе дачка, народжаная ўжо пасля смерці Зубава, і да яе перайшла аграмадная спадчына ў Курляндыі, пабралася ўрэшце шлюбам з графам Шувалавым[2].

На вакацыі ў тым годзе я паехаў дамоў ужо не праз Рудаўку, а праз Менск. Пасля некалькіх тыдняў, праведзеных досыць весела, як тады было ў нашым краёвым звычаі, сабраўся вярнуцца ў Вільню. Вырашыў на той год забраць з сабой Караля, упрасіўшы бацьку, каб дазволіў яму паехаць у Вільню. Прыехалі мы з ім у горад напачатку ўніверсітэцкіх курсаў. Жыллё знялі ў доме Агінскага на Рудніцкай вуліцы; мелі два досыць вялікія пакоі, запрасіў на пасяджэнні да сябе калег філарэтаў блакітнага грона. Пазней і другое — ружовае — юрыдычнае грона пачало таксама ладзіць свае пасяджэнні ў нас, адно ў суботу, другое ў нядзелю. Аднак наша любімае таварыства на працягу палovы года мусіла быць скасаваным. У лютым або ў сакавіку выйшаў царскі загад, які забараняў пад пагрозай суровага пакарання ўсе таемныя таварыствы. Нашы невядомыя заснавальнікі, на чале якіх, магчыма, стаяў губернскі маршалак Ромер, засцерагаючыся, каб мы не пацярпелі ад таго загаду, вырашылі з прычыны той паперы скасаваць наша таварыства. Тады Зан, сабраўшы ўсіх кіраўнікоў і дэпутатаў ад грон, абвясціў аб патрэбе таго скасавання і тэрмінова на ўсіх пасяджэннях, хоць і з вялікім жалем, падпісалі ўхвалу і скасавалі таварыства. Мы былі

[1] Бабяцінскі Міхаіл Трафімавіч (1773—1832) — расійскі дзяржаўны дзеяч, гродзенскі віцэ-губернатар (1824—1831).

[2] Шувалаў Андрэй Пятровіч (1802—1873) — рускі арыстакрат, обер-камергер.

ўпэўнены ў сваёй бяспецы, бо выканалі без уціску і самахоць волю ўрада; аднак гэта нам пазней ніколькі не дапамагло.

Разам са скасаваннем таварыства мусілі таксама быць зліквідаванымі розныя ініцыятывы, звязаныя з ім, а менавіта: камітэт дапамогі бедным вучням, які з добраахвотных складак утрымліваў некалькі дзясяткаў калег; статыстычны камітэт, які ўжо меў падрыхтаваны значны збор матэрыялаў, што датычыў статыстычных звестак з усіх губерняў колішняй Рэчы Паспалітай у складзе Расіі. Тыя матэрыялы збіраліся намі падчас вакацый, кожны са сваіх паветаў паводле агульнай інструкцыі. Я на яе падставе склаў апісанне ігуменскага павета з пералікам усіх мястэчак, паселішчаў, вёсак, маёнткаў, насельніцтва розных станаў і веку, прадпрыемстваў, лясоў, палеткаў, сенажацей, ураджаяў, рамёстваў і гэтак далей. Звесткі тыя былі вельмі дакладныя, узятыя з урадавых актаў і з уласных назіранняў. Павінны былі таксама распачацца публічныя лекцыі нашых калег ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях, яны спецыялізаваліся ў такіх рэдкіх галінах навукі, якія тут праз брак спецыялістаў не выкладаліся. Паміж імі вызначаўся Яжоўскі, які мусіў чытаць хадэгетыку[1], іншымі словамі, выклад агульных звестак пра розныя дысцыпліны і сувязі паміж імі, каб зарыентаваць студэнтаў-пачаткоўцаў у выбары прадметаў для далейшага вывучэння і дасканалення ў іх; таксама і Юзаф Ходзька[2], у той час юнкер-інжынер, будучы генерал, філарэт, які выкладаў нешта з галіны матэматыкі, дастасаванай да інжынерных патрэб. Спынілася ўрэшце і апека філарэтаў над усімі калегамі, якія не належалі да таварыства; раней кожны філарэт апекаваўся над некалькімі навучэнцамі і сваім прыкладам, заахвочваннем, намовамі пасоўваў іх да сталаннасці, добрых нораваў і памнажаў такім чынам колькасць карысных грамадзян. Аднак імпульс, нададзены ў гэтым кірунку, заставаўся і надалей у моладзевым асяроддзі.

Той год запомніўся дзякуючы знаходжанню ў Вільні гвардыі, якая была выслана з Пецярбурга на Літву, як апавядалі, за нейкія правіны, але падобна, што насамрэч гэта была дэманстрацыя або пагроза камусьці ў сувязі з тагачаснымі італьянскімі і іспанскімі хваляваннямі. Афіцэры хацелі весці рэй на ўсіх грамадскіх імпрэзах, праз тое адбываліся прыкрыя сутычкі са студэнтамі. Вялікі князь, у той час камандуючы брыгадай, што стаяла ў Вільні, Мікалай[3] абразіўся з-за тых сутычак; найбольш супраць Вільні яго раз'ятрыла тое, што яго самога ніхто асабліва не шанаваў; асабліва быў ён пакрыўджаны студэнтамі, якія перад ім не здымалі шапак. Сам ён быў заўсёды пахмурны, нягожы, зусім не падобны да сябе пазнейшага, калі стаў царом. Калі паказваўся на вуліцы, то ішоў шпарка, з апушчанай галавой, панылы, як бы з сябе і ўсяго свету незадаволены. Увесь дзень знаходзіўся ў доме, нічога не рабіў, толькі цэлымі днямі муштраваў у зале сваіх жаўнераў, што было нам бачна праз вокны. Ніхто яго не любіў. Міхаіл[4], таксама начальнік брыгады, стаяў у Свянцянах. Той толькі гуляў, але арыгінальна. Напрыклад, для забавы ездзіў на яўрэях. Пачаліся дажджы, і ў гэтым мястэчку з небрукаванымі вуліцамі зрабілася балота; ён лавіў яўрэяў, загадваў ім станавіцца на карачкі, сядаў на самага рослага, як на каня, а на іншых — афіцэры яго почату, і загадвалі сябе везці па вуліцах, плацячы ім за тое шчодра.

Князя Канстанціна[5], які часта прыязджаў у Вільню, мы шанавалі больш, хоць, можа, і з боязі студэнты здымалі перад ім шапкі. Аляксандра ж, калі ён увесну пры-

[1] Хадэгетыка — галіна педагогікі ў XIX стагоддзі.

[2] Ходзька Іосіф Іванавіч (1800—1881) — расійскі генерал-лейтэнант, выдатны геадэзіст.

[3] Раманаў Мікалай Паўлавіч (1796—1855) — імператар Расійскай Імперыі з 19 лістапада 1825 года па 18 лютага 1855 года.

[4] Раманаў Міхаіл Паўлавіч (1798—1849) — Вялікі князь, чацвёрты сын Паўла I і Марыі Фёдараўны.

[5] Раманаў Канстанцін Паўлавіч (1779—1831) — Вялікі князь, другі сын Паўла I і Марыі Фёдараўны, удзельнік вайны 1812 г., з 1815 г. узначальваў войска Каралеўства Польскага, фактычна з'яўляўся намеснікам Аляксандра I у Польшчы.

ехаў на рэвізію гвардзейскага корпуса, які знаходзіўся ў поўным зборы ў Вільні, віталі з энтузіязмам; мы яшчэ працягвалі марыць, што ён, паводле свайго абяцання, далучыць Літву да Польшчы і сапраўды зробіцца нашым дабрадзеем. Аднак тыя мары ён хутка выбіў нам з галавы і за нашу зычлівасць заплаціў пераследам.

### V

Тым часам школьны год скончыўся, і мы выехалі на адпачынак дамоў. Вакацыі праводзілі часткова ў Рудаўцы, часткова ў Менску. У Рудаўцы пазнаёміліся з сенатарам Ільінскім[1], які са сваёй жонкай-француженкай колькі месяцаў бавіўся ў Нясвіжы ў флігелі кляштара бенедыкцінак. Ён сам апавядаў, што прыехаў у кляштар для пакарання, якое сам сабе на цэлы год вызначыў; людзі казалі, што тое пакаранне ён назначыў сваёй жонцы за нейкія падазрэнні, але не хацеў адпускаць яе адну і сам з ёй пакутаваў. Пра тое апавядалі забаўныя гісторыі. Нібыта ён склікаў суд са сваіх афіцыялістаў з Раманава, свайго маёнтка на Валыні, каб судзіць жонку, і сам, седзячы ў зале на троне, аточаны паўколам асістэнтаў, загадаў паклікаць жонку і, распавёўшы яе справу з усімі фармальнасцямі, пасля нарады з тым судом выдаў дэкрэт аб пакаранні яе на год у манастыры. Дэкрэт той, роўна як і ўсе яго загады, нават гаспадарчыя, пачынаўся словамі: «Мы, з Божай ласкі граф на Раманаве Аўгуст Ільінскі, першы сенатар Расійскага царства і гэтак далей». Чаму называўся «першым» сенатарам, не ведаю, магчыма па даце намінацыі, бо годнасць сенатара яму надаў Павел, якому ён першы сказаў пра смерць Кацярыны, служачы тады ў гвардыі ў чыне палкоўніка.

Акрамя дзівацтва наконт сваёй велічы, быў гэта чалавек сумленны і рэлігійны. Трапіў у няласку да Аляксандра праз тое, што, калі па царскай рэкамендацыі Сенат мусіў выдаць ці зацвердзіць ужо гатовы загад аб далучэнні нашых уніятаў да праваслаўнай царквы, Ільінскі заўпарціўся і таму на сенацкім сходзе даводзіў, што праваслаўная царква ў заняпадзе і павінна сама далучыцца да каталіцкага касцёла. Таму далучэнне ў той час уніятаў было сарвана дзякуючы Ільінскаму; аднак праз тое, хоць і пад нейкай іншай нагодай, яму было загадана выехаць з Пецярбурга, таму жыў ён у Раманаве. Быў у яго з рудаўскай кампаніяй некалькі разоў на абедзе і на канцэртах ягоных музыкаў. Сярод апошніх асабліва вызначалася спявачка панна Рамані. Гэта была дзяўчына-сялянка з Раманава, якая за свой спеўны талент атрымала адукацыю за кошт Ільінскага і была дапушчана да панскай кампаніі. Ільінскі, маючы намер пераехаць на зіму ў Вільню для працягу там свайго пакарання, быў такі ласкавы і перадаў мне, што рады пабачыць мяне ў сябе ў Вільні. Я не забываўся скарыстаць яго ветлівасць, а ён узаемна не забываўся дэкларагаваць мне сваю падтрымку. Аднак я бачыў, што гэта толькі словы, і дзесьці трохі дзівацтва, бо ён усім заўжды абяцаў сваю падтрымку, нават тым, хто ні ў якой падтрымцы не меў патрэбы.

Я шкадаваў, што Юзаф сядзіць дома і не можа далей удасканальвацца ў навуках. Урэшце яго ўгаварылі, каб ён на гэты год паехаў разам са мной ва ўніверсітэт. Хутка пасля прыезду ў Вільню Юзаф знайшоў пасаду гувернёра ў прафесара Бекю[2] пры пасынку яго Юльюшы Славацкім[3]. Я ж разам з Каралем зняў памяшканне ў доме Гута, аптэкара. Пачалі мы школьны год старанна і весела. Вечары праводзілі па чарзе ў дамах Бекю, Гутаў, Высагердавай, Вайніловіча, які быў пабраны з Гюнтар, сястрой памерлай нашай цёткі Корбут, і наймілей для мяне — у Наркевічаў, у якіх жыла ў той час стрыечная сястра наша Антаніна Парадоўская. На зіму ў Вільні сабралася мноства заможных і нават некалькі магнацкіх дамоў: Патоцкай,

[1] Ільінскі (Ілінскі) Аўгуст Іванавіч (1766—1844) — граф, сенатар Расійскай імперыі (з 1797), удзельнік «езуіцкай партыі» ў Пецярбургу.

[2] Бекю Аўгуст (1775—1824) — вучоны-гігіеніст, прафесар Віленскага ўніверсітэта.

[3] Славацкі Юльюш (1809—1849) — польскі паэт і драматург.

Пац[1] з сям'ёй, апошняя потым пабралася з генералам Несялоўскім[2] і пры якой знаходзілася старэйшая Парадоўская, Соф'я; Чацвярцінскіх, Тышкевічаў, Радзівілаў, Лапацінскіх і іншых, якія, разабраўшы сабе па чарзе дні, давалі на працягу ўсяго карнавалу пышныя балы, што называліся сціпла «вечарамі». Збіралася на кожным па некалькі сот чалавек, часам у касцюмах; на тых зборах можна было ўбачыць усё, што толькі мелася на Літве найбольш дастойнага і прыгожага. Нашы маладыя паэты: Адынец[3], Аляксандр Ходзька[4], Юліян Корсак[5], мой Юзаф[6] апавялі тыя вечарыны ва ўлётках, якія грамадства разбірала на памяць аб той пышнай зіме. Няшчасныя, былі гэта апошнія хвіліны вясёлых дзён на Літве, пасля якіх мусілі прыйсці цяжкія выпрабаванні, як жалобны змрок пасля яснага ззяння дагараючай лямпы.

У тыя ж часы пачаў развіваць свае трызненні Тавянскі[7]. Ён пазнаёміўся з Фердынандам Гутам і Валянцінам Ваньковічам у мяне. Даводзіў ён і мне сваю тэорыю, якую выснаваў тады, гуляючы з Гутам па бульварам перад ратушай. Яны заўважылі на вуліцы побач нейкага яўрэя, які вёз на кульгавым кані дровы; конь ад цяжару спыняўся, а яўрэй неміласэрна насцёбваў яго. Тавянскі спыніўся, гледзячы на тое, і звярнуўся да Гута: «Глядзі, конь кульгавы не можа цягнуць цяжар і пакутуе нявінна. Кожная істота мае душу, як і мы; за што ж тая душа пакутуе, калі не мае правіны? Цалкам можа быць, за грахі мінулага жыцця. У тым цярпенні ачышчаецца і набліжаецца да Бога. Значыць, гэта мусіць быць і наш лёс, і лёс усіх жывых стварэнняў. Душа злых людзей не можа быць набліжанай да Бога, гэта адбываецца толькі пасля ачышчэння цярпеннем, якое адбывае ў целах звяроў. Аднак акрамя ачышчэння трэба мець і заслугі, якія нельга набыць у стане жывёлы, таму душа зноў адраджаецца ў чалавеку, і калі выявіць заслугі, пераходзіць у нейкія больш дасканалыя істоты, пакуль не зробіцца годнай злучыцца з Богам. Мусіць тады існаваць пэўны кшталт драбіны, па прыступках якой альбо ўздымаемся штораз вышэй у дасканаласці, альбо зыходзім у ніжэйшыя за нас стварэнні і мусім зноў пачынаць працу ўзыходжання. На працягу нават аднаго жыцця чалавек можа ўздымацца па той драбіне ўсё вышэй праз маральнае ўдасканальванне сваёй душы, альбо зыходзіць долу з-за нікчэмнасці і подлых учынкаў. Гэта рух уніз, а той — уверх. Кожны мусіць намагацца, каб трымацца руху ўверх, і хто любіць бліжніх, мусіць у гэтым ім дапамагаць, каб яны тым шляхам ішлі».

Такім чынам сфарміравалася яго першапачатковая тэорыя, эмблемай якой зрабіліся «драбіны». У далейшым развіцці сваёй догмы Тавянскі прыйшоў да высновы, што Бог таксама ўлічваў гэтыя прыступкі, калі паслаў спачатку Хрыста для абвяшчэння свайго Дабравесця, сэнсам і мэтай якога з'яўляецца распаўсюджванне братэрскай любові толькі паміж людзьмі. У другую чаргу ён паслаў Напалеона, мэтай якога мусіла быць, паводле разваг Тавянскага, заснаванне братэрства паміж народамі; таму Напалеон меў больш

---

[1] Пац Соф'я (1806—1811 — жонка Фелікса Патоцкага) (1781—1856) — польская арыстакратка.

[2] Несялоўскі Францішак Ксаверы (1771—1845) — польскі ваенны і дзяржаўны дзеяч, паплечнік А. Чартарыйскага.

[3] Адынец Антон (1804—1885) — польскамоўны паэт, сябра Таварыства філарэтаў, скончыў Віленскі ўніверсітэт у 1823 годзе.

[4] Ходзька Аляксандр (1804—1891) — польскамоўны паэт, сябра Таварыства філарэтаў, скончыў Віленскі ўніверсітэт у 1825 годзе, сын масона Яна Ходзькі.

[5] Корсак Юліян (1806—1885) — польскамоўны паэт, вучыўся ў Віленскім універсітэце (1823—1826).

[6] Масальскі Юзаф (1800—1840) — польскамоўны паэт, брат Эдварда Масальскага, скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію (1818), быў гувернёрам Юльюша Славацкага, сябра Таварыства філаматаў.

[7] Тавянскі Андрэй (1799—1878) — містык, заснавальнік эзатэрычнай секты, ідэолаг польскага месіянізму, аказаў значны ўплыў на польскага паэта А. Міцкевіча.

высокую місію ў параўнанні з Хрыстом і, што з таго вынікае, быў больш дасканалым прарокам. Трэцім пасланцам мусіць быць той, каго Бог натхніць ідэяй тых драбін, вянцом боскага праекта адносна ўдасканальвання чалавечага роду. Той прарок меў бы самую высокую місію, мэтай якой было гуртаванне супляменнікаў, каб тая новая сіла адрадзіла Польшчу, як пакутніцу, што ахвяравалася дзеля выратавання чалавецтва; праз яе адродзіцца ўся Славяншчына, і потым будуць удасканальвацца і адраджацца да высокага шляху ўсе народы зямлі. Такім спосабам ён хоць і наследаваў у развагах сваіх Хрысту і хрысціянству, аднак ставіў яго ніжэй, як першы ўзровень боскага праяўлення, але заклікаў шанаваць хрысціянскую рэлігію і наварочваць у яе перадусім тых, хто ніякай рэлігіі не вызнае або выяўляе слабасць у выкананні яе загадаў.

У пазнейшыя часы, калі зазнаў агульнае абурэнне за тую сваю ідэю паступовых боскіх адкрыццяў, пачаў надалей хаваць свае думкі, удаваў нават з сябе шчырага каталіка і толькі галоўным сваім паслядоўнікам давяраў апошнія свае ідэі; аднак напачатку ён прапаведаваў сваю сістэму адкрыта. Ён меў адмысловы дар прамоўцы і вялікую сілу мыслення, таму значна ўплываў на слабыя розумы, асабліва на тыя, якія вызначаліся буйной фантазіяй і неўгрунтаванасцю ў рэлігіі.

Першымі яго прыхільнікамі былі Гут і Ванькові̇ч. Гут, чалавек дасціпны, добра абазнаны ў медыцынскіх навуках, у якіх нядаўна атрымаў ступень доктара, аднак фанатык, адразу паверыў у трызненні Тавянскага, ён і не ведаў добра хрысціянства, выхаваны без рупнасці ў кальвінізме; схільны да змрочных фантазій, захапіўся ўяўнай веліччу ідэй Тавянскага і містыцызмам, якога не разумеў, слепа даверыўся і даўся ў знакі сваёй рупнасцю ў змушэнні да высокага шляху кожнага, на каго мог уплываць, асабліва на крэўных у хатнім побыце.

З прынцыпаў Тавянскага вынікала, што праз любоў да бліжняга належыць накіроўваць людзей да высокага шляху любымі сродкамі, якія толькі могуць прынесці вынік. Таму, не зважаючы ці гэта свае, ці чужыя, ці маем над імі якое права, ці не маем ніякага, калі толькі ёсць магчымасць для пасоўвання на высокі шлях, павінны тады прыніжаць ганарыстых, шкодзіць тым, хто ідзе па нізкім шляху, каб павярнуць іх праз тое на шлях высокі. Пагатоў калі гэта жонка, дзеці або слугі зыходзяць долу, як падаецца каму, па той драбіне, то тут ужо абавязкова мусіш іх стрымліваць, жорстка караць і нават катаваць, пакуль не павернуць да высокага. Бацькоў нават не трэба шанаваць, калі дзецям здаецца, што яны маюць нізкі шлях. Варта тады выказваць ім пагарду, пакуль яны не выправяцца.

Сам Тавянскі даў прыклад такіх паводзін са сваякамі, калі ажаніўся. Пабраўся ён з паннай Максавай, дачкой карэтнага фабрыканта, які ўжо памёр, засталася толькі маці. Тая бабулька мела нейкі дэфект у нагах і для суцяшэння боляў загадвала іх масіраваць перад сном. Тавянскі прызнаў у гэтым нізкі шлях і загадаў сваёй нарачонай, каб яна не прасіла матчынага блаславення на шлюб, маўляў, матка таго не вартая. І панна, пакуль маці спала, раніцой пайшла ў касцёл і пабралася шлюбам. Вярнуўшыся дамоў сабрала сваё майно і толькі пры ад’ездзе паведаміла маці, што зыходзіць да мужа, з якім ужо пабралася.

Паводле той навукі абыходзіліся з блізкімі і паслядоўнікі Тавянскага, яго яны мелі за боскага аракула і свайго валадара, якому слепа падпарадкоўваліся. Называлі яго настаўнікам і прарокам, лічылі вышэйшым за Хрыста і нават — Напалеона. У жыцці ён ані ў чым сабе не адмаўляў — за іх кошт, пакуль не атрымаў па сваім бацьку спадчыну.

Сенатар Ільінскі пераехаў на зіму ў Вільню і спыніўся ў доме пані Высагердавай на вуліцы Субач, зрабіўшы тым самым больш лагодным сваё пакаранне, не зачыняўся цяпер у кляштары, хоць насамрэч выходзіла тое ж самае, бо жонцы ён ніколі не дазваляў выходзіць з дому і за парог, у іх мала хто бываў. Разам з імі прыехаў і жыў у іх вядомы на Літве ксёндз Шантыр[1], слуцкі пробашч,

[1] Шантыр Станіслаў (каля 1763 — пасля 1846) — мемуарыст, гісторык рэлігіі, доктар тэалогіі і права Віленскага ўніверсітэта (1805). Вучыўся ў Полацкім і Аршанскім калегіумах. З 1815 г. у Слуцку. У сваіх мемуарах апісваў жыццё Полаччыны 2-й паловы XVIII ст.

якому Ільінскі абяцаў заснаваць у Раманаве інфуляцыю. Шантыр быў вялікім дзіваком; акрамя прэтэнзіі на біскупства, насіў ордэны Залатой Шпоры, Труны Ерусалімскай, медалік за 1812 год і нешта яшчэ, хіба толькі вопратку біскупа ён не пасмеў прысвоіць. Тытулаваўся графам, патрабаваў называць сябе «з-Шантыр», сердаваў, калі яго так не называлі. Ён надрукаваў свой радавод, у якім даводзіў, што з'яўляецца самым радавітым шляхціцам у свеце, бо род яго паходзіць з Троі ад Энея, праз рымскіх каралёў, і праз іх нашчадкаў зніітаваны сямейнымі сувязямі з усімі пануючымі дамамі і з найлепшымі дваранскімі радамі ўсёй Еўропы, і, вядома, Польшчы. Акрамя таго дзівацтва быў гэта аднак чалавек выбітны, беззаганнай душэўнай высакароднасці, не сквапны, наадварот шчодры і чулы да бедных; заснаваў у Слуцку дабрачыннае таварыства і забяспечваў яго сваёй маёмасцю; руплівы святар, прыводзіў увесь час у палеміцы з тамтэйшымі кальвіністамі. Славілася яго прыслоўе: «Старэй слуцкая фара, чым кальвініскцая вера». Сярод людзей прыемны і нават прывабны, кожнаму, хто толькі насіў шляхецкае прозвішча, і тым больш знакамітасці мог зараз жа выкласці яго радавод, дапускаў да сваяцтва з сабой і вітаў сардэчна як крэўны.

Неяк пад канец зімы здарылася на нашых лекцыях пацешная прыгода, якая праз умяшанне таго ксяндза Шантыра ледзь не нарабіла клопату ўніверсітэту. Капеллі, які акрамя рымскага выкладаў і права кананічнае, аднойчы на лекцыі з кананічнага права пачаў даводзіць, што чысцец з'яўляецца фантазіяй, выдуманай сярэднявечнымі ксяндзамі, што папярэдне касцёл не прызнаваў гэтага дагмата, што і ў старым законе аб ім не ведалі і гэтак далей. Высновы свае абапіраў не толькі на аўтарытэт шматлікіх аўтараў і айцоў царквы, але і развагамі аб прыродзе духа і разнастайнымі метафізічнымі аргументамі. Не сказаў ані слова на абарону таго дагмата, не прывёў аніводнага доказу, што выкарыстоўвае касцёл для яго абгрунтавання. Мы, асвечаныя ёлупні-студэнты, паверылі словам вучонага прафесара; святары, зморшчыўшы ілбы, з відавочным абурэннем слухалі, але маўчалі. Пасля лекцыі адзін свецкі, Яцына, крэўны як і іншыя Шантыра, з ім знаёмы і праз яго змушаны да шанавання рэлігіі, пабег да таго ксяндза праз уласную легкаважнасць, узрадаваны, што з дапамогай свежай высновы Капеллі ашаламуціць імпэтнага прапаведніка і вызваліцца ад яго пастаянных павучанняў. Шантыр, усё выслухаўшы, рушыў да Ільінскага і распавёў яму, што дзеецца ва ўніверсітэце. Потым абодва паляцелі да біскупа і рэктара, патрабуючы спыніць ерась, якой прафесары намагаюцца заразіць моладзь. Прыводзячы падазрэнні наконт прававернасці Лялевеля і Галухоўскага[1], яны падпіралі тое абвінавачванне новым фактам з Капеллі. Рэктар, якім у той час быў Твардоўскі[2], чалавек таксама рэлігійны, ведаючы тых прафесараў, не падзяляў падобнага меркавання, але на ляманце, узнятым Ільінскім, Шантыром, біскупам і розным духавенствам, пад пагрозай пайсці са скаргамі вышэй, мусіў паабяцаць, што прадухіліць надалей, наколькі здолее, усялякія «неабдуманыя крокі прафесараў», як ён назваў гэты інцыдэнт; сапраўды, у гэтым нічога акрамя неабдуманасці не было. Капеллі на наступнай лекцыі зайшоў у аўдыторыю знерваваны і пачаў апраўдвацца, маўляў, студэнты зрабілі паспешлівыя высновы, бо на папярэдняй лекцыі ён выкладаў толькі закіды ерэтыкоў, а сёння ён акурат мяркуе паказаць сапраўдную іх цану і выявіць грунтоўнасць і праўдзівасць касцельнага дагмата. У працягу той прадмовы ён так грунтоўна разбіў усё, што на папярэдняй лекцыі даводзіў, так пераканаўча патлумачыў сутнасць чыстца і з метафізікі, і з айцоў царквы, і нават са Старога Запавету, аж цалкам патрапіў знішчыць папярэднія нашы ўражанні і замацаваў упэўненасць у праўдзівасці таго дагмата.

У тую зіму мой брат Караль захварэў на нервовую ліхаманку, за два тыдні ачуняў, аднак пасля таго я мусіў выправіць яго дамоў. Мне стала вядома, што ён ублытаўся ў таем-

[1] Галухоўскі Юзаф (1797—1858) — філосаф-ідэаліст, педагог, прафесар філасофіі ў Віленскім універсітэце (1823—1824), папулярны лектар.

[2] Твардоўскі Юзаф — рэктар Віленскага ўніверсітэта (1823—1825).

нае таварыства, насамрэч дзіцячае, але для таго моманту вельмі небяспечнае з гледзішча падзей, якія разгортваліся ў віленскіх школах. Людвік Шпіцнагель[1], сын выкладчыка фармацэўтыкі, закахаўся ў паненку Аляксандру Бекю. Сам ён быў вельмі малога росту: выглядаў як дзесяцігадовы хлопчык, хоць меў ужо каля сямнаццаці гадоў; Аляксандра была надзвычай прыгожая і вабная; аднак мела аграмадны рост, гэта была самая высокая дзяўчына ў Вільні; сапраўдны гігант. Шпіцнагель шанаваў Аляксандру перадусім як багіню і вырашыў узвесці яе на польскі каралеўскі прастол. Метады для гэтага ён выбраў наступныя: заснаваць таварыства сярод вучняў, зразумела сваіх аднагодкаў, каб апантана ўдасканальвацца, найперш у матэматыцы, потым усім пайсці на марскую службу, захапіць ваенны карабель, даплысці на ім да Маньчжурыі, там высадзіцца, цывілізаваць маньчжураў, манголаў і іншых татараў, сфарміраваць з іх магутнае войска, вярнуцца ў Польшчу і каранаваць паненку Аляксандру Бекю на польскім прастоле. Мой Караль, бываючы ў Юзафа ў доме Бекю, дзе часта сустракаўся з Шпіцнагелем, быў дапушчаны да таямніцы і прыняў пасаду сакратара таварыства, прэзідэнтам якога з'яўляўся Шпіцнагель. Мяне пра тое хутка папярэдзілі, я, ведаючы, што сталася з віленскімі гімназістамі, паспяшаўся забраць яго з універсітэта, бо ён ужо быў туды запісаны, і адаслаў яго да бацькі з паведамленнем прычыны. Шпіцнагель жа, узорна скончыўшы навучанне ва ўніверсітэце, паступіў потым у Інстытут усходніх моў у Пецярбургу і мог бы зрабіць выдатную кар'еру, бо меў шырокія погляды і вельмі вялікія здольнасці; аднак у вышэйшай ступені маньяк, прыбыўшы з Інстытута ў Вільню, пазнаёміўся там з паненкай Рдултоўскай, закахаўся, паехаў з ёй у Сноў, маёнтак яе бацькі ў Навагрудскім павеце, і, не знайшоўшы, відаць, узаемнасці ў паненкі, там жа ў садзе стрэліў сабе ў лоб.

Што да згаданага выпадку з навучэнцамі віленскай гімназіі, які стаў пачаткам праследу моладзі на Літве, трэба разумець, што галоўнай прычынай усяго гэтага была зайздрасць Навасільцава да даходаў багатага Віленскага ўніверсітэта. Навасільцаў сам меў радавыя землі, і апроч таго пенсіі, якія атрымліваў як расійскі міністр пры Канстанціне ў Варшаве, за іншыя свае пасады і ордэны, і яшчэ даходы са слонімскага староства, якое яму цар даў на ўтрыманне, і з маёнтка тамтэйшага прыхода ў блізу дзвесце дымоў, што таксама для сябе выпрасіў у цара, мог такім чынам атрымліваць гадавы даход больш за мільён. Аднак усё тое марнатраўна спускаў, як ваду праз рэшата, і заўжды яму было мала. Паклаўшы сваё зайздроснае вока на даходы Віленскага ўніверсітэта, ён вырашыў атрымаць іх у сваё распараджэнне, а для гэтага яму патрэбна была інтрыга, каб спіхнуць князя Чартарыйскага з куратарства і стаць на яго месца. Для гэтага неўзабаве надарылася спадручная ідэя: далажыць Вялікаму князю Канстанціну, што пад натхненнем і кіраўніцтвам Чартарыйскага з літоўскай моладзі выхоўваюць ворагаў расійскага ўрада. Так падаць факты і пераканаць у іх праўдзівасці Вялікага князя Канстанціна было не складана.

***Пераклад з польскай і падрыхтоўка да друку Сяргея ШЫДЛОЎСКАГА.***

[1] Шпіцнагель Людвік Фердынандавіч (?—1827) — паэт, перакладчык, арыенталіст, сын Фердынанда Фердынандавіча Шпіцнагеля, доктара медыцыны і хірургіі, заслужанага прафесара Віленскага ўніверсітэта, паліглота.

***Заканчэнне будзе.***



# БЯРОЗКА

*Светам кіруе той, хто чытае*

Пілот

## БЕЛ. ЛІТ.
Як чытаць, каб падабалася

## СУПЕРМЕСЯЦ
Дзе ўбачыць?

## Ψ – ФАКТОРЫЯ
Атрымай свой поспех зараз!

Пазакласнае

## ГІСТОРЫЯ БЕЛАЙ ВАРОНЫ

У новым фармаце!

Спецыяльна для школьнікаў!

*Калі…*

*Калі ты любіш адчуваць пад пальцамі не мёртвы пластык, а жывую паперу,*

*калі слова «духоўнасць» для цябе не сугучча, а патрэба душы,*

*калі разумееш, што шчасце – таксама навука,*

*калі ведаеш, што светам кіруе той, хто чытае, а не той, хто глядзіць тэлевізар,*

*калі хочаш рассунуць межы свайго свету і паглядзець на яго з новага боку,*

*калі маеш патрэбу атрымліваць веды, а не інфармацыю,*

*калі памятаеш, што дрэва без каранёў не расце,*

*ты – наш чытач, а «Бярозка» – твой часопіс.*

Пілот

# Ты ўсё назіраеш, дыхаеш паветрам…

***Надрукаваныя тут вершы нельга назваць творамі пачаткоўцаў. Нягледзячы на юны ўзрост іх аўтараў, гэта – сталыя вершы. У іх ёсць і думка, і лірызм, і тое няўлоўнае штосьці, што амаль не магчыма пераказаць словамі, але без чаго сапраўднай паэзіі – не бывае.***

## ТУТ МАЕ ВЫТОКІ!

Ухалода, Ухалода!
Майго сэрца асалода!
Я люблю цябе да болю:
Гэты шум старых таполяў,
Тваe жніўеньскія росы,
Беластволыя бярозы
І валошкі ў спелым жыце…

Людзі, край свой беражыце!

***Таісія ЖВІРБЛЯ,***
***7 клас, Вялікаухалодская СШ, Барысаўскі раён***

## ЗІМОВЫ ЛЕС

На кронах снег, стаяць у шапках сосны,
Цудоўныя зімовыя лясы!
З красой іх параўнацца могуць вёсны,
Другой такой амаль няма красы!

Зялёнае і белае – прыгожа.
Зімовы лес, і сосны, і мароз!
Краса пейзажу хутка дапаможа
Пазбегнуць смутку ці яго пагроз.
На сонцы снег вясёлкаю іскрыцца,
Калі злятае, нібы пух, з галля,
У змрозе казка дзіўная прысніцца,
Але наяве казку бачу я.

Лес кліча: «Завітайце, калі ласка!»
Зімовы лес, што ў свеце лепш яго?
Чароўная, як цуд, чакае казка…
Наяве казка – даражэй ўсяго!

***Анастасія ЧЭПІК,***
***11 клас, Прылукская СШ, Мінскі раён***

## ХОЧАШ, КУПЛЮ ТАБЕ ШЧАСЦЕ?

Не іскрацца твае вочы…
Ты не сумуй. Не трэба.
Куплю табе шчасце, хочаш?
За два погляды ў неба!
Не ў дарагой краме,
На шыкоўным прылаўку.



Дарагі юны чытач!

Ёсць часопісы (ты іх, магчыма, чытаў або хаця б трымаў у руках), якія забаўляюць, дапамагаюць бавіць час. Ёсць іншыя, якія могуць і забавіць, але пры гэтым у цябе не адымуць твой час, а дапамогуць правесці яго так, каб не было пасля прыкра ці пуста ў душы. З часопісам «Бярозка» табе ўдасца і пасмяяцца, і здзівіцца, і даведацца шмат новага – пра школу і настаўнікаў, сяброў і пачуцці, пра жыццё, яго будову, законы і правілы. Гэтыя старонкі дапамогуць табе вырашыць праблемы і здабыць упэўненасць, пазнаёміць з аднагодкамі і іх дасягненнямі. Табе абавязкова захочацца стаць героем «Бярозкі» і ты зможаш ім стаць, бо гэта твой часопіс, ён створаны спецыяльна для цябе. А калі ты чалавек творчы, калі сядзіць у табе паэтычны дар, калі прагнеш заняцца пісьменніцтвам, «Бярозка» стане для цябе адначасова і майстар-класам, і пляцоўкай для пробы пяра, і – галоўнае – самым дзейсным пропускам у свет літаратуры.

Да сустрэчы!

*Мікалай Іванавіч ЧАРГІНЕЦ,*
*старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі*

А ў звычайным кошыку,
У бакалейнай лаўцы.
Там прадаюць за ўсмешкі
Самыя розныя рэчы.
Дзве залатыя рыбкі



Плавалі там, дарэчы.
За «ўсміхнуўшыся міла»
Гэтай вясной ранняй
Я іх сабе купіла
Для выканання жаданняў.
Там ёсць усё, што трэба,
Розных гатункаў і масці…

За два погляды ў неба
Хочаш, куплю табе шчасце?

***Анастасія САЙЧЫК,***
***выпускніца Міханавіцкай СШ, Мінскі раён***

## АЎТОБУС

Выпадкам.
Раптам.
Аўтобус.
Прыпынак.
Позірк у вочы адно аднаму.
Усмешкі кідалі,
Гульнёй называлі,
Чужыя адно аднаму.

Колькі праехалі,
Ці пераехалі,
Вочы ў вочы глядзяць.
Людзі навокал не замінаюць,
Можа, іх тут і няма?

Але здараецца,
Сумна, канешне,
Аўтобус спыняе ходу.
Рэзкія рухі,
І вочы губляюцца…
Ім не знайсціся ўжо тут.

## ЗОРКІ І ДУМКІ

Ноч – гэта час думак,
Простых і складаных.
Гледзячы на месяц,
Песціць свае мары.
У кожнай новай думцы –
Кропля разважанняў,
І аналіз дзеяў,
І сабе прызнанняў.

Ты і не філосаф,
Не псіхолаг быццам,
Але разумееш
Ўсе свае памылкі.
Хмары паступова засцілаюць неба,
Ты ўсё назіраеш, дыхаеш паветрам.

Толькі нешта сумна…
Ціха свішча вецер,
Месяц…
Хмары…
Зоркі…
Зорачкі,
А дзе вы?

***Яніна АСІПЦОВА,***
***Міжнародная школа, Гданьск, Польшча***





Цябе згадаў – і адгалоскам
Ты зноў у сэрца мне зайшла:
Я ж сябраваў з табой, «Бярозка»,
Як з той,
Што пад акном расла.

З табой сталеў,
З табой, лагоднай,
Распальваў творчасці касцёр.
Твой спеў
На мове нашай роднай,
Як горна спеў,
Крыляў да зор!

Я рад:
Тваю густую крону
Хоць скуб віхор да забыцця,
Ды зноў глядзіш ты ў свет зялёны
Вачмі радкоў –
Вачмі жыцця.

Знаходзь сяброў у родных
вёсках,
Прыходзь да іх у гарады…
Жыві, здзіўляй дзятву, «Бярозка»,
Дары святло,
Як і тады!

***Мікола ЧАРНЯЎСКІ,***
***супрацоўнік часопіса «Бярозка»***
***ў 1966–1988 гадах***

# Малітва за Беларусь



Жыву з бабуляй у адным пакоі. Кожны вечар чула бабуліна: «Госпадзі, іжа есі на небясі» і думала, як гэта будзе гучаць на роднай мове. А не так даўно знайшла гэтую малітву па-беларуску: «Божа, які ёсць на небе!».

Наперадзе маю краіну чакае грандыёзнае свята – Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І мне б хацелася скласці малітву за лепшую, самую цудоўную краіну ў свеце, за маю любімую, родную Беларусь, якая шмат пакут вытрымала ў гады вайны.

Калі будзе свята, я пайду ў царкву, вазьму свечку, запалю яе перад абразом Маці Божай і памалюся, як моляцца ўсе людзі. Можа, малітва мая будзе крыху паганская, якой яна была ў часы Усяслава Чарадзея, але менавіта так яна будзе гучаць:

«Божа, калі Ты ёсць на небе, дай вечны спачын людзям, кожнаму трэцяму беларусу, які загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Божа Вялікі, дай вечны спачын душам абаронцаў Брэсцкай крэпасці, якія вялі барацьбу не за славу і ўзнагароды, нават не за ўласнае жыццё. Яны проста выконвалі свой абавязак: яны абаранялі Радзіму. А яшчэ, Магутны Божа, я папрашу ў Цябе вечны спачын і для тых, хто быў жывым спалены ў хлявах 136 беларускіх вёсак. Бо не самазабойцы яны, а такую страшную смерць прыдумалі ім фашысты-карнікі. Нічым не правініліся гэтыя людзі! Усё сваё свядомае жыццё яны сеялі хлеб, саджалі бульбу, хацелі, каб квітнелі сады каля хат. Гадавалі дзетак, але дзеткам тым не накавана было вырасці…

Дай, Усявышні, добры спачын душам у раі, слаўным сынам зямлі беларускай, Янку Купалу і Якубу Коласу, я не сумняюся, што яны там, бо з першых дзён вайны змагаліся за праўду, а сваімі творамі заклікалі ўсіх на барацьбу з ворагам.

Божа Вялікі, дай добры спачын і вечную памяць нашаму земляку, выдатнаму беларускаму пісьменніку Уладзіміру Калесніку, які ўсё сваё свядомае жыццё памятаў пра ваеннае ліхалецце і адлюстраваў гэта ў кнізе «Я з вогненнай вёскі».

Нельга забыць ні праз шэсцьдзесят, ні праз сто гадоў пра жахі Асвенцыма і Майданэка, пра спаленых жывымі ў Трасцянцы і Хатыні. Памяць пра жудасную вайну жыве ў сэрцах тых, хто перанёс яе няшчасці і пакуты.

Вялікі Божа, я хачу папрасіць у Цябе вечны спачын для Мікалая Гастэлы, пра подзвіг якога ведаюць ва ўсім свеце.

Дай, Усявышні, спачын і вечную памяць

Марату Казею, Колю Гойшыку, якія, нічога не пабачыўшы ў жыцці, сталі ахвярамі тых цяжкіх часоў. Колькі іх, гэткіх жа самаахвярных і няшчасных хлопчыкаў і дзяўчынак, назаўсёды засталося там, у жудаснай той вайне?!

Божа Вялікі, я хачу папрасіць у цябе вечны спачын усім тым воінам, што загінулі пры вызваленні Пінска. Камандзіры Насыраў і Кулікоў на ахопленым полымем крэйсеры вялі агонь па праціўніку да апошняга ўдара іх сэрцаў. У самую цяжкую хвіліну бою трагічна абарвалася жыццё бацькі і сына Альхоўскіх.

Магутны Божа, я папрашу ў Цябе добры спачын для ўсіх ветэранаў, якія памерлі ў мірны час. Яны аддалі Радзіме, абараняючы яе ад ворага, сваю маладосць.

Я хачу памаліцца за здароўе дарагіх ветэранаў, якія яшчэ жывуць сярод нас, якія, апрануўшы свае святочныя касцюмы з узнагародамі, выйдуць 9 мая і 3 ліпеня на плошчы гарадоў і вуліцы вёсак, пакланіцца ім нізка і падзякаваць за іх подзвіг у імя жыцця на зямлі. Я веру, што будучыня краіны залежыць ад людзей. Хай кожны з нас будзе здаровы фізічна і маральна, хай будзе шчаслівы, хай застаецца Чалавекам. Ад таго, якімі мы станем, як будзем працаваць, якія маральныя каштоўнасці возьмем з мінулага, залежыць і наша будучыня.

Прымі нізкі паклон, Ойча, і за Івана Шамякіна, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Васіля Быкава і дай ім вечны спачын за іх творы пра Вялікую Айчынную вайну!»

Перш чым прамовіць «Амінь», хочацца паўтарыць словы пароля Кастуся Каліноўскага:

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь!

– Тады ўзаемна!

***Юлія КАВАЛЕВІЧ,***
***17 гадоў, Пінск***

# Над усім

## ЯБЛЫНЕВЫ ЦВЕТ



Белыя, лёгкія, падобныя да крылаў анёла пялёсткі. Ледзь прыкметныя, жоўценькія, на танюсенькіх ножках тычынкі…

Усё разам складваецца ў чароўную кветку, здаецца, зусім простую. Ды ўсё ж ёсць у ёй штосьці такое, што чапляе погляд, прымушае замілавацца гэтымі, нібы бязважкімі, камячкамі, адны з якіх хаваюцца ў зеляніне, а іншых так шмат, што першых



Ад імя чытачоў, юных карэспандэнтаў і журналістаў старэйшай на Беларусі газеты для дзяцей і падлеткаў «Зорька» прымíце самыя шчырыя віншаванні ў сувязі з выхадам у свет адноўленага часопіса, які мае шматгадовы вопыт маральна-духоўнага выхавання падрастаючай змены і слаўныя традыцыі, вартыя працягу. Цэлыя пакаленні адметных людзей выраслі з «Бярозкай». Яе выпісвалі калісьці бацькі сённяшніх школьнікаў і з задавальненнем чыталі разам са сваімі мамамі, татамі, важатымі і педагогамі. Верыцца, што любоў да сённяшняй «Бярозкі» будзе натхняць на творчасць, напаўняць чытачоў самага рознага ўзросту маладым задорам.

Дасягайце новых вышынь і не спыняйцеся на дасягнутым!

*Людміла ГРАМОВІЧ,*
*галоўны рэдактар газеты*
*для дзяцей і падлеткаў «Зорька»*

**КЛАС**

У перакладзе з лацінскай гэта «група», у такім жа значэнні слова «клас» ужываецца ў біялогіі. Да прыкладу, Клас Насякомыя, Клас Млекакормячыя. А ў адукацыі слова «клас» азначае і памяшканне для заняткаў, і групу школьнікаў, якія вучацца сумесна.

зялёных лісточкаў за імі не бачна. Паветра напоена тонкім, амаль няўлоўным, салодкім, прыемным водарам. Цёплы, лёгкі ветрык уздымае з дрэў і праносіць над зямлёй маленькія кропачкі пялёсткаў, якія, крыху пакружыўшы, падаюць, нагадваючы зіму з яе белымі сняжынкамі-зорачкамі…

Яблыневы сад.

Звычайныя дрэвы. Блакітнае неба. Яркае сонейка.

Цёплае, вясенняе паветра.

І так лёгка, так радасна на душы…

## КАЛЯ РАЎЧУКА

Паміж невялікіх узгоркаў немаведама з якіх часоў працякае маленькі раўчук. Празрыстая, ледзь жаўтаватая вада ціха бяжыць паміж зарасцяў чароту і асакі, месцамі разліваецца на невялікія балацявінкі, месцамі так звужаецца, што можна нават пераскочыць. Толькі ранняй вясной, вызваляючыся з-пад лёду, воды раўчука імкліва нясуцца на сустрэчу з вялікай ракой. Тады шум і булькатанне чуваць здалёк.

Цяпер жа самы пачатак лета. Адвячорак. Цішыня такая, што ў вушах, здаецца, звініць. Нават у мясцовых спявачак – жабак – перапынак, не чуваць іхняга рознагалосага квакання.

Раз-пораз праносяцца, са свістам рассякаючы паветра, беражанкі, весела шчабечуць, пралятаючы амаль над самай зямлёй, ластаўкі. Вечарэе…

Неспадзявана са старога закінутага саду пачуўся спеў салаўя, хоць гэтыя птушкі звычайна цешаць песнямі вясной. Ён нібыта выводзіць развітальную, да наступнай вясны, мелодыю, і яна, пяшчотная, павольна плыве над раўчуком, жытнёвым полем… Над усім.

Подых ветру, ад якога не ўскалыхнулася ні адна травінка, данёс раптам пах нагрэ-

тых за дзень сонцам зялёных каласкоў. Яны чамусьці пахнуць ужо саспелай збажыной, хлебам, цеплынёй і… спакоем.

Амаль сцямнела. Ад ручая пацягнула вільгаццю, у небе прыгожа завісла палова жоўтага месяца. Чайкі ўпоцемках, па адной ці парамі, моўчкі пралятаюць над маёй галавой, што дзіўна, бо чайкі звычайна любяць гучна крычаць…

## ВОСЕНЬ



Пахмурнае асенняе неба раз-пораз прарываецца доўгімі і халоднымі слязьмі дажджу. Непакоячыся, што не ўдасца да пары залегчы ў спячку, па лесе блукае мядзведзіца. Птушкі ўжо не спяваюць, не абуджаюць звонкімі песнямі гэты сумны, шэры, халодны, сонны свет, і нам вельмі іх не хапае. Па небе плывуць яшчэ больш шэрыя хмары. Сонца не выглядвае і не дорыць зямельцы цяпло і святло. Голыя чорныя дрэвы тонкімі рукамі з доўгімі пальцамі спрабуюць рассунуць хмары, хочуць ухапіць хоць некалькі сонечных промняў. Але ім гэта не ўдаецца, і ад жалю сумна рыпяць чорныя дрэвы, калі халодны, пранізлівы вецер з насмешкай пачынае дзьмуць і разгойдваць іх з боку ў бок.

На зямлі лужыны і гразь, густая і непралазная. Панура і сумна. Хочацца залезці пад коўдру і не вылазіць да самай зімы, калі зямлю пакрые бліскучы на сонцы, белы, мяккі снег, калі на двор прыляцяць чырванагрудыя снегіры, а дзеці пачнуць весяліцца, катацца на санках, каньках, ляпіць снегавікоў і чакаць самага казачнага, прыгожага, вясёлага свята. Свята, падчас якога заўсёды адбываюцца цуды.

## НОЧ

Заплюшчу вочы і ўяўляецца нейкая рачулка – не рачулка, азярцо – не азярцо. Неба над гэтым дзіўным вадаёмам начное, цёмна-фіялетавае. Дзесьці сіняватае, дзесьці ўжо шэра-блакітнае. І спрэс усыпана бліскучымі зоркамі. Гэтыя зоркі складваюцца ў сузор'і. Вось Касіяпея глядзіцца ў люстэрка і расчэсвае доўгія валасы, вось Арыён ідзе на паляванне ў сваім славутым поясе, а поруч верныя Вялікі і Малы сабакі.

Вада таксама цёмная. Дзесьці пасярэдзіне яе плыве бліскучая плямка Месяца. І мільёны тоненькіх водбліскаў ад зорак.

Цёмна-зялёныя кусты пышным верхам абступаюць ваду, пад імі яна здаецца яшчэ цямнейшай. Толькі светлякі крыху разбаўляюць гэтую цемру. І здаецца, што менавіта тут хаваецца КАЗКА.

Гэта чароўнае месца, і мне падаецца, што я яго сапраўды дзесьці бачыла.

***Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,***
***10 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён***





# Памылкі ствараюцца, каб іх выпраўлялі

***Дружа!***
***У «Бярозку» прыходзіць даволі шмат лістоў з вершамі і прозай. Я ведаю, што і ты сёе-тое пішаш. Сёння я табе патлумачу, як рабіць гэта крыху лепей.***

## ПЕРШАЕ

Вазьмі тую тэму, якая хвалюе менавіта цябе і на якую менавіта ты маеш што сказаць людзям, а не тую, на якую пішуць усе. Напрыклад, усе беларусы любяць буслоў, усе ўдзячныя ветэранам, але ж нам таксама цікава, чым ты жывеш акрамя буслоў і ветэранаў.

## ДРУГОЕ

Пазбягай моўных і стылёвых штампаў. Штамп – гэта зацяганы зварот, які абазнанаму чалавеку адразу кідаецца ў вочы, а маладому пісьменніку – звычайна не. Напрыклад, выразы «Беларусь сінявокая», «Жыццё ў рэжыме он-лайн» і «Першае каханне – самае незабыўнае» зрабіліся штампамі.

## ТРЭЦЯЕ

Правярай факты, каб не атрымалася ў цябе, што тыгры жывуць у Афрыцы, а птушкі маюць зубы. Калі пішаш пра нейкага чалавека, перад напісаннем даведайся пра яго як мага болей і з розных крыніц, а калі ён яшчэ жывы, то і самога распытай.

## ЧАЦВЁРТАЕ

Правільна ўжывай словы. Лепш карыстайся добра знаёмымі словамі, іх цяжэй паблытаць. Вывучай, чым адрозніваюцца паміж сабою сінонімы, аднакаранёвыя словы. Напрыклад, слова «заснуць» універсальнае, а «паснуць» ужываецца, калі засынае некалькі істот.

## ПЯТАЕ

Калі ты паэт, працуй над формай. Пачытай «Паэтычны слоўнік» Рагойшы. Паспрабуй пісаць рознымі памерамі, строфамі. Шукай арыгінальныя рыфмы, прыдумляй наватворы, баўся гукапісам, гуляйся з сінтаксісам. Калі ты празаік, выкарыстоўвай самавітыя словы і імкніся, каб кожны герой гаварыў на свой манер. І галоўнае – не бойся памыляцца. Памылкі для таго і створаны, каб іх выпраўляць :-)

Ну, пэўна, досыць на першы раз. Калі я цябе зацікавіў, у наступных нумарах будзе працяг.

***Хатняе практыкаванне: прыдумай, чым замяніць выразы «Беларусь сінявокая», «Жыццё ў рэжыме он-лайн» і «Першае каханне – самае незабыўнае». Калі прыдумаеш, дашлі ў рэдакцыю.***

***Віктар ЛУПАСІН***

Пілот

# Галоўная Беларуская Паэма


*Віктар Лупасін*

Мікалай Аляксеевіч Някрасаў аднойчы апісаў беларуса так:

Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый, больной белорус:
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах...

Крыўднае апісанне, ці не праўда? Адразу робіцца крыху ніякавата, што і ты беларус, быццам бы сорамна. Хочацца неяк схаваць сваю беларускасць, каб людзей не палохаць.

Доўгі час беларусы так і пачуваліся, хавалі сваю беларускасць. А калі іх нехта пытаў, хто яны, дык не беларусамі звалі сябе, а тутэйшым людам.

А потым адзін мужык-беларус напісаў паэму...

Першае, з чаго пачынаецца «Новая зямля», – настальгічны ўздых пра часы юнацтва, якія адышлі і больш не вернуцца. Якуб Колас пісаў гэта, калі быў яшчэ маладым чалавекам – маладзейшым, чым я цяпер. Але ён ужо выразна адчуваў подых часу і разумеў, што ні ягонае маленства, ні юнацтва ніколі не вернуцца – гэтаксама як і тваё, мой дружа, маленства больш не вернецца, і ніколі табе больш не будзе ні пяць, ні дзесяць гадоў, і ніколі не пойдзеш ты першы раз у першы клас...

Назад не прыйдзе хваля тая,
Што з быстрай рэчкай уплывае.

Але потым паэт згадвае прыроду родных мясцін, і пачынаюцца фірмовыя, ні на што не падобныя Коласавы апісанні. Ты, можа, не заўважаў, але ў Коласа прырода заўсёды жывая, нават ачалавечаная. У яго кожнае дрэўца мае свой характар, сваю гісторыю! Вось, напрыклад, елкі:

Таемна з хвоямі шапталісь.
Заўсёды смутныя, бы ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы!

А во дзве старыя вярбы:

Як дзве старэнькія кабеткі,
К каторым старасць неўзаметкі
Падкраўшысь злодзеем срэдзь ночы,
Як смачны сон змыкае вочы,
Красу і крэпасць забірае
І ўсю іх жывасць выкрадае...



А во дубы, самыя любімыя дрэвы паэта:

Стаяць, як вежы, над вадою
Даўнейшых спраў вартаўнікамі
І ззяюць грозна жараламі.

Колас рос у лесе. Усё сваё дзяцінства ён назіраў за прыродаю. Часам мне падаецца, што ён ведаў мовы дрэў, птушак і грыбоў. У яго гэта застанецца на ўсё жыццё: у трыццатыя гады Колас будзе кожнае лета вандраваць па лясах Пухавіччыны, а пасля вайны пабудуе дом наводшыбе, таксама амаль сярод лесу.

(Цікава, пра што можаш напісаць ты з такой любоўю і з такім веданнем? Чым жывуць сучасныя людзі?)

І вось, апісаўшы ў першым раздзеле родны кут, Колас пераходзіць да людзей, якія ў ім жылі. І адразу выяўляецца, што зусім не так усё проста і маркотна, як уяўлялася Някрасаву!

Ну, па-першае, усе здаровыя, усе вясёлыя, ні ў кога няма каўтуна, ні ў кога няма яміны на грудзях. Ядуць простую ежу, але смачную і дасыта. Дзяцей ажно сямёра, дурэюць як хочуць, але і бацькам дапамагаюць, і бачна, што ўсе адно аднаго тут любяць.

Па-другое, працуюць героі шмат – і дарослыя, і дзеці. Але ж як па-рознаму апісваюць працу Някрасаў і Колас! Колькі тугі, безнадзейнасці ў рускага паэта – і колькі любові да працы, колькі радасці ў беларускага! Во, глядзі:

Эх, што за хваля і як дужа,
Разгонна, смела і агромна
Плыве па струнах тых з-пад Нёмна!
Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.

Аж самому хочацца ўзяць касу ды пайсці касіць луг, праўда?

А па-трэцяе...

Па-трэцяе, Коласавы героі маюць мару. Во гэтую самую новую зямлю.

Патлумачыць табе, што такое была тады новая зямля? Вельмі проста: тое самае, што цяпер новая кватэра. От ты цяпер, напрыклад, жывеш з бацькамі, любіш іх, але марыш калі-небудзь ад іх адсяліцца; а твае старэйшыя сябры здымаюць дзе-небудзь пакойчыкі і мараць набыць сваю кватэру, каб жыць сваім жыццём і ні ад кога не залежаць. І жыццё цягнецца сваім ходам, але скрозь гэтае жыццё праходзіць мара аб тым, каб зажыць самастойна! Дык вось, новая зямля якраз і была тады сімвалам самастойнага жыцця.

А наогул паэма з усіх бакоў малюе шчаслівае дзяцінства простага беларускага хлопчыка Костуся, а таксама жыццё яго сяброў і родзічаў. Уёй шмат гумару, роздуму, цудоўных апісанняў прыроды. Тут згаданы ўсе поры года, праца, адпачынак, вучоба, беларуская кухня, беларускія характары... Усе свае дзіцячыя ўражанні, назіранні, думкі Якуб Колас абдумаў дарослым розумам і стварыў Галоўную Беларускую Паэму. І хоць пісаў ён пра маленькую хатку наводшыбе сярод лесу ды пра некалькіх зусім звычайных людзей, але апынулася, што паэма ягоная пра ўвесь беларускі народ.

Так бывае, калі вельмі добра напісаць пра тое, што любіш.

# З кім прыемна гаварыць ва ўтульным мінскім парку

***Сяргей Башлыкевіч асоба рознабаковая: тэлезорка, інтэлектуал, удзельнік «Што? Дзе? Калі?», бард, паэт і проста вясёлы добры чалавек. Наша гутарка адбылася ва ўтульным мінскім парку.***

**– А як вы, Сяргей, зразумелі, што вам трэба займацца музыкай?**

– Ведаеце, не было такога моманту, каб я вось так сеў і раптам зразумеў, што мне трэба рабіць менавіта гэта. Спачатку навучыўся граць на гітары – у канцы школы гэта было, ды і вершы неяк даўно пісаліся. Потым пачаў сумяшчаць. Атрымліваў ад гэтага задавальненне, таму і пайшло. На пытанне пра тое, што дакладна падштурхнула да творчасці, адказу таксама няма. Хацелася неяк бавіць час, па-першае. А па-дугое, хацелася, каб было што паказаць.

**– Адкуль чэрпаеце натхненне?**

– Па-рознаму. У мяне ёсць песні больш вясёлыя, ідыёцкага цыкла, натхненне на іх чэрпаць амаль што не трэба: куды ні кінь вокам – нейкае глупства, пра якое можна спяваць. А што









датычыцца сур’ёзных песень, то для іх я чытаю кніжкі. Бывае, чытаеш аповесць і – уяўляеш сюжэт песні.

**– А што дае вам сілы ісці наперад, развівацца? І ці ёсць беларускія сучасныя музыкі, якім вы сімпатызуеце?**

– Якое філасофскае пытанне (смяецца). Хочацца паспрабаваць усё і як мага болей. А музыкаў, якім я сімпатызую, даволі шмат. Калі браць рок-бардаў, то мне падабаюцца Яўген Барышнікаў, Міхась Бараноўскі, Паліна Рэспубліка. Магу доўгі спіс нагаварыць.

**ПЕНАЛ**

Доўгі час людзі пісалі птушынымі пер’ямі (часцей гусінымі). І словам «пенна» (што ў перакладзе з лацінскай значыць «пяро») называўся футляр для пер’яў. Праўда, у сучасны пенал вучні кладуць куды больш разнастайныя прадметы.

**– З якімі спевакамі вы марыце сустрэцца або спець разам?**

– Спець разам? Магчыма, трэба сказаць: «З Аляксандрам Саладухам!» Няма на самай справе ў мяне такой мары. Калі яе прыдумаю, то вам скажу.

**– Якія яшчэ віды мастацтва вас цікавяць? Ці наведваеце тэатры, музеі?**

– Калі першае пытанне пра тое, чым бы я хацеў займацца, то адказ такі: няма ніякай іншай цягі. Кіно падабаецца... А наконт музеяў стараюся, калі прыязджаю ў які-небудзь горад, наведаць мясцовы музей. Мне гэта цікава. З тэатрам у апошні час сітуацыя крыху горшая, даволі рэдка туды хаджу. Амаль што раз на год. Хаця некалькі год таму, у студэнцтве, амаль кожны тыдзень хадзіў.

**– Мы ведаем вас як заснавальніка мелатрэку.**

– Няправільна вы мяне ведаеце, я не заснавальнік. Я проста праводзіў мелатрэк у летніку. Заснавальнікам з’яўляецца творчае аб’яднанне «Харошыя людзі», там ёсць не-

Мелатрэк – гульня на веданне музычных кампазіцый розных жанраў. Удзел прымаюць каманды з 5–6 чалавек. Гульня складаецца з некалькіх этапаў. На кожным этапе трэба адгадаць 10 урыўкаў з кампазіцый, аб’яднаных нейкай адной тэмай.

калькі чалавек, якія год таму вырашылі правесці мелатрэк у клубе «Граффити», дзе я проста ўдзельнічаў.

**– Нядаўна вы наведалі адну Салігорскую школу, у якой у гэтым годзе быў праведзены мелатрэк. Ці апраўдалі салігорцы вашы надзеі?**

– Нават больш за тое, мне спадабалася! Па-першае, было цікава з’ездзіць у сам Салігорск, бо раней там бываць не даводзілася. Я ўвогуле не ведаў што будзе. Але мне спадабалася! Атрымалася вельмі якасна, па-сапраўднаму добра. Мелатрэк выйшаў цудоўны, з медыяазбукай. Складана, на мой погляд, але вельмі цікава і драйвова. У мяне засталіся самыя лепшыя ўражанні.

**– Кім вы бачыце сябе ў далейшым жыцці? Будзеце працягваць кар’еру музычную ці інтэлектуальную?**

– Заўжды трэба працягваць інтэлектуальную кар’еру! Я працую інжынерам-праграмістам, гэта даволі цікавая праца. А з другога боку, у апошні час вельмі шмат стала музыкі, я пачаў часцей выступаць, таму хочацца запісаць альбом.

**– З якім дэвізам ідзяце па жыцці?**

– Піянерскае пытанне. Як у фільме «Заўжды кажы так». Няма дэвізу. Там клёва, пайду схаджу туды. Можна і без дэвізу!

***Гутарылі Дар’я ІСАЕВА і Паліна РЖАВУСКАЯ, гімназія № 1 Салігорска, 10 клас***



Наша радзіма Беларусь мо і займела назву ад таго, што на яе гаючых землях спрадвеку раскашоўваюцца бярозкі. Куды ні паедзь па краіне – усюды сустрэнеш белы бярозавы гай з зялёнымі косамі. Здаецца, над усёй гэтай прыроднай красой гучыць песня Ігара Лучанка на словы паэта Анатоля Вялюгіна:

Снягі і зоры за акном,
Заснулі ў хаце ўсе даўно,
Бярозка юная галлём
Паціху стукае ў акно…

А цяпер вось стукае, просіцца ў душы юных чытачоў «Бярозка» літаратурная. На сваіх лісціках-старонках, веру ў гэта, яна прынясе падлеткам і радасць новых сустрэч, і асалоду роднай мовы, і надзею на заўтрашні дзень. Давайце ўсе разам паверым у гэта і зробім усё, каб нашы Дзеці займелі вернага сябра-дабрадзея і болей ніколі-ніколі не разлучаліся з ім.

Жыві, «Бярозка», на карысць нашым спадчыннікам! І ведай, што часопісы «Буся» і «Вясёлка» рыхтуюць для цябе прыстойных чытачоў і аўтараў.

***Уладзімір ЛІПСКІ, галоўны рэдактар часопісаў «Буся» і «Вясёлка»***


Алена Марціновіч

*Напішы як Алена Марціновіч – і станеш аўтарам калонкі!*

# Двухбаковыя адносіны

Парады, вядома, бываюць розныя. Часам трапляюцца такія відавочныя глупствы, што дзіву даешся: як толькі імі можна кіравацца!

Напрыклад, калі чалавеку вы, маўляў, патрэбны, то ён вам сам патэлефануе ці напіша, і калі з вамі захочуць падтрымліваць стасункі, то любым чынам будуць імкнуцца вас адшукаць. Таму нікога не ўтрымлівайце, сядзіце і нічога не рабіце, бо тыя, каму трэба, самі прыбягуць і сябраваць папросяцца. Ага, так, глядзіце, вунь ужо чарга выстраілася!

Забываемся, людзі, што адносіны (усе: ад сяброўства да кахання, любыя – нават адмоўныя, нават варожасць) штука двухбаковая і ўзаемная! Інакш гэта не адносіны. Возьмем просты прыклад. Калі яна яго кахае, а ён яе – не, то якія ж гэта адносіны? Гэта пачуццё, толькі пачуццё. На ім адным ні сумеснай будучыні не пабудуеш, ні дзяцей не выгадуеш.

Уявіце, што ў нас будзе, калі ўсе пачнуць дзейнічаць так, як раяць некаторыя?! Усе сядуць роўненька і будуць чакаць, пакуль да іх прыбягуць тыя, хто імі сапраўды даражыць. І ніхто ні кроку нікому насустрач не зробіць. Ды гэтак жа ніхто ні з кім размаўляць нават не пачне! А што? Каму трэба, няхай сам падыдзе і пагаворыць.

Не, паважаныя, гэтак не пойдзе! Ініцыятыву давайце ўжо будзем праяўляць усе. Нават калі і сустрэнеце вы такога адданага чалавека, які заўсёды будзе першым пачынаць з вамі гаворку, першым тэлефанаваць, праяўляць ініцыятыву, заўсёды распытваць як у вас справы… Калі вы пры гэтым ні разочку не патэлефануеце яму, ніколі не спытаеце пра яго справы і як ён сябе адчувае або будзеце тэлефанаваць толькі тады, калі гэта патрэбна вам… што тады? Правільна, рана ці позна цярпенне гэтага чалавека скончыцца і ў адзін цудоўны дзень ён перастане вамі цікавіцца. «Захоча – патэлефануе», – успомніце вы. І ўсё на гэтым, канец сяброўству.

Ці вось яшчэ тэма: чула я такую версію, нібыта сапраўдны сябар – гэта чалавек, які дзеля вас гатовы парушыць свае планы і прыехаць да вас на край свету, а не той, што «ўкліньвае» вас у свабодныя «вокны» ў сваім графіку. Вось табе і на! Выходзіць на тое, быццам сябар – чалавек без волі, чалавек-раб. Не, калі гора якое здарылася – не спрачаюся: падтрымаць трэба, дзеля сябра можна, безумоўна, і адмовіцца ад чагосьці. Але не кідаць жа ўсё толькі з-за таго, што сябру хочацца прагуляцца! Самі падумайце, ці змаглі б вы так ахвяраваць? Лепш заўсёды з тым, хто дачакаецца, пакуль у вас з’явіцца вольны час, і парадуецца поспехам, якіх вы дасягнулі, пакуль былі занятыя, або падтрымае ў выпадку, калі вас спасцігне няўдача. Адсюль яшчэ адна выснова: ніколі не патрабуйце ад іншых таго, чаго не хацелі б ці не змаглі зрабіць самі.

*Напішы як Вольга Мацвееня – і станеш аўтарам калонкі!*

# Гісторыя белай вароны


Вольга Мацвееня

Калі мне было шаснаццаць, аднакласніцы дамовіліся мяне ігнараваць, каб паказаць, хто ў класе галоўны.

Прызнацца, я ніколі і не прэтэндавала на ролю першай скрыпкі. Проста была адзінай выдатніцай і мела сваё меркаванне па ўсіх пытаннях. Тое, што для дзяўчат было «добра», для мяне было «смерць», і таму ваявалі мы, як рускі з немцамі.

Праўда, усё гэта ў хуткім часе завяршылася і кожны застаўся пры сваім. Я, як і марыла, стала журналістам, і паколькі «прашляпіла» час дыскатэк і сустрэч з хлопцамі, бо сядзела за кнігамі, замуж выйшла ці не пазней за ўсіх дзяўчынак з класа. Цяпер усе мы – мірныя людзі, якія могуць доўга гаварыць пра жыццё, радавацца адно за аднаго ці адно аднаму спачуваць. Цяпер мы – дарослыя.

У часы вучобы ва ўніверсітэце, жыцця ў інтэрнаце мне таксама карцела вылучацца. І стала я гэткай дзяўчынай-пажарам з чырвонымі валасамі і ў парваных джынсах. Хто бачыў мяне ўпершыню, лічыў, што перад ім – цытата – «металюга», і сябры яе – доўгавалосыя хлопцы ў ботах-камелотах – спяваюць пад вокнамі інтэрната «Я свободен». Але ж гэта было не так! І тады я занялася пошукамі сябе – каб знешнасць, паводзіны і светапогляд паміж сабой не канфліктавалі. Шукала-шукала і знайшла.

Вельмі падабаюцца мне людзі, якія ідуць сваёй дарогай. Хоць і сама была ў школе выдатніцай, а выдатнікаў не надта люблю, бо чалавек павінен цікавіцца тым, што яго радуе і што ў яго атрымліваецца лепш, чым у іншых, а не імкнуцца абняць неабдымнае. Не разумею тых, хто вучыцца дзеля «корачкі». Не любуюся моднікамі, якія быццам з інкубатара, затое, маўляў, у трэндзе.

Як чалавек, які прайшоў праз ваду, агонь і медныя трубы, раю кожнаму, хто чытае гэтыя радкі, ніколі сябе не губляць. Няма асаблівай заслугі ў тым, каб быць як усе, бо не заўжды таго, чаго хочуць усе, хоча Бог, і не заўжды тое правільна. А вось той факт, што Бог стварыў цябе асаблівым, гаворыць пра многае: можа, так нараджаецца талент, які некалі праславіць цябе, а кпіны і абразы – толькі перашкоды на шляху да поспеху. Цяпер, калі стала дарослай, бачу, што пайшла б налева – каня б згубіла, а пайшла б направа – галаву. А Баба-Яга, якая заўжды супраць (такія асобы сустракаюцца ў жыцці кожнага чалавека), калісьці абавязкова цябе, белую варону, зразумее. Толькі не зламіся і не патапі сваю індывідуальнасць у возеры пад назвай Шэрасць.



Ігар Музыка

*Напішы як Ігар Музыка – і станеш аўтарам калонкі!*

# Узмоцненая падрыхтоўка

Беларускі спорт працвітае. Ну, за выключэннем спартыўных вынікаў – яны робяцца ўсё горшымы. І не ў плане пагалоўя балельшчыкаў – іх усё менш, а выразы іх твараў усё кіслейшыя. Проста новы НАК у сталічнай Вяснянцы ўражвае веліччу. Калі ісці ад яго ў бок возера, то, мінуўшы могілкі і ўніверсітэт фізкультуры, вы трапіце вачыма на «Мінск-Арэну». Там гуляюць у хакей. У гэтым сезоне «Дынама» на апошнім месцы ў Заходняй канферэнцыі, гледачоў паменшала ў паўтара-два разы. Але ў газетах пішуць, што не гэта галоўнае. Дасведчаны барзапісец заўсёды падасць матэрыял правільна: калі каманда зноў прайграла, ён паведаміць, што «ёсць прагрэс у параўнанні з папярэднім матчам». Калі прагрэсу не ўгледзець, значыць, «клуб рыхтуе ігракоў для зборнай». А калі зборная пасля таксама прайграе? Напішам: затое яна падрыхтавала ігракоў для клуба.

У супрацьлеглым баку знаходзіцца вялізны комплекс футбольных палёў і манеж. У футболе ў нас усё добра: можна спажываць гранты УЕФА, зарабіць іграка на трансферы, атрымаць бонус за набраныя ў еўракубках ачкі. І ўсе шчаслівыя. Акрамя балельшчыкаў. Гэтым – не дагадзіць! БАТЭ, бачыце, вылецеў з еўракубкаў у стартавым для сябе раўндзе. А не вылецеў бы ён, вам зноў давялося б мерзнуць у снежні на стадыёне!

Калі захочаце паглядзець, дзе гуляюць баскетбалісткі, шукаць прыйдзецца доўга. Але гэта нашы дзяўчаты, якія займаюць на чэмпіянатах Еўропы то пятае, то чацвёртае месца, а то і на п'едэстал узнімаюцца. Арандуюць далёкія і невядомыя залы.

Але і ў моцнага полу ў 2013-м былі перамогі. І гэта не жарт. «Вітэн» пераадолеў два групавыя этапы Кубка чэмпіёнаў па міні-футболе, трапіўшы ў лік 16 мацнейшых каманд кантынента. У «Бітве на Нямізе» наш вядомы баец Андрэй Арлоўскі эфектна накаўтаваў Андрэаса Краніатакеса.

Вяртаемся да дзяўчат. Тэнісістка Вікторыя Азаранка выйграла Australian Open, валейбалісткі трапілі ў Топ-16 чэмпіянату Еўропы…

Цудоўны пол цяпер у трэнажорныя залы заглядае не радзей за моцны. Вунь цётачка ў 45 год – такую праграмку робіць, што хоць на Алімпіяду адпраўляй. Іншымі словамі, займайцеся спортам. Або не займайцеся, бо ў залах і басейнах і без вас цесна. Канешне, хто спортам не займаецца, той хварэе часцей, але, з іншага боку, у паліклініках сустракаюцца такія прыгожыя медсёстры!

*Напішы як Ірына Шорац – і станеш аўтарам калонкі!*

# Як пачуць сябе?


Ірына Шорац

Я з дзяцінства марыла стаць актрысай. Нават у школе ў тэатральны гурток хадзіла тры гады запар. Можна было і болей, але кіраўнік гуртка пайшла ў дэкрэтны адпачынак. Тры гады пастаянна ў адно месца! А да гэтага – тыдзень у гурток філатэліі, тыдзень на макрамэ, два тыдні фатаграфіі, тры тыдні танцаў. Можна і болей, але настаўніца сказала, што ў мяне дрэнная расцяжка, і я вырашыла, што знайду сабе той занятак, для якога ў мяне ўсё добра. І знайшла, і раскрыла свой артыстычны талент. Я выступала на сцэне ў розных спектаклях. А галоўнае – мне гэта падабалася, давала энергію радасці, якую я зноў несла гледачам.

Калі заставаўся год да сканчэння школы, сваякі пачалі пытацца: «Кім ты хочаш стаць?» Я ўсім адказвала – АКТРЫСАЙ, і ніхто не ўспрымаў мой адказ усур’ёз. Але самае крыўднае, што ў маю мару не верылі мае бацькі. Мама нават казала: «Яна пойдзе туды, дзе не патрэбны хімія і матэматыка. У нас з гэтымі навукамі складана». І прафесію мне выбрала – настаўнік альбо гісторык. Для мамы і таты я заставалася тым малым капрызным дзіцём, бацькі якога лепш ведаюць, што яму трэба. А я заўсёды сама завязвала шнуркі, сама пляла касу, хай з «пеўнікамі», але сама! Самастойна прыгатавала яешню. Крыху, праўда, падгарэлую, але ж закон «першы блін комам» – дзейнічае.

З таго часу я перастала чуць свой унутраны голас. Была паспяховай студэнткай, гісторыкам з чырвоным дыпломам, адказным супрацоўнікам. Але актрысай я так і не стала. Што я пачала рабіць кожны вечар? Глядзець фільмы і захапляцца акцёрскай гульнёй. Я жыла жыццём чужых людзей, але не на тэатральнай сцэне і не ў кіно.

Як пачуць свой голас, калі яго так доўга затыкалі? Чаго я хачу ад сабе па-сапраўднаму?

Мы часцей слухаем парады, звяртаемся да сяброўак, шукаем адказы дзе заўгодна замест таго, каб зазірнуць у свой унутраны свет. Калі апошні раз ты заходзіў у госці да сябе? Гучыць, магчыма, дзіўна, але толькі так можна пачуць голас сваіх сапраўдных жаданняў. А не выконваць жаданні паслухмянага розуму, які заглушае голас сэрца. Розум слухаецца тых, хто для яго аўтарытэт, – маці (і яе трэба слухацца, але тут я кажу пра іншае), занадта вопытную сяброўку (свае граблі – лепшыя!), настаўніцу, кіраўніка. Але калі ты лічыш, што варты лепшага, а не таго, што навязвае грамадскасць, то слухай сваё сэрца – яно не падмане. Спачатку будзе страшна. Бо з’явіцца шмат сумневаў. І калі ты пачуеш толькі гул у вушах, гул, які забівае галасы, калі адчуеш рытм усхваляванага сэрца, калі пачуццё ўзнёсласці ахопіць цябе… Вось яно! Тое, што трэба! Гэта адказ на тваё пытанне – чым табе займацца ў жыцці. Сэрца падказвае справу, якая дорыць табе энергію, і ты заражаеш усё і ўсіх вакол сябе. Тады пра цябе будуць казаць: «Майстар!»

Я пачула сябе і знайшла тое, што прыносіць радасць. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

*Напішы як Алесь Емяльянаў – і станеш аўтарам калонкі!*


Алесь Емяльянаў

# Калі на халаце не хапае гузіка…

## НАДЗЯ

Ніколі не трэба губляць надзеі. Надзея – маленькая дзяўчынка, якая сама згубіцца – пойдзе да некага іншага, і колькі не кліч – Надзюша, Надзя – не падыдзе. Гарэзіць, усміхаецца, а не йдзе. Таму не ўскладай на яе кволыя дзіцячыя плечыкі вельмі цяжкія валізкі жаданняў і мараў. Не варта спадзявацца на сонца, бо сонца можа выйсці, а можа і не выйсці на працу, і яго падменяць дажджом ці нейтральным надвор’ем. Але якое шчасце і напоўненасць з’яўляюцца, калі сонца паказваецца на гарызонце ці хаця б какетліва намякае: «Можаце чакаць – хутка буду!» Што можа быць лепей прадчування сонца і ягонага прыходу? Калі ідзеш па печыва ў невялічкую краму (бадай, адзінае месца, дзе можна купіць хоць штось з ежы там, дзе я жыву, яе ўтрымлівае сям’я прадпрымальнікаў – прыгожых і добрасардэчных людзей), то разлічвай так, што яна можа працаваць, а можа і зачыніцца, бо праз пару тыдняў выходзіць ліцэнзія, якую не падоўжаць. Але ты цешышся, застаўшы на месцы абаіх – такіх усмешлівых і ласкавых, і тады дождж – як цёплы лёгкі душ з дарогі.

…І вось, ідучы з крамкі, ты ўжо бачыш – дзесьці там, на адлегласці ў дзевяць крокаў па калюжынах бяжыць маленькая дзяўчынка ў пунсовых гумовых боціках – тых самых, з твайго дзяцінства – дзіравенькіх гумовых боціках дваццаць трэцяга памеру.

– Надзя! Надзечка!

## РЭДАКТУРА

Калі быў маленькім, заўсёды здзіўляўся, чаму я ўмею размаўляць, а котка ці сабака не ўмеюць. Як яны адно аднаго разумеюць? Котка ж не скажа кату: «Я сумую, мой любы», а сабака не прамовіць: «Не магу без цябе!»

Шмат пазней дайшоў, што і жывёлкі валодаюць мовай, ды яшчэ як! Самай дасканалай у свеце – мовай рухаў, дотыкаў і позіркаў. Людзі ўпэўнены, што пераўзышлі ўсіх, бо ўмеюць з дапамогаю тых гукаў, што вылятаюць з ротавай адтуліны, давесці самыя галоўныя рэчы ў свеце. Але памыляюцца, бо, набыўшы адно, губляеш другое, дакладней, мяняеш першаснае на другаснае. І мы амаль развучыліся размаўляць без слоў. Але дзіўная жывёльная мова не мёртвая, проста складаная і крыху забытая, а людзей заўсёды палохалі цяжкасці…

## КАЛІ НА ХАЛАЦЕ НЕ ХАПАЕ ГУЗІКА…

Другі ледзь трымаецца на нітачцы, а трэці ўжо паспеў адчуць імгненне свабоднага палёту і радасна тыцнуўся аб падлогу, ты падбіраеш небараку, кладзеш машынальна ў кішэню, каб прышыць пасля, і па сканчэнні змены разумееш, што паскуднік выслізнуў праз не знойдзеную раней дзірачку ў той самай кішэні, – усё гэта сведчыць пра тое, што варта альбо купіць новы халат, альбо шукаць іншую працу.

# Як убачыць Супермесяц



*Ці заўважалі вы калі-небудзь, якім вялікім выглядае поўны Месяц падчас узыходу? Падаецца, што яшчэ трошкі – і можна будзе разглядаць кратары без тэлескопа. А яшчэ гэтае чырвонае адценне... Сапраўды, узыход поўні нікога не пакіне абыякавым. Аказваецца, Месяц у гэты момант не толькі не павялічваецца ў памерах, а нават… памяншаецца!*



Ілюзія Эбінгаўза

Здавалася б, падчас узыходу нябесныя аб'екты мы бачным праз вялікую тоўшчу зямной атмасферы, якая абавязкова павінна неяк іх павялічыць. Але аказваецца, што вялікія дыскі Сонца і Месяца на захадзе і на ўзыходзе – усяго толькі падман зроку. Не верыце? Гэта лёгка праверыць! Склейце з паперы трубку досыць вялікай даўжыні, каб, гледзячы ў яе, можна было ўбачыць толькі дыск Месяца, які займае ўсё маленькае поле зроку. І паспрабуйце праз гэтую трубку паназіраць за нашым спадарожнікам як падчас узыходу, так і ў момант, калі ён свеціць нам з вялікай вышыні. Ну як, памеры Месяца змяніліся? Канешне, не! Але што прымушае наша вока так моцна памыляцца? Адны даследчыкі сцвярджаюць, што чалавеку неба падаецца ў выглядзе сплюснутага купала, таму і падаецца, што ўсе нябесныя аб'екты ля гарызонту знаходзяцца далей, чым калі яны ў зеніце. Наш мозг спрабуе скампенсаваць гэтую рознасць адлегласцей і ў выніку завышае памеры таго, што знаходзіцца далей. Другія сцвярджаюць, што тут спрацоўвае знакамітая ілюзія Эбінгаўза: на малюнку аб'ект, акружаны вялікімі кругамі, падаецца меншым, чым калі вакол яго знахозяцца дробныя фігуры. Залішне казаць, што калі Месяц высока ў небе, то яго ахінаюць вялізныя нябесныя прасторы, на фоне якіх ён падаецца меншым. Але самае цікавае, што наша зямная атмасфера ўсё ж такі ўплывае на памеры Сонца і Месяца, калі тыя ўзыходзяць ці заходзяць. Яна здольная крыху скрыўляць промні святла, дзякуючы чаму, напрыклад, мы бачым міражы ў пустынях. Але з-за гэтага эфекту нябесныя целы, наадварот, крыху сплюшчваюцца для назіральніка. Атрымліваецца, што памеры Сонца і Месяца каля гарызонту не павялічваюцца, а памяншаюцца!

Ёсць, праўда, і адна прычына, па якой Месяц усё ж такі можа стаць большым. Справа ў тым, што наш спадарожнік рухаецца па крыху выцягнутай арбіце. Таму калі ён падыходзіць бліжэй за ўсё да Зямлі, то і выглядаць будзе большым. Але асабліва цікавым будзе той момант, калі найбольшае збліжэнне супадзе яшчэ і з поўняй. Такую сітуацыю астраномы называюць Супермесяц.

***Віктар МАЛЫШЧЫЦ***

Інтэрактыўны праект, у якім можа прыняць удзел кожная школа краіны



# Спрыяць канструктыўнасці

***Жывая размова ў настаўніцкай, падслуханая карэспандэнтам «Бярозкі» і пададзеная на яе старонках без купюр. Вам цікава? Тады чытайце пра трохкутнік «Настаўнік – бацькі – вучань», заўважайце ў размове карыснае, рабіце высновы і – прапануйце нам свае тэмы. А таксама знаёмыя настаўніцкія «пад праслушку».***

Гімназія № 30 Мінска. У настаўніцкай – намеснік дырэктара па выхаваўчай працы Наталля Яўгенаўна Мяцеліца і кіраўнік метадычнага аб'яднання класных Тамара Генадзьеўна Лоскутава. Час абеду. Надвор'е камфортнае, зоркі спрыяюць канструктыўнасці.

*Н. Я.:* – Я кажу бацькам: «Я ўжо не прашу ў вас дапамогі, галоўнае – нам не перашкаджаць». Таму што складваецца парадокс: у нас усе ўмеюць вучыць. Лічыцца, што спецыяльнай адукацыі гэта справа не патрабуе. На-ба-ле-ла…

Мне вось вельмі шкада, што пры паступленні цяпер адменена сачыненне. Мы ж развучыліся выказваць свае думкі ўслых. На ЦТ трэба проста адгадваць. Так ці не? А выкласці свае думкі пісьмова – гэта нам ужо складана. Канешне, інавацыі – гэта добра. Але мы не можам знайсці тую залатую сярэдзінку, дзе выкарыстоўваць можна і камп'ютары, і інтэрнэт, і інавацыйныя метады выхавання, і не забывацца на класіку. І чытаць кнігі. Бо колькасць чытачоў памяншаецца.

*Т. Г.:* – Не чытаюць, так. Ім лягчэй залезці ў інтэрнэт і паглядзець карцінку. А пачытаць, каб перажыць, – гэта складана.

*Н. Я.:* – А стасункі дзяцей паміж сабою? Яны ж усе ў планшэтах. Яны могуць сядзець на адной канапе, але ў кожнага будзе свой смартфон або планшэт – і яны будуць у ім. Як замбіраваныя. А так не павінна быць. Атрымліваецца, мы губляем нітку адносін, бо ім нічога не трэба. І многіх бацькоў гэта цалкам задавальняе. Дзіця за камп'ютарам – значыць, яно не на вуліцы. Яно дома і нібы – бяру ў двукоссе – «пад наглядам», паводзіць сябе ціха. А мы ж часта пытаемся ў бацькоў: вы, маўляў, бачылі кантакты свайго дзіцяці? Яны не ведаюць.

*Т. Г.:* – Сапраўды. Што дзіця сабе на аватарку выстаўляе? Найперш сваё фота, а далей – кола ўласных інтарэсаў. Ён не хоча адстаць ад аднакласнікаў, таму, прабачце, збірае туды ўсялякі тлум, які толькі можна знайсці. І нецэнзуршчыну, і вульгарнасць… І потым гэтыя дзеці здзіўляюцца: а што тут, маўляў, такога ўжо дрэннага? Іх жа мала цікавіць подзвіг, скажам, лётчыка ці героя Вялікай Айчыннай вайны…

*Н. Я.:* – Я скажу працей. Гэта страшна, але ў галаву ўсяго ставіцца матэрыяльнае. Сям'я занятая зарабляннем грошай. Гэта нядрэнна. Але гэта нельга рабіць галоўным. І каб усе дзіцячыя інтарэсы за гэтым сталі – таксама нельга. «Я табе дам грошай,

ты ідзі з сябрамі туды і туды». Бацькі лічаць, што такім чынам сваю бацькоўскую функцыю яны выканалі. Нельга ж так! Бацькі павінны жыць клопатамі дзяцей, ведаць, хто з'яўляецца сябрам іх сына ці дачкі. Яны павінны ведаць сем'і гэтых сяброў. Народная ж мудрасць нікуды не дзелася: ад асінкі не родзяцца апельсінкі.

*Т. Г.:* – А я хачу сказаць, што ў класе існуе расслаенне.

*Н. Я.:* – Ну, расслаенне ёсць і ў грамадстве. Школа – гэта ж свайго роду…

*Т. Г.:* – Міні-грамадства.

*Н. Я.:* – Так, міні-грамадства. Міні-дзяржава нават. Адлюстраванне яе ў маленькім маштабе. Расслаенне назіраецца ў грамадстве, яно ёсць і ў школе. Я не ведаю, як гэта мяняць. Думаю, ва ўсім свеце такая праблема, а не толькі ў нас. А бацькі, калі прыходзяць у школу, чамусьці лічаць нас… Не тое каб ворагамі, не, але… Настроены агрэсіўна, бо гатовыя абараняць сваё дзіця.

*Т. Г.:* – Так, ад чаго заўгодна.

*Н. Я.:* – А выслухалі б спачатку. А давайце знойдзем, маўляў, праблему. І давайце разам будзем яе вырашаць. Вось чаго хочацца.

*Т. Г.:* – Не ўсе бацькі разумеюць сітуацыю. Не тое каб не заўсёды так, але цяпер маладое пакаленне бацькоў дастаткова складана настроена ў адносінах да школы. Хоць у нас жа гімназія, адбор, конкурс, экзамены ўступныя і гэтак далей… Здавалася б, узровень – адукацыйны і пазнаваўчы – вышэй сярэдняга. А ўсё роўна... Хоць ёсць добрыя дзеці.

*Н. Я.:* – Не, канешне, не трэба ўсё так абагульняць.

*Т. Г.:* – Маса дзяцей – яркія, таленавітыя, добрыя, адэкватныя, такія, што ідуць за настаўнікам, за педагогам-арганізатарам. І сцены ў нас завешаны граматамі і дыпломамі. І КВН, і МЧС, і спорт, і кожную суботу нашы дзеці бароняць гонар гімназіі ў розных конкурсах і праектах. Ёсць ядро, ёсць. Ёсць традыцыі. Але ёсць і такія вось вострыя пытанні. Вяду ўрок у восьмым класе.

Супрацоўнікам – плённай працы, новых поспехаў і здзяйсненняў! А таксама аптымістычнага настрою і творчай радасці! Чытачам «Бярозкі» – добрых адзнак у школе, новых пачынанняў, няспыннага імкнення спасцігаць нязведанае, займаць актыўную жыццёвую пазіцыю, заўсёды рухацца наперад.

Усім разам – сапраўднага шчасця, добрых, шчырых, верных сяброў, ажыццяўлення самых чаканых мар.

*Супрацоўнікі Пружанскай дзіцячай бібліятэкі*

Прайшла кантрольная работа, па выніках ёсць пытанні, на якія добра адказалі, а ёсць такія, на якія не адказалі ніяк. Я кажу, што хачу патлумачыць памылкі і пракаментаваць адзнакі, каб пазбегнуць памылак у далейшым. Яны мне: нам не трэба, каб вы пра гэта гаварылі ўголас. А чаму? – пытаюся. Гэта, маўляў, прыніжэнне! Якое ж, кажу, гэта прыніжэнне? Мы ж памылкі разбіраем. Не, не прымаюць.

*Н. Я.:* – Бачаць у гэтым прыніжэнне асобы. Проста цяпер ідзе яшчэ і такі парадокс як у гандлі. Пакупнік там заўсёды мае рацыю. А ў нас – бацькі заўсёды маюць рацыю. Але ж лагічна было б выслухаць і меркаванне настаўніка. Яшчэ адна памылка бацькоў: яны параўноўваюць нашы словы пра іх дзіця з тым, якое яно дома. Дома, маўляў, – залатое дзіця. Ні з кім не б'ецца, напрыклад. А з кім яму дома біцца, калі яно адно? Я разумею бацькоў, бо яны імкнуцца абараніць дзяцей, гэта натуральна. Але сляпая бацькоўская любоў – самае страшнае. А якое дзіця – гэта лепш відаць менавіта ў школе, у калектыве роўных, а не дома, дзе такі адзін.

*Т. Г.:* – А мама і дома не заўсёды бачыць яго. Яна сама памые посуд, яго не зачэпіць. А калі пытаешся: ці ёсць у вас дамашнія даручэнні, абавязкі? – то чуеш: так, калі-нікалі нешта зробіць. А трэба, каб гэта было правілам, з дня ў дзень, з тыдня ў тыдзень, без напамінаў. Такое, што ні кажы, рэдка здараецца.

*Н. Я.:* – Не, Тамара Генадзьеўна, такое ёсць. З ідэалам увогуле цяжка. І ў нашым дзяцінстве, і ў маім класе, я была старастай, у далёкіх 1970-х здараліся такія падыходы: а чаму я, маўляў, павінен нешта рабіць? Мы тады ў класах самі прыбіралі, і знаходзіліся такія вось гультаі. Гэта ва ўсе часы назіраецца. Ёсць дзеці, якія нічога не хочуць, і бацькі, якія гэтаму патураюць. Як сказаў адзін святар, выхаванне пачынаецца ў сям'і. Я пад гэтым стаўлю свой подпіс. Школа можа толькі адшліфаваць, скажам так. Сям'я стварае алмаз, а мы з яго дыямент робім. Асноўная работа – у сям'і. На школу ўсё скінуць – гэта нерэальна. Школа павінна навучыць. А што такое выхаванне ў школе? Гэта тое, як настаўнік зайшоў у клас – з усмешкай ці без, як ён апрануты, як трымаецца. Згодны? Гэта паралельна: выхаванне і навучанне. Калі настаўнік будзе крычаць, то як дзіця атрымае ад яго дабрыню? А мы ж таксама часам быццам вожыкі іголкі натапырваем…

**ПЕДАГОГ**

Слова грэчаскае, у перакладзе азначае «той, хто водзіць дзіця». Педагогам у Старажытнай Грэцыі (а затым і ў Рыме) называлі раба, які павінен быў суправаджаць дзяцей гаспадара ў школу і быць з імі там увесь час заняткаў. Педагог поўнасцю (гэта значыць, жыццём сваім) адказваў за бяспеку маленькіх сваіх гаспадароў, але затое меў права за тую ці іншую правіннасць караць іх розгай.

Я вось не ханжа, але лічу, што нейкая цэнзура павінна быць. А яе ж няма. Сям'я вячэрае перад тэлевізарам і слухае ўсялякую непатрэбшчыну – і як крадуць, і як забіваюць. І вось жа не ўздрыгне нічога, сям'я спакойна працягвае вячэраць. Мы ўжо да гэтага адаптаваныя. А гэта ж ненармальна! Трэба нешта рабіць…

Давайце шукаць плюсы. Радуе тое, што дрэнныя старонкі ў інтэрнэце ў меншасці, а не ў большасці. А так жа заўсёды было: у кожным класе ва ўсе часы былі дзеці розныя.

*Т. Г.:* – Так, памятаю. Тры выдатнікі, дзесяць харашыстаў, нейкі працэнт сярэднячкоў і два двоечнікі. А ў нас шмат паспяховых дзяцей. Матываваных. Яны рыхтуюцца да алімпіяд, конкурсаў і паступлення. Яны хочуць быць дастойнымі. Самі хочуць гэтага. І для іх пошук матэрыялаў у інтэрнэце – вельмі важная справа. Вядзенне ўрокаў з выкарыстаннем інтэрнэту і яго магчымасцей – гэта цудоўная рэч. І нашы дзеці разумнейшыя за нас, што ні кажы.

*Н. Я.:* – Прасунутыя, як яны кажуць.

*Т. Г.:* – Настаўнік валодае методыкай, а ўжо падабраць зерне, як кажуць…

*Н. Я.:* – У тэхналогіях мы ад іх адсталі.

*Т. Г.:* – Хоць лічым сябе дастаткова добрымі спецыялістамі.

*Н. Я.:* – Не, ну гэта радасна, калі вучань… Мы ж вучымся часам у іх. Яны (!) нас (!) вучаць (!).

*Т. Г.:* – Так. Гэта добра.

*Н. Я.:* – І іх часам распірае ад гонару, што і яны настаўніка могуць нечаму навучыць. І гэта таксама добра.

*Т. Г.:* – Гэта партнёрства, супрацоўніцтва. Садружнасць нават. Проста выдатна, што такое ёсць. Вучань прыходзіць на ўрок з планшэтам, на якім ужо ўсё напісана, ён выходзіць чытаць, а я кажу: «Ты паглядзі, як ты выступаеш – быццам дыктар на тэлебачанні». Хвалю. А чаму б і не. Вось такі трохкутнік: вучань, новыя тэхналогіі і настаўнік…

Казкі школьнага ранца

Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі»

# Як зайчык Антоха Вугольчыка паслухаў

Жыў-быў зайчык Антоха. Аднойчы, калі яму стала сумна, ён вырашыў пайсці пагуляць.

– Добры дзень, зайчык, – раптам пачуў ён аднекуль знізу чыйсьці піскілявы галасок. – Які ты прыгожанькі ды чысценькі!

Тут Антоха нахіліўся і ўбачыў перад сабой маленькую чорную істоту.

– Ты хто такі? – здзівіўся Антоха.

– Я – маленькі і няшчасны Вугольчык! – жаласна прапішчала істота. – І ніхто мяне не пашкадуе!

– А чаму ты такі няшчасны? – пацікавіўся Антоха.

– Таму што ніхто мне не хоча дапамагаць! – усхліпнуў Вугольчык. – Адно толькі можа мяне выратаваць – калі ты дапаможаш мне і возьмеш у кухні запалкі.

– А хіба можна браць запалкі без дазволу старэйшых? – засумняваўся зайчык Антоха.

– Можна, можна! – запэўніў яго Вугольчык. – Гэта ж вельмі цікава: запаліш запалку і атрымаецца вясёлы маленькі агеньчык.

Зайчык Антоха падхапіў Вугольчыка, хуценька пабег на кухню, ускараскаўся на стол і дастаў з палічкі карабок запалак.

– А цяпер пойдзем у залу і там запалім запалку аб карабок, – загадаў Вугольчык.

Зайчык так і зрабіў, і запалка адразу ж ярка ўспыхнула.

– Ай-ай-ай, які ты падманшчык! – заплакаў зайчык Антоха. – З-за цябе я лапку апёк!

І ён кінуў запалку на падлогу, дакладней, на дыван, які быў на ёй засланы. Дыван загарэўся, у пакоі стала цёмна ад дыму і цяжка дыхаць.

– Вугольчык, ты дзе?! – спалохана закрычаў зайчык Антоха. – Дапамажы!

Але Вугольчык нават не адазваўся.

«Што рабіць? – бегаючы з кутка ў куток, думаў зайчык. – А можа, усё гэта само па сабе згасне?»

Але агонь разгараўся, мацней і мацней. Вось-вось перакінецца з дывана на сцяну і штору.

– Хутчэй! Сюды! Дапамажыце! Бяда! – з усяе моцы пачаў клікаць Антоха.

І тут ён пачуў, як рыпнулі дзверы і ў пакой забегла яго добрая сяброўка, вавёрачка Гапа. Яна схапіла слоік з вадой і пачала хуценька ліць ваду на полымя. Вада трапіла і на Вугольчык, які быў ужо не маленькім, чорным і бездапаможным, а вялізным, чырвоным і грозным.

На дапамогу прыбеглі і іншыя лясныя звяры. Усе разам яны хутка справіліся з агнём.

– А гэта хто яшчэ такі? – закрычалі яны, убачыўшы Вугольчык.

– Ай-ай-ай! – прашыпеў Вугольчык, хутка памяншаючыся ў памерах. – Пш-ш-ш!

І ўсе ўбачылі, што ад грознага і вялізнага Вугольчыка засталася толькі маленькая кучка попелу і невялікая лужына бруднай вады.

А вавёрачка Гапа падышла да спалоханага зайчыка Антохі, перавязала яму лапку і сказала:

– Навошта ты паслухаў Вугольчыка і ўзяў запалкі? Цябе вучылі, што браць запалкі без дазволу дарослых няможна. Добра запомні, што свавольнічаць з агнём нельга! А запалкі ў руках у малых – гэта вялікае гора!

З таго часу зайчык Антоха добра засвоіў, што запалкі – гэта не цацкі.

*Таццяна МАЦЕЙКА,*
*6 клас, Грыцэвіцкая СШ, Клецкі раён*

# Як Бог хадзіў па зямлі беларускай



Захацеў неяк Бог паглядзець, як жыве народ беларускі. Пераўвасобіўся ў сівенькага дзядка, апрануў суконную кашулю з палатнянымі штанамі, абуў дзіравыя лапці, перакінуў скураную сумку цераз плячо, узяў у руку дубовы кіёк і пайшоў.

Ідзе і не можа наглядзецца: якая прыгажосць наўкол! Па адну руку раскінуліся лясы-лугі-палеткі, зелень квяцістая, аж уваччу пазелянела. Па другую – сінеюць-брыяюць рэкі-азёры, ды так, што зліваюцца з небам-дахам.

Падыходзіць да нейкага мястэчка і накіроўваецца ў першую хату.

– Вечар добры ў вашу хату. Пусціце пераначаваць?

– Добры, бацька, добры. Хоць мы і небагатыя, але месцейка для вас знойдзем. Сядайце з намі за стол, – і гаспадыня замітусілася каля печы.

Прысеў Бог на лаўку, азірае хату: пяцёра дзяцей у кабеты, адзін у люльцы спіць, двое малых па печы коўзаюцца, сярэдні цікаўным вокам на незнаёмца пазірае, а дарослая дачка маці па гаспадарцы дапамагае.

– А ці добрыя ў вас людзі тут? – пытае Бог.

– Анягож. Усе людзі добрыя, бацька.

– Як жа так? – здзіўляецца Бог.

– А вось так. Чалавек нараджаецца па каханні – па каханні бацькоў, дзякуючы якім прыходзіць у гэты свет. Жыве па любові: па любові да бацькоў, да родных і блізкіх людзей, па любові да Радзімы сваёй. А калі памірае, то разам з любоўю і адыходзіць, з любоўю да тых, каго пакідае. Усе ж мы пад Богам ходзім.

Спадабаўся Госпаду разумны адказ гэтай жанчыны.

– Ведаеш, дачка, спадабаліся вы мне, і хочацца аддзячыць. Трымай гэты мяшэчак, а заўтра на золаку пасееш тое, што там знаходзіцца, – і, выняўшы

з кішэні мяшэчак з каменьчыкамі, перадаў яго жанчыне. – А месца, дзе пасееш, людзі потым назавуць Гранітагорскам, і будзе яно знакамітае на ўвесь свет сваімі нетрамі.

Ідзе далей наш вандроўнік, прыглядаецца. Панарама цудоўная: рэчка белымі баранчыкамі ўсміхаецца, а за ёю – пагоркі амаль як сапраўдныя горы высяцца, дужымі плячыма мясцовасць ад нязваных гасцей засланяюць.

Пераходзячы грэблю, Бог пачуў мужчынскую сварку.

– Маё сала, аддай яго мне! – і мужык у дзіравай світцы ўхапіўся за нейкі белы кавалак.

– Не, маё сала! Не чапай, бо ад цябе і гэтага сала нічога не застанецца! – крычаў другі мужчына.

Не спадабалася Госпаду, што людзі не могуць падзяліць паміж сабою кавалак сала, далей за мужчынамі сочыць.

– Маё сала! – крычыць адзін.

– Не, маё! – крычыць другі.

– Маё сала, маё сала, усё маё! – зазвінеў аднекуль голас малога дзіцяці з калачом у руках і мурзатым тварыкам. – Маё, маё! – і пабег далей.

Засмяяліся мужыкі, паглядзелі адзін на аднаго па-сяброўску. І сапраўды, чаго сварыцца з-за нейкага кавалка сала суседзям, што разам пражылі столькі гадоў? І вырашылі тады мужыкі гэты кавалак аддаць першаму, каго сустрэнуць. Ажно бачаць: дзядок за імі назірае.

– Дзядуля, трымай падарунак, – крычаць мужыкі.

– Дзякуй вам, дзякуй, людзі добрыя! – адказвае ім Бог. – І я вам таксама дам падарунак. – І дастае з сумкі склянку з нейкай цёмнай вадкасцю. – Хлопцы, добра, што ваша сварка скончылася на такой добрай ноце і што вы не гневаецеся адзін на аднаго. Паважайце і даруйце крыўды адзін аднаму. А заўтра



на золку разальеце тое, што знаходзіцца ў гэтай склянцы, па абодва бакі ад грэблі. А месца гэтае назавіце Рэчыцай. І памятайце: будзеце духоўна багатымі – будуць нетры вашай роднай зямлі таксама вельмі багатымі!

## ЦЫРКУЛЬ

Гэтае слова паходзіць ад лацінскага «цыркулус», што ў перакладзе азначае «круг». Слова «цырк» таксама ад «цыркулуса», бо арэна цырка заўсёды ідэальна круглая.



І пайшоў Гасподзь далей. Ідзе і любуецца, колькі азёр і рэчак звіняць-пераліваюцца, колькі рыбы гойсае па блакітным водным стужкам, колькі жывёл з радасцю падыходзіць напіцца чыстай, прэснай вадзіцы, колькі дзіўных песень на ўсе галасы пяюць птушкі-шчабятушкі. Ажно бачыць Бог, што каля рэчкі плача дзяўчына, слёзы буйнымі кроплямі коцяцца ў ваду, атручваючы яе сваім болем. Горка стала на душы ў Госпада.

– Дзяўчына-ажына, што так цяжка плачаш, – пытаецца Ён. – Што так горка слёзы льеш?

– Ой, бацька, ой, матка, няма мне на свеце шчасця! – кажа праз слёзы дзяўчына. – Мой любы-каханы патануў у гэтай рэчцы, мая доля – быць разам з ім.

Шкада стала Госпаду дзяўчыну, вырашыў Ён зрабіць маленькі цуд. Дастаў з кішэні крышачку солі, рассыпаў яе вакол маладзіцы і сказаў:

– Як жа патануў? Вунь ён ідзе! Азірніся!

Не паспеў Бог і слова вымавіць, як дзяўчына са слязьмі на вачах пабегла да каханага. Але гэта былі ўжо слёзы радасці, бо ведаў Бог, што яны будуць жыць доўга і шчасліва і будзе ў іх пяцёра дзяцей.

А на месцы тым, дзе Бог соль рассыпаў, ды дзяўчына свае салёныя слёзы ліла, у будучыні геолагі знойдуць вялікія залежы калійнай солі.

Вось так і з’явіліся на зямлі беларускай Мікашэвічы, ваколіцы якіх багатыя гранітам, Рэчыца, дзе здабываюць нафту, і Салігорск – горад, які дае краіне калійную соль.

*Лізавета МІХАЛАП,*
*9«Г» клас, гімназія №3, Салігорск*

# Зайчыкава падзяка

Жылі-былі дзед і баба. Пакуль маладыя былі, усё лёгка давалася, а як пастарэлі – ні ногі, ні рукі слухацца не хочуць. Пачалі жаліцца ды на лёс свой наракаць. А тут і зіма блізка. Загадала баба дзеду, каб ішоў у суседнюю вёску і пазычыў там у каго-небудзь крышачку хлеба. Паслухаў дзед бабу і пайшоў. Але ж як ні прасіў, як ні маліў, ніхто яму анічога не даў.

Ідзе дзед дадому засмучаны. А дарога бяжыць праз лес. Чуе стары: нехта плача. Азірнуўся, бачыць: зайчык ў сілках. Ну, думае, хоць страву зварыць баба! Вызваліў дзед зайчыка, хацеў у торбу засунуць, але раптам шкада яму стала даўгавухага. Уздыхнуў і зайца адпусціў. А той адбег крыху, вызірнуў з-пад куста і кажа чалавечым голасам:

– Дзякуй табе, дзядуля, што вызваліў мяне з пасткі! І за тое, што пашкадаваў, таксама. І ты, як будзеш удзячны, то заўсёды будзе ў цябе хлеб на стале!

Сказаў так і прапаў. Прыйшоў дзед дамоў, расказаў бабе пра зайчыка і пра тое, што адпусціў ён яго. Вельмі раззлавалася баба, пачала на дзеда сварыцца, але нічога не зробіш: так і леглі спаць галодныя.

Прачнулася баба ранюсенька, глядзіць, а стол поўны розных страў. Узрадавалася яна, пабудзіла  дзеда. Усхапіўся той і вачам

не верыць. Наеліся яны і падзякавалі зайчыку за ежу.

Так і пераžылі дзед з бабай доўгую і халодную зіму. Кожнай раніцай быў у іх стол паўнюткі ежы, і кожны раз не забываліся яны дзякаваць зайчыку.

А потым надышла вясна, і цёплыя яе дзянькі так узрадавалі дзеда бабай, што яны зусім забыліся пра наказ зайчыка: паелі і не падзякавалі. На наступную раніцу прачнуліся – стол пусты.

Тады дзед і ўспомніў пра наказ, успомніў, ды нічога ўжо не зробіш…

***Аліна ТАРАСЕВІЧ,***
***5 клас, Альшанская СШ №2,***
***Столінскі раён***



Прыхільнікаў роднай мовы, дзякуй Богу, сярод дзяцей, асабліва сялянскіх, на Беларусі нямала. У іх павінен быць свой часопіс. І мы шчыра верым, што старэйшы часопіс, адзначаны дзяржаўнай узнагародай, вернецца да юных чытачоў у аднаўленым выглядзе.

Поспехаў і прыхільных сяброў табе, «Бярозка»!

***Эмілія ЛУКАНСКАЯ,***
***галоўны рэдактар***
***часопіса «Качели»***

# Павучок і Кропелька

У адным лесе жыў маленькі Павучок. Кожную раніцу ён прачынаўся і пачынаў працаваць. А працай ягонай было плесці сеткі і развешваць іх на галінках. Праца гэтая Павучку вельмі падабалася.

І вось аднойчы ён прачнуўся ад таго, што ішоў дожджык. Пасля дожджыку ад прамянёў сонейка ўсё навокал заззяла, і Павучок раптам убачыў, што яго павуціна ўся пераліваецца тысячамі маленькіх алмазаў. Падбег бліжэй – аказалася, што гэта не алмазы, а простыя кропелькі, якія засталіся ад дажджу.

Павучок расчаравана ўздыхнуў, але раптам адна кропелька затрэслася і засмяялася:

– Ха! Ха! Ха! Давай сябраваць, Павучок!

– Давай! – узрадвана адказаў Павучок. – У мяне даўно не было сяброў!

– Тады давай гуляць! – прапанавала Кропелька.

І яны пачалі весела гуляць, і гулялі доўга-доўга. Бегалі адзін за адным, скакалі з травінкі на травінку, з кветачкі на кветачку. Але нечакана Кропелька саслізнула з травінкі і ўпала ў лужыну. І, вядома ж, знікла там.

Заплакаў Павучок, бо зразумеў, што ніколі больш не ўбачыць сваю сяброўку Кропельку. Але раптам Кропелька выплыла на паверхню лужыны і сказала яму:

– Не хвалюйся, Павучок, мы хутка зноў сустрэнемся! Ад цёплага сонейка я, разам з усёй лужынай, стану парай і ўздымуся ў неба. А потым зраблюся там лёгкай белай аблачынкай. Калі ж аблачынкі збяруцца ў цёмныя хмаркі, я зноў ператваруся ў маленькую кропельку дажджу і так змагу вярнуцца да цябе.

***Вольга ТАРАСЕВІЧ,***
***5 клас, Альшанская СШ №2,***
***Столінскі раён***



# Усе ўяўленні аб працы ўвасобіў «МакДональдс™»

*З 24 гадоў свайго жыцця 4 гады яна працуе ў кампаніі «МакДональдс». Пачынала ў рэстаране на праспекце Дзяржынскага, потым адкрывала рэстаран у Зялёным Лузе. 1 студзеня 2013-га пачала працаваць у рэстаране ва Уруччы ў якасці намесніка дырэктара, а 1 лістапада стала там дырэктарам. Яна не планавала – так склалася. Яе завуць Анастасія Куцак і яна ўсё раскажа. Дарэчы, захапляецца маляваннем, гісторыяй Санкт-Пецярбурга і тэатрам. Завочна вучыцца на біяфаку БДУ. Мае двух катоў.*

**– Ці можаш успомніць, з чаго пачыналася тое, чым ты цяпер займаешся? Ці марылася ўвогуле пра гэта хоць калі?**

– Я заўсёды хацела працаваць у кампаніі «МакДональдс». Выразна памятаю, як, прыходзячы ў любы з рэстаранаў і бачачы анкеты на стэндзе ля ўвахода, кожны раз гаварыла сабе: «Вось споўніцца 18 – адразу пайду сюды працаваць». Але ўспомніла пра сваю мару толькі ў 19. Апынуўшыся ў рэстаране, зноў адчула: маё. Перад падпісаннем дакументаў мы даведаліся пра магчымасці кар’ернага росту, і тады я вырашыла, што буду менеджарам і што ў мяне гэта абавязкова будзе атрымлівацца. Увогуле, ніколі не хацела быць некім канкрэтна, у мяне проста былі дакладныя ўяўленні аб працы: выходныя павінны быць у будні дні, а кожны працоўны дзень павінен пачынацца ў нейкі новы, іншы час. І яшчэ я хацела працаваць з вялікай колькасцю людзей. Усе мае ўяўленні аб працы ўвасобіў «МакДональдс». Думаю, нямногім так пашанцавала з выбарам, бо жаданае стала сапраўдным.

**– Кажуць, што паспяховы чалавек складаецца з памылак і няўдач, якія ён выправіў і пераадолеў. Ты з гэтым згодна?**

– Не магу сказаць, што ў мяне былі няўдачы, якія б мне прыходзілася з цяжкасцю пераадольваць. Усё атрымлівалася. Для мяне ўсё было цікавым, і я так імкнулася даведацца, навучыцца, што ўсё праходзіла на дзіва лёгка. Часам, праўда, узнікалі ўнутраныя сумненні, бо здавалася, што ў мяне нічога не атрымліваецца, што выбрала

не той шлях. Але ў такія моманты побач заўсёды былі кіраўнікі, якія падбадзёрвалі, падтрымлівалі. Я нічога не казала ім пра свае перажыванні, але яны неяк інтуітыўна адчувалі, ведалі, што сказаць і ў які дакладна момант. Так я разумела, што ўсё правільна, і працягвала працаваць.

**– А ў падлеткавым узросце ці былі ў цябе якія-небудзь комплексы? Што дапамагала табе спраўляцца з няўдачамі, выпростваць крылы?**

– Комплексаў не было – я з 6 гадоў іграла ў тэатры, была заўсёднай вядучай школьных мерапрыемстваў. Не было і праблем са знешнасцю, якія б маглі нейкія комплексы спарадзіць. У той жа час я заўсёды любіла чытаць і чытала даволі шмат, і мне здаецца, што менавіта гэта дапамагала мне усялякіх комплексаў пазбягаць. Ну, а яшчэ мая мама заўсёды мяне не проста падтрымлівала, а давала свабоду – выбару і дзеянняў. Яна гаварыла: «Гэта тваё жыццё, ты маеш права пражыць яго так, як лічыш патрэбным». Пасля такіх слоў я адчувала адказнасць за падзеі ў маім жыцці.

**– Што дапамагае змагацца з праблемамі цяпер? Як ты сёння выходзіш з псіхалагічных крызісаў? Калі яны, канешне, бываюць.**

– Дапамагаюць блізкія. Ім я магу расказаць усё, што мяне непакоіць, бо заўсёды пачую словы падтрымкі. А яшчэ – маляванне. Я не ўмею маляваць, але мне падабаецца вадзіць пэндзлем з фарбай па паперы. Так што я перыядычна пэцкаю паперу, пераводжу фарбы і цалкам гэтым задаволена.

**– Што такое, па-твойму, паспяховы чалавек? Як поспех суадносіцца з уяўленнем аб шчасці і адчуваннем шчасця?**

– Паспяховы чалавек – гэта чалавек, які знаходзіцца ў гармоніі з сабой і светам. Каб быць паспяховым, неабавязкова зарабляць мільярды. Для мяне паняцці шчасце і поспех не суадносяцца. Я шчаслівая ад таго, што ў мяне ёсць дзве рукі, дзве нагі, што я бачу і чую. У мяне ёсць дзе пераначаваць і ёсць што есці. Гэта шчасце. Некаторыя людзі, не маючы гэтага, працягваюць жыць і нечага дасягаць. Дык няўжо я, маючы гэта, магу гаварыць, што няшчасная? Я з поўнай упэўненасцю магу заявіць, што я шчаслівы чалавек. Ніколі не звязваю працу з асабістым шчасцем. Гэта розныя катэгорыі жыцця, я іх не змешваю.



Шаноўныя чытачы!

У вас у руках абноўлены, але даўно любімы часопіс «Бярозка». Ён здабыў новыя рысы, стаў больш сучасным. У часопісе будзе змяшчацца інфармацыя, цікавая як малодшым школьнікам, так і дзецям старэйшага ўзросту. У ім чытачоў чакаюць не толькі звыклыя (пастаянныя) матэрыялы і рубрыкі, але і шмат новай інфармацыі, якая, несумненна, будзе вельмі карыснай, разнастаіць вольны час. Спадзяюся, што новае аблічча і змястоўнае напаўненне часопіса зробяць яго запатрабаваным для шырокага кола чытачоў. Поспехаў табе, любімая «Бярозка»!

***Міхаіл МІРОНЧЫК,***
***старшыня камітэта***
***па адукацыі Мінгарвыканкама***



Святлана Сітнік

# Атрымай свой поспех зараз!

***Што я магу зрабіць літаральна цяпер, каб атрымаць тое, чаго хачу? Калі табе падабаецца чытаць гісторыі паспяховых людзей і ты марыш стаць адным з іх, дык не трэба чакаць: стань паспяховым сёння!***

Ты можаш лёгка ўзняцца па лесвіцы поспеху ў вучобе, музыцы, спорце, сяброўстве і нават каханні – варта толькі гэтага захацець.

## ПАВЕР У СЯБЕ!

Многія людзі настолькі ўпэўненыя ў тым, што ў іх ніколі нічога не атрымаецца, што нават і не спрабуюць, не імкнуцца нешта рабіць. Мабыць, і табе не раз даводзілася чуць выказванні кшталту «гэта не для мяне», «я не здолею», «я не спраўлюся», «усё роўна нічога не выйдзе». Іх упэўненасць у беспаспяховасці прыцягвае яе ж, беспаспяховасць, як магніт. Я была сведкай прыкладу, калі вучань так паверыў у тое, што не зможа адказаць на ўроку (нягледзячы на тое, што выдатна ведаў тэму), што так і атрымалася. І я ведаю гісторыю, у якой сімпатычная дзяўчына так раскрытыкавала сваю знешнасць перад сяброўкай, што тая перадумала лічыць яе прыгажуняй.

Каб стаць больш паспяховым чалавекам, трэба верыць у свой поспех і ніколі не сумнявацца ў сабе! Вазьмі сабе ў карыстанне толькі «паспяховыя» выказванні. Напрыклад, з рэкламных ролікаў і відэакліпаў: «Толькі не здавайся!», «Немагчымае магчыма!», «Я гэтага заслугоўваю!». Прыдумай новыя выказванні і выкарыстоўвай іх замест старых, што толькі засмечваюць тваю мову «непаспяховымі» словамі, а жыццё – няўдачамі. Гэта не толькі карысна, але і весела. І заўсёды…

## СПРАБУЙ НОВАЕ!

Выберы галіну, у якой хочаш стаць лепшым і паспяховым. Напрыклад, сяброўства, вучоба, спорт, музыка, кампанія. Як ты хочаш сябе праявіць? Што хочаш атрымаць? Увагу чалавека, які табе падабаецца? Павагу аднакласнікаў? Стаць зоркай у сваёй кампаніі? Выберы спачатку адно, самае запаветнае жаданне – і пачні яго ажыццяўляць. Задай сабе пытанне: «Што я магу зрабіць літаральна цяпер, каб атрымаць тое, чаго хачу?» (Табе будзе значна зручней, калі ты будзеш запісваць свае пытанні і адказы).

Для прыкладу я раскажу табе гісторыю. Нядаўна я пазнаёмілася з хлопцам гадоў 12, які трапіў у няпростую сітуацыю. Справа ў тым, што ён хацеў стаць лідарам у сваім класе, але для гэтага абраў няправільны спосаб – пачаў даказваць сваё лідарства фізічнай сілай. Зразумела, гэта не спадабалася яго аднакласнікам, бо хто ж хоча быць бітым з любой нагоды? Трэба было шукаць новыя шляхі да яго жадання, і мы пачалі з пытання: «Што яшчэ я магу зрабіць, каб

стаць лідарам?» Ідэй было шмат, адна з іх: «я магу паказваць свой розум». І зноў тое ж пытанне: «Што я магу зрабіць, каб паказаць сябе разумным?» Лепш рыхтавацца да ўрокаў, навучыцца адказваць больш смела і ўпэўнена, спачатку думаць, а пасля гаварыць… Так, пытанне за пытаннем, мы знайшлі некалькі выдатных ідэй, як стаць лідарам, не махаючы кулакамі. Засталося толькі ажыццявіць іх.

Паспяховыя людзі пастаянна задаюцца пытаннем: што я магу зрабіць літаральна цяпер, каб атрымаць тое, чаго хачу? І (гэта самае галоўнае!) – робяць гэта! У выніку яны вельмі хутка ажыццяўляюць свае мары, бо самі сваімі дзеяннямі дапамагаюць гэтым марам здзейсніцца. У той час як усе астатнія толькі мараць, паспяховыя людзі ўпэўнена крочаць да сваіх мар, кожны дзень робячы маленькія крокі-справы. Зразумела, поспех ідзе да таго, хто сам рухаецца. Аматары мрояў застаюцца ляжаць на канапе са сваімі марамі. Таму – шукай новыя ідэі, ажыццяўляй іх і…

## НЕ БОЙСЯ КРЫТЫКІ!

«А што пра мяне падумаюць?», «а што ён скажа?», «а раптам ім не спадабаецца?» – многія не праяўляюць свае таленты і здольнасці і не дасягаюць поспеху таму, што баяцца думкі збоку. Бо яна не заўсёды добразычлівая.

Калі ты баішся, што цябе і твае ўчынкі раскрытыкуюць, паглядзі на сваіх куміраў. Чым вышэй узлятаюць «зоркі», тым болей вакол іх не толькі прыхільнікаў, але і нядобразычліўцаў. Тым часцей іх крытыкуюць, аблайваюць, а часам і прыніжаюць, каб у гэтым упэўніцца, дастаткова зазірнуць у акенцы з каментамі пад новымі «зорнымі» кліпамі або інтэрв'ю. Чаму так адбываецца? Альбер Камю, французскі пісьменнік, у сваёй кнізе «Падзенне» даў нам адказ: «Выгляд шчасліўца, вязунчыка, асабліва калі ў ім праступаюць рысы самазадавальнення, можа давесці да шаленства нават асла». Што ж казаць пра людзей?! Таму вакол якога заўгодна поспеху, вялікага ці малога, заўсёды будуць людзі з розным стаўленнем: нехта падтрымае цябе, а нехта і не. Але хто крытыкуе часцей? Вось, менавіта!

Так, адна юная таленавітая мастачка 13 гадоў выставіла ў групе «Вконтакте» партрэт свайго куміра, намаляваны алоўкам. І яе праца была жорстка раскрытыкавана адной з удзельніц гэтай групы. Тады яна зазірнула на старонку свайго крытыка. І што яна там убачыла? Ды што заўгодна, але не малюнкі.

Другая, не менш здольная будучая спявачка 13 гадоў адправіла на конкурс у тым самым «Вконтакте» песню ўласнага выканання. Як ты мяркуеш, хто больш за іншых ляпаў па «клаве», ствараючы непрыемныя водгукі на яе голас? Тая, якая зусім не ўдзельнічала ў гэтым конкурсе!

«Хочаш пазбегнуць крытыкі – нічога не рабі, нічога не гавары і будзь нікім», – сказаў амерыканскі бізнесмен і пісьменнік Элберт Хабарт. Крытыка – спадарожніца поспеху, але як паспяховыя з ёю спраўляюцца? Па-першае, яны робяць яе сваёй памочніцай. Бо менавіта пры дапамозе крытычных заўваг мы можам бачыць свае недахопы і выпраўляць іх. А значыць, рабіцца лепшымі! Па-другое, паспяховыя абапіраюцца на сваю падтрымку. Напрыклад, «зорак» падтрымліваюць іх фанаты.

Тваёй падтрымкай могуць стаць сябры і родныя, напрыклад, бабуля. Так, так, бабуля! Менавіта бабуля падтрымала Лэдзі Гагу, тады яшчэ не вядомую свету спявачку, калі яна пасля нейкіх няўдач рашыла пакінуць мару і кінуць сцэну. Бабуля паверыла ў сваю ўнучку тады, калі ў яе не верыў ніхто, і хутка тая прымусіла паверыць у сябе мільёны людзей ва ўсім свеце!

Значыць, цяпер ты ведаеш сакрэты паспяховых людзей – не хавай іх – выкарыстай гэтыя веды сёння ж! І – спрабуй, эксперыментуй, шукай свой шлях да поспеху! Ён абавязкова прыйдзе!



Канстанцін Касяк

*Напішы як Канстанцін Касяк – і станеш нашым аўтарам!*

# Пярсцёнак

Калі я ўпершыню пачуў пра Магіленскую бітву, дакладна не памятаю. Пэўна, мне было год пяць. Побач з намі жыла баба Алеся, якая багата чаго ведала пра гэтыя мясціны. Нарадзілася яна яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя, таму сама была сведкам многіх гістарычных падзей: перажыла і грамадзянскую вайну, і акупацыю, бачыла калектывізацыю, уз'яднанне Усходняй і Заходняй Беларусі. Да ўсяго захавала шмат ведаў народных, якія перадаваліся з вуснаў у вусны на працягу стагоддзяў.

Звычайна ўвечары, скончыўшы свае справы па гаспадарцы, выходзіла яна на лавачку перад хатай і сядзела там гадзіну-другую. Я, пабачыўшы яе на лаве, падбягаў, сядаў побач і прасіў распавесці што-небудзь цікавае. Яна думала, а пасля пачынала распавядаць, як пры панах жылі, як чырвоныя ўладу бралі, як прыйшлі немцы ды шмат чаго іншага. Паслухаць гісторыі бабы Алесі прыходзілі і іншыя хлапцы ды дзяўчаты.

Аднаго разу нехта спытаўся, чаму ў вёскі такая дзіўная назва – Магільнае. Тут я першы раз у жыцці і пачуў пра Магіленскую бітву, якая нібыта адбылася ў ваколіцах вёскі ў XIII стагоддзі. Баба Алеся не ведала падрабязнасцей, хто з кім біўся, чаму і калі. Але яна ведала, што даўнейшыя людзі казалі, як нашыя продкі ў той лютай сечы перамаглі прыхадняў, што паквапіліся на нашую зямлю. Шмат ваяроў у той бітве палягло, шмат магіл пакінулі па сабе прыхадні, таму і назвалі вёску Магільна.

Ішоў час, я пайшоў у першы клас беларускамоўнай школы, пачаў вучыцца чытаць і пісаць, усё радзей прыязджаў у вёску. Гісторыі бабы Алесі пакрысе забываліся і выпадалі з маёй дзіцячай памяці. Пакуль аднойчы я не пабачыў па ТВ-6 серыял «Хронікі маладога Індыяны Джонса», дзе распавядалася пра маладыя гады вядомага кіношнага археолага і шукальніка прыгод. «Я таксама так хачу!» – падумаў я, дагледзеўшы чарговую серыю. І пастанавіў, што абавязкова, калі вырасту, стану археолагам і знайду шмат скарбаў, а маё жыццё будзе поўным прыгод і цікавых рызыкоўных гісторый.

Жаданне знайсці што-небудзь таямнічае не адпускала аж да самых летніх канікул, першых у маім жыцці. У той час сябры ўжо напоўніцу шукалі цікавосткі, але ніхто нічога не знаходзіў, і ў мяне быў шанец стаць першым. Звярталіся збольшага да падзей Вялікай Айчыннай. Усе мроілі знайсці зброю, патроны, кулі і бадзяліся за гэтым на стары закінуты палігон. Радаваліся, калі знаходзілі хаця б стрэляныя гільзы. Пасля былі сур'ёзныя размовы з бацькамі і рэмень хадзіў па мяккім месцы. Мне ж хацелася знайсці што-небудзь сапраўды важнае і старажытнае. Што цікавага можа быць у пустых гільзах?

Прыйшло чарговае лета, мяне зноў ад-

правілі ў вёску. Бабуля ў мінулым выкладчыца рускай мовы і літаратуры, таму нават на пенсіі захавала звычку выпісваць разнастайныя часопісы і газеты. Некаторыя з іх я браўся чытаць жніўеньскімі вечарамі. Звычайна ў іх не было цікавай інфармацыі, збольшага пра надоі, ураджаі ды народную медыцыну, але калі-нікалі яна траплялася.

Так было і ў той раз, калі я выпадкова прачытаў у раёнцы вялікі артыкул пра Магіленскую бітву. Атрымоўвалася, што ў нашай вёсачцы ці то ў 1237, ці то ў 1284 годзе адбылася вялікая бітва паміж дружынай літоўскага князя Рынгальда і аб'яднанымі войскамі паўднёварускіх князёў і татар, якія прыйшлі сюды з захопніцкімі мэтамі. Рынгальд быў бацькам Міндоўга, збіральніка літоўскіх земляў і заснавальніка Вялікага Княства Літоўскага. Згодна з паданнем, у бітве палягло сорак тысяч прыхадняў і ўсяго семсот дружыннікаў Рынгальда.

На хвіліну я ўявіў сабе карціну бітвы: высокі пясчаны бераг Нёмана, унізе рака з плыткім дном, якое дазваляе без асаблівых перашкод пераправіцца войску. На беразе стаіць сам Рынгальд, барадаты, апрануты ў цяжкія латы, і глядзіць удалячынь. Ён чакае ворагаў і ўжо ведае, што яны ідуць. Побач з ім яго верныя дружыннікі, на конях у латах і з мячамі. Яны чакаюць вокліч і ўжо напагатове. Лучнікі рыхтуюцца. І вось з'явілася войска прыхадняў. Рынгальд разумее – у яго руках незалежнасць княства і народа.

Граюць сурмы. Па камандзе лучнікі нацягваюць цеціву на сваіх луках ды пускаюць у бок непрыяцеля стрэлы. Але варожае войска, якое мела колькасную перавагу, так і не здолела разгарнуцца належным чынам. Пад градам стрэл адзін за адным гінуць чужынцы, коні хрыпяць, круцяцца на месцы і гінуць услед за гаспадарамі. Калі лучнікі скончылі, з пакручастага берага няспешна спусціліся літоўскія вершнікі, перайшлі Нёман і дабілі тых, хто ацалеў. Уратаваліся толькі варожыя князі ды іх



служкі. Раздаецца пераможны кліч – гэтак Рынгальд і яго войска святкуюць сваю перамогу.

З думкамі пра бітву я лёг спаць. На вуліцы ішоў дождж, за акном бліскалі маланкі, а я ўсё думаў пра бітву і Рынгальда.

Раніцай мяне пабудзіў сябар Міхал. Ён таксама прачытаў пра бітву, і яна яго ўразіла.

– Давай снедай ды апранайся хутчэй, справа ёсць! – падганяў ён мяне. – Так усё жыццё праспіш!

– Ну і прасплю, затое буду здаровы!

– На тым свеце выспішся! Кажу, давай збірайся хутчэй!



Часу на нармальны сняданак не было, таму я схапіў два блінцы, хутка праглынуў іх, запіў малаком ды пайшоў на двор.

– Ну і што за неадкладная справа такая? – спытаў я Міхала.

– Калі дойдзем да плітаў распавяду!

Пліты знаходзіліся каля самага берага Нёмана, у нізіне, за вясковымі гародамі. Уяўлялі яны сабою некалькі бетонных пліт, акуратна складзеных і закрытых хмызняком. Мы часцяком там збіраліся, хаваючыся ад вачэй дарослых для абмеркавання найбольш важных для нас пытанняў. Па вечарах палілі вогнішча, пяклі бульбу ды смажылі найсмачнейшае сала.

– Ты раёнку ўчарашнюю бачыў? – Міхал азірнуўся так, нібы хацеў пераканацца ў тым, што за намі ніхто не ідзе і ніхто нас не пачуе.

– Бачыў, і што?

– Пра бітву чытаў?

– Чытаў. І што з гэтага, ты там таксама быў з Рынгальдам?

– Не, дурань! Мы з хлопцамі мяркуем, што калі яна сапраўды была тут, то можам знайсці што-небудзь цікавае, напрыклад, меч ці шчыт, ці нават цэлага ваяра!

– Ага, так вось узялі ды знайшлі цэлага ваяра, а потым яго ажывілі!

– Ты чытаў, што загінула сорак тысяч ваяроў? Уяві сабе, колькі гэта!

– Шмат, разумею.

– А поле не такое вялікае, так што тут мы спакойна можам адшукаць што-небудзь!

– Добра, а я вам нашто тады?

– Ну, ты адзіны з нас, хто мае па гісторыі пяцёрку, таму мы запрашаем цябе ў каманду!

У мяне сапраўды была цвёрдая пяцёрка па гісторыі. Наогул, гуманітарныя прадметы ад пачатку ў мяне ішлі лепей за дакладныя навукі. Да ўсяго, я шмат чытаў і глядзеў пазнавальныя праграмы. У большасці выпадкаў гэта давала карысць, але часам здараліся кур'ёзы.

Аднойчы настаўніца па беларускай мове спытала ў класа, як можна ахарактарызаваць слова «лье». Я быў першым, хто падняў руку, і замест таго, каб сказаць, што гэта дзеяслоў, пачаў распавядаць пра старую французскую адзінку вымярэння, пра якую даведаўся з кнігі Жуля Верна «Дваццаць тысяч лье пад вадой». У той дзень, здалося, з мяне смяялася амаль уся школа.

Збочыўшы з вуліцы і спусціўшыся да ракі, мы прыйшлі на пліты. Там ужо чакалі Сця-

пан ды Уладзь. Каля іх ляжалі рыдлёўкі і сякеры.

– Не прайшло і гадзіны! – сказаў Сцяпан, звяртаючыся да Міхала.

– Гэта не я, гэта наш містэр пунктуальнасць! Калі я прыйшоў, ён яшчэ спаў, а пасля гадзіну збіраўся.

– Ладна, праехалі! – сказаў Сцяпан, працягнуўшы мне руку.

На сходзе вырашылі, што будзем шукаць артэфакты, пакуль не знойдзем хоць што. Шукаць дамовіліся на правым беразе, дзе быў жоўты пясок і шукаць было лягчэй. Тады нам здавалася, што тут мы абавязкова раскапаем нейкую старасвеччыну.

Раскопкі цягнуліся цэлы дзень, ад раніцы да самага вечара. Чырвонае сонца ўжо пачало павольна заходзіць. Квадрат за квадратам мы перакопвалі зямлю ў надзеі, што менавіта сёння знойдзем нешта цікавае.

Знаходкі былі вельмі сціплымі: бляшанкі, пляшкі, цвікі, коркі ды іншае смецце. Але надзея, як вядома, памірае апошняй. Для таго, каб ніякая дробязь не знікла, я прыцягнуў з дому сіта (так было ў прыгодніцкім кіно) і ім прасейваў пясок, пакуль хлопцы капалі. Дамоў вярталіся разам са статкам кароў, якіх гналі на вячэрнюю дойку.

Кожны з нас хацеў знайсці нешта для сябе: Міхал мроіў пра меч, Сцяпан хацеў латы, а Уладзь – шчыт ці кап'ё. Каму належала знаходка, нашым ці прыхадням, хлопцам было ўсё роўна, галоўнае – знайсці! Мае ж мары былі больш сціплымі: мне хацелася знайсці хаця б звычайны пярсцёнак, але абавязкова каб ён належаў нашаму ваяру. Чужога мне было не трэба.

Перакапаўшы ўвесь пляж, мы так нічога і не знайшлі. Усе паціху пачалі страчваць цікавасць да археалогіі і раскопак. Засталася толькі мая мара – пра пярсцёнак…

Прайшло шмат год. Мы выраслі, пасталелі, кожны пайшоў сваім шляхам. Скончыўшы школу, я цвёрда вырашыў, што хачу стаць гісторыкам, і паступіў на гістфак. Не буду хваліцца, што быў выдатнікам, бо гэта было зусім не так, але цікавасць да гісторыі толькі расла. Цяпер я ўпэўнены, што закладзена яна была менавіта з тых дзіцячых раскопак, якія мы ладзілі. Менавіта тады я пачаў вывучаць мінулае роднага краю: спачатку вёскі, пасля горада, у якім жыў, а затым і краіны.

Як высветлілася, Магільнае вядома не толькі бітвай, якая адбылася тут у сівыя часы. Пазней гэта было самае сапраўднае мястэчка з царквой, карчмой, рынкам, млынам і верф'ю, школай, шпалерным заводзікам і пагранічнай заставай. Пра гэта ўсё я напісаў рэферат, які трэба было падрыхтаваць па прадмеце «Гістарычнае краязнаўства».

Калі скончыў яго пісаць, узгадаў пра нашыя пошукі і ў гэты ж момант зразумеў, што не знайшоў тады мяча, шчыта, латаў і нават пярсцёнка, але знайшоў куды большае багацце. Гэты скарб заўсёды са мною, у сэрцы і душы. Менавіта ён, як маяк, як пасадачныя агні, паказвае мне шлях вяртання да продкаў. Дзякуючы гэтаму багаццю я разумею, што трывала стаю на гэтай зямлі і магу сапраўды ганарыцца тым, што я – беларус.

Калі мяне нехта пытае, за што я люблю Радзіму, я заўжды даю вельмі канкрэтны адказ. Кожны раз, выязджаючы за межы Беларусі, я ведаю, куды трэба вяртацца. Гэта багацце, гэты «пярсцёнак» не вырвеш з душы ніякімі абцугамі, як бы таго каму ні хацелася…

**ГЛОБУС**

У перакладзе з лацінскай – «шар». Гэтае слова дакладна перадае форму глобуса, бо яна і сапраўды шарападобная. А яшчэ ёсць слова «глабальны». Да прыкладу, калі праблема глабальная, то значыць, што яна датычыцца ўсёй нашай планеты, якая, як вядома, таксама мае форму шара.




# З пажаданнямі найлепшымі

***«Зубронку» – 45, а ён не зубр.***
***І застаецца ён душой – нібы дзіцятка,***
***Дык называйце ж надалей яго не «зубрам»,***
***а клічце, як малога: «Зубранятка!»***

Я му 45. Як і маёй маме, падумалася мне. Ён жнівеньскі, а мама – кастрычніцкая. Значыць, крыху маладзейшая. Значыць, крыху ён сталейшы.

Сталасць. Якая яна? Не, не ў мамы, а ў «Зубронка», нават не пішацца мне «Зубраняці», бо з ягоным узростам ён ужо сапраўды ператварыўся ў зубра. З малога гарэзлівага дзіцяці-зубраняці ў штосьці больш сталае. Разросся карпусамі, абнавіўся, калектывамі людзей змяніўся. Але ж ці правільна разважаць пра сталасць дзіцячага летніка, які і не летнік насамрэч, бо ён жа круглагадовы. Дык які ён, «Зубронак», што 17 жніўня адзначае свае 45?



У гэты момант чамусьці ў вушах звініць: «Не расстанусь с комсомолом, буду вечно молодым». Так ужо склалася, што лагер «Зубронак» асацыюецца ў мяне з савецкімі піянерамі і камсамольцамі. Успамінаецца з Віктара Лупасіна: «Ленін, партыя, Масква», а перад вачыма мільгацяць чорна-белыя фотаздымкі мамы, адной цёці, другой, абавязкова ў гальштуках. Памятаю, як мама дастала свой гальштук і вучыла завязваць, каб вузел быў прыгожы. Дагэтуль, хоць у сваім дзяцінстве я і пабывала ў «Зубронку», асацыяцыі не зніклі. Застаюцца.

Перад вачыма атрады, якія ідуць: у сталовую, школу, басейн, да возера Нарач, каб паслухаць яго таямнічыя легенды з вуснаў маладых і вясёлых важатых, набраць у рот крынічнай вады і загадаць мару-жаданне, якое абавязкова, пры выкананні ўсіх умоў, збудзецца. Калісьці і я нешта загадвала... Але вада была такая халодная, што балелі зубы. Ці збылося яно, тое жаданне, сказаць не магу, бо забылася, што загадвала.

Наступнымі гучаць у вушах крычалкі-аб’ядналкі. Крычалкі-збіралкі, крычалкі-нерассыпайкі, якія ведае кожная сасновая сцяжынка, якая ідзе ад карпусоў: Ляснога, Азёрнага, Сонечнага… Колькі тых карпусоў будзе ў «Зубронка» пад яго 60 з хвастом?

Гэтыя крычалкі-аб’ядналкі вясёлыя, як і гульні,

 

якія, нібы павуцінкі, аблытваюць кожны з атрадаў, што стаіць то ў чарзе ў сталовую, то перад пачаткам якой агульнай гульні, то яшчэ дзесьці. Для таго, каб стаць важатым-важаком, трэба ведаць цэлы кош такіх павуцінак, а не – пішы-прапала, бо не збярэш сваіх дзяцей, хоць гэта ўжо не проста дзеці, а сябры. Важатыя мне распавядалі, што, каб стаць спецыялістам у гэтых справах, трэба прайсці спецыяльны курс падрыхтоўкі і нават залік здаць.

«Зубронак», глядзішся ты ў самае вялікае возера Беларусі, пад аблокамі нясешся ў будучыню, гады не лічачы, дыхаеш соснамі, не спыняешся, 45 – гэта толькі чалавек адчувае. «Не расстанусь с комсомолом, буду вечно молодым…», «Ленін, партыя, Масква…» Хоць ты што зрабі, а ў мяне гучыць у вушах, і дзеці бягуць у гальштуках.

На старонцы ў інтэрнэце напісана, што ўзрошчваш ты патрыётаў, а я прыглядаюся, «Зубронак», і думаю: як жа яны растуць? Пытаюся ў цябе, задуменнага над прасторамі возера і неба Беларусі, якое слова запаветнае ты рыхтуеш да кожнага, хто прыязджае да цябе? Якое слова ў свае 45 ты скажаш свету і Беларусі? Гучыць мне з успамінаў вечаровая песня атрада: «Всё теснее зубрятский круг…», і ўзгадваюцца сябры, з якімі побач стаяла, адрасы іх дагэтуль пералістваю ў старым нататнічку, і імёны важатых Борыс Людмілы і Урбан Юліі, і нават усмешкі іх прыгадваюцца, рысы твару, і нібыта разумею, што ў тых вечарах самы вялікі дух твой і сэрца – 45-гадовае сэрца велічнага сімвала Беларусі. Будзь тым, хто яднае людзей у сяброўстве, заставайся тым, хто стварае адно сэрца – сяброўскае. І ўжо ў гэты момант не мільгацяць у мяне гальштукі, не чуецца «Ленін, партыя, Масква», але толькі спеў радасці – звычайнай, дзіцячай.

Яе і нясі. І хай заўсёды хапае табе родных слоў для сваіх дзяцей!

***З пажаданнямі найлепшымі колішняя школьніца і наведвальніца вераснёўска-кастрычніцкай змены 2002 года Аксана Ю.***



Прыемна ўсведамляць, што падлеткі Беларусі зноў будуць радавацца часопісу «Бярозка»! Упэўнены, на старонках выдання, як і раней, юнакі, а таксама іх бацькі змогуць знайсці самую карысную і пазнавальную інфармацыю. Менавіта «Бярозка» дапамагае пачаткоўцам вызначыцца са сваім далейшым творчым лёсам, многія знакамітыя сёння пісьменнікі і паэты – выхадцы менавіта з «Бярозкі».

Не сумняюся: выданне будзе садзейнічаць станаўленню новых маладых творчых імён у літаратуры, спрыяць развіццю нашай культуры.

У добры шлях!

***Ігар БУЗОЎСКІ,***
***першы сакратар ЦК***
***ГА «БРСМ»***



# Запрашэнне на Ушаччыну

***Букет санетаў***

## УСТУП

*Я на Ушаччыне роднай*
*Збіраў за санетам санет,*
*У мясцінах, дзе маці*
*Калісьці рамонкі збірала.*

*Я не сплёў з іх вянок,*
*Я іх склаў – атрымаўся букет.*
*Я яго, нібы стужкай,*
*Адзіным абвіў магістралам.*

## 1-Ы САНЕТ

*Адбітак неба плавае ў вадзе.*
Я зноўку тут! Шчаслівае сэрца б’ецца.
А паплавок... ён нада мной смяецца!
Тут рыба ёсць... мне б толькі ведаць, дзе!

Чакайце, штосьці паплавок вядзе!
Ды не, напэўна мне ізноў здаецца.
Праз вузенькі масток вада ліецца,
І летні дзень да вечара ідзе.

Я сёння зноў нічога не злаўлю,
Ды не бяда! Яшчэ разок закінуў.
Ушацкі край пагоркі параскінуў...

Ушацкі край, я так цябе люблю!
Я зноў вярнуўся на сваю зямлю.
Шкада, што я яе калісь пакінуў…

## 2-ГІ САНЕТ

*І возера застыла ў задуменні.*
Ну хоць бы свежы ветрыка павеў,
Ну хоць бы калыханне сонных дрэў!
Ды спяць яны, раскінуўшы карэнне.

І ўсё навокал дрэмле ў ачмурэнні,
Сціх нават птушак стогалосы спеў...
Я не спазніўся, я якраз паспеў –
Яно ўжо пачынаецца, зацьменне!

Праз чорнае задымленае шкло
Глядзеў я ўверх... Ну, вось і пачалося!
Здзяйсненне даўняй мары адбылося!

На сонца штосьці збоку напаўзло…
А я глядзеў... Даўно яно было,
Ды ў памяці па сёння засталося.

## 3-ЦІ САНЕТ

*То тут, то там з вады тырчыць каменне –*
Сівыя сведкі нашай даўніны.
Адкуль яны, такія валуны?
І кожны важыць сто пудоў, не меней.

Вартаўнікі... ну хто ж калі іх зменіць?
Ледавіка далёкага сыны.
Ён іх прынёс і кінуў, а яны
Так і застылі ад неўразумення.

Калі б яны маглі загаварыць –
Якая б атрымалася гаворка!
Стаю маўклівa, а на сэрцы горка...

Калі б іх у людзей ператварыць!
А ў небе зорка першая гарыць,
Нібыта Віфлеемаўская зорка...

## 4-ТЫ САНЕТ

*У ціне, бы ў зялёнай барадзе,*
Дзед-Вадзянік ляжыць, адпачывае,
А ў поўдзень на паверхню выплывае,
І хто яго ні стрэне – быць бядзе!

Дзед-Вадзянік зямных дзяўчат крадзе,
Кароў раптоўнай хваляй накрывае
І сеткі пад карчагамі хавае
Ці раздзярэ ды кіне абы-дзе...

Дайшлі да нас легенды праз вякі...
А можа, й праўда – ёсць такое штосьці?
Вадзянікі, ну дзе ж вы, ягамосці?

Адразу ж, без сцяжынкі, напрасткі,
Бягу, як на спатканне, да ракі,
Калі ва Ушачы прыязджаю ў госці.

## 5-ТЫ САНЕТ

*Павук карункі тонкія прадзе,*
Павольна сонца хіліцца да долу.
А гэта значыць – час і нам дадому.
А возера... ды хто яго ўкрадзе!

Павольна статак да вады брыдзе,
Крычыць пастух, нягледзячы на стому.
Мы заўтра прыйдзем зноў. Ды тут ад дому
Хвілін пятнаццаць па маёй хадзе.

Згадзіўся сын. Нырнуў яшчэ разок,
Праплыў крыху... Ці ж мне за ім угнацца!
Выходзім, пачынаем апранацца...

Ідзём знаёмай сцежкай праз лясок,
Да босых пятак лашчыцца пясок...
Мне – сорак шэсць, а сыну – чатырнаццаць...

## 6-ТЫ САНЕТ

*Ліюцца з неба дожджыка струмені,*
А я ж забыўся зноўку парасон!
І вось цяпер мне так патрэбны ён,
Хіба ж газета парасон заменіць!

Няхай! Я камячу газету ў жмені
І крочу з летнім ліўнем ва ўнісон.
І неяк раптам, нібы дзіўны сон:
З-за хмар ірвуцца сонейка прамені!

Не зніклі б толькі, божа барані!
Стаю на мокрым вузенькім прасёлку,
Вакол канаў буяюць травы-зёлкі...

Адбудзься ж, цуд! Мяне не падмані!
І ўспыхнула ў нябеснай вышыні
Шматколерная, яркая вясёлка.

## 7-МЫ САНЕТ

*Спыні хаду, няўлоўнае імгненне!*
Імчышся ты хутчэй імклівых куль.
Спыні хаду і доўжыся пакуль…
Каб зніклі сум, турбота і сумненні.

**САНЕТ**

Слова італьянскае, азначае «звінець». 14 радкоў, аб'яднаных у два чатырохрадкоўі і два трохрадкоўі адмысловым чынам.

**ВЯНОК САНЕТАЎ**

Паэтычны твор з 15 санетаў, звязаных між сабой (таксама адмысловым чынам).

Каб узнікала ў сэрцы разуменне:
Адкуль я родам, карані адкуль?
Я штосьці значу ці паўнюткі нуль?
А ўрэшце, што адно імгненне зменіць!

Нікому не спыніць няўмольны час.
Як мы яго калісьці марнавалі!
Габлялі, ні аб чым не шкадавалі...

А час прайшоў, нібы агеньчык згас...
Куды ідзём мы? Што чакае нас
На цьмяным, таямнічым перавале?

## 8-МЫ САНЕТ

*Такога больш не ўбачыш ты нідзе:*
Світанак летні па дзялянках ходзіць,
І ягады духмяныя знаходзіць,
І ў кошык свой іх па адной кладзе.

А потым па каменьчатайградзе
Наверх ідзе, глядзіць, як сонца ўзыходзіць,
Як аблачыны ў небе карагодзяць
Ці ў далячынь плывуць у чарадзе.

Чакае першы сонечны прамень…
Другі прамень світанак не чакае,
Ён па градзе павольна ўніз сцякае...

Знікае, захінаючыся ў цень...
А ўслед за ім прыходзіць новы дзень,
І мы яго з надзеяй сустракаем.

## 9-ТЫ САНЕТ

*Мой родны край – зямны зялёны рай!*
Ушаччыны бязмежныя прасторы.
Ускінуліся ўзгоркі, нібы горы,
Ва ўсе бакі, за самы небакрай.

Мой край, мяне ізноўку сустракай!
Я ўстану ранкам, пяць хвілін на зборы.
І вось я крочу па зялёным моры.
Тут ягад – хоць да вечара збірай!

Вярнуцца б у мінулае! Тады
Жылі ў душы і мары, і надзеі,
І кожны дзень быў значнаю падзеяй...
Зязюля, не лічы мае гады!
Я ведаю, што ўжо не малады...
Хай хоць душа крыху памаладзее!

## 10-ТЫ САНЕТ

*Радзіму выбіраць ніхто не можа.*
Яна ў мяне, як і ва ўсіх, адна!

Ушацкая лясная старана...
Другой радзімы мне не трэба, Божа!

Я часцяком стаяў на раздарожжы
І чашу горкай здрады піў да дна,
Ды шчыра верыў, ведаў – ёсць яна,
Ушаччына! Яна мне дапаможа!

Яна суцешыць боль і горыч страт,
Бо тут я ўсе нягоды забываю!
Я кожны год на Ушаччыне бываю...

Нібы ў сваё мінулае назад
Іду павольна між знаёмых хат,
І сэрцам, і душой адпачываю.

## 11-ТЫ САНЕТ

*Палессе, Панямонне ці Пасожжа...*
Я ў тых мясцінах часта гасцяваў,
Ля вогнішча, бывала, начаваў...
Любіў па маладосці падарожжы.

Купаўся і на Прыпяці, і ў Сожы,
Па Нёману з сябрамі веславаў...
Ды па адной рачулцы сумаваў,
Няхай маленькай, ды на дзіва гожай.

Пачатак лета. Лепшая пара.
Ласкавы вецер. Зверху сонца свеціць...
Ушачка, ты найлепшая на свеце!

І хай табе далёка да Дняпра...
Дняпро – твой брат, а ты яму – сястра,
Бо ўсе мы – Маці-Беларусі дзеці!

## 12-ТЫ САНЕТ

*Ды калі б Бог сказаў мне: «Выбірай*
Адно жаданне! Здзейсніцца адразу!» –

Я б, пэўна, не марудзячы з адказам,
Яму сказаў: «Мне, Божа, крылы дай!»

Хоць на хвіліну! Потым адбірай!
Не палічу за крыўду ці абразу!
Дай толькі мне ўзляцець, каб зверху, разам,
Цябе разгледзець, мой Ушацкі край.

Край партызанскі. На тваёй зямлі
Ішлі баі… тут кожны трэці згінуў.
Тут бацька ваяваў і дзед загінуў...

Ды час прайшоў, акопы зараслі...
І дзеці падраслі, і ў свет пайшлі.
І я свой край пакінуў... ды не кінуў!

## 13-ТЫ САНЕТ

*Цябе б я выбраў, мой Ушацкі край,*
Каб двойчы змог на гэты свет з'явіцца.
Дазволь мне, Божа, зноўку нарадзіцца,
Ды толькі гэты час не паскарай!

І памяць аб мінулым не сцірай,
Каб зноўку не прыйшлося памыліцца!
Бо з'ехаў я ад роднае зямліцы.
Мой родны край, мяне не дакарай!

А лепш чакай. Бо ў будучым жыцці
Я б тут жадаў жыццё сваё пражыці,
Ірваць рамонкі ў недаспелым жыце.

Сталець, расці. Жыццёвы шлях знайсці,
Па ім ісці... і да канца прайсці...
Ды як такое здзейсніць, падкажыце!

## 14-ТЫ САНЕТ

*Ну дзе яшчэ, скажыце, так прыгожа!*
Адных азёр блакітных не злічыць.
Сюды турысты едуць адпачыць –
І Мінск, і Піцер... нават Запарожжа…

Мне, можа, скажуць: «Глуш і бездарожжа
На Ушаччыне!». Ну, гэта – як лічыць!
Аўтобус вас ад Мінска даімчыць
За пяць гадзін... ну, пяць з паловай, можа...

Тут лёгка без клапот адпачываць.
Ды толькі не паспееш азірнуцца,
Як пройдзе час... і час назад вярнуцца...

Каб потым вечарамі сумаваць,
Календара старонкі адрываць
І зноў сюды, на Ушаччыну, імкнуцца.

## САНЕТ-СТУЖКА (МАГІСТРАЛ)

*Адбітак неба плавае ў вадзе,*
*І возера застыла ў задуменні.*
*То тут, то там з вады тырчыць каменне*
*У ціне, бы ў зялёнай барадзе.*

*Павук карункі тонкія прадзе,*
*Ліюцца з неба дожджыка струмені.*
*Спыні хаду, няўлоўнае імгненне,*
*Такога больш не ўбачыш ты нідзе!*

*Мой родны край – зямны зялёны рай!*
*Радзіму выбіраць ніхто не можа:*
*Палессе, Панямонне ці Пасожжа...*

*Ды калі б Бог сказаў мне: «Выбірай» –*
*Цябе б я выбраў, мой Ушацкі край!*
*Ну дзе яшчэ, скажыце, так прыгожа!*

***Генадзь АЎЛАСЕНКА***



Добра памятаю той дзень, калі надрукавалі першыя мае творы. Менавіта публікацыі дапамаглі паступіць у БДУ на факультэт журналістыкі. Таму «Бярозцы» – не здаваць пазіцый, не губляць разыначку і быць заўсёды побач з творчай моладдзю.

***Кацярына ЛЯСУН,***
***студэнтка Інстытута***
***журналістыкі БДУ***

# Тры апавяданні

## «ДЗІВАЧКА»

На перапынку да трэцякласнікаў зайшла куратар з 9 «Б» Віка Каралёва.

– Наташка, – звярнулася яна да Ільянковай, – чаму ты не рапартуеш?

Наташка пачырванела, недаўменна пазіраючы на Віку. А тая настойліва працягвала:

– Увесь клас даў звесткі, хто каму дапамагае, а цябе гонар класа ніколькі не хвалюе?

Ільянкова ніяк не магла сцяміць, пра што ёй трэба рапартаваць.

– Паслязаўтра будуць падведзены вынікі. А ты ні слова пра тое, што ўзяла шэфства над ветэранам вайны і працы.

– Гэта ты пра Сяргея Пятровіча?

– Ды хто б ні быў!

– Мы на адным паверсе жывём. Я зрэдку куплю яму малако і хлеб.

– Выдатна! А не прызнаешся. Класу за гэта пятнаццаць балаў надбавяць. Толькі папрасі свайго ветэрана, няхай падзяку на імя класнага кіраўніка напіша. Можам першае месца заняць.

– Сорамна нават прасіць Сяргея Пятровіча. – Наташка апусціла вочы.

Твар Каралёвай зрабіўся суровым.

– Чаму? Папрасі!

– Не буду! – пакрыўдзілася Наташка.

– Ну як хочаш, Ільянкова. Не зойме клас першага месца – твая віна.

* * *

– Эх ты, сяброў падводзіш! – падышоў пасля ўрокаў да Наташкі Вадзік Пятроўскі. – Відаць, дарэмна расхваліў я цябе.

– Дык гэта ты нагаварыў Каралёвай пра Сяргея Пятровіча?

– А што тут дрэннага? – здзівіўся Вадзік.

– І добрага нічога няма. Нельга паказухай займацца.

– Дзівачка!.. Ты ж на самай справе гэта робіш, чаму ж не дапамагчы класу?

– Чым? Я ж па-суседску калі-нікалі заходжу да яго.

– Калі пераможам, то паедзем на экскурсію ў Белавежскую пушчу. Хіба цябе не цікавіць паездка?

Ільянковай вельмі хацелася пабываць у слыннай пушчы, паглядзець на магутных зуброў, пабачыць стагадовыя дрэвы...

* * *

Сяргей Пятровіч адчыніў дзверы, узяў з Наташыных рук пакет з хлебам, запрасіў дзяўчынку ў залу:

– Пабудзь хвілінак пяць, раскажы пра школу, як вучоба, што хвалюе?

Сяргей Пятровіч амаль увесь час адзін. Рэдка-рэдка да яго завітваюць сябры і дзеці. Сын жыве і працуе далёка ў Расіі – інжынерам-дарожнікам. Дачка Капіталіна загадвае аддзелам гарадскога бюро падарожжаў, жыве ў суседнім мікрараёне. На дачку Сяргей Пятровіч не крыўдуе, бо лічыць, што яна вельмі занятая работай, шмат ездзіць па краіне і за межы, ды і свая сям'я ў яе, клопатаў хапае.

Жонка Сяргея Пятровіча памерла чатыры гады таму.

Ходзіць ён павольна, абапіраецца на кіёк. Нага ў яго баліць, параненая яшчэ ў вайну.

Цікава Наташцы ў Сяргея Пятровіча. Коль-

кі фотаздымкаў, пісьмаў ад баявых сяброў, узнагарод за мужнасць і сумленную працу! Пасля вайны ён будаваў машынабудаўнічы завод, затым працаваў на гэтым прадпрыемстве. Тут сустрэў і сваю жонку. Сын Віцька першым нарадзіўся. Працавіты хлопец вырас. А Капіталіна ўсё марыла падарожнічаць... Даўно ў дачкі не быў, ды ўжо самому і не дабрацца да яе – ногі не слухаюцца.

«Сумуе Сяргей Пятровіч», – здагадалася Наташка. І вырашыла яна адшукаць Капіталіну Сяргееўну, расказаць ёй пра бацьку.

* * *

Гарадское бюро падарожжаў і экскурсій знаходзілася непадалёк ад цэнтральнай плошчы горада. Каля прыгожага будынка, у якім яно размяшчалася, стаяла некалькі аўтобусаў. Падняўшыся па прыступках, Наташка нясмела адчыніла дзверы. На калідоры было людна. Яна пастукала ў адзін з пакояў. Ветлівая жанчына растлумачыла ёй, што Капіталіна Сяргееўна ў наступным пакоі. Дзяўчынка рашуча пастукала і адчыніла дзверы. За сталом сядзела і размаўляла па тэлефоне прыгожая жанчына сярэдняга ўзросту. На пальцах абедзвюх рук зіхацелі пярсцёнкі. Яна гучна смяялася ў трубку, дзякавала камусьці, абяцала штосьці зрабіць, дапамагчы.

– Добры дзень, Капіталіна Сяргееўна, – прывіталася Наташка, калі тая паклала трубку. – Я ад Сяргея Пятровіча.

Спачатку здзіўленая Капіталіна Сяргееўна раптоўна спахмурнела, занепакоілася:

– Што з ім?..

– Не хвалюйцеся. Ён добра сябе адчувае, але вельмі сумуе, чакае вас. А сам прыйсці не можа, ногі не слухаюцца.

– Ну і напалохала! – уздыхнула Капіталіна Сяргееўна. – А я падумала пра горшае. Сама забегалася, – ніякавата працягвала яна. – Работы шмат: паездкі, туры, перадыхнуць няма калі, а ў дачушкі вучоба, праграма складаная, урокаў шмат. Пачакай крышачку, я хутка. – Яна выйшла з пакоя.

Праз некалькі хвілін Капіталіна Сяргееўна вярнулася з пакункам.

– Перадай, калі ласка, гасцінцы тату. Скажы, што ў выхадныя наведаю яго абавязкова.



Уяўляю новую «Бярозку» маляўнічай і вясёлай, з дзіцячымі малюнкамі, рэбусамі, крыжаванкамі, конкурсамі і віктарынамі, з мастацкімі творамі не толькі вядомых пісьменнікаў, але і дзіцячымі. Лічу, што часопіс для дзяцей і падлеткаў павінен прыносіць радасць, уздымаць настрой, інфармаваць аб цікавых падзеях, падштурхоўваць да раскрыцця ўласных творчых здольнасцей. А як прыемна ўбачыць на старонках часопіса ўласны твор!

Віншую, «Бярозка», і жадаю як мага больш чытачоў! А яшчэ абяцаю актыўна дапамагаць табе ва ўсіх тваіх пачынаннях!

***З надзеяй і ўдзячнасцю да тых, хто аднаўляе «Бярозку», вучаніца 5 класа ДУА «Гімназія № 29 Мінска» і 4 класа ДУА «Школа мастацтваў № 12 Мінска», Ліза САЕВІЧ, адна з аўтараў***



У гэты момант дзверы рэзка расчыніліся і на парозе з'явілася Віка Каралёва.

– Мамачка, ну як з пуцёўкамі? – Яна раптам асеклася, пазнаўшы Наташку, якая павярнулася на яе голас і ад здзіўлення застыла на месцы.

– Ты, Ільянкова? – яе вочы загарэліся нядобрым бляскам. – Дык вось якая ты. Без класа падарожнічаеш?

– Вы што, знаёмыя? – здзівілася Капіталіна Сяргееўна.

Наташка кінула пакунак на стол і выскачыла на калідор. Пакунак разгарнуўся, і на падлогу пасыпаліся апельсіны.

– Ну і дзівачка! – недаўменна паціснула плячыма Капіталіна Сяргееўна.

## КЛЁН

Ён стаяў у канцы нашага невялікага саду, збоку, каля самай агароджы, якая абступала сядзібу. Высокі, стройны, прыгожы клён прыкметна вылучаўся сярод іншых дрэў, што раслі ўздоўж саду. Адразу за клёнам пачыналіся «глінкі» – старыя і свежыя яміны, з якіх вяскоўцы капалі гліну. За «глінкамі» ішла палявая дарога. Цягнулася яна паўз агароды. У вёсцы чамусьці ўсе называлі яе «сценка». Гэтай дарогай кожнае лета, жывучы ўжо ў горадзе, я крочыў да бацькоўскай хаты. Яшчэ здалёку распазнаваў густую вершаліну клёна. Цёплая пяшчота аблівала маё сэрца – хутка я пералезу праз агароджу, прайду ціхім спелым садам, буду дыхаць сакавітым пахам медуніц і кропу, а затым увайду ў родную хату, светлую, прапахлую свежым хлебам.

На ўсё жыццё запомніўся мне гэты клён. Менавіта на ім раней, чым на іншых дрэвах, садзіліся вясною шпакі і пачыналі высвістваць свае радасныя песні навасёлаў. Калі з палёў і агародаў сыходзіў снег і на ўзмежках з'яўлялася зялёная траўка, мы, вясковыя хлопчыкі і дзяўчынкі, ладзілі каля яго свае гульні. Кожны лічыў за гонар залезці на самую вершаліну клёна і заспяваць: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...». А крыху пазней, у маі, калі з'яўляліся хрушчы, мы трэслі кляновае

голле або ранкам, стараючыся адзін перад адным больш сабраць сонных яшчэ жукоў.

Вельмі захапляў нас клён восенню, якая шчодра аблівала яго яркай пазалотай. Прыбяжыш да клёна, а пад ім такі святлісты дыван – вачэй не адарваць. Танцуеш ад радасці за такое харaство.

Многія ў вёсцы, калі пяклі хлеб, бралі лісце з нашага клёна, каб услаць ім спод печы. А яно заўсёды было шырокае, чыстае, нейкае святочнае. Штовосень мы акуратна засушвалі лісты, і потым усю зіму хату ўпрыгожвалі кляновыя букеты.

Памятаю і вельмі прыкрае. Тады я вучыўся ў другім класе. Была вясна. Сакавік. Мне чамусьці захацелася паспытаць свежага кляновага соку. Прыхапіўшы бацькаву сякеру і трохлітровы слоік, я пайшоў да нашага клёна. Надсек у адным месцы, але сок не капаў, а сцякаў па ствале. Надсек у другім месцы, атрымалася лепей, падставіў слоік. Пайшоў у хату. Чакаю, пакуль набяжыць хоць трохі соку. Ды тут бацька прыйшоў з працы. Гляджу і вачам сваім не веру: нясе ў руках мой пусты слоік. Сэрца ў мяне як абарвалася. Дасталося мне тады на арэхі. Цэлую гадзіну стаяў прывязаны бацькам да клёна – «піў сок».

Замазаў тата раны на ствале клёна, але доўга яны не зажывалі. Плакала дрэва.

Праз год зноў нехта надсек клён. Не шанцавала дрэву і пасля. Некалькі разоў ранілі яго, нібы некаму замінала гордае і шчырае харaство. І кожны раз я адчуваў сябе вінаватым – быццам гэта я надсякаў клён.

А мінулай восенню яго не стала – паваліла бура. Наляцела на вёску, паваліла платы, сарвала некалькі дахаў, загубіла наш клён.

Прыехаўшы летам у водпуск, я не пазнаў здалёку бацькавай сядзібы. У шэрагу высозных дрэў, якія абступілі сад, віднеўся прагал, адсутнічала штосьці адметнае, дарагое. Мне стала вельмі балюча. Зразумеў, што тады, у дзяцінстве, я зрабіў зарубкі не на кляновым, а на сваім целе, і яны пякуць цягучым, несціханым болем.

## ВІНТОЎКІ

Маці зашывала латаныя-пералатаныя Сярожавы штонікі, калі ў весніцы загрукаталі нечым металічным. Яна зірнула ў акно. З вуліцы даляцелі звыклыя ўжо за другі год акупацыі нямецкія пагрозы.

– Хутчэй на печ! – скамандавала маці двум сынам: сямігадоваму Сярожу і пяцігадоваму Толіку, а сама заспяшалася з хаты, каб няпрошаныя госці не выламалі веснічкі.

Два гітлераўцы з вінтоўкамі ў руках пагрозна зайшлі на двор.

– Яйка, шнапс, матка! Шнэль, шнэль! – запатрабавалі ваякі і ўпэўнена пашыбавалі ў хату.

Паставіўшы зброю ў кут, акупанты прыселі да стала, паказваючы ўсім выглядам, што яны доўга чакаць не збіраюцца.

– Дзеці ў мяне, паночкі, і самім...

– Партызане? – грозна абарваў яе маладзейшы немец, тыцнуўшы пальцам у партрэт на сцяне.

– Не! Гэта мой фатэр. Ён памёр яшчэ да вайны, – спалохалася маці.

Яна дастала з шуфляды два яйкі і некалькі маленькіх скрылікаў сала ў місачцы. Адрэзала дзве лусты выпечанага ўчора хлеба, прынесла відэльцы.

– Шнапсу няма, – маці скрыжавала на грудзях натруджаныя рукі.

Малодшы фашыст падышоў да печы і адкрыў заслонку. Згледзеўшы чыгунок з бульбай, загадаў падаць яго на стол.

Пагергетаўшы, немцы прыняліся за страву. Доўга нюхалі хлеб.

– Гут! Зэр гут, матка!

На печы заварушыліся дзеці, дзве пары гнеўных вачэй свідравалі ворагаў. Няпрошаныя госці падхапіліся з-за стала. Але, пераканаўшыся, што пагрозы для іх не існуе, супакоіліся.

Нетаропка паканчыўшы з харчамі, задаволеныя, гітлераўцы падзякавалі гаспадыні і накіраваліся да дзвярэй. І раптам іхнія твары знерухомелі, пабялелі, вочы забегалі па баках.



Паважаны калектыў часопіса «Бярозка»!

Віншую вас з адраджэннем – выхадам першага нумара ў новым фармаце. Упэўнены, што пачынанне знойдзе водгук сярод юных чытачоў, што пашырыцца аўдыторыя прыхільнікаў часопіса, якія заўсёды знойдуць у яго скарбонках цікавы матэрыял.

Няхай вашы публікацыі будуць скіраваны на паляпшэнне педагагічнага працэсу і фарміраванне моўнай культуры нашай моладзі, няхай аказваюць пазітыўнае ўздзеянне на светапогляд і жыццёвыя інтарэсы, развіваюць творчыя і інтэлектуальныя здольнасці юных чытачоў.

Творчых вам здабыткаў, плённай працы і невычарпальнай энергіі!

***Намеснік міністра адукацыі Віктар ЯКЖЫК***

Кут, куды яны паставілі свае вінтоўкі, быў пусты.

Перапалоханыя салдаты кінуліся на печ, зазірнулі пад ложак, засноўдалі па хаце. Потым выбеглі ў сенцы, але зброі не знайшлі. Нідзе не было і малых.

– Матка! Капут! – падбег да яе старэйшы немец. – Пастраляйт усіх, хата – жыг! Матка, вінтоўка шукайт!..

Маці не на жарт занепакоілася, але не разгубілася. Яна ведала, што іх можа чакаць у такой сітуацыі – немінучая смерць.

– Паночкі, дзеці пажартавалі, палічылі вінтоўкі за цацкі, – заплакала маці, – пагуляць захацелі.

Яна борзда ўзабралася па лесвічцы на гарышча, дзе зашыліся Сярожа з Толікам, непрыкметна выслізнуўшы з хаты. Адшукаўшы пад анучамі вінтоўкі, узрадаваная, схапіла іх і апусціла ўніз.

– Вось бярыце, каб яны згарэлі разам з вашым Гітлерам, які распачаў вайну...

Схапіўшы зброю, немцы выбеглі з хаты, як аблітыя варам.

– Дзе кіндэр? Дзе кіндэр? – пагрозна зіркалі яны па баках. – Партызанэн!

– Малыя яны, дурненькія яшчэ, – галасіла маці.

Патаптаўшыся яшчэ некалькі хвілін, немцы падаліся на вуліцу.

Уздыхнуўшы з палёгкай, маці шчыльна зачыніла веснічкі.

– Мама, не плач. Не плач, мамачка, – падбеглі да яе малыя жэўжыкі. – Мы схавалі вінтоўкі, каб яны нікога не застрэлілі.

– Дурненькія, – памякчэла маці, абдымаючы сыноў. – Тата ваш на фронце ваюе. Хутка ён са сваімі таварышамі усіх фашыстаў прагоніць.

***Міхась ПАЗНЯКОЎ***

## ФАКУЛЬТАТЫЎ

Ад лацінскага «факультас», што ў перакладзе азначае «магчымасць». Сапраўды, факультатыў – гэта калі вучань мае магчымасць вывучаць нейкі прадмет, але прадмет гэты неабавязковы для вывучэння ўсімі вучнямі. Дарэчы, слова «факультэт» – ад таго ж кораня. Азначае магчымасць для студэнта атрымаць канкрэтную спецыяльнасць.



# Сліжыкі

*Кранеш адно, усплыве другое, такі ж і трэба сёе-тое абмеркаваць як мае быць, пагаманіць.*

Памятаеш, дружа, як у коласаўскай «Новай Зямлі» гатаваліся «*ламанцы-праснакі з пшанічнай добрае мукі?*» Хоць «*макаў сок такі салодкі, ламанцы ў ім ну як калодкі*». Цвёрдыя ламанцы, што праўда, замяніліся пасля ў народзе на сліжыкі – такое самае салодкае, але больш «далікатнае» печыва. Як там пісаў дзядзька Колас? «*Ці мець яго за панібрата, ці лепш з ім быць далекавата?*» Што выбіраеш ты, дружа? А паспрабуйма гэты сліжык – і не адзін – згатаваць. Ды каб «*навука аказалась не гэтак страшна, як здавалась*».

***Што трэба:***

***1 шклянка цукру***
***15 г дражджэй***
***2/3 шклянкі малака***
***2–3 шклянкі мукі (колькі цеста «возьме»)***
***2 ч. л. маку***
***трошкі солі***

***Як гатаваць:***

Дрожджы расцерці з лыжкай цукру, заліць цёплым малаком, дадаць паўшклянкі мукі, перамяшаць і пакінуць у цёплым месцы на 15 хвілін. Гэта рошчына, павінна падняцца. Пасля трэба дадаць у яе рэшту цукру, мак і прасеяную (каб была больш паветранай, лёгкай) муку. Апошняй спатрэбіцца столькі, каб цеста перастала прыліпаць да далоняў. Добра вымяшаць і зноў пакінуць у цёплым месцы да той па-ры, пакуль цеста не вырасце ў тры разы. Потым скачай яго ў «каўбаску» дыяметрам 1,5 см і нарэж упоперак на «гузічкі» таўшчынёй у 1 см. Выкладзі «гузічкі» на бляху, якая або прысыпана мукою, або змазана алеем, і пячы ў духоўцы хвілін дзесяць. Сябрам падай іх аблітымі мёдам, з кавай або гарбатай. І…

*– Пільнуй, – цішком скажу між намі, – каб і язык не ўцёк часамі.*

***

*А ў час апошні развітання стаялі цмокі цалавання.*

*– Ну, выбачайце, не крыўдуйце, калі што кепска, то даруйце.*

# Бярозка

Пілот

*Светам кіруе той, хто чытае*




**01** Верасок-паэзія
**04** Верасок-проза
**11** Школа журналістыкі. З кім прыемна гаварыць ва ўтульным мінскім парку
**23** Конкурс. Казкі школьнага ранца

**38** Літаратурныя старонкі. Паэзія. Генадзь Аўласенка. Запрашэнне на Ушаччыну
**42** Літаратурныя старонкі. Проза. Міхась Пазнякоў. Апавяданні

**08** Практыкум. Памылкі ствараюцца, каб іх выпраўлялі
**09** Бел. літ. Галоўная беларуская паэма
**20** Настаўніцкая на праслушцы. Спрыяць канструктыўнасці

**14** Жыццёвае. Двухбаковыя адносіны
**15** Пазакласнае. Гісторыя белай вароны
**16** Спартыўнае. Узмоцненая падрыхтоўка
**17** Калі сур'ёзна. Як пачуць сябе?
**18** Па-дарослаћу. Калі на халаце не хапае гузіка…

**28** Гісторыя поспеху. Усе ўяўленні аб працы ўвасобіў «МакДональдс»
**30** Псі-факторыя. Атрымай свой поспех зараз!

**19** Табе навука. Як убачыць СуперМесяц
**32** Я сардэчка Беларусь. Пярсцёнак
**36** Зубронак. З пажаданнямі найлепшымі
**47** Гатавальня. Сліжыкі



Пілотны нумар часопіса «Бярозка» падрыхтаваны рэдакцыяй часопіса «Маладосць»
РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88.

Над выпускам працавалі: *Генадзь АЎЛАСЕНКА, Кацярына ГОЛУБ, Святлана ДЗЯНІСАВА, Ганна КІРЭЕНКА, Кацярына КРАМАРЭНКА, Віктар ІВАНОЎ, Аксана ЮЧКАВІЧ.*

## ХТО ЧЫМ ЗАПРАЎЛЯЕ?

Пад хусцінку для красы
Таня запраўляе валасы.

Малайчына наш Сярожа –
Запраўляе сам ён ложак.

Мама суп мне налівае
І смятанай запраўляе.

Ураджай каб быў вясной,
Каб ён рос як трэба,
Запраўляе тата мой
Угнаенні добра ў глебу.

На заправачнай «Масквіч»
Запраўляе Клім Фаміч.

Ганарыцца Каця працай
На камвольным камбінаце:
Запраўляе там бабіны
У прадзільныя машыны.

Запраўляе ў клубе Міла –
Драмгурток яна стварыла.

*Міхась ПАЗНЯКОЎ*

Смешная старонка

# Пытанні для знаходлівых

**1.** Колькі яек можа чалавек з’есці нашча?
**2.** Якой рукой лепш размешваць каву і гарбату: правай ці левай?
**3.** Чым іх больш, тым меншая вага.
**4.** Якімі нотамі можна вымяраць адлегласць?
**5.** Што трэба рабіць, калі раптам убачыш перад сабой зялёнага чалавечка?
**6.** Што нельга з’есці на сняданак?
**7.** Якое слова пачынаецца з трох літар «Г» і заканчваецца трыма літарамі «Я»?
**8.** Дзе сустракаецца такое, што конь цераз каня пераскоквае?
**9.** Што завязаць можна, а развязаць нельга?
**10.** Калі рукі бываюць аж чатырма займеннікамі?
**11.** Гномік жыў на шостым паверсе. Але заўсёды даязджаў на ліфце толькі да трэцяга, а далей узнімаўся па лесвіцы. Чаму?
**12.** У яе няма вагі, але яна бывае і лёгкай, і цяжкай. Хто яна?
**13.** Якога маленькага коніка трэба паставіць паміж двума аднолькавымі займеннікамі, каб атрымалася назва краіны?
**14.** Што чыстае, калі цёмнае, і бруднае, калі белае?

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. Толькі адно яйка, бо астатнія будуць ужо не нашча.
2. Лепш рабіць гэта лыжкай, а не рукой.
3. Дзіркі.
4. Мі-ля-мі.
5. Хуценька пераходзіць вуліцу.
6. Абед ці вячэру.
7. Трыганаметрыя.
8. У шахматах.
9. Размову.
10. Калі рукі вы-мы-ты-я.
11. Гномік быў вельмі маленькі і мог дацягнуцца толькі да кнопкі 3-га паверха.
12. Музыка.
13. Я-поні-я.
14. Школьная дошка.



**Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»**
**лепш за ўсё набываць**
**праз падпіску —**
**гэта не толькі беражэ час,**
**але і эканоміць грошы.**
**Пасрэдніцтвам «Белпошты»**
**або пры дапамозе паслугі**
**«да запатрабавання»**
**ў крамах «Белсаюздрук»**
**можна падпісацца**
**нават на адзін нумар часопіса,**
**прычым, якой заўгодна колькасці**
**экзэмпляраў.**

***Яшчэ сустрэнемся?!***



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 56 200 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 22 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 71 200 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 16 200 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.08.2014. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,6. Тыраж 2064 экз. Заказ 2301. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**